


# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XI

11

ЛІСТАПАД

1963


## У нумары




**Выдавецтва «ЗВЯЗДА»**
**Мінск**

**БІБЛІЯГРАФІЯ**



**ГУМАР І САТЫРА**



**ШАХМАТЫ**



**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**

**Вокладка Ю. АРХІПАВА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ.** Шчырая дружба з'яднала гэтых юнакоў і дзяўчат з розных краін свету, што вучацца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

У верхнім радзе: Бейя Клод (Конга), Святлана Альшэўская (Беларусь), Окаць Чарльз (Кенія) і Франсіска Радрыгес (Куба).

Ніжні рад: Галіна Зальцман (Беларусь), Эўхенія Рашырэс Фунсія (Куба) і До Тхі Жанг (Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам).

**Фота А. ДЗІТЛАВА.**



**Яўген КРУПЕНЬКА**

# КАСТРЫЧНІК



Ты —
баявым матросам
І партыі байцом
Стаіш
над маім лёсам
І над маім жыццём.
Маланкаю — штандарам
У вышыні гарыш,
Па-ленінску,
у твар мне,
Кастрычнік,
глядзіш.
Гарачым ветрам дыхаеш,
Дажджом-свінцом сячэш,
Чырвонаю датаю
У сэрцы жывеш.
...Я нарадзіўся позна,
На лёс не крыўдую свой.
Па першай тваёй позве
Пайду я
першы
у бой.
І покуль сэрца б'ецца,
Пульсуе ў жылах кроў,
Покуль жыву,
мне грэцца
Каля тваіх кастроў.
Покуль жыву,
заўсёды
Перад табой
ў даўгу:
Ці ўсё аддаў народу,
Усё тое,
што магу?
Вядзі мяне,
Кастрычнік,
Усюды за сабой,
Дзе ёсць Палацы зімнія,
На апошні бой.
Бо покуль сэрца б'ецца,
Пульсуе ў жылах кроў,
Заўсёды буду грэцца
Каля тваіх кастроў.



Анатоль **ВЯРЦІНСКІ**

## ЛЕНІНСКІ СМЕХ


шла рэвалюцыя —
левай, левай!
Змагаліся не на жыццё,
на смерць.
Змагаўся Ленін.
І — усміхаўся Ленін.
Служыў рэвалюцыі
ленінскі смех.
Была рэвалюцыя.
Яе змяніла
Пара завірух,
разрух, галадух.
Розная контра
гразіла магілай.
Ды не здаваўся
ленінскі дух.
Ленін заставаўся Леніным —
І грозным,
караючым мячом,
І рэвалюцыі
добрым геніем,
Яе душой,
яе Ільічом.
Ленінскі розум
ведаў даўно:
Рэвалюцыю робіць не зло,
а дабро.



Дабру ж не да твару
змрочныя шоры.
Яму падавай —
марш мажорны
Ды сонечны май,
ды светлую мару.
Усмешка дабру больш да твару!
Усмешкаю той
і быў надзелены
Ільіч —
носьбіт людской надзеі,
Тым гумарком,
што з народных глыбінь...
Старшыня Саўнаркома
жартаваць любіў.
Ведаў цану добрага жарту —
Смяяўся шчыра і азартна.
Ведаў сілу сярпа і молата —
Смяяўся радасна і молада.
Смех той слухала Расія,
І ў ёй абуджалася
новая сіла.
Смех той слухала гісторыя
І сама ўсміхалася:
«Здорава!..»
Мы вучымся верна ў Ільіча
Быць пільнымі,
ворага біць з пляча,
Вучымся ў Леніна змагацца.
Будзем вучыцца ў яго
смяяцца!

## ДРЭВА ЖЫЦЦЯ


уміць перад намі
жыцця дрэва.
Як гэта дрэва
паказваць трэба?
У чым, паэт,
задача твая?
Абмалёўваць
стройнасць ствала?
Альбо захапіцца
пышнаю кронаю,
Да лістка
перабраць яе?
Яшчэ прыгадаць:
на галінку крохкую
Салавей садзіцца,
салавей пяе?
Можа ўсё гэта
і не дрэнна.
Але лісточкі —
яшчэ не дрэва.

І раз бярэшся
дрэва паказваць,
Не бойся, брат,
рукавы закасваць.
Ты дзейнічаць,
як хірург, павінны —
Лезь да стрыжаня,
да сэрцавіны.
З той жа
настырнасцю агалі
Карэнні,
што недзе ў зямлі,
Што спавілі ўлонне глiністае.
Не будзеш наіўны тады, як дзіця,
Спасцігнеш
карэністае і галіністае
Вечназялёнае дрэва жыцця.

## ГЛЫТОК АЗОНУ


ад самай бальніцай
прайшла навальніца.
Прыўзняўся хворы,
просіць ціха:
— Адкрый на мінуту
фортку, сястрыца!
Хочацца свежым
паветрам падыхаць.
Нешта вельмі
ўжо млосна!
Сястра адчыніла,
сказаўшы: «Укрыйся ж».
І вось спіць хворы
моцна-моцна,
Урач засведчыў,
што мінаваў крызіс.
Пісаў у гісторыю хваробы
Пра новы сродак—
не зусім рэзонна,
Бо не ведаў,
што перамог мікробы
Глыток,
адзін глыток азону.

★


ось і ты, як другія,
Просіш: «Не шумі...»
Як быццам твая стыхія
Гэта — свет цішыні.



Як быццам (вось недарэчнасць,
Жывеш — дык жыві ды шумі!)
Уперадзе ў нас не вечнасць
Бязлюднай цішыні.

## НАШЫ СТАНЦЫІ


е пазнаю нашых станцый:
Што б гэта з імі
магло стацца?
Стаялі суткамі мы каля кас,
Адзін з адным дзелячы
споведзі.
Ды чуўся з кас
адзін адказ:
— Няма свабодных
месц у поездзе.
— Таварыш касір!
Таварыш кас...
Акенца захлопвалася
ў адказ.
Людзі злаваліся і
хваляваліся, —
Людзі ў шлях-дарогу ірваліся,
Людзей дарога
чакала і звала,
Людзей не пускала
станцыйная зала...
Не пазнаю сёння
нашых станцый:
Што б гэта з імі
магло стацца?
Не бачу на станцыях натоўпу.
Едзеш —
адразу да касы топай,
Топай упэўнена,
без боязі,
Што месца табе
не знойдзецца ў поездзе,
Што раптам захлопнецца акенца.
Спытае толькі касір: «Куды?»
Яшчэ на дарогу ўсміхнецца,
Што азначае:
«Шчаслівай язды!»
І семафор хітравата падмігвае:
«Вам куды? Даставім вас мігам...
У нас цяпер не тое,
што некалі,
Добрыя змены
у нас наяву,—
Не затрымліваем
чалавека мы,
Зялёную вуліцу—яму!»



Алесь АСІПЕНКА

# АБЖЫТЫ КУТ

**Аповесць**

Мал. Г. Паплаўскага.

*Зазірні ў сярэдзіну, каб лепей убачыць не толькі якасць любой рэчы, але і яе каштоўнасць.*

*Марк Аўрэлій.*

Апошні дзень нашага развітання са школай выдаўся на дзіва ясны і ціхі. Мы хадзілі па нешырокай дарозе пад шатамі разгалістых ліп: дзяўчаты пабраўшыся за рукі, хлопцы няроўным, ломкім строем. Трыста метраў ад шашы да школы, трыста — назад.

Гаварыць не хацелася. Ды і не вельмі было пра што. За дзесяць гадоў мы добра вывучылі адзін аднаго, шмат спрачаліся, і цяпер чамусьці не хапала тэм, быццам пра ўсё ўжо было перагаворана. Перакідваліся

то жартам, то нязначным, пустым словам. Бавілі час, як умелі. Трохі было сумна.

З поплаву да шпакоўняў адзін за другім прылятаді шпакі. Тады з птушыных домікаў далятаў піск дзятвы. Стары шпак нырaў у круглае акенца, бурчаў там проста-такі чалавечым голасам, а неўзабаве вылазіў вонкі — альбо ўзрадаваны нечым, альбо засмучаны і злосны. Цыкнуўшы на малечу, ён распраўляў крылы і зноў ляцеў на поплаў.

Іншым разам мы не звярнулі б увагі на шпакоў. Па загаду дырэктара кожную вясну вучні рабілі шпакоўні, развешвалі іх на ліпах, яблынях і проста на шастах ля хат. Гэта была *наша політэхнізацыя. Яна нам так* надакучыла, што часам разбірала злосць на птушак, якім трэба будаваць хаты. Сёння мы развітваліся са школай, дырэкцыяй і політэхнізацыяй. Мабыць таму, мы і зацікавіліся шпакамі, якія клапатліва лёталі з поплаву і на поплаў.

Задраўшы галовы, мы доўга сачылі за палётам шпакоў. У іх руплівасці было нешта зварушлівае і ў той жа час будзённае, простае. Клапатлівае чырыканне, плаўны палёт, вяртанне з дабычай, ганарыстае ф'юіць,— усё мела нейкі незвычайны сэнс.

Я задумаўся. У шпачыным жыцці мне бачылася штосьці вельмі зразумелае і блізкае. Таму спачатку, калі пачуўся ўстрывожаны голас Галіны Янчык: «Глядзіце, глядзіце, ах, каб яго!», я не адразу ўцяміў, што здарылася. Мне давялося доўга пакруціць галавой, пакуль не ўгледзеў тую шпакоўню, што зацікавіла сяброў.

Гэта была адмысловая шпакоўня — гонар пяцікласнікаў, якіх сёлета першы раз у жыцці дапусцілі да варштата. Сіняя, з ажурнай разьбой на франтоне, з какетлівай палічкай пад круглай адтулінай-лазам і жоўтым вастраверхім дахам, яна ў свой час выклікала нямала кпін. Старэйшыя вучні даволі паздзекаваліся з пяцікласнікаў, казалі, што жыць у той шпакоўні ніводзін шпак не будзе, бо ён сціплая птушка і такая раскошная дача яму прыйдзецца не па густу. Калі і паселіцца ў ёй, дык зладзюга-верабей. Аж там пасяліўся шпак. Вывеў дзяцей, і цяпер у круглую адтулінку раз-поразу вытыркалася чорная галоўка. Яна паяўлялася і адразу прападала, быццам нехта адцягваў шпачка за хвост. Пасля і неяк зусім нечакана, ён выкуліўся на палічку, узмахнуў крыламі і здзіўлена пакруціў чорнай галавой. Яго доўгая і яшчэ белаватая дзюба задралася ўгору. Так ён стаяў даволі доўга, асцярожна мацаючы крыламі паветра. Потым апусціў дзюбу, павярнуў галаву на бок і насцярожана замёр. Да зямлі было далекавата.

Шпачок паварочваў галаву і так і гэтак, пасля зноў задраў дзюбу ўверх. І зноў яго крылы пачалі мацаць паветра. Разы са два ціўкнуў, відаць для смеласці, потым нязграбна махнуў крыламі, замалаціў імі бязладна і паляцеў уніз.

Дзяўчаты спалохана войкнулі. Але шпачок учапіўся за галінку і зноў цвыркнуў, як здалося, узрадавана.

Галінка была тоненькая. Яна хісталася ўсё мацней і мацней. Шпачок спалохана махаў крыламі і толькі разгойдваў галінку. Нарэшце, не ўтрымаўся, упаў на траву і адразу ж паспрабаваў схавацца. Рабіў ён гэта смешна: шыўся ў траву галавой, не вельмі, аднак, дбаючы пра свой куртаты, карычняваты хвост.

Падабрала шпачка Галіна Янчык. Заціснула яго ў кулак, а ён усяляк спрабаваў схаваць галаву і бездапаможна міргаў.

— Кінь ты яго,— параіў Стасёк.— Шпакі яго і ў траве знойдуць.

— Пакуль знойдуць, дык кот з'есць.— Галя паднесла шпачка да твару і, нібы ён мог нешта зразумець, запыталася:— Праўда, ты не хочаш трапіць кату ў лапы?



Шпачок спачатку напалохаўся, а пасля дзюбнуў Галю ў вусны.

— Ах, ты задзіра...

Галя хацела выпусціць шпачка, але мне чамусьці стала шкада яго. Яшчэ і праўда зловіць кот.

— Давай, Галка, пасаджу яго ў шпакоўню...

Я ўзабраўся на сук. Галя падала шпачка, і я палез. Хоць і трымаўся адной рукой, але да шпакоўні я ўсё ж дабраўся.

Уцекача сустрэлі гнеўным піскам і валтузнёй.

— Ну, вы там, не вельмі на яго нападайце!..— сказаў я ўголас.

У шпакоўні адразу зрабілася ціха. Я пачаў злазіць. Не паспеў саскочыць з ліпы, як усе зарагаталі.

— Чаго вы?..

— Ён жа зноў вылез...

Шпачок, і праўда, сядзеў на палічцы. Толькі цяпер ён не кідаўся безразважна ў прастору, а прымерваўся, прыцэльваўся, махаў крыламі... і раптам паляцеў, неяк нясмела, але быстра.

Вось табе і шпачок!

# МАРЫ

## 1

Рэчка Расянка, берагі якой скрозь зараслі алешнікам і вербалозам, непадалёк ад Кардону, як бы наткнуўшыся на стары здзірванелы курган, крута паварочвае на захад. Адсюль, аж да самае Віцьбы, раскінуліся Русакоўскія паплавы, увосень і вясной залітыя вадой, пярэстыя ад кветак улетку.

Зімой і пасля таго, як спадзе веснавая вада, мы, я і Стась, ходзім са школы напрасткі, праз поплаў. Але сёння нам хочацца ісці кружной дарогай.

Школа закончана. Атэстаты ўручаны. Можа болей ніколі не давядзецца хадзіць у абход кургана.

Курган гэты мае сваю легенду. Кажуць, што яго насыпалі па загаду Івана Грознага. Адсюль рускі цар кіраваў боем. Пасля бою ў кургане пахавалі воінаў. Кожнага ў латах, са зброяй. А наверсе цар паставіў капліцу з залатым крыжам.

Гэта, пэўна, няпраўда. А тое, што было на нашай памяці, факт. У сорак другім годзе, у блакаду, на гэтым кургане трынаццаць партызан дзень і ноч стрымлівалі немцаў. Ніводзін з партызан не ўратаваўся ад смерці. Затое брыгада і ўсё Зарэчча паспела схавацца ў Данькаўскіх лясах.

На іх магіле — невысокі курганок. Зроблены ён з каменя, бо тады, адразу пасля вайны, цэглы не хапала і на печы.

— А праўда,— пытаецца Стась,— што хутка паставяць сапраўдны помнік?

Я не адказваю, бо гэтыя размовы бываюць кожны год. Але сапраўднага помніка так і няма.

Прозвішчы загінуўшых партызан выпалены на дошцы, якая прымацавана дротам да каменнага курганка. Летась увосень, калі лазілі на курган, мы ледзьве разабралі сцёртыя непагоддзю літары. А што пакінула сёлетняя зіма?

— Давай, Стась, злазім на курган,— кажу я.

Стасю не дужа хочацца караскацца па крутых схілах. Ён муляецца, аднекваецца, але ўсё ж ідзе.

Каменны курганок прытуліўся на паўночным схіле. Неабчэсаныя камяні, змацаваныя вапнай, моцна трымаюцца адзін за адзін. А вось дошка трэснула, відаць, ад марозу. І літары вылінялі. Затое тры бярозкі набіраюць моцы. Яны шумяць самотна і глуха: тут, на гары, вецер. І нам трохі самотна, і сорамна, што мы жывём...

Моўчкі падымаемся яшчэ вышэй, туды, дзе стаіць расшчэпленая мінай вярба. Доўгае тонкае голле звісае ледзь не да зямлі. Стась адразу кладзецца на ўгрэтую зямлю.

— Давай пазагараем,— кажа ён і, не чакаючы мяне, скідае кашулю.

Стасю жывецца лёгка. Толькі што ён стаяў, схіліўшы галаву, і вось ужо на ўсё забыўся. А я стараюся ўявіць, што ў апошні раз бачылі з гэтага кургана партызаны.

Унізе паблісквае на сонцы Расянка, разліваецца за Чыжоўкай возерам, а далей, за плацінай, цячэ нямоглым ручаём да Віцьбы. На поўдні нашы вёскі — Зарэчча, Русакі, Халябы, Краты, Астроўна, а далей сінія Данькаўскія лясы. На поўначы — Кацярынінскі шлях, раскіданыя на пяці ўзгорках хаты вёскі Кардон. Ліпавыя прысады, калгасны сад. З Кардона, вось гэтай дарогай, што віецца сярод жытоў, той вераснёўскай раніцай ехалі паліць нашы вёскі карнікі.

Нічога гэтага я не помню, бо мне было тады ўсяго тры месяцы. Праўдзівую я чытаў ды слухаў расказы старэйшых. Расказы асаблівых пачуццяў не выклікалі, мабыць таму, што ў іх больш апавядалася пра пакуты. Затое кнігі абуджалі прагу да гераізму. І вось сёння штосьці перайначылася, штосьці трэснула ў душы, як тая дошка з прозвішчамі партызан.

Ці не можна было зрабіць неяк інакш? Людзі жывуць, радуюцца. А курганок стаіць забыты. Чаму? Хто яны былі? Кажуць, не тутэйшыя.

— Чаго ты стаіш? — перапыняе мае думкі Стась.

— Здорава, брат, прыпякае. Пазагараем і — у рэчку...

Я кладуся на траву тварам уверх.

— Бачыў, як Маргарытка сёння слязу падпускала? — пытаецца Стась.

— Бачыў. Ну і што?..

— Гэта яна таму, што больш двоек нам не паставіць, гаравала.

— Ідзі ты, Стась...

— Яшчэ заступаецца. Не магла яна табе чацвёрку паставіць. Скнара. Атэстат сапсавала. Кругом пяцёркі, а дэйтшэ шпрахе — драйка.

— Нічога, яшчэ пабачым...

— А думаеш, не. Слухай, давай махнём у Адэсу.— Стась прыўзнімаецца, дастае з кішэні сцізорык, пачынае стругаць лазовы прут. Жаўтлявая стружка падае на траву. Ля адной трэскі збіраюцца лабатыя мурашкі. Ім, відаць, надта патрэбен будаўнічы матэрыял. Яны хапаюць трэсачку, напружваюцца, аж лезуць на лоб і так лупатыя вочы.

— Эх вы, механізатары! — усміхаецца Стась і пачынае памагаць мурашкам.

Мне здаецца, што ён ужо забыўся на сваю прапанову. Але я памыляюся.

— Ну, дык чаго ты маўчыш?

— А чаму ў Адэсу?

— Хоць свет пабачым. Там жа мора. Можа ў мараходнае паступім...

— А калі не паступім?

— Прыстроімся матросамі. Здорава было б трапіць на кітабойную флатылію.

Звычайна я згаджаюся са Стасем. Але сёння мне чамусьці хочацца гаварыць насуперак яму.



— Не хачу я ў мараходнае. Падумаеш, шчасце...

— То можа лепш у геалагічны інстытут. Мне то ўсё роўна, а ты ж хацеў падарожнічаць.

— Хацеў, хацеў, бо дурны быў. А цяпер паразумнеў. Што ты адкрыеш? Пакуль вывучышся, дык ужо ўсё паадкрываюць. Ніводнай плямінкі нідзе не застанецца. Будзеш у канторы паперкі падшываць.

Стась уважліва сочыць за мной. Ён хоча зразумець: жартую я ці не. І мне гэта падабаецца. Чалавек павінен выдаваць крыху таямнічым. Якая каму справа да таго, якія думкі толькі што непакоілі мяне.

Шчыра кажучы, я даўно ўжо вырашыў, куды буду паступаць пасля школы. І Стасю не варта ўгаворваць мяне ісці ў геалагічны.

— Дык ты што, усё ж рашыў на літаратурны? — нецярпліва пытаецца ён.

— Рашыў,— абыякава адказваю я.

Стась нейкі час узважвае свае шанцы. Потым панура кажа:

— Што ж, табе ў самы раз. Ты — паэт. У цябе вершы друкаваліся.

У голасе Стася — крыўда. Паступаць на літаратурны факультэт яму не выпадае. Пісьменніка са Стася не будзе, бо ён не ўмее звязаць чатыры словы. Усе сачыненні ў Стася напісаны трохслоўнымі фразамі. «Горкі — вялікі рэаліст. Ён выкрываў мяшчанства. Мяшчанства было рэакцыйнае. Яно падтрымлівала цара. Цар душыў народ. Горкі любіў народ. Народ — герой твораў».

Але я ведаю, што Стасю не хочацца са мной разлучацца. Дзесяць гадоў запар мы разам хадзілі ў школу, сядзелі на адной парце, і большасць хатніх заданняў Стась спісваў у мяне. Мне шкада Стася. Ці варта трымацца літаратурнага факультэта? Якая, зрэшты, розніца, дзе вучыцца? Але мне хочацца паздзекавацца са Стася.

— Не, Стась, я пайду на літаратурны. А ты на юрыдычны падавай заяву.

Стась адкідвае лазовы прут, падкурчвае пад сябе голыя ногі.

— Выдумаў,— незласліва кажа ён.— Радасць вялікая — людзей судзіць...

— Як хочаш...

Стась лажыцца на жывот, зрывае тонкую сцяблінку, пачынае жаваць. А я гляджу, як па галінках вярбы пырхае маленькая зеленаватая птушка. Адна. І ёй весела. А можа сумна? Хто яго разбярэ, каму на свеце весела, а каму горка...

— Янка, калі ты пойдзеш на юрыдычны, дык і я з табой. Давай, Янка, махнём на юрыдычны. Удвох весялей. Хіба мала юрыстаў стала пісьменнікамі. Кончыш, будзеш вершы пісаць.

— Ладна,— згаджаюся я.

— Вось ты сапраўдны сябар. Знаеш, нам усе зайздросцяць, бо ніхто так не сябраваў, як мы. Было б крыўдна, каб мы расталіся.

Стасевы словы расчульваюць мяне. Добра ўсё-такі рабіць людзям нешта прыемнае. Здаецца, і сам сябе пачынаеш паважаць. Каб была ў мяне магчымасць, дык я толькі і рабіў бы добрае. Няхай радуюцца людзі.

— Цяпер пойдзем пакупаемся і дамоў...

Стась нацягвае штаны, надзявае кашулю і задумліва кажа мне:

— Можа, пакой адзін на двух атрымаем. Здорава было б. І давай усё жыццё не разлучацца.

Задаволеныя адзін другім, мы спускаемся з кургана да рэчкі. Распранаемся і з берага ныраем у зеленаватую ваду затокі. Тут вада цяплейшая, чым у рацэ. Плаваем на сажонкі, фыркаючы, адсопваючыся, аж пакуль цела не пакрываецца пупыркамі.

Пасля мы ляжым на беразе, грэемся, і Стась развівае нашы планы:
— Суддзямі мы, Янка, не будзем. Пойдзем працаваць адвакатамі. Адвакатаў любяць, а суддзяў не любяць. Хоць суддзя і правільна судзіць, усё роўна яго лаюць. Справядлівасць, Янка, мала хто паважае...
Апошняе мяне крыху здзіўляе. Вось ужо ніколі не думаў, што Стась можа рабіць нейкія мудрыя вывады. Я ўсміхаюся. Стась заўважае гэта.
— Не верыш, можа? Вунь Хведарыха больш за ўсіх крычыць пра справядлівасць, а сама так і грабе ўсё, што дрэнна ляжыць. Толькі паспрабуй ёй пра гэта сказаць — вочы выдзярэ. Альбо брыгадзір наш. Дык ён жа цябе за праўду з'есць.
— Брыгадзір яшчэ не факт.
— А былы старшыня? Думаеш, чаму майго бацьку з механікаў знялі? Бо старшыні праўду ў вочы рэзаў...
— Пайшлі дамоў,— кажу я.— Нешта есці захацелася.
— Пайшлі...
Мы ідзём праз поплаў. З-пад ног скачуць бурыя маленькія конікі, знікаюць у траве і пачынаюць цвыркаць. Здаецца, увесь поплаў звініць, спявае.
За ўзгоркам пачынаецца поле. Па ім поўзае маленькі трактар «Беларусь». На ім праце Стасеў бацька Ягор Пацябня, ці, як яго завуць на вёсцы, Чолка. Мне не хочацца сустракацца са Стасевым бацькам. Ён любіць жартаваць і не вельмі каб удала, хутчэй абразліва. Але Стась не зварочвае на дарогу. Ён шыбуе па кукурузным полі проста да трактара.
Чолка заўважае нас, спыняе трактар сярод поля. Я здалёк бачу яго кплівую ўсмешку, і мне вельмі няёмка.
— Ну як, выпусцілі вас, дармаедаў?
— Выпусцілі,— адказвае Стась.
— Час і за розум брацца. І ахвота ж савецкай уладзе такіх бэйбасаў за партай трымаць...— Ягор крывіць шырокі, аброслы рыжай шчэццю рот.— Пакаж табялёк.
Стась неахвотна падае бацьку атэстат. Ягор выцірае рукі аб штаніну, разгортвае скрутак чорнымі ад мазуту пальцамі.
— Ото ж, бамбіза,— хмурэе ён.— Што ты толькі ў школе рабіў? Адны тройкі.
— Сам пасядзеў бы,— агрызаецца Стась.
— Я пасля чатырох класаў чалавекам стаў і болей за цябе знаю.— Ягор звяртаецца да мяне:— Ну, а ты куды? Мы дык заўтра заяву панясём. З такой дзіравай башкой, як у майго Стася, адна дарога...
Стась горбіцца, набычвае галаву, коса пазіраючы на бацьку, невыразна мычыць:
— Сам ідзі ў ветэрынарны...
Ягор не зважае на сынавы словы. Для яго, па ўсім відаць, усё вырашана.
— Дурань ты і больш нічога. Чым жа ветэрынары горш за другіх жывуць. Хоць бы вунь Іваноў. Хату пяцісценку паставіў. Карову трымае. Дзве свінні. Курынага малака хіба не хапае. І работы той — кот наплакаў. Не тое, што нам, грэшным.
— Не хачу я свінням хвасты круціць,— Стась яшчэ больш натапырваецца.
— А ты не круці. Твая справа загадваць. Другія няхай круцяць. Праўду я кажу, Янка?
Ягор падміргвае мне і яхідна ўсміхаецца. Ніколі не разбярэш, жартуе ён ці гаворыць сур'ёзна.
— Мы са Стасем надумалі ў Мінск ехаць,— адказваю я.



— Во-во, толькі яшчэ вас там не хапала... Такіх, як вы, там набярэцца дай божа: да Масквы ракам не настаўляеш. І ўсе ў Мінск. А ён хіба гумавы? Не, Стась у Мінск не паедзе. Тут ён у мяне на вачах. А там... Я ягоную натуру ведаю. Яго лянота заела.
Стась бялее ад злосці. А Ягор толькі ўсміхаецца сваёй здзеклівай усмешкай.
— Давай атэстат,— рашуча кажа Стась.— А то вунь штэмпель мазутны паставіў.
Ягор згортвае атэстат, але не аддае. Яму, відаць, падабаецца, калі Стась злуецца.
— Нічога, атэстат і ў мяне цэлы будзе. А то ты яшчэ яго ў Мінск адашлеш. А што заляпаў крыху, дык не бяда. Адразу скажуць: рабочага чалавека сын паступае.
Мне робіцца крыўдна за Стася. Столькі абраз не выцерпеў бы ні адзін чалавек. А Стась церпіць. Ён толькі мяняецца ў твары, то чырванее, то бялее. Не мая справа абараняць Стася, але я ўжо не магу стрымацца. Якая справа бацькам да нас? Чаго ім трэба? Мы неяк і без іх знойдзем дарогу.
— Дзядзька Ягор,— лезу я ў размову.— Стась не хоча быць ветэрынарам.
— А кім жа вы хочаце быць? — сярдзіта пытаецца Ягор.— Можа міністрамі? То яшчэ няхай зады пер'ем абрастуць.
— Мы адвакатамі будзем.
— Знайшліся аблакаты. На лёгкі хлеб пацягнула. А ты ў зямлі пакалупайся... Ягор ужо не ўсміхаецца. Ён адкінуў прэч свой кплівы тон і цяпер гаворыць усур'ёз: — Стрыкулістаў гэтых цяпер усюды хапае. А толку ніякага. Ды і заробак у іх курам на смех. Адно званне толькі што аблакат. Сербане ўранку чайку і ходзіць увесь дзень, кішкі падшчаміўшы. А Іваноў вунь леташняга сала кубел мае. Ды сёлетняга два. Во як жыць трэба...
— А я так не хачу жыць. Мне тваё сала во дзе сядзіць, аж горка.
Яны стаяць адзін супраць другога, абодва сухарлявыя, злосныя, з гнеўнымі вачыма. Стась ужо не выдае прыбітым і баязлівым. Але я ведаю, што вытрымкі ў яго хопіць ненадоўга. Таму я пачынаю падтрымліваць Стася.
— Дзядзька Ягор,— крычу, каб заглушыць іх галасы,— думаеце, сала — дык гэта ўсё? Думаеце, пяцісценка — раскоша? А што ў Іванова яшчэ ёсць? На душы? Нічога. П'е.
Ягор спыняе на мне цяжкі, нібы свінцовы, позірк. Верхняя губа з рэдкай рыжай шчэццю ўздрыгвае, агаляючы пракураныя зубы.
— А табе якое дзела? Іш, замалаціў. Па мне, ідзі хоць на пракурора — слова не скажу... А яго не пушчу. Баста!
Ягор падцягвае шырокія штаны.
— Я з табой яшчэ пагавару,— узлазіць ён на трактар і грозіць адтуль Стасю.— Бач ты, наслухаўся гэтага байструка Дар'інага і тожа мне лыч закапыліў... Я табе яго саб'ю.
Трактар натурліва тузаецца, спыняецца і, зноў ірвануўшыся, бяжыць па полі. Мы стаім, схіліўшы галовы, і чамусьці саромеемся паглядзець адзін аднаму ў вочы. Быццам не хто іншы, а мы самі зрабілі нешта благое. Потым ідзём па полі на дарогу. Мне хочацца сказаць Стасю, што ягоны бацька жорсткі і несправядлівы чалавек, але баюся пакрыўдзіць сябра. Яму і так горка. І раптам Стась сам загаворвае са мной. Але як!
— Ляпнуў! Ну хто цябе прасіў казаць, што ў Мінск едзем.
— А чаго тут хавацца. Раз дамовіліся, дык і кажы. Мяне хай бы на кавалкі рэзалі, а ад свайго не адступіўся б.

— Табе што. У цябе маці. А мой, што не так — па зубах. Думаеш, ахвота мне, каб кожны раз па мордзе білі?

— Дурняў заўсёды білі, а яны дома сядзелі.

— Падумаеш, разумнік... Ці даўно цябе матка венікам хвастала.

Гэта праўда. Але яна абурае. Навошта Стасю ўспамінаць пра тое, што было. І я адказваю злосна:

— Маю маці не чапай. Твой бацька і падэшвы яе не варты. Як яго з механікаў гналі, тады ён не тое казаў...

Стась спыняецца, глядзіць на мяне ашалелымі ад злосці вачыма. А я прыбаўляю кроку. Сорамна. Навошта пакрыўдзіў хлопца?

## 2

У канцы дваццатых гадоў наша вёска Зарэчча была цэнтрам зарачанскага калгаса. Пазней, калі калгас вырас, яна стала цэнтрам брыгады. Цяпер Зарэчча частка дзевятай брыгады вялізнага калгаса «Наперад». Але, як і некалі, брыгадзір або яго намеснік, ці ўчотчык бегаюць па хатах, угаворваюць людзей ісці на працу. Людзі папрывыкалі да гэтага. Зручна. З вока на вока з брыгадзірам можна палаяцца або пагаварыць шчыра. Можна пачаставаць брыгадзіра чаркай і атрымаць лягчэйшую работу. Можна, наогул, нікуды не ісці. Выгод шмат.

Зарэчча на водшыбе. Да цэнтра калгаса аж восем вёрст. Таму да нас начальства заглядае рэдка. Можа каб у Зарэччы быў цэнтр брыгады, начальства заглядала б часцей, а так рабіць яму тут няма чаго. І людзі не вельмі засмучаюцца гэтым.

Зарачанцы таксама нідзе не бываюць. Скаргі адсылаюць праз паштальёна, аднарукага Піліпа Вострыка. Праз яго ж атрымліваюць і адказы. Вострык — адзінае, хоць і не вельмі надзейнае, звяно сувязі з цэнтрам калгаса. Але ён часта хварэе. Тады весткі з канторы даходзяць да зарачанцаў праз памочніка брыгадзіра Сцяпана Макуху. Але гэтым весткам не дужа вераць, бо Сцяпан добры манюка.

Клуба ў Зарэччы няма. Даўней, калі ў вёсцы была брыгада, на раскрыжаванні дарог стаяў клуб. Там можна было згуляць у даміно на доўгім стале, а таксама патанцаваць. Цяпер клуб перададзены сельпо. Хоць наша вёска і не цэнтр брыгады (цэнтр знаходзіцца ў Русаках), але краму адчынілі тут. Яно і сапраўды, лепшага месца для крамы не знойдзеш. Зарэчча ляжыць на скрыжаванні дарог, адна з якіх ідзе з горада на Баваршчыну, другая са смаленскай шашы на суражскую. Месца тут бойкае, і гандаль ідзе поўным ходам.

Каб не гэтая крама, дык наша Зарэчча было б самай глухаманню. Ды і так не вельмі весела і людна. Некалі ў горад ездзілі на конях. Цяпер больш на машынах. І шафёры часцей за ўсё абмінаюць краму.

У нас амаль увесь дзень цішыня. Зарачанцы не любяць шумных сварак, не любяць вырашаць спрэчкі з дапамогай начальства. У часе вайны не любілі тых, хто распускаў язык, хто бегаў скардзіцца. Даражэй за ўсё людзі цанілі тады згоду. Вайна даўно закончылася, але прывычка жыць згодна — засталася. Згода гэтая толькі знешне здаецца трывалай. Людзі не вельмі каб дружылі. Але ж ледзьве што здарыцца, усе пачынаюць трымаць адну лінію.

Наша хата стаіць пад узгоркам. З акна добра відаць імшара, а за ёй рэдкі лясок на беразе рова. Другое выходзіць на дарогу і на вокны Хведарышынай хаты, што па той бок вуліцы. З Хведарышынай Нюсяй я тры гады вучыўся ў адным класе. Нашы імёны адзін час плюсавалі на ўсіх дошках плота. Я злаваў, біўся з хлопцамі. А Нюся толькі ўсміхалася. Яна была старэйшая за мяне на паўтара года. Пасля сямігодкі Нюся падалася ў Мінск на курсы медсясцёр, і цяпер Хведарыха кожнаму кажа, што за Нюськай ухажвае «нацэнт».



У тую раніцу я прачнуўся даволі позна. Сонца паднялося высока, бо жаўтлявая палоска святла ляжала ўжо не на сцяне, а на падлозе. Маці ў хаце не было. Яна тупала ў сенцах. Адтуль чуўся парасячы піск.

Пад акном прамільгнула знаёмая постаць, і неўзабаве я пазнаў жартаўлівы, хрыпаты голас Сцяпана Макухі, ці па вясковаму — «Слухай сюды».

— Памагай бог, Дар'я!

— А-а-а, Сцяпанька, дзякуй табе і сама ўпраўлюся. Можа, смятанкі вып'еш. І ні снедаў, глядзі?..

— Квасу б мне,— хрыпіць Макуха.— Гэта ж, слухай сюды, Хведарыха пачаставала ўчора нейкім паскудствам, дык і сёння грудзі пячэ.

— Жмінда!

— Жмінда!

— Можа лепей настойкі. У мяне на бярозавых пупышках. Рабіла спіну націраць, ды слава богу...

Нейкі час Сцяпан Макуха маўчыць, пасля нерашуча, баязліва просіцца:

— Пахнуць жа будзе. А тут жа, слухай сюды, рэвізія едзе. Сам меўся быць...

— Госпадзі, а чаму ж сам? Ці не напісаў хто?

— Думаеш, не... Русакоўцы ўсё, каб іх немач. Усё ім мала.

— Аняго ж, вочы мы ім колем, ці што?

— Хіба адну чарку,— раздумліва кажа Макуха.— Ну так пячэ ў сярэдзіне, хоць плач.

— Выпі, Сцяпанька.

Зноў на нейкі час усталёўваецца маўчанне. Сцяпан куляе запар, мабыць, тры чаркі. Бо неўзабаве гаворыць ужо звонка. Хрыпаты як і не было:

— Ай, Дашачка, дзякуй. Гэта ж, слухай сюды, ратунку не было. А то, як рукой зняло.

— У мяне рука лёгкая, бо не шкадуючы частую,— хваліцца маці.

— Во, ледзь не забыўся. Усю дарогу думаў і — на табе! Галава, хай на яе немач. Гэта ж во, слухай сюды, якую навіну пачуў. Загурскі прыязджае.

Я аж прыўзняўся на ложку. Прыслухаўся. Маці адказала спакойна:

— А мне што, няхай едзе.

— Упусціла ты, Дашка, такога хлопца. Маёрыхай была б.

— Хіба знаеш, дзе згубіш, а дзе знойдзеш?

— Яно так. А толькі, слухай сюды, шкада...

Маці не адказала. Мне здалося што прамаўчала яна не выпадкова. Вось, каб пабачыць яе твар, тады я адразу сказаў бы, чаму яна змоўкла. А Сцяпан Макуха засабіраўся ўжо далей па хатах.

— Дык, слухай сюды, Дар'я. Начальства трэба сустрэць, каб камар носу не падтачыў. Усе бабы на кукурузу пойдуць, дык і ты ўжо не адстань. Паедзе, тады і палёгку можна дапусціць.

— Як усе, так і я.

— Гэта я знаю. Ты не адстанеш. А Янку свайго пашлі ток чысціць. Гэта ж, слухай сюды, даўно ўказанне было такі і свірны да ладу прывесці, а вось рук дацягнуць не было як.

— Няхай бы дома пабыў. Экзаменты на носе.

— Адзін дзень, слухай сюды, не ратунак, а нам козыр.

— Добра, скажу. Ці паслухае толькі?

— Я ля Данілавай хаты буду. Няхай туды прыходзіць.

Сцяпанава шапка мільгае ў акне. У хату заходзіць маці. Я спадцішка ўглядаюся ў матчын твар, шукаючы на ім усхваляванасці. Але на ім, апрача прыкрасці, нічога не відаць.

— Няхай яго разарве,— бурчыць маці.— Не паспее вочы прадраць, як ляціць па хатах, каб пахмяліцца дзе. Во ўжо ненажэрная прорва!..

Мне балюча слухаць матчыны словы. Сама ж набівалася, а цяпер лае чалавека за вочы. Брыдка, хоць я і прывык да гэтага. Чаму маці ў вочы кажа адно, а за вочы другое? Можа і другія так робяць? Можа і пра мяне кажуць што-небудзь благое, хоць у вочы гавораць толькі добрае?

— Спіш во да паўдня,— кажа маці да мяне.

Я адчуваю сябе няёмка. Папрок горкі, які я не раз чуў, прымушае мяне падняцца. Навошта маці папракае?

Маці спяшаецца падаць снеданне. Яна хапаецца за ўсё адразу. Насыпае ў міску бульбы, на хаду пераапранаецца, прыбірае стол. Я вельмі люблю глядзець, як яна завіхаецца ля печы. Усё выходзіць у яе прыгожа, аж люба глядзець. І мне становіцца весялей.

— Сцяпан казаў, каб памог ток чысціць,— кажа яна, прысаджваючыся на табурэтку.

— Добра,— адказваю я.

Снедаем мы паспешліва. Я першы выходжу на вуліцу, бяру кірунак на Данілаву хату.

Макухі яшчэ няма. Ён, відаць, ніяк не дойдзе да канца вёскі. Ля хаты, на бярэзіне, вісіць вагонны буфер, але ў яго даўно ўжо не звоняць: усё роўна на працу не пойдуць, пакуль Сцяпан не абыдзе хаты. Пад бярозай — лавачка. Я саджуся на яе, дастаю сцізорык, пачынаю стругаць палку.

З хаты выходзіць Шура. Яна спыняецца на ганку і жмурыцца ад сонца. Потым пачынае рагатаць.

— Дык ці не цябе прыслалі ток чысціць?

— А што, думаеш, не змагу?

— Не, гэта ж Сцяпан агітаваў нас, дык абяцаў самага лепшага хлопца з усяго калгаса за старшага прыслаць.

Я крыху бянтэжуся. Шура заўважае гэта і абрывае смех, потым гукае дзяўчат:

— Дзеўкі, старшы прыйшоў!..

Дзеўкі высоўваюцца ў расчыненыя вокны.

— Іван Дар'і,— а бо! — во дык старшы!

Гэта гаворыць Анютка Какосцікава, якую хлопцы празвалі «шкілетам». Мяне пачынае разбіраць злосць. Не мог гэты «слухай сюды» паслаць на лепшую работу?..

— А што, ён і праўда, нічога!.. Фацэтненькі... Толькі гонару шмат. Мы яго, дзеўкі, праз мялку прапусцім, дык памякчэе,— у вачах Веры Какосцікавай здзеклівы смех.

— Ты лепш свайго Стася праз мялку прапусці,— агрызаюся я.

— Гэта ўжо не твой клопат.

Спрэчку спыняе Сцяпан Макуха. Ён паяўляецца, як здань, нечакана.

— Дзеўкі, слухай сюды, ідры вашу тры, хутчэй збірайцеся, хопіць чапурыцца!.. А ты бяжы па хамут. У каго ён толькі? Здаецца, у Тараса.

— Вупраж, дзядзька, у нас,— адказвае Шура.— Вунь там пад паветкай, на калку.

Яна першая бяжыць пад паветку, а я іду за ёй следам памалу. Стаўшы на дыбачкі, Шура спрабуе зняць вупраж з калка, але да хамута яна дастае толькі кончыкамі пальцаў.



— Пачакай, я сам,— кажу і таксама цягнуся рукамі ўгору.

— Ты, Янка, прабач, што так няўдала пажартавала,— просіць Шура, і гэта вельмі здзіўляе мяне.

— Палезуць гэтыя Какосцікавы — дам па мордзе... Знайшліся прыгажуні...— бурчу я і цягну вупраж на вуліцу.

Сцяпан-«слухай сюды» цягне за аглоблі ад Какосцікавых калёсы з драбінамі, ці, як завуць у нас, мары. Анютка і Верка папіхаюць мары ззаду. Папіхнуць крыху і прысядуць на градку. Сцяпан азіраецца, пачуўшы цяжар, нязлосна крычыць: «Ну, я вас, сухарэбрыцы!» Шурчын брат Лёшка прыводзіць з пашы каня, рыжага і маленькага. Сцяпан памагае мне запрэгчы каня, дзяўчаты ўзлазяць на мары, і мы едзем на ток.

Летась у ім малацілі, а пасля мялі лён. На застаронках і ў ёўні поўна мякіны, гнілой трасты, кудзелі і кастрыцы. Усё гэта зляжалася, прагніло, а зверху пакрылася шараватай плесенню.

На таку халаднавата ад вільгаці, хоць на двары так і прыпякае сонца. Дзяўчаты бяруць вілкі, пачынаюць чысціць застаронак. У нос шыбае гніллю. Абедзве Какосцікавы працуюць ленавата: учора яны былі на вечарынцы і, мабыць, не выспаліся. Яны больш стаяць, паставіўшы нагу на край вілак. Затое Шура працуе шчыра. Падкалупвае смецце, лёгка ўскідае на воз.

— Дзеўкі,— кажа яна,— калі так працаваць, дык мы і за тыдзень ток не ачысцім.

Какосцікавы пераміргваюцца, але пачынаюць завіхацца больш старанна. Нарэшце, воз поўны. Разам з Шурай я вязу яго на поле. Шура ідзе побач са мной, ускінуўшы вілкі на плячо.

— Куды ты, Янка, заяву падаў? — пытаецца яна.

— На літаратурны, у Мінск.

— Зайздрошчу я табе. Мне яшчэ год вучыцца.

Шура вучыцца не ў Кардонскай школе, а ў Задуброўскай. Да Задуброўя бліжэй. Калі я пачынаў хадзіць у пяты клас, Задуброўскай школы яшчэ не было. Таму мы неяк мала ведаем адно аднаго, хоць і жывём у адной вёсцы.

— Год непрыкметна праляціць,— падбадзёрваю я Шуру.

— Гэта праўда. А конкурс там вялікі?

— Канечне, з усёй Беларусі едуць...

— Страшна будзе трымаць экзамены. Гэта ж сваім настаўнікам здаеш і то перакалоцішся як.

— Нічога, калі ведаеш, дык не так ужо боязна. Вось з нямецкай мовай горш. Там, кажуць, па-нямецку пытанні задаюць.

— А я нямецкай не баюся. Нас настаўнік прывучае размаўляць па-нямецку. Хочаш, магу памагчы?

Я адмаўляюся. Не хапала, каб пасля смяяліся з нас. Ды і Шура не настойвае. Але ўсё ж прыемна, што Шура тварыская дзяўчына, не тое, што гэтыя Какосцікавы.

Мы вяртаемся на ток. Яшчэ здалёку чуем, як пяюць Какосцікавы, стараюцца перакрычаць адна другую:

Матросёнок молодой,
Аленькие губки.
Ты возьми меня с собой,
Еду в одной юбке.

Шура ўсміхаецца. І мяне разбірае смех. Я ўспамінаю традыцыйны недарэчны танец абедзвюх Какосцікавых, Марыны Макухі і тоўстай Алены, дачкі жулікаватага Халімона Лепятухі. Не было яшчэ ні адной вечарынкі, каб гэтая чацвёрка вараных не выходзіла на круг. Стануць



адна супраць другой, накрыж, як малыя дзеці, пляскаюць у далоні і крычаць пранізлівымі галасамі пра матрасёнка. Мне чамусьці было сорамна за дзяўчат. Здавалася, што яны на ўсю вечарынку выстаўляюць сваю дурасць.

Дзяўчаты ляжаць на траве, абняўшыся ў самазабыцці, і нібы скардзяцца на свой лёс:

Прошёл год, прошёл другой,
Дочь идёт уныло:
На руках она несёт
Матросёнка-сына.

Шура саскоквае з мараў, ідзе да дзяўчат і нерашуча садзіцца побач. Тыя не звяртаюць на Шуру ўвагі. Яны прадаўжаюць цягнуць пастылую песню.

— Дзяўчаты,— просіць Шура,— кіньце вы гэтую песню. Давайце што-небудзь новае спяём.

Какосцікавы абрываюць песню на самай высокай ноце, ляжаць заплюшчыўшы вочы. Здаецца, тое, пра што яны спявалі, узрушыла іх да глыбіні душы.

— Янка. «І ў снег, і ў вецер» — знаеш? Садзіся, Янка.

Я неахвотна апускаюся побач з Шурай. Спяваць мне не вельмі хочацца. Я сяджу, абхапіўшы калені, чакаю, пакуль Шура пачне запеў:

Забота у нас простая,
Забота наша такая:
Жила бы страна родная,—
И нету других забот.

У Шуры чысты, звонкі голас. І нейкая незвычайная страснасць. Проста немагчыма ўседзець з закрытым ротам. І я падхопліваю прыпеў:

И снег, и ветер,
И звёзд ночной полёт...
Меня моё сердце
В тревожную даль зовёт.

Какосцікавы слоў не ведаюць. Яны толькі варушаць вуснамі. А мы спяваем на ўсе грудзі:

Пока я ходить умею,
Пока глядеть я умею,
Пока я дышать умею,
Я буду идти вперёд.

Песня кліча, бударажыць. Здаецца, устаў бы і пайшоў як мага далей ад усяго недарэчнага і дурнога, што вакол нас.

Мы канчаем песню і доўга маўчым. Усе словы, што прыходзяць у галаву, здаюцца цяпер пустымі, непатрэбнымі. Дзіва, як бы нічога не адбылося, але я пачынаю адчуваць цёплую прыхільнасць да Шуры. Нібы за гэты час мы прайшлі з ёю доўгі, цяжкі шлях і цяпер назаўсёды будзем звязаны ўспамінам пра гэты паход. Какосцікавы таксама маўчаць. Мне думаецца, што і іх перайначыла песня.

— А я больш тужлівыя песні люблю,— летуценна кажа Анютка.— Такія, каб за сэрца брала. Спяваеш, і ўсё сэрца жалем абліваецца... Затое пасля весялей на свеце жыць.

— Сумна ў нас,— Вера закідвае рукі над галавой.— Вы дык хутка ў горад паедзеце... Пайшлі ток чысціць. А то «слухай сюды» прыйдзе, лаяцца будзе.

«Слухай сюды» паяўляецца пасля абеду, і не адзін. Ён прыязджае на брычцы разам са старшынёй калгаса Чукраем і нашым брыгадзірам

Кузьмом Цопай. Старшыню я бачу ўпершыню. Яго прыслалі ў наш калгас сёлетняй вясной з вобласці, дзе ён працаваў намеснікам начальніка статыстычнага ўпраўлення. Чукрай — невысокі, лысаваты чалавек у сінім гарнітуры і пад гальштукам. Побач з Макухай і Цопай ён выдае залішне святочным. Быццам і сапраўды не старшыня, а рэвізор, ці, як кажа Макуха, «сам».

Чукрай пакуль ездзіць на брычцы, бо «масквіч», які быў у яго папярэдніка, знік бясследна разам з былым старшынёй. Апошнія тры старшыні вось так прыязджалі на гэтай брычцы, а пасля, калі іх знімалі з пасады, ад'язджалі кудысьці на «масквічах».

Новы старшыня заходзіць у ток, прыўзняўшы капронавы капялюш, вітаецца з намі за руку. Дзяўчаты, перш чым падаць руку, выціраюць яе аб падол. Капнуўшы нагой зляжалую парахню, Чукрай пытаецца ў Веры Какосцікавай:

— За сёння ачысціце?

На пытанне адказвае не Вера, а Сцяпан Макуха. Ён, як завадны чорцік, падскоквае да старшыні:

— Мяльян Мяльянавіч, вось пабачыце — ачысцяць... Я, слухай сюды, усё прадумаў.

Чукрай выцягвае з кішэні запісную кніжку і аловак.

— Колькі вазоў вывезлі? — пытаецца ён у мяне.

— Дзесяты канчаем.

— Ну, вось я і кажу. Дзесяць,— спакойна гаворыць Чукрай.—А яшчэ і адзін край не вычысцілі. Пачалі вы ў восем гадзін. Цяпер тры дваццаць, няхай — тры... Гадзіна на абед. Усяго выходзіць шэсць гадзін. Дзесяць вазоў за шэсць гадзін. Абсурд! Ды з такімі тэмпамі вы і за тры дні, таварыш Макуха, не справіцеся.

— Справімся, Мяльян Мяльянавіч,—бадзёра адказвае Сцяпан і чамусьці падміргвае мне.

— Дык мы не ў восем пачалі, а ў адзінаццаць,— разгублена кажу я, нічога не разумеючы ў вылічэннях старшыні.

«Слухай сюды» міргае мне, а Цопа стараецца перавесці размову на другое.

— Мы, Амяльян Амяльянавіч, цяпер галоўны ўдар на кукурузу зрабілі. Зарасла, самі бачылі.

— Зарасла,— згаджаецца старшыня.— І зноў прыступілі вы да праполкі без плану. Так, таварышы, працаваць нельга. У брыгадзе ў вас па кнігах дзевяноста шэсць жанчын, а на праполку выходзіць сорак пяць, пяцьдзесят. Калі ж вы кончыце? Так і восень на праполцы застане.

— Не застане, Амяльян Амяльянавіч.

— Як жа не застане?.. Вось вам лічбы. У сярэднім цяпер за дзень жанчына выполвае...

Чукрай называе лічбы, множыць, дзеліць, складае і аднімае іх, нібы жангліруе, а Макуха і Цопа пераміргваюцца і робяць выгляд, што ўважліва слухаюць старшынёвы разлікі. Нарэшце Чукрай адрываецца ад запісаў. Узрадавана, нібы адкрыў нешта важнае, гаворыць да Цопы:

— Я і казаў. Лічбы, таварышы, не падвядуць. Калі вы здолееце вывесці дзевяноста жанок і кожная з іх будзе працаваць па восем гадзін, выконваючы норму на сто працэнтаў, дык праполку закончыце праз тыдзень. А ў вас сенакос на носе.

— Раней кончым, Амяльян Амяльянавіч. Праз пяць дзён адрапартуем. Можаце не сумнявацца,— Цопа гаворыць вельмі ўпэўнена, што нават я пачынаю верыць — кукуруза будзе праполата.

— А вы ўсё ж разлікі вазьміце. Прыгадзяцца. І вось так заўсёды — спачатку разлічыце, а пасля да справы прыступайце.



Цопа кладзе паперку ў кішэню. Макуха, як чорцік, скача па застаронку, дзяўбе віламі ў смецце, быццам памагае нам. Мне робіцца брыдка і сорамна. Няёмка за Макуху, за Цопу, якія хлусяць без сэнсу і карысці, абводзяць старшыню вакол пальца. Сорамна за старшыню. Няўжо ён не разумее, што яго ашукваюць? Хай бы ён прыехаў у брыгаду нечакана. Хіба ён не можа здагадацца, што Цопа з Макухай падрыхтаваліся да сустрэчы? Нават Цопава жонка сёння выйшла на работу. Лічбы, вядома, не падвядуць. А вось Макуха і Цопа? Хіба з імі так гаварыць трэба? Паедзе Чукрай, і яны ўдвух будуць смяяцца, як лоўка абдурылі старшыню...

Старшыня садзіцца на брычку. Побач прымошчваецца Цопа. Макуха таксама хоча залезці ў брычку, але Чукрай спыняе яго.

— Вы таварыш Макуха, застаньцеся, панаглядайце, каб ток хутчэй ачысцілі. Моладзь, ведама. За шэсць гадзін — дзесяць вазоў. Абсурд!..

Макуха збянтэжана глядзіць услед брычцы. Потым паварочваецца да нас.

— Харошы чалавек, памяркоўны. Жызню, слухай сюды, знае,— і бяжыць у вёску.

Неўзабаве і мы едзем дамоў. Рэвізія кончылася. Заўтра Цопа пашле ў кантору рапарт: ток ачышчаны. На душы так брыдка, што хочацца крычаць. А тут яшчэ Какосцікавы зноў завялі матрасёнка з аленькімі губкамі...

Ля Данілавай хаты стаяць людзі. Мы пад'язджаем бліжэй, і я адчуваю, як пачуццё нялоўкасці і нейкай дзіўнай сарамлівасці скоўвае мяне. У натоўпе я заўважаю бліскучыя пагоны і здагадваюся, што прыехаў Загурскі. Мне чамусьці сорамна на людзях сустракацца з ім, хоць за ўсё сваё жыццё я ні разу не бачыў яго.

Дзецца, аднак, няма куды. Я саскокваю з мараў, пачынаю распрагаць каня. Стараюся не глядзець туды, дзе стаіць Загурскі. За маёй спіной чуваць Данілаў голас:

— Гэта вось мая, меншая. У вайну нарадзілася, у самую разруху.

— А гэта ж чый хлопец? — пытаецца Загурскі.

Я здагадваюся, што гаворка ідзе пра мяне. Чакаю адказу, уцягнуўшы галаву ў плечы. А Даніла, як знарок, не спяшаецца.

— Ды гэта ж Дар'ін сын,— нарэшце адказвае ён.

— Ну!.. Які вялікі хлопец!..— у голасе Загурскага і здзіўленне і нейкая горыч.

Я чую яго крокі. Чую, як кладзецца ягоная рука на маё плячо.

— Як жа маці жыве? — пытаецца Загурскі.

Мне вельмі цяжка паглядзець яму ў вочы. Не разумею чаму? А вось сорамна, ды і ўсё.

— Нічога, жыве...

Ён пакідае мяне, і я спяшаюся ўцячы. Вупраж, калёсы кідаю на вуліцы, а сам вяду каня на выпас. Нейкія трывожныя думкі не пакідаюць мяне.

Платон Загурскі наш, тутэйшы чалавек. Кажуць, што да вайны ён быў закаханы ў маю маці. Платон працаваў сакратаром у сельсавеце і, калі фронт пачаў прыбліжацца, прыехаў на сельсавецкім кані па маці. Клікаў яе ў адступленне, прасіў выходзіць за яго замуж. Але маці не паехала. Яна так і сказала Платону: «Астанешся, пайду замуж». Пасля вайны Загурскі нешта на другі месяц па дарозе заехаў у Русакі, але маці там ужо не было.

Пра ўсё гэта я даведаўся ад Сцяпана Макухі. Неяк п'яны ён сустрэў мяне на вуліцы і, не ведаю чаму, расказаў пра ўсё:

— Гэта ж, слухай сюды, маёрыхай была б цяпер.

Я тады пакрыўдзіўся за свайго бацьку, які вярнуўся з вайны з асколкам у лёгкіх, а ўсё ж пабудаваў нам хату і загінуў, зваліўшыся з рыштавання. Але Загурскі быў далёка, і ўся колішняя гісторыя зусім не турбавала мяне. А сёння я ўпершыню адчуў, што быццам у чымсьці вінаваты. Быццам я лішні на свеце і замінаю камусьці жыць. Было няёмка і больш крыўдна таму, што я мала ведаў, а мне здавалася, што ўсе ведаюць штосьці большае.

3

Нешта дні праз два Загурскі паявіўся ля нашай хаты. Быў ён у цывільным, і я не адразу пазнаў яго. Убачыў толькі, як маці ўспыхнула чырванню і выпусціла з рук пілу. (Мы якраз пілавалі дровы.)

Загурскі падпёр пахілы пляцень, не спяшаючыся зайшоў на двор, павітаўся. Я заўважыў, што і ён хвалюецца. Ён то хаваў рукі за спіной, то спрабаваў засунуць іх у кішэні. Нейкі час маці і Загурскі стараліся не сустракацца позіркамі. Затое я з нецярплівай цікаўнасцю сачыў за імі. Маці адводзіла вочы, быццам баялася Загурскага. Потым яна замітусілася, завойкала, абтрэсла падол ад пілавіння і, не ведаючы, як быць, склала рукі на грудзях. Загурскі па-мужчынску трымаў раўнавагу, хоць гаварыў ён залішне гучна і нешта зусім не абавязковае, а сам стаяў, як укапаны, на адным месцы. Я не стрываў. Выцягнуў з недапілаванага палена пілу, пайшоў у сенцы.

У хаце было душна. Пахла аерам, прысакам і смажаным салам. Кот кінуўся мне пад ногі, паспрабаваў лашчыцца, але я адкінуў яго нагой. Штосьці прыгнятала мяне. Асцярожна зірнуў праз акно. Маці ўсміхалася, а Загурскі стаяў сур'ёзны і быццам троху злосны. Потым ён скупа ўсміхнуўся, а маці пазмрачнела, зірнула на вокны. Я паспешліва адскочыў.

Трэба было некуды дзяваць сябе. Я падумаў, што найлепш пайсці ў вёску, хоць бы да Данілы. Хуценька пераапрануўся і, думаючы над тым, як бы прашмыгнуць незаўважана, выглянуў на двор. Загурскага не было. Маці падбірала круглякі, складвала іх пад страху.

— Куды ты? Во ўжо гора!.. Дома яму не сядзіцца...— яна выпрастала спіну, дакорліва паківала галавой.— Такі вялікі, а з людзьмі па-людску абысціся не можаш. Хоць бы павітаўся як след.

— Чаго ён прыходзіў?

— Ішоў па дарозе — зайшоў. Чалавек шмат свету пабачыў. Дзе толькі не быў... Мабыць, навёз усяго загранічнага... Ды і пенсію вунь якую палучае... Паашалеюць цяпер дзеўкі. За такога любая пойдзе, дарма, што ўдавец.— Маці гаварыла, як звычайна, але мне здавалася, быццам яна злуецца на кагосьці: — Доўга ж не баўся. Заўтра ранічкай у лес пойдзеш. Я палянку нагледзела — травы на ёй па калена. Скосіш рана, дык да вечара і высахне...

Сонца ўжо кацілася за лес. Доўгі чорны цень сунуўся ў мяне наперадзе, пералазіў цераз узгоркі і канавы, карабаціўся, як скурат на агні. Потым прапаў, расплыўся ў шэранькім змроку.

Недзе на тым баку вёскі дзяўчаты спявалі:

Над бярозай светлы месяц,  
Пад бярозаю туман.  
Ой, не веру гарманісту:  
Яго музыка — абман.

Па галасах чую, што тон задаюць Какосцікавы. І адразу прападае ахвота ісці на дзявочыя галасы. Але і дома сядзець няма як. Вучыць нямецкую мову агоркла, ды і вельмі цяжка аднаму, калі шмат чаго не ведаеш. Перабіраючы нагой за нагу, усё ж іду далей.

Дзяўчат сустракаю за ручаём. Яны пабраліся за рукі, занялі ўсю дарогу. Па баках, нібы вартавыя,— два хлопцы. Аднаго я пазнаю адразу. Восіпаў Хведар, саламяны ўхажор, бо летась ён пайшоў быў у прымы ў Каралішчавічы, але нешта вельмі хутка прыбег адтуль. Другі хаваецца за дзяўчат, прыгінае галаву, потым выскоквае, крычыць:

— Дзеўкі, трымай яго!..— і штурхае мяне ў гурт.

Дзяўчаты прытворна пішчаць. Стась рагоча. Толькі Данілава Шура працягвае руку, пытаецца:

— Атрымаў выклік?

— Атрымаў...

— Не шкадуеш?

— Не. Хутчэй бы паехаць...

— Сумнавата будзе. Каб бліжэй да дому...

— Янка, дурны ты,— ляпае мяне па плячы Стась.— Мой інстытут во! Горад! Трэба было і табе падаваць. Конкурсу не будзе. Я ўсё разнюхаў.

— Ідзі ты... Што я — флюгер які?

— Флюгер... Праваліўшся, дык пашкадуеш.

Вера бярэ Стася пад руку, прыладжваецца патрапляць у крок.

— Хопіць вам пра навуку. І так жызня кароткая. Давайце спяём лепей — і, не чакаючы, зацягвае сваім пранозлівым голасам: «Цыганка гадала, цыганка гадала...»

Я адстаю. Перада мной Шурына постаць. Кароткая каса пагойдваецца ў такт крокам. Шура таксама спявае. Але голасу яе не чуваць, бо астатнія стараюцца перакрычаць адзін аднаго. Мне чамусьці вельмі хочацца, каб Шура азірнулася, убачыла мяне самотнага і пашкадавала. Але яна нібы забылася пра мяне.

Яшчэ нядаўна Шура нічога не значыла ў маім жыцці. А цяпер я хачу, каб яна хоць адзін раз глянула на мяне. Проста таму, што сумна.

Я іду за дзяўчатамі, як прывязаны. Угаворваю сябе адстаць, пайсці дамоў і не магу. Не маю сіл, дый годзе.

— Пайшлі, дзяўчаты, на возера,— кажа Шура і, павярнуўшыся да мяне, пытае: — А ты, Янка, пойдзеш?

— Не ведаю нават, часу няма...

— Хадзем, а то не будзе каму веславаць.

Іншы раз я, напэўна, абразіўся б, а сёння іду. Веславаць, дык веславаць!

Мы падкасваем штаніны, лезем у чараты, дзе да дубовай цяжкой калоды прымацаваны лодкі. Хведар цвіком адмыкае ржавыя замкі, і мы падганяем лодкі да берагу.

— Хто са мной? Скачы! — камандуе Хведар.

Першыя залазяць Анютка Какосцікава і Марына Макуха. Хведар штурхае лодку, і яна, захістаўшыся, лёгка разразае ваду.

У другую лодку садзяцца Верка і Алена. А Шура застаецца на беразе. Мне радасна, што яна не села ў тыя лодкі, бо тады мне давялося б катаць тоўстую Халімонаву Алену ці Марыну.

Шура знімае чаравікі, ідзе па вадзе да лодкі, садзіцца на нос. Я адштурхоўваюся вяслом, пачынаю грэбці. За спіной у мяне сядзіць Шура. Чаму яна села там?

Над альховымі зараснікамі загараецца неба. Там устае месяц — поўня. І адразу пачынае серабрыцца вада. Светлы, бліскучы след бяжыць за кармой аж да самага берагу.

Наўкол цішыня, урачыстая, велічная, як і ўсё ў гэтую ноч. Адно рыпяць вёслы, ды чуваць галасы з тых лодак. Мы маўчым. Нейк ня-

зручна гаварыць, калі не бачыш субяседніка. Ды і ці ўшчаў бы я гаворку, калі Шура сядзела б на карме, да мяне тварам. Наўрад. Я спрабую ўявіць, што я сказаў бы, і не магу знайсці словы, адпаведныя майму настрою і гэтай урачыстай цішыні.

На тых дзвюх лодках узнімаецца крык, смех, піск. Па вадзе здаецца, што крычаць і рагочуць недзе побач, але лодак нідзе не відаць. Яны схаваліся па той бок вострава.

— Ашалеў! Дурань! Ай-яй-яй! — чуваць, як захліпваецца, крычучы, Марына.

Плюх!

— Федзька? Цьфу табе, паскуда. Ай, Федзечка, родненькі, баюся...

Плюх.

Хведар рагоча.

— Стась, выкульвай сваіх,— чуваць яго голас.— Няхай памокнуць, каб ласыя не былі...

На Стасевай лодцы валтузня, гоман.

Плюх!

— Га-га-га, здарова!..— рагоча Стась.— Усё роўна і вы пакупаецеся.

Дзяўчаты зноў крычаць. Відаць, Стась ухапіўся за край лодкі, хоча перавярнуць яе. Я налягаю на вёслы, пад'язджаю да вострава з усходняга боку.

— Не трэба туды,— просіцца Шура.

Але я ўпарта вяслую. Сам не разумею, чаму мне хочацца абавязкова ўбачыць, як борсаюцца ў вадзе дзяўчаты. Мабыць, такое ж пачуццё прымушае людзей бегчы на пажар...

Дзяўчаты, усе чацвёра, ужо стаяць на беразе астраўка і незласліва лаюць хлопцаў.

Хведарава лодка, высока задраўшы нос, застыла на вадзе непадалёку ад вострава. Сам Хведар сядзіць на карме, курыць і глядзіць на дзяўчат, якія выкручваюць падалы. Другая лодка плавае дагары кілем, і Стась падпіхае яе к берагу адной рукой, другой грабе.

Я крута разварочваю лодку, вяслую назад. Хочацца цішыні. Лодка шыбуе быстра, нячутна плыве, пакідаючы за сабой пасярэбраную месяцам дарожку. Шура маўчыць. Цікава, пра што яна думае? Ніколі не спадзяваўся, што яна такая летуценніца. Можа і яна ні пра што не думае? Проста хораша на вадзе. Пад зорным небам. Адной у далечыні ад гоману.

— Янка, давай заўтра днём пакатаемся. Днём тут добра. Асабліва на востраве. Я, знаеш, плаваць не ўмею. Калі б мяне выкінулі вось так, утапілася б.

— Добра,— згаджаюся я.— Калі работы не будзе.

Шура змаўкае, а я лаю сябе: «Цяльпук праклятыі Хіба так можна было казаць. Пакрыўдзіў. Цяпер яна не прыйдзе».

— А па нямецкай мове ты мне паможаш?..

— Не ведаю нават ці змагу... Вяслуй, Янка, к берагу. Дамоў ужо трэба.

З-за вострава выплываюць тыя дзве лодкі. Яны ідуць наперагонкі. Сваркі там ужо не чуваць. Толькі смех.

## 4

Накрыж зведзеныя рукі — таямнічы знак. Шура тры разы скрыжавала рукі. Значыць, бацька яшчэ дома, і Шура не хоча, каб я заходзіў у хату.

Шурын бацька Даніла Амельнічэнкаў, ці, як яго завуць у вёсцы, Налягач, чалавек шчыры, просты, але троху засуровы. Так, прынамсі, здаецца мне. Калі я сустракаюся з ім, то адчуваю сябе ніякавата. Мабыць таму, што Даніла заўсёды бывае пры рабоце. І мне здаецца, што шэрыя Данілавы вочы асуджаюць мяне.

Даніла ўночы пасе коней. Днём ён бывае на калгаснай пасецы, якую сам развёў. Але і там ён знаходзіць пабочны занятак: круціць з лёну гужы і лейцы. А калі бывае дома, дык ладзіць хамуты, сядзёлкі, аброці. Каб не Даніла, дык у нашай вёсцы даўно не было б чым запрэгчы каня.

Мабыць Даніла цяпер у хаце, таму Шура не хоча, каб я заходзіў. Я ведаю, што Даніла не будзе бурчаць, выгаворваць нам за бяздзелле. Ён паглядзіць з-пад ілба і гнеўна крактане. Але ад гэтага толькі яшчэ больш адчуваеш няёмкасць і сорам.

Я мінаю Данілаў двор, зварочваю ў раўчук, адтуль іду ў бярозавы гаёк за вёскай. У гайку стаіць нямоўчны гармідар галак. Яны абляпілі сукі і крычаць на ўсю сілу, аж рэжа ў вушшу: на мяне яны не звяртаюць асаблівай увагі. Я выбіраю найлепшую мясціну, кладуся на мяккую траву.

Пад бярозамі ляжыць на траве блакітны цень. Глядзіш, і здаецца — разаслаў нехта абрус. Сядай да яго, калі ласка. Гукні толькі, і паявіцца на абрусе ўсё, што пажадае душа. А яна жадае шмат чаго.

Добра было б заляцець куды-небудзь вельмі далёка на бязлюдны востраў. Не аднаму, а з Шурай. Мы селі б на пясчаным беразе і пазіралі, як коціць зялёныя хвалі акіян.

Не, лепей бы паляцець на Марс ці на Венеру. Касманаўт Сітоў. А што, гучыць! «Дазвольце сесці на Марс». «Дазваляем!» І карабель імкліва ляціць насустрач невядомаму свету. Лёгка дакранаецца да Марса. Я адкрываю люк, азіраюся. Марсіянскае неба шэрае, а на ім побач з зоркамі плыве сонца, намнога меншае, але сляпучае, яркае.

«Слухайце, слухайце, гаворыць касманаўт Сітоў з Марса». Гучыць!

Добра было б пайсці ў тайгу. Наперадзе я, за мной Шура, Стась. А каго яшчэ ўзяць? Галю Янчык хіба? Пайсці на ўсё лета. Туды, дзе ўпаў тунгускі метэарыт. Кажуць, што гэта быў карабель з нейкага іншага свету. Напэўна ж, ёсць недзе яшчэ людзі. Што яны робяць зараз? Можа вось такі самы хлопец, як я, сядзіць пад дрэвам і таксама чакае дзяўчыну...

— А вось і я. Зачакаўся?..

Шура ўсміхаецца. Я заўважаю, што ўсмешка ў яе нейкая асаблівая, вельмі прыветлівая, ласкавая і шчырая. У Шуры пад пахай пасцілка, а ў ёй загорнута кніга. Шура любіць чытаць, я гэта ведаю. Можа таму мне цікава гаварыць з ёю, хоць пры сустрэчах мы больш маўчым.

— Загурскі сёння сына прывёз. У нас жыць будуць, пакуль хату паставіць.

Маці казала, што Загурскі паехаў па сына, але што ён вярнуўся так хутка, я не ведаў. Мне хочацца запытаць, як выглядае Платонаў сын, але зноў чамусьці робіцца няёмка. І я спрабую ўявіць гэтага сына. Мроіцца нешта спешчанае, круглатварае, малое, але ўжо нахабнае.

— Ён, ведаеш, ва ўніверсітэце вучыцца. Так што будзеце сустракацца. Толькі ён на фізічным аддзяленні.

Гэта мяне крыху здзіўляе. Сцяпан Макуха гаварыў, што Загурскі прыязджаў у Русакі халасцяком. Шура тлумачыць:

— А сын яму не родны. Загурскі ажаніўся на жонцы свайго камандзіра, калі той загінуў у Берліне.

Я не падтрымліваю размовы, хоць Шуры, як відаць, хочацца яшчэ нешта расказаць пра Загурскіх. Настае надакучлівае, няёмкае маўчанне. Яно цягнецца аж пакуль я не адмыкаю лодку.

— Чыя гэта лодка?
— Спірыдонава, здаецца.
— Лепей бы ты яшчэ чыю-небудзь адамкнуў. Клопатаў не абярэшся, калі Спірыдон дазнаецца, што яго лодку бралі.
— Сядай вось, усё роўна ўжо.
На гэты раз Шура садзіцца на карму, тварам да мяне. Сонца сляпіць Шурыны вочы. Яна заплюшчвае іх, моршчыць маленькі носік, потым прыкрывае вочы далонню-брыльком.
Пад задраным носам лодкі хлюпае, лапоча вада. Звонкі капеж падае з вёслаў. Рыпяць уключыны. Хвалісты бурунчык бяжыць з-пад кармы. Шура апускае руку ў возера, зачэрпвае вады і пырскае. Над яе галавой паяўляецца яркая вясёлка і знікае.
— Павярні ўправа,— просіць Шура. Мабыць я, заглядзеўшыся на яе, мінаю востраў.— Цяпер самы раз...
Міма нас праплываюць кучаравыя бярозы і разгалістыя, рагозлівы алешнік. Мы едзем па ім, перавернутым у вадзе. Глыбей неба. Сіняе. А на ім белыя воблачкі. Здаецца, што я не вяслую, а махаю крыламі, лячу ў небе, над густым таямнічым лесам.
Лодка нячутна прыстае да берагу. Пакуль я прывязваю яе да алешыны, Шура рассцілае пасцілку, кладзецца на яе і пачынае чытаць «Каралеву Марго». Я кладуся побач на траве, разгортваю падручнік нямецкай мовы.
Перфект.
Плюсквамперфект.
Парціцып цвай.
На ліха мне ўсе гэтыя перфекты і плюсквамперфекты? Няўжо толькі дзеля таго, каб паступіць ва ўніверсітэт? Дык хіба я збіраюся стаць дыпламатам? Хіба давядзецца калі падарожнічаць? Дзе я прымяняю гэтыя перфекты? Колькі таго народу на свеце, што гавораць па-нямецку? А ў Германію я ехаць не збіраюся. У Францыю таксама. Што я там не бачыў? Калі ўжо ехаць, дык у Афрыку, у Новую Гвінею, у джунглі, да дзікуноў. Туды, дзе не ступала нага чалавека. А хіба там спатрэбіцца нямецкая, французская або англійская мовы? Ведаць бы ўсе мовы, што ёсць на свеце. Надзеў бы на галаву гэткі шлем, што на хаду перакладае табе і падказвае, як гаварыць на самай невядомай мове. Тады паехаў бы на Амазонку, у горы, дзе жыве племя, у якім не быў яшчэ ніводзін белы чалавек...
Я адсоўваю падручнік. Гляджу ў хмызнякі. У іх прытаіўся невядомы звер з зялёнымі вачамі. Ён зараз выскача на паляну. Мы пакоцімся па зямлі ў мёртвай хватцы. Я задушу звера, і Шура перавяжа мае раны. Потым яна напоіць мяне вадой, сядзе побач, час ад часу будзе прыкладаць руку да ілба.
У Шуры на вачах слёзы. Не плач, Шура! Я буду жыць. Мы будзем доўга жыць. А калі памру, дык не забывай мяне. Не забудзеш, Шура?
Шурыны вочы ўтаропіліся ў кнігу. Слязінка застыла на шчацэ. Эх, Шура, Шура! Я паміраю, абараняючы цябе, а ты плачаш над пакутамі кніжных герояў...
Хрыпла заклекатаўшы, на бярозу апускаецца зязюля. Яна пачынае ляніва адлічваць камусьці гады. «Ку-ку, ку-ку!» Голас у зязюлі старэчы, маркотны. Гэта толькі здаля ён здаецца вясёлы. «Ку-ку, ку-ку!» Шура адрываецца ад пажоўклых старонак, сарамліва сцірае са шчакі адзіную слязу.
— Кукушка, кукушка, шэрая птушка, скажы мне, колькі гадоў на свеце жыць?



Зязюля палохаецца чалавечага голасу, абрывае кукаванне: «Ку!» і ляціць над возерам у лес.
Шэрая, непрыкметная птушка.
— Янка, а колькі гадоў ты жадаў бы жыць на свеце?
— Не ведаю. Не думаў яшчэ. Па-мойму, чалавеку заўсёды хочацца жыць.
— Гэта праўда. Калі наша бабка захварэла сёлета, дык усё богу малілася і прасіла хоць бы яшчэ адзін гадок пажыць. А чаму, Янка, чалавеку жыць хочацца?
— А які сэнс паміраць? Закапаюць цябе, і ўсё... А людзі і пасля цябе будуць жыць, весяліцца.
— Не, мабыць, не толькі таму...
Мы абое задумваемся над сэнсам жыцця. Навокал яшчэ шмат такога, што трывожыць і нават прымушае пакутаваць. У нашым калгасе няма парадкаў. Сцяпан Макуха і брыгадзір Цопа на кожным кроку хлусяць. Какосцікавы спяваюць брыдкія песні. Маці сварыцца, бо я не ўмею цягнуць у хату. У нас вельмі сумна. Няма дзе адвесці душу. Але ж жыць мне ўсё роўна падабаецца. Хораша, што на свеце ёсць Шура, і прыгожае возера. Хораша, што можна паехаць у Мінск, пабачыць там славутых пісьменнікаў. Хораша, што свеціць сонца, а на свеце многа разумных кніг. Хораша, што жыць не так ужо і кепска, як часам здаецца. Хораша, што ёсць вера ў лепшае. Ну, не будуць жа Макуха і Цопа век хадзіць у начальстве? Некалі іх заменяць. Прыйдуць на іх месца іншыя, лепшыя, сумленныя і шчырыя...
— Янка, чаму ты не купаешся?
Пра што гэта яна? Ага, купацца. Гэта таксама добра.
— А ты будзеш?
— Я плаваць не ўмею. Троху, троху трымаюся.
— Дык я цябе павучу.
— Не, Янка, я сама. Ты, Янка, ідзі вунь туды, распранайся. І блізка дужа не падплывай. А то мне сорамна будзе.
Вада ў возеры чыстая, празрыстая. Нырнеш, расплюшчыш вочы, і перад табой адкрываюцца таямніцы падводнага жыцця. Вада здаецца зеленаватая. А ў ёй, як прывіды, плаваюць водарасці, мільгаюць маляўкі, варушацца на дне ракавінкі, шныпараць жукі. Шмат куды яшчэ чалавеку закрыты доступ. Многае ён не бачыць. Дзіўна, былое ён ведае лепш. Хоць яно таксама відаць праз далёкія пласты гадоў, як дно возера праз тоўшчу вады. Чалавеку трэба ведаць усе таямніцы, тады ён адарвецца ад таго, што само трапляе на вочы. А што можа трапіць на вочы ў нашым Зарэччы? Перш за ўсё п'яны Макуха. А можа і ў нас шмат таямнічага? Хоць бы прыезд Загурскага...
Шкада, што пад вадой доўга не прабудзеш. Я выплываю на паверхню. Шура стаіць у вадзе па пояс і ніяк не адважыцца акунуцца.
— Плы-ыві-і-і...
— За-а-раз!
Яна плыве па-сабачаму: грабе пад сабой ваду і з ўсяе сілы малоціць па вадзе нагамі. Пырскі ляцяць на ўсе бакі, пакрываюць рабацінне люстраную роўнядзь возера.
— Не так, Шура, не так. Глядзі, як трэба!
Я паказваю, як трэба плаваць на сажонкі. Шура стаіць ужо на глыбіні. Над вадой відаць толькі шыя і галава. Каб Шура не саромелася, я навучыў бы яе плаваць вельмі хутка. Але яна не хоча, каб я блізка падплываў да яе. І я трымаюся воддаль.
— Не выходзіць у мяне.

— Выйдзе. Ты толькі нагамі не боўтай. І дыхай роўна. Глядзі, як трэба... Ну, плыві!..

Шура плыве на сажонкі і даволі быстра. Потым хоча павярнуць назад і знікае пад вадой. Што з ёй? Галава паяўляецца з-пад вады.

— А-а-а! — раздзірае цішыню немы крык.

Шура зноў знікае. Я стараюся плысці як мага хутчэй, але чамусьці не магу. Здаецца, што я спыніўся на месцы. Шура то паяўляецца, то знікае. І ўжо не крычыць.

Хутчэй! Хутчэй!

Ныраю, але Шуры не відаць. Зноў ныраю. Рука намацвае голае цела, саслізгвае. Адкрываю вочы. Рука сутаргава хапаецца за валасы. Абое паяўляемся над вадой. Шура крычыць, што ёсць моцы, з рота фантанам б'е вада, як у рыбак-стральцоў. Шура стараецца ўчапіцца за мяне рукамі і зноў тоне. Я цягну яе з усёй сілы, грабу адной рукой.

— Не хапай рукамі,— крычу я ёй.

Але Шура не слухае. Яна хоча ўчапіцца мне за шыю. Не дастае і хапаецца за плечы. Яе рука не можа ўтрымацца на плячы, і гэта выратоўвае нас. Я крыху праплываю яшчэ. Шура ўрэшце абхоплівае мяне за шыю. Я яшчэ спрабую хоць раз загрэбці рукой ваду і тану разам з Шурай. Ногі намацваюць дно. Я стаю на ім і падымаю падбародак уверх, каб не захлынуцца. Вада сціскае грудзі. Шурын перакошаны твар побач з маім. Яе ногі не дастаюць зямлі. Шура вісіць у мяне на шыі.

Я раблю крок, другі. Дно крута ідзе ўгору. Так я і выношу Шуру на востраў. Яна ніяк не хоча адпускаць рук. А я ўжо смяюся:

— Ледзь мы з табой рыб не накармілі...

Шура падае на пасцілку і плача, у яе ўздрыгваюць плечы.

— Чаго ты галосіш? Скажы дзякуй, што я далёка не адплываў.

Шура працягвае плакаць, а рукой ужо шукае плацце. Я таксама іду апранацца. Калі вяртаюся, дык бачу, што Шура ляжыць на спіне, прыкрывае вочы далонямі. Ляжыць прыціхлая. Няўжо ўсё яшчэ плача? Ну і плакса. Усе дзяўчаты такія. Чаго раўці, калі ўсё абышлося добра.

Я станаўлюся на калені, бяру Шурыны рукі ў свае. Шура мацней прыціскае далоні да твару. Ах ты! Адрываю далоні ад твару. Шура ўсміхаецца...

— Спалохаўся? — пытаецца яна.

— Я? Чаго?..

— У цябе быў вось такі выцягнуты твар.

Калі яна паспела гэта заўважыць?

— На сябе паглядзела б лепей,— злуючыся, кажу я.

— Я дужа напалохалася. Думала ўсё ўжо... Шкадаваў бы, каб утапілася?

— Я? Ніколечкі.

— А я шкадавала б...

Мне няёмка за сябе. Чаго было саромецца сказаць праўду? Канечне, перажываў бы.

З берагу далятае крык.

— Эгэ-гэ-гэ! Э-э! Вы там, на востраве, ганіце лодку, нягоднікі!

— Спірыдон?! — палохаецца Шура.

— Здаецца, ён.

— Давай схаваем лодку. А то лаяцца будзе.

Мы зацягваем лодку ў кусты, маскіруем яе голлем, а самі хаваемся. Спірыдон доўга галёкае на беразе. Потым мы чуем плёскат вёслаў.

Хлюп-хлюп, хлюп-хлюп...— лапоча пад лодкай вада.

Скрып-скрып, скрып-скрып...— рыпяць вёслы.

Спірыдон едзе паўз востраў і бурчыць:



— Ото-ж, нягоднікі. Ну і адхлабышчу, як злаўлю...

Шура кісне ад смеху.

— Цішэй ты, а то пачуе,— шапчу я.

Шура заціскае рот рукой, потым прыпадае да маіх каленяў і калоціцца ад стрыманага смеху.

Хлюп-хлюп-хлюп... Скрып-скрып-скры...

Лодка аддаляецца. Чуваць, як Спірыдон, гаворыць сам з сабою:

— Куды яны яе падзелі? От жа, вісусы, байструкі няшчасныя!..

Усё заціхае. А мы сядзім, прытуліўшыся адно да аднаго. Нам вельмі хораша. Мне, ва ўсякім разе. Рука мімаволі кладзецца на Шурыны плечы. Шура выпростваецца, неяк спалохана глядзіць на мяне, потым ускоквае.

— Пайшлі на сонца.

— Пайшлі,— як рэха, адгукаюся я.

На траве ляжыць забыты мной падручнік. Плюсквамперфект выгарае на сонцы. Няхай выгарае.

## 5

Мы выязджаем на золаку. Вёска яшчэ спіць. Нідзе ні душы. Нават сабакі і тыя спяць. А мы едзем.

Над імшарай вісіць туман. Глухі алешнік у ім здаецца яшчэ больш рагозлівы. Ён нагадвае здані ў белай вопратцы. Зябка. Росна. І вельмі хочацца спаць.

Небакрай яшчэ не пачаў нават ружавець. Неба шараватае, з рэдкімі зоркамі. У такі час самы салодкі сон. Але маці разбудзіла мяне. Я хуценька запрог у калёсы прыведзенага з вечара каня. Маці вынесла з сянец сякеру, пілу і вяроўку і не выпускае іх з рук. Размяшчаемся на возе, я кратаю лейцы.

Колы мякка коцяцца па маланаезджанай, зарослай травой дарозе, што вядзе ў Данькаўскі лес. Мы едзем па бярозу. Яна патрэбна маці на растопку. Дроў нарыхтавалі, а вось растопкі няма. Як я ні ўпарціўся, а еду. Калі маці пачынае скардзіцца, плакаць і клясці сваю долю, я гатоў зрабіць усё. Толькі б не чуць яе літанняў.

Я разумею: красці нядобра, брыдка, хоць і не так ужо страшна і сорамна. Сорамна бывае пасля, калі зловяць. Але маці ўпэўнена, што нас не зловяць. Так рана добрыя людзі спяць. Зрэшты, маці лічыць, што яна не крадзе. Лес казённы. Нічый. Адна справа ўкрасці ў суседа. Вось гэта сорам. Іншая — у казны. Ні ў кога. Але ўсё ж у лес яна едзе не днём, а досвіткам. Гэта яна баіцца штрафу, суда.

Мы маглі б выпісаць на растопку печы якую-небудзь сухастоіну. Аднак жа за яе трэба плаціць грошы. Каму? Казне? Маці сумленна і ў час аддасць пазыку суседу, пераплоціць грошы, купляючы ў Хведарыхі расаду, але каб яна заплаціла казне!..

І вось мы едзем. Кашлаты канёк весела трухае. Хоча, відаць, сагрэцца. Канька нам даў Сцяпан Макуха. Учора разам з Цопай яны выпілі паўлітра гарэлкі, якую маці купіла ў Хведарыхі. За гарэлку яна плаціла грошы. І гэта яшчэ не канец. Давядзецца частаваць Макуху і Цопу яшчэ раз. Так што тая бярэзіна ўляціць у капеечку. Але ж затое не трэба хадзіць у лясніцтва, пісаць заявы, падпісваць іх. Валакіты і сапраўды шмат.

Неяк маці расказвала мне, як яе бацьку стары Цопа падарыў ягнё для разводу. А магарыч пілі два дні, і ўсё ж Цопа пры кожным выпадку напамінаў пра свой падарунак. «Ото ж цемната была»,— звычайна кажа маці, успамінаючы пра тое.

Цяпер малады Цопа дае нам калгаснага каня, каб мы паехалі па бярозу. І таксама п'е магарыч, а пасля будзе казаць, што ён добры. Маці гэта не лічыць «цемнатой». Нібы так трэба.

Думкі бягуць адна за адной, нейкія вялыя, сонныя. Але ад іх няма ратунку. Хутчэй бы ўжо здаць экзамены, паступіць ва ўніверсітэт. Вучыўся б я добра. Пісаў бы вершы.

— Падганяй ты яго,ваўкарэзіну. Гэта ж мы да снядання не ўправімся.

Я падганяю каня лейцамі. Ён неахвоча пераходзіць на рысь. Колы грукаюць мацней, рыпяць драбіны. З дарогі мы зварочваем на прасеку. У канцы яе ёсць паляна са стромкімі, стройнымі бярозамі. Самае грыбное месца ў Данькаўскім лесе.

Лес стаіць насцярожаны, маўклівы, быццам здагадваецца пра нашы намеры. Ад гэтай маўклівасці робіцца не па сабе.

Сонная варона ляніва пазірае з вершаліны ёлкі, неахвоча каркае, як бы скардзіцца, што мы патрывожылі яе сон. А вось і паляна.

Бярозы стаяць у ранішняй смузе, як нявесты ў вэлюме. Доўгае голле спадае ўніз, ледзь не да зямлі. Якая прыгажосць!

Маці злазіць з калёс, ідзе па бярозавым гаі да рэчкі. Спыняецца пад гонкай бярозай.

— Прывязвай каня,— кажа маці.— Вось гэту звалім.

— Можа вунь тую? — паказваю я на каржакаватую бярозу, што прыгнулася да зямлі пад цяжарам голля.

— А голле куды дзенеш? Не столькі дроў, колькі сукоў. Голле схаваць трэба,— маці па-мужчынску расстаўляе ногі, плюе на далоні і з усяго размаху падсякае бярозу пад корань.

Бяроза ўздрыгвае. Зверху макам сыплецца раса. Дробная, як пыл. Гак, гак, гак...

— Давай пілу,— маці падсцілае світку, каб пілавінне не рассыпалася па траве.

Бяроза не старая і не маладая. У самай красе. Кара, як той аксаміт, белая, гладкая і прыемна халодная. А сама бяроза мяккая. Піла не звініць, а неяк шыпіць, выдзіраючы са ствала белае, буйное пілавінне. На сінявабым палатне пілы то паяўляецца, то сціраецца аб край надрэзу мокрая, слязлівая палоска.

Мы пілуем моўчкі. Проста цяжка гаварыць. Хутчэй бы ўжо кончыць гэтую працу!

Бяроза ўздрыгвае, без стогну і хрыпення падае долу. Вось і ўсё. Была бяроза і няма яе. Застаецца пустое месца. Шчарбіна ў лесе...

Вяртаемся дамоў моўчкі. Бярозавыя круглякі хаваем у хляве, пад леташнюю салому. Маці распрагае каня, а мне неяк вельмі ласкава гаворыць:

— Ідзі, сынку, паспі. Самы сон цяпер.

Я зарываюся галавой у падушку, заплюшчваю вочы і бачу, як ціха і самотна валіцца на зямлю бяроза. Падае і ніяк не ўпадзе...

Прачынаюся ад яраснага гоману і адразу чую плаксівы матчын голас:

— На ўдаву ўсё можна ўзваліць.

— Знайшоў! — далятае, як з-пад зямлі, мужчынскі голас.

Зноў крык, лаянка, літанні. Я стараюся схавацца ад усяго пад коўдрай. Але гоман насцігае ўсюды. У хату заходзяць людзі.

— Ну што, Сітова, мне з табой рабіць? Ну хай бы ты крывульку якую спіліла, а то... ах, ты...

— Думаеш, у самой сэрца не балела. Гора прымушае.

— Якое там гора. Дурасць... Во ўлепяць штрафу, тады пачухаешся,— гаворыць ляснічы.



— За такое судзіць трэба,— кажа аб'ездчык.— Я, Васіль Лявонавіч, ужо з ног збіўся. Цягнуць...

— Зразумей ты, Сітова, што з гэтай бярэзіны можна было колькі рэчаў прыгожых нарабіць. А ты яе на дровы. Пішы, Мікола, пратакол.

Я націху злажу з ложка, прыпадаю тварам да дзіркі ў полагу.

Аб'ездчык садзіцца к сталу. Выцягвае з сумкі сшытак, слюніць аловак, пачынае пісаць.

— А можа, Васіль Лявонавіч, абыдзецца неяк. Сам жа знаеш, удава. Гора хлебанула нямала. І ўсё адна,— маці ўсхліпвае, шморгае носам.— Дзе я тыя грошы вазьму... Тады хоць у пятлю. Не жадаю я, Васілька, каб твая Марфа ўдавой засталася.

— Ты, Сітова, сырасць не разводзі. Я даўно за табой сачу. Удава, удава, а дроў на ўсю зіму назапасіла.— У Міколы Аўсейчыка няма спачування. Я чую гэта па ягоным голасе.— Нябось рубля на дровы не патраціла.

— Пабойся бога, Мікола, якія ж то дровы. Ламаччо адно. Ды і не з вашага лесу. Заплаціла трактарыстам трыццаць рублёў, а яны во гнілля прывезлі.

— Ідзі распішыся,— кажа Аўсейчык.

— Не пайду, не пайду,— крычыць маці і раптам падае на калені.— Лявонавіч, таварыш ляснічы, Васілёк, родненькі, не губі ты мяне бедную... Ну што табе палегчае, калі аштрафуеш. Лявонавіч!..

Роспачлівы крык заганяе мяне пад коўдру. На душы так брыдка, што, здаецца, лепей бы праваліцца скрозь зямлю.

— А ну яе,— збянтэжана кажа ляснічы.— Парві, Аўсейчык, пратакол... Глядзі, Дар'я. Толькі таму, што з Косцем тваім разам ваявалі. А то ўляпілі б штрафу. І не сячы больш самавольна. Трэба табе, прыйдзі — выпішу лесу.

— Ото ж, дзякую. Век тваю дабрату не забуду. Ды куды ж ты?.. Не-не, так я вас не выпушчу. І не думайце, бо пакрыўдзіце. Гэта ж, во, гады ў рады ў хаце бываеш. Каб Косця быў жывы, хіба не пасядзеў бы. А мяне, во, паслухаць не хочаш.

— Ну, што з табой зробіш...— весялее ляснічы.— Толькі ты не падумай, што за чарку мы пратакол парвалі.

— Што ты, Лявонавіч,— маці выбягае ў сенцы.

Аб'ездчык незадаволена бурчыць:

— Бачыш, Лявонавіч, як атрымліваецца. Я гэтую Дашку ні за што не выпусціў бы. Самая што ні ёсць урвіцелька.

— Ладна табе, Мікола. Баба... Што з яе возьмеш...

Маці весела бразгае патэльнямі і гаворыць бясконца. Быццам нічога не здарылася. Быццам не было страху, сораму, слёз.

— Сядайце, госцейкі дарагія. Сюды, Лявонавіч, тут зручней.

У сенцах чуецца тупат. Дзверы адчыняюцца, і я чую голас Сцяпана Макухі.

— Добрай раніцы ў хату.

Сцяпан, кажуць, за тры вярсты чуе, дзе гарэлкай пахне. І я не вельмі здзіўляюся. Бо не было яшчэ ў Зарэччы такога выпадку, каб Макуха прапусціў дзе-небудзь выпіўку.

А маці, па-мойму, злуецца. Трэба ж будзе яшчэ аднаго паўлітра ставіць. І сапраўды яна заходзіць у пакой, штурхае мяне пад бок.

— Уставай. Да Хведарыхі збегай. Гэтая прорва прывалаклася. Ото ж скажы, як носам чуе,— маці зноў ідзе да гасцей, і я чую ўжо зусім палагаднелы яе голас: — Куды ж ты, Сцяпанька, пасядзі з намі. Можа яшчэ і не снедаў.

— А яно, слухай сюды, і праўда нічога ў роце не было,— весела адгукаецца Сцяпан Макуха.

Я наперад ведаю, што будзе казаць памочнік брыгадзіра. Пахваліць маці за ўменне гаспадарыць, потым скажа, што трэба на сенажаць выйсці і, нарэшце, дазволіць не ісці. А маці ў вочы будзе хваліць памочніка брыгадзіра, а пасля зганьбіць апошнімі словамі.

Чаго яны прыкідваюцца? Я ніяк не магу ўцяміць. Каб я быў дарослы, дык рэзаў бы праўду ў вочы. І раптам мне прыходзіць на дзіва простая думка. А што, калі і я прыкідваюся: хіба нас не вучылі ў школе быць сумленнымі і праўдзівымі? «Тады ідзі і скажы ім, чаго варты Сцяпан Макуха. Ага, баішся, няёмка. Ну дык і не разважай...»

Я бяру грошы і іду да Хведарыхі. Тая паліць у печы і сварыцца на дзяўчат, якія нешта не так зрабілі. Убачыўшы мяне, Хведарыха пачынае ўсміхацца і ўжо не крычыць, а неяк залішне ласкава просіць дачок:

— Хрузачка, збегай па ваду, дачушка. А ты, Клаўдзюша, бульбу патаўчы. А пасля снедаць будзем: блінцоў вам напякла ў масле і кохвію зварыла.

Хведарыха хлусіць. Такой скупой жанчыны няма на сто вёрст у ваколіцы. Кажуць, што ў яе на кніжцы ляжыць дзесяць тысяч, а дачок яна корміць бульбай у мундзірах.

— Ляснік злавіў? — пытаецца яна ў мяне.

— Злавіў,— адгукваюся я.

— Каб іх нячысцік лавіў!.. Для таго і ловяць, каб гарэлку жлукціць. Хавай жа гарэлку ў кішэні, а то яшчэ да мяне заявяцца.

Маці сустракае мяне ў кухні, выхоплівае бутэлькі і бяжыць у залу. Па ўсім відаць, што маці таксама выпіла. Яна расчырванелася. Вочы блішчаць, як у маладой.

— Во і яшчэ саматужыцы,— кажа яна.— Дзякую табе, Лявонавіч, што не забыўся на дружбу з Косцем маім.

У матчыным голасе я лаўлю штосьці незнаёмае, шчырае, праўдзівае.

— Забыўся ты, Лявонавіч, на нас. А помніш, як, бывала, прыходзіў. Пасядзіш, бывала, пагаворыш, і аж святлей жыць робіцца.

— Ты, слухай сюды,— лезе ў размову Макуха,— прамахнулася сама і цяпер не наракай. Хоць, слухай сюды, і цяпер не позна. Удавец. Пенсія, слухай сюды, мінісцерская.

— Ото ж завёў,— маці заходзіцца ад смеху.

— Дык што ён і праўда назусім у калгас прыехаў? — пытаецца ляснік.

— Па-мойму, слухай сюды, тут нейкія хітрыкі. Ну, скажы мне, чаго чалавеку, які столькі пенсіі палучае, з гораду ехаць?

— Ты, Макуха, людзей на свой аршын мераеш, вось таму і дрэнна пра іх думаеш. А я Загурскага як свае пяць пальцаў ведаў. Чыстага сумлення чалавек. Думаю, такім і застаўся. І не дзеля выгады сюды прыехаў. А жыць вам памагаць. Вось ты, Макуха, бегаеш па хатах. А чаму? Бо да гарэлкі ласы. Як у калгасе справы ідуць, цябе зусім не цікавіць. Больш бы такіх Загурскіх сюды ехала, дык і ты, можа, чалавекам стаў бы. А то кантролю над табой няма.

Я ніколі не думаў, што пахмуры, нелюдзімы Аўсейчык можа так проста і ясна выказаць Сцяпану тыя думкі, што былі і ў мяне пра яго. Дзіўна, але чамусьці благое само лезе ў вочы. Яно ляжыць на паверхні. Затое добрае як бы схавана ў чалавеку. Трэба прыгледзецца, каб яго заўважыць. Я даўно ведаю Аўсейчыка і ніколі не думаў, што ён вось так адкрыта можа выказаць свае думкі Макуху. Мабыць, і ў нас у вёсцы шмат такіх людзей, справядлівых, сумленных. Толькі я вельмі мала іх ведаю.



Сцяпан Макуха ўстае з-за стала, дзякуе за частаванне.

— Сена стагаваць трэба. Метэазводка вунь прыйшла, а ў ёй пішуць, што цыклон ідзе. Можа, слухай сюды, пайшла б на поплаў?

— А мой ты Сцяпанька, грады зусім пазарасталі: і рада памагчы, ды не магу.

— Ладна, ужо абыдземся неяк.

— Пасядзеў бы яшчэ, Сцяпанька,— лісліва просіць маці.

Мне здаецца, усе ведаюць, што грады даўно выпаланы, што маці збіралася ісці ў лес, дзе я ўчора накасіў сена для нашай каровы? Я баюся, каб Аўсейчык не сказаў пра гэта маці. Тады ёй давядзецца зноў хлусіць. І я вырашаю выручыць яе.

— Можа, я больш зраблю за маці...

— А, слухай сюды, больш. Няма каму стагі рабіць.

— То я пайду...

— А экзаменты? — хмурыцца маці.— Гэта ж во ўжо дзесяць кончыў,— звяртаецца яна да лесніка.

— Перад смерцю не надыхаешся,— адказваю я і хутчэй выбягаю з хаты.

## 6

Поплаў, як бубен, голы. Сена ўчора ўвечары скаталі ў валкі. Сёння яго будуць сцягваць валакушамі ў адно месца, складаць у стагі. Ля валкоў пахаджвае Даніла Налягач, Шурын бацька.

Убачыўшы мяне, дзядзька Даніла шырока расстаўляе ногі, па-жаночаму ўпіраецца рукамі ў бакі.

— Пазней ты не мог прыйсці?

— Пазней не мог,— адгукваюся я.

— Гэта ж трэба такое. Заўтра-паслязаўтра дождж пойдзе, а ім хоць бы што...— абураецца дзядзька Даніла.— Макуху не бачыў?

— Бачыў.

— Во каго паганай мятлой з калгасу гнаць трэба. Дык не,— яго ў начальства паставілі. А чаму? Бо Макуха гультай, а гультая можна не саромецца. Вось так і коцімся ўніз. А далей як жыць? Людзі ўгору падымаюцца, багацеюць, а мы бяднеем. Дык каб ад няшчасця якога, крыўдна не было б. А то ж ад лянoты. Самі бяднеюць і тых, хто працаўлівы, прымушаюць галець. Гэта як па-твойму, справядліва?

— Ды чаго ж вы маўчыцё?

— А я і не маўчу. Хадзіў у кантору, лаяўся. Каго вы, кажу, брыгадзірам выбралі? А старшыня мне ў адказ: не я, а самі выбіралі. У нас, кажа, дэ-ма-кра-ці-я.— Дзядзька Даніла смачна плюе.— Для каго дэмакрацыя? Для гультаёў? Я, скажам, на сённяшні дзень трыста восемдзесят дзён маю. Во з начлегу на поле прыйшоў. А ў тваёй маці яшчэ і пяцідзесяці працаднёў няма. Дык якая ж тут дэмакрацыя, калі і ў мяне і ў мяне па аднаму голасу? Тваёй маці выгадна, каб Макуха кіраваў, а мне ён косткай у горле засеў. Не ўжо, калі хочаце дэмакрацыю, дык тых слухайце, хто кожны дзень на работу ходзіць. Яны гультая не выберуць. А такога чалавека паставяць, што і сам будзе працаваць і іншым не дасць спаць у шапку. Во як трэба да парадкаў падступаць...

Каб дзядзька Даніла прывёў у прыклад Хведарыху, мне было б не так крыўдна. Навошта яму чапаць маю маці? Хіба ёй лёгка жывецца? Гаспадарка на яе плячах. Пяцьдзесят сотак гароду. Карова. Кабан. Парсючок. Дзесяць авечак. Не так ужо мала на адну жанчыну. Калі ўжо ёй зарабляць працадні? І, нібы адгадаўшы мае думкі, дзядзька Даніла ляпае мяне па плячы.

— А што, Янка, праўда не крыўда, яна калючая-балючая? Так ужо

яно ў нашым Зарэччы павялося. Барані божа, каму праўду ў вочы сказаць. Адразу — крыўда. Нахлусіш, як маслам душу змажаш. Вось табе і адказ на запытанне. Гаварыў я, лаяўся, даводзіў людзям. А што ж у замену палучыў? Даніла ў начальства лезе. Вось што людзі кажуць, а таго не бачаць, што я за праўду стаю. Каб усе як след працавалі, каб багацей жылі. У нас вось крычаць, абураюцца: працадзень бедны! Як жа ён багаты будзе, калі адзін працуе, а сямёра дагары пузам ляжаць?

На поплаве паяўляюцца Платон Загурскі і яго пасынак Кірыла. Кожны з іх цягне па доўгай жардзіне. Воддаль Халімон Амельнічэнка, па-вясковаму Лепятуха, гоніць каня, запрэжанага ў валакушу. На кані сядзіць Данілаў Лёшка. Без яго нідзе не абыходзіцца. Лёшка вельмі любіць коней. Мабыць, удаўся ў бацьку.

— Нарэшце,— уздыхае Даніла.

Кірыла скідвае з пляча доўгую жэрдку, выцірае рукавом пот. Я гляджу на яго, вельмі высокага, у акулярах з шырокай аправай, і мне становіцца смешна. Які з яго работнік! Згубіць яшчэ акуляры ў сене? Трэба будзе пасля ўвесь стог перατрасаць.

Мне чамусьці радасна ад таго, што Кірыла такі няўклюдны. Як гара з плеч! На такога дзяўчаты заглядацца не стануць. Хіба Какосцікавы.

Кірыла глядзіць на мяне праз шкелцы акуляраў шэрымі, задумлівымі вачыма. Потым падыходзіць, падае руку.

— Вас Янкам завуць? Шура мне расказвала... А мяне Кірылам Пластавым.

Я паціскаю руку без асаблівай радасці. Адчуваю сябе несамавіта. Трэба нешта было б сказаць, каб Кірыла не падумаў, што я нейкі там цяльпук. Але, як на злосць, маўчу.

— Вы хіба вершы пішаце? Я таксама пісаў. А потым убачыў, што паэта з мяне не выйдзе...

Тым часам Халімон падганяе каня да валкоў, закладае валакушу — доўгае бервянцо, становіцца на яго, і бервянцо валачэ капу сена да нас.

— Ну, чаго вы стаіцё? — гукае дзядзька Даніла.— Мацуйце жэрдку.

Кірыла разам з вотчымам ставяць жэрдку ў ямку, абціскаюць зямлёй. І вось ужо жэрдка стаіць на поплаве, як свечка. Я падсцілаю на зямлю фашынне-хвораст, каб сена не прэла знізу. Даніла хапае на вілы бярэма сена і выкладвае роўны круг.

— Вось так і жывём, Максімавіч,— звяртаецца Даніла да Загурскага.— Ты, ды я, ды мы з табой. Усю брыгаду на сваім карку возім. Адзін памочнік, другі — у краме сядзіць. На ім бы зямлю араць, а ён бабам паркаль мерае, пернічкі важыць. Трэці звяном кіруе. У звяне пяць жанок. Дык ён у іх за старэйшага. Чацвёрты — учотчыкам. Мы з табою стог складзём, а ён прыйдзе пад вечар, запіша на паперку, што стог і праўда складзены.

Платон Загурскі арудуе віламі хвацка. Чапляе на іх паўкапы сена і кідае з размаху аж да самай жэрдкі. Стог вырастае ўвачавідкі. Мы з Кірылам прытоптваем сена, раўняем краі. Я прыслухоўваюся да размовы Данілы і Загурскага. Платон больш маўчыць. Мне нават здаецца, што калгасныя справы яго мала турбуюць. А чаму яны яго павінны турбаваць? Пенсія ў Загурскага добрая. Работа для яго — забава. Затое Даніла гаворыць з горыччу:

— Помніш жа, Максімавіч, як да вайны было? Любата, як працавалі! Мужчыны, жанкі, дзеці, старыя — усе на работу беглі. Затое жылі як? І сабе хапала, і дзяржаве. А цяпер? Быццам апошнія дні дажываем. Няма парадку і ўсё. І калі ён будзе?..

— Будзе, дзядзька Даніла,— адгукаецца Загурскі.



— Надакучыла чакаць. Чэснаму чалавеку ніякага разгарнення няма. Затое гультаям выгода.

На поплаў прыходзяць яшчэ чацвёра мужчын, дзяўчаты, а з імі Стась. У гэтыя дні Стась неяк вельмі ўжо туліцца да дзяўчат.

— Эй ты, лайдак,— заву я Стася,— хадзі да нас. Хопіць табе за Верчыну спадніцу трымацца.

Стась грозіць мне кулаком, а сам смяецца. Сёння мне асабліва хочацца быць са Стасем, бо я чамусьці саромеюся Кірылы.

— Што ж гэта, мужчыны, за работа такая? — дакорліва кажа Даніла.— Ці ж то панскае сена? Не складзем у стагі, пагніе ўсё. Як жа глядзець пасля будзе?

Мужчыны адчуваюць сябе ніякавата. Яны пераступаюць з нагі на нагу, пакашліваюць, але ні слова ў сваю абарону.

Дзядзька Даніла талкова распараджаецца людзьмі. Ён усё ведае: і каму лепей быць на стагу, і каму падаваць сена з зямлі, і каму з воза. Людзі слухаюць яго ўважліва. Так, як кладзе стагі дзядзька Даніла, ніхто не ўмее.

Наш стог вырас ужо ў рост чалавека. Другі яшчэ не пачыналі. Даніла па-маладому падміргвае мужчынам.

— Што ж, мужчынкі, давядзецца нас даганяць.

— Дзе ўжо нам? Цяпер не дагнаць.

— Ну што ж, давайце мяняцца. Як ты глядзіш, Максімавіч, калі мы новы пачнем, а яны наш будуць канчаць?

Платон Загурскі смяецца, выскаляючы белыя зубы.

— Я, вядома, вытрымаю. А вось хлопцы як?

Мы запэўняем, што вытрымаем. Спрэчка падбадзёрвае нас. Добра было б абагнаць тых, хто спазніўся. Але мужчыны не дужа ахвотна згаджаюцца на такую мену. І я разумею чаму: тады перакураў ужо не будзе.

І вось пачынаецца работа. Дзяўчаты і маладзейшыя хлопцы-падлеткі падвозяць вазы з далёкіх участкаў поплаву. Халімон Лепятуха падцягвае сена валакушай. А мы ўскідваем сена на стог. Цяпер на стагу Даніла. І мы здзіўляемся, як ён спраўляецца ладкаваць сена, якое на козлы падае Загурскі з Кірылам, а адтуль мы са Стасем.

Душна, трохі пыльна, але працуецца весела. Мы даўно ўжо абагналі мужчын. Цяпер і яны ніяк не хочуць адстаць. Пачынаецца гонка.

Прыходзіць яшчэ колькі мужчын. Справа пачынае ісці спарней. І неяк весела. Стомы чамусьці не адчуваецца. Мабыць таму, што працуеш не адзін. Нездарма ж некалі людзі на ўсякую цяжкую работу збіралі талаку.

Цяпер я залез на самы верх стога, да дзядзькі Данілы. Я падхопліваю пададзенае мне сена і перакідваю яго далей. Даніла прытоптвае яго. Стог выцягваецца ўверх, усё больш закругляецца.

Зверху відаць прастора поплаву, палавелая збажына і нашы вёскі. Ля Стасева сельбішча стаіць напалову ўсохшы ясакар з буслінымі гняздом-кучомкай. Мне добра відаць галовы буслянят з доўгімі дзюбамі. Самі буслы дыбаюць па беразе Расянкі і звонка кляцаюць дзюбамі. Потым адзін з іх падымаецца, ляціць на ясакар, трымаючы ў дзюбе жабу.

На русакоўскай дарозе паяўляецца брычка. Я адразу пазнаю яе. Едзе старшыня калгаса Чукрай. За вочы яго празвалі «Абсурд». Але пры людзях да яго звяртаюцца ветліва, хоць усмешка і тады не знікае з людскіх твараў.

Сёння Чукрай едзе адзін, без Цопы. Гэта крыху здзіўляе. Бо старшыня ніколі не прыязджае ў вёску без брыгадзіра ці яго памочніка.

Крыху здзіўляе і тое, што на гэтым месяцы ён прыязджае ў нашу брыгаду другі раз. Усе спадзяваліся, што старшыня не пакажа да нас носу яшчэ месяцы два.

Брычка зварочвае на поплаў, кіруе проста да стагоў. Старшыня выкульваецца з брычкі і нерашуча спыняецца. Людзі як бы не заўважаюць яго. Яны заняты сваёй справай. Ім цяпер не да старшыні. Праца захапіла іх, узяла ў палон. Чукрай збянтэжана топчацца ля суседняга стога, і нечакана ягоны твар расплываецца ўсмешкай. Каго ўбачыў Чукрай? Ён распасцёр рукі і пайшоў да нашага стога. Я гляджу ўніз і бачу, што Загурскі кінуў працаваць і таксама развёў рукі.

Яны сустракаюцца ля стагоў, абнімаюцца і доўга ляпаюць адзін аднаго па плячы, смяюцца і маўчаць.

— А я да цябе ехаў, ды вось на поплаў завярнуў. Не спадзяваўся тут убачыць. Думаў, ты ў цяньку дзе ляжыш,— узрадавана гаворыць Чукрай.

— Не тваёй, браце, натуры,— жартуе Загурскі.— Ну і раз'еўся ты, Амяльян.

— Дзе там, пахудзеў...— махае рукой старшыня.

Абодва рагочуць. Калгаснікі спынілі работу, з цікавасцю паглядаюць на Загурскага і Чукрая.

— Ты вось што, Амяльян, бяры вілы ў рукі, ды на стог. А то вунь Даніла з Янкам удвух запарыліся. Прытупнеш нагой — стог, як пад прасам, асядзе.

— Ай-яй-яй!..—ківае галавой Чукрай.— А кіраваць жа хто будзе? Абсурд.

Але ён бярэ вілы, лезе на козлы, упоперак якіх ляжаць дошкі, адтуль, узяўшыся за вілачнік, адзін канец якога трымае Даніла, караскаецца на стог.

Узабраўшыся на верх, Чукрай нейкі час глядзіць на поплаў. Там, у далечыні, ля Расянкі, завіхаюцца ля стагоў русакоўцы. Яны выйшлі пазней за нас і зрабілі не так многа, але, як відаць, і яны стараюцца не адстаць.

— А я думаў, што Цопа з Макухай ні на што не здатныя,— як бы разважае Чукрай.— Аж яны вунь як разгарнуліся... Глядзі, сёння і стагаваць кончым.

Даніла чмыхае носам. Атрымліваецца гэта ў яго так выразна і шматзначна, што Чукрай здзіўлена глядзіць, не разумеючы, відаць, чым ён незадаволены.

— Вашага Цопу мятлой гнаць трэба. Каб не Загурскі, дык тут можа і пяці чалавек не было б.

Старшыня больш не ўсчынае гаворкі. Ён моўчкі пачынае падаваць сена. Працаваць ён умее. Хоць даводзіцца яму не лёгка. А знізу ўсё падаюць і падаюць новыя ахапкі. Толькі паспявай прымаць іх. Стог расце, закругляецца. Нам усё цясней на яго круглявіне.

Абедаць так ніхто і не пайшоў, хоць усіх дацінае голад. Але ў працы неяк забываеш пра яго. Толькі даводзіцца ўсё часцей падшморгваць штаны. Яны не хочуць трымацца на апусцелым жываце.

Сонца паволі коціцца на небакрай. Ад стога праз увесь поплаў кладзецца шэры цень. З рэчкі патыхае вільгаццю. Як толькі за ляском схаваецца сонца, з прырэчных кустоў на голы поплаў выпаўзе туман.

Мы стараемся хутчэй кончыць стагі. Колькі той работы, каб усе вось так кожны дзень выходзілі б...

— Шабаш,— кажа Даніла, укладаючы апошнюю ахапку сена.— Каціся ўніз.



Мяне падхопліваюць пад рукі, потым ловяць старшыню. Даніла прытоптвае ля калка сена, надзявае на калок шапку з жытняга снапа і таксама з'язджае ўніз.

Чукрай знімае сарочку, вытрасае пацяруху.

— Ото ж, напрацаваўся ў смак!..

— Часцей трэба,— усміхаецца Загурскі.— Даўно я цябе не бачыў. Гадоў пятнаццаць. Як ты да нас трапіў, ніяк не магу зразумець?..

Чукрай хмурнее. Невыразныя шэрыя цені кладуцца на яго твар. Не разбярэш ад чаго.

— Вось так і трапіў... Выклікалі, загадалі збірацца на добраахвотных пачатках.

Калгаснікі акружаюць старшыню. У кожнага ёсць нешта сказаць. У самы разгар размовы паяўляецца Сцяпан Макуха. Ён вясёлы, як ніколі. Мабыць, недзе добра выпіў. Заўважыўшы старшыню, Макуха гуллівым чорцікам падлятае да Чукрая.

— Добры вечар, Мяльян Мяльянавіч. Ну, як мы сёння папрацавалі? Гэта ж, во, слухай сюды, сам толькі нядаўна адлучыўся.

Мужчыны рагочуць. Макуха разумее, што схлусіў няўдала, але яму цяжка паверыць, што старшыня даўно працуе з намі. Такога яшчэ ніколі не было. Таму Макуха збянтэжана азіраецца.

— Ідзіце праспіцеся, таварыш Макуха.

Чукрай гаворыць спакойна, нават лагодна. І гэта збівае Макуху з тропу. Ён не ведае, што яму рабіць цяпер. Спачатку ён кідаецца да стога. Выхапіўшы ў кагосьці граблі, пачынае абграбаць вакол стога пацяруху. Пасля бяжыць да дзяўчат, пачынае крычаць і размахваць рукамі.

— Чуе мышка, што не мінуе кошчыных лап...— весела гаворыць Даніла і, ускінуўшы на плячо вілы-трызубцы, дадае:—Пайшлі, мужчыны.

На марах пад'язджаюць дзяўчаты. Смех, гоман. Стась непрыкметна прысуседжваецца да Веры. За ім узлазіць на другі воз Кірыла. Я бачу, як ён прысаджваецца да Шуры. Мне робіцца ніякавата. Я чакаю, што Шура пакліча мяне. Тады і я паеду. Але Шура мяне быццам і не заўважае. Яна смяецца. Мабыць, Кірыла расказаў нешта смешнае.

Мы ідзём дамоў утраіх. Загурскі, Чукрай і я. Чамусьці мне вельмі хочацца пачуць, пра што будуць гаварыць Загурскі і старшыня.

Я ўжо неяк раней заўважыў, што пра чалавека нельга меркаваць з адной сустрэчы. Вось і Чукрай мінулы раз мне вельмі не спадабаўся. А сёння я слухаю яго і дзіўлюся, нібы давялося ўбачыць другога чалавека.

Наогул людзей распазнаваць нялёгка. У нутро ім не заглянеш. А сам чалавек чамусьці любіць выстаўляць на паказ тое, чаго ў яго натуры няма. Лагодны хоча выдаваць сярдзітым, подлы — прыветлівым і шчырым, бязвольны — настойлівым.

Я ўважліва прыслухоўваюся да размовы двух незразумелых для мяне людзей.

— Які з цябе старшыня, Амяльян?— не то насмешліва, не то спачувальна кажа Загурскі.

Мне здаецца, што Чукрай зараз пакрыўдзіцца. Але, на маё здзіўленне, ён адказвае зусім не так, як я думаў.

— А то я сам не знаю... Абсурд.

— Табе, брат, у канторы дзе-небудзь сядзець. Характар у цябе слабы. А тут цвёрдую руку мець трэба.

— Думаеш, не казаў? Ды і самі яны ўсё ведалі, а вось бачыш... Можа таму і паехаў, што характар слабы. Выклікалі мяне. Так і так, кажуць, кадры на сяле патрэбны. Я думаў, эканамісты. Згадзіўся, што патрэбны.

А яны мяне адразу старшынёй. Заікнуўся быў, што не спраўлюся. Дык дзе там!..
— А толк які?
— Ніякага,— выгукнуў Чукрай.— Адно званне, што старшыня.
— Так жа ты зусім калгас заваліш.
— У мяне перад сабой апраўданне ёсць. Усіх адсюль выпіралі за хабарніцтва, зладзейства. А мяне, як сумленнага, выставяць за тое, што не справіўся. Хоць калгаснікі не будуць гаварыць, што прыехаў да іх на брычцы, а назад на ўласнай машыне паехаў.
— Н-да-а... Нічога сабе апраўданне. Эх, Амяльян, Амяльян! Не перамяніўся ты ні на каліва. Лічбамі ты добра камандуеш. А людзьмі, браце, не твой занятак... Пайшоў бы ты лепей у райком, ды прызнаўся: не спраўлюся, таварышы, завалю калгас.
Чукрай нейкі час ішоў моўчкі. Сонца ўжо зусім хілілася за лес, і цень зрабіўся шэры, невыразны. Такім невыразным здаваўся мне і сам Чукрай. Мабыць, і ён прыкідваецца. Не хоча раскрываць перад былым сваім аднапалчанінам душу. Яму падабаецца хадзіць у начальстве, ездзіць на брычцы, пакуль не пракоцяць яго ў апошні раз на вараных. Тады ён будзе шукаць новую пасаду, больш спакойную. Але адказ Чукрая ўразіў мяне сваёй прастатой, раскрыў перада мной невядомы дасюль куток чужога жыцця, з яго складанымі перапляценнямі.
— Дзівак ты, Платон. Паслалі б мяне дырэктарам завода, дык я не задумаўся б. Адразу ў райком, карты на стол — не магу кіраваць, і баста. І ніхто не стаў бы пярэчыць. А тут — калгас!.. Хто ж мне паверыць? Падумаюць, прыкідваюся, хачу збегчы. Абсурд палучаецца.
— Але ж ты сапраўды не можаш.
— Не магу. Ты вот разумееш, а другія не зразумеюць. Падумаюць, сімулірую.
— Дакажы, чорт вазьмі...
— Эге, дакажаш?.. Справай дакажаш...
— Ну, знаеш, Амяльян, не чакаў...
— Думаеш, я спадзяваўся ў такім становішчы апынуцца. Што ў нас палучаецца? А вось што. Адзін і праўда не можа кіраваць такой гаспадаркай, як цяперашні калгас. І ён чэсна пра гэта кажа. Але яму не вераць, бо той, хто можа кіраваць, не вельмі хоча быць на вёсцы. І ён таксама ўсякія довады прыводзіць. Вось тут і разбярыся...
— І ніводзін з вас такіх людзям не патрэбны,— Загурскі загаварыў злосна.— На ліха вы такія калгасу? Знойдуцца, урэшце, людзі, якія і хочуць і могуць кіраваць.
— Ну, вось і бярыся, Платон. А я ў цябе за планавіка застануся. Усё табе распланую як след. Думаеш, калгас нельга на ногі паставіць? Абсурд. Я ўсё разлічыў. За два гады ў мільянеры можна выйсці. А вось арганізаваць не ўмею.
— Ты што, здурэў? Як жа вось так без усяго-ўсякага з'яўлюся і скажу: давайце мне калгас...
— А-а-а,— узрадаваўся Чукрай.— Бачыш. Няёмка. А што тут дрэннага? Камуніст, маёр-гвардзеец. Дзіўнага нічога няма, калі сам з'явішся. А вось жа чагосьці няёмка. Думаеш, а што, як пачнуць сумнявацца, не давераць?
— Нічога я не думаю.
— Затое я ведаю. Калі яшчэ ў райсельгасаддзеле працаваў і калгасы былі маленькія. Пайшоў у райком. Прашуся: пастаўце мяне за старшыню. Не паставілі. Спалохаліся, а можа здзівіліся. Не тыпова такое. Сам просіцца. Значыць, хітрасць нейкая. Во, брат, адкуль усё ідзе. Падбор кадраў, а не добраахвотнае выстаўленне кандыдатур для абмеркавання.
— Што ж, па-твойму, і міністраў па добраахвотнаму набору прызначаць?
— Навошта. Разумна падыходзіць трэба,— Чукрай падумаў крыху, дадаў няўпэўнена:— А што — і міністраў... Нядрэнна было б параіцца хоць бы з актывам. «Думаем, таварышы, міністрам сельскай гаспадаркі прызначыць Іванова. Як вы на гэта глядзіце?» А мы Іванова, як аблупленага, ведаем. Балбатун ён. Мякка сцеле, ды спаць жорстка. А вось дырэктар саўгаса Сідараў — рабацяга. Яго — міністрам... Думаеш, горш было б? Шкоду партыі прынеслі б? Не, карысць!
— Плануеш ты здорава,— усміхнуўся Загурскі.— А кіраваць не так проста.
Загурскі закурыў. Ішоў, смокчучы папяросу. Побач тэпаў кароткімі нагамі Чукрай і чамусьці хмурыўся. Задумаўся і я. Можа ўпершыню я зазірнуў у самае нутро жыцця і, хоць нічога пакуль не зразумеў, адчуў, аднак, што я нічога не ведаю і што ўсё тое, што здавалася простым, выглядае вельмі складана.

# СУСТРЭЧЫ

## 1

Два рады цяністых ліп збягаюць з горкі і, як бы наткнуўшыся на высокую жалезную агарожу, зварочваюць адзін направа, другі — налева. Па той бок вуліцы за агарожай — стадыён. Ля брамы ходзяць міліцыянеры ў белых пальчатках. Адразу відаць, што гэта вясковыя хлопцы, якія зусім нядаўна надзелі міліцэйскія мундзіры. Форменныя фуражкі збіты на бакір, каб лепей вытыркаўся з-пад іх чуб. Кіцелі ў абліпачку, а на грудзях надзімаюцца пухіры, надаючы хлопцам бравы і трохі смешнаваты выгляд. Боты наглянцаваны да бляску, халяўкі прыспушчаны гармонікам. Хлопцы стаяць, адставіўшы нагу, каб усе бачылі, якія ў іх боты, і раз-пораз ляніва падносяць руку ў белай пальчатцы да твару — кураць папяросы. Няхай усе бачаць, што рука ў пальчатцы. Вось так і я некалі хацеў, каб усё Зарэчча бачыла, што на мне новы гарнітур і новыя чаравікі. Я разоў пяць прайшоўся па вуліцы, выстаўляючы свае набыткі напаказ. І быў вельмі рады, калі нарэшце заўважылі мой новы гарнітур.
Мне хочацца падысці да міліцыянераў і сказаць ім што-небудзь прыемнае. Але яны неяк падазрона назіраюць за мной. Мабыць лічаць, што я хачу ашукаць іх, прабрацца на стадыён без білета.
Міліцыянерам сумна. Яны смачна, у ахвоту пазяхаюць, прыслухоўваюцца да людскога гоману, што далятае са стадыёна. Стадыён раве тысячамі глотак.
— Гу-гу-у-у-у!.. А-а-а-ах!..
— Праходзь, праходзь,— міліцыянер махае мне рукой у белай пальчатцы.— Ну, чаго стаіш?
— Хіба не можна? — пытаюся я.
— Можна — не можна... Праходзь,— весялей кажа міліцыянер.— Знаем мы вас...
Яму, відаць, вельмі падабаецца начальніцкі тон. Міліцыянер аж ззяе і яшчэ больш надзімае грудзі.
— Ну, каму я кажу...

— А-а-а-а!..— гудзе стадыён. Чародка галубоў зрываецца з даху і імкліва кружыць над стадыёнам.

— Забілі! — крычыць другі міліцыянер, нізенькі, з рыжым чубам.— Яй-богу, забілі!

— Прамазалі,— адказвае той, што хацеў прагнаць мяне, і адразу ж забывае пра мяне.— Паглядзіш, прамазалі.

— Яй-богу, забілі! — пярэчыць нізенькі.

— Хіба нам...

— Яй-богу, ім!..

Міліцэйскую спрэчку перапыняе вусаты дзядзька ў зашмальцаванай спяцоўцы. Ён паяўляецца нечакана, як з-пад зямлі.

— Як там нашы? — занепакоена пытаецца ён і пацірае рука аб руку.

— Два — нуль.

— У нас?

— У іх...

Дзядзька ківае галавой:

— Вылецяць жа, як піць даць. Ой-ёй-ёй, што робіцца?! Запалачка знойдзецца?..

— Дык жа іграць няма каму,— абыякава кажа міліцыянер, падаючы запалкі.

Дзядзька частуе міліцыянераў «беламорам». Тыя ніяк не могуць ухапіць папяросу пальцамі ў пальчатках. Дзядзька разрывае пачак, каб спрытней можна было браць папяросы.

— Куды толькі начальства глядзіць?..—абураецца дзядзька.— Адна каманда і тая... Ганьба, сорамна на людзях паказацца.

— Дык жа біць па варотах няма каму.

— А я што кажу,— згаджаецца вусаты.— Слухайце, хлопцы, прапусціце. Білет, разумееш, не мог дастаць. Крыўдна...

Стадыён узрываецца ад крыку і пляскату.

— Ура! Забілі!..— крычыць вусаты.

— Ну, валяй,— кажа яму міліцыянер.— Толькі хутчэй. Нам, знаеш, за такое...

Дзядзька бяжыць, як заяц. Міліцыянеры ўсміхаюцца. Яны, відаць, вельмі задаволены, што зрабілі штосьці добрае.

— Давай бяжы і ты,— лагаднее міліцыянер.— Бяжы, пакуль мы добрыя...

— А мне і не цікава,— я ўсміхаюся, а міліцыянеры адразу хмурэюць.

— Тады няма чаго тут тырчаць. Ну, ну, праходзь!

Я іду па апусцелым горадзе. На душы горыч. Чаму шкадуюць футбалістаў? А вось нас няма каму пашкадаваць. Мы не маем балельшчыкаў. Зрэшты, хто мы такія? І не вучні ўжо і не студэнты яшчэ — абітурыенты. Слова гэта гучыць неяк здзекліва, не па-людску. Абітурыенты!..

Думкі, як тая мяцеліца ў завулку-тупіку, круцяцца ў замкнёным коле. Усё вакол аднаго.

Тое, што жменька футбалістаў можа трапіць у клас ніжэй, узрушыла ўвесь горад. Можа гэта і сапраўды жахліва, што ў наступным годзе ў нас не будзе каманды ў вышэйшым класе? Можа трэба хвалявацца і спачуваць? Але чаму спачуваюць адным футбалістам? У іх быў час добра падрыхтавацца да свайго экзамену. Іх ніхто не падганяў. Ім стваралі ўсе ўмовы. І калі яны дрэнна гуляюць, дык чаго ўжо там перажываць. Футбалісты, урэшце, будуць гуляць, як і гулялі.

Мы вылятаем з гульні не па аднаму, а сотнямі. І сезон экзаменаў у нас меншы — дваццаць хвілін і — будзь здаровы, развітвайся са сваімі намерамі. А можа з нас выйшлі б вучоныя, пісьменнікі, інжынеры, урачы. Хіба за дваццаць хвілін можна выявіць, на што ты здатны? Дык не. Тры асноўныя пытанні, тры-чатыры дадатковыя і — вылятай. Ніхто табе не паспачувае. Ты — абітурыент. Гэтым усё сказана.



Ад думак няма спакою. Мне хочацца дакапацца да самых глыбінь жыцця, адшукаць у ім тую адзіную справядлівасць, што раўняла б людзей, рабіла іх аднолькава шчаслівымі на свеце. Як бы трымаючыся за тоненькую нітачку, я нецярпліва разблытваю складаны вузел супярэчнасцей. От, я ўсё ж прыдумаў бы, як зрабіць, каб не вельмі захапляліся адным і зусім забываліся на другіх. Я, канечне, прыдумаў бы...

Неяк незаўважна я прыходжу на гарадское возера. Тут я начаваў ужо дзве ночы пасля таго, як зрэзаўся па нямецкай мове, і цвёрда вырашыў, што дамоў не паеду. Начаваў вунь там, у парку, на лаўцы, што стаіць у самым гушчары. Мабыць, натомленыя за дзень ногі самі прывялі мяне да месца начлегу. Але яшчэ вельмі рана, і на маёй лаўцы сядзіць закаханая пара і цалуецца, як і ўчора. Таму я не спяшаюся ў гушчар. Іду паволі, бы на шпацыры.

На пясчаным беразе многа народу. Загарэлыя, бестурботныя, людзі ляжаць на пяску, падстаўляючы сонцу спіны. Сінія лодкі сноўдаюць па возеры: то сходзяцца ў гурт — тады чуваць піскатня дзяўчат і звонкі рогат хлопцаў; то распаўзаюцца ў бакі — тады ўсё заціхае і на бераг далятае ценькае трымканне балалайкі.

Я іду берагам усё далей і далей, туды, дзе менш народу, менш вясёлага гоману, дзе можна пасядзець, паразважаць над тым, што рабіць далей.

У маёй кішэні дзве траячкі, металічны рубель, якім мне яшчэ ў першы дзень экзаменаў здалі рэшту ў магазіне, і капеек шэсцьдзесят медзякамі. Рубель і медзякі я магу патраціць на харч. А траячкі давядзецца берагчы. Я, вядома, ганю прэч здрадлівую думку. Дамоў мне не хочацца ехаць. І ўсё ж зусім застацца без грошай боязна. За гэтыя тры дні я добра зведаў, што жыццё не вясёлая прагулка ад Зарэчча да возера. На кожным заводзе мне гаварылі адно і тое ж: «Прапішыся, малады чалавек, тады прыходзь».

На ўскраіне горада, дзе драўляныя домікі фарсіста выстаўляюць на вуліцу пафарбаваныя ліштвы вокан і зашклёныя веранды, у мяне запрасілі дзвесце рублёў за прапіску. Я, напэўна, выглядаў дурань-дурнем, бо зладзеяватая, чырванашчокая жанчына, вельмі падобная на нашу Хведарыху, пачала тлумачыць мне ўсю няхітрую механіку, як абысці суровы закон.

— А мой жа ты коцік, а мой жа ты харошы, сама ведаю — дарагавата. Але ж другія бяруць і больш. Анягож, бяруць, ды яшчэ і за адну прапіску. А я цябе і прапішу, і жыць у мяне будзеш. За печкай каморка ёсць. Выберам адтуль непатрэбшчыну, і жыві на здароўечка. Будзеш мне ў месяц дзесятку плаціць. Дзешавей ніхто не прапіша. З сямейных вунь па пяцьсот бяруць. Прынясеш мне справачку, што абяцаюць цябе на работу ўзяць, адным словам, што месца знайшоў, а я цябе, як радню сваю, прапішу. І станеш ты гарадскі. Самі во, коцік ты мой, нядаўна з вёскі пераехалі, таму і спачуваю.

А мне ўжо не хацелася ні яе спачування, ні ласкі, ні прапіскі. Мне хацелася сумленна ўладзіцца на працу, быць бліжэй да ўніверсітэта. І таму, мабыць, я трэція суткі нікуды не магу прыстаць. А грошы плывуць з кішэні незаўважна, хоць я і не раскашую. Ды і маці выдзеліла мне не вельмі багата, так што не вельмі разгонішся.

Там, дзе возера закругляецца, круты схіл берагу пераходзіць у пакатую раўніну, зарослую асакой і аерам. Па-над самай вадой віецца

сцежка. Да яе падступаюць стромкія танкастволыя бярозы, выносістыя клёнікі і рагазлівыя ліпы — прыазёрны парк, некалі неразважна густа быў пасаджаны. Дрэвы кідаюць на возера густы цень. Таму вада з краю здаецца чорнай. Я выбіраю сушэйшае месца і саджуся, сагнуўшы ў каленях ногі. Сядзець так не вельмі зручна. Думаць не хочацца. Няхай адпачне галава. Ды, зрэшты, што прыдумаеш, седзячы на гэтым беразе?

Людзі пакрысе збіраюцца дадому. Па сцежцы праходзяць дзве дзяўчыны ў аднолькавых сукенках, коса пазіраюць на мяне і чамусьці яхідна смяюцца. Потым прабягаюць хлапчукі, спаважна праходзяць дарослыя. Усе заклапочаныя, або вясёлыя, але не панурыя, як я.

Бераг пусцее. Апошні пакідае яго хлапчук. Ён зматвае вуды, пацешна хмыкае носам, падлічваючы ўлоў, потым па-старэчаму, уразвалку ідзе паўз возера. Хлапчук чымсьці нагадвае Данілавага Лёшку. Мне вельмі захацелася закрануць яго.

— Ловіцца хіба тут?— запытаўся я.

Хлопчык прыпыніўся. Пытанне, відаць, яго не здзівіла. Ён працягнуў руку з лазовым прутком, на якім было нанізана штук пятнаццаць драбнечы.

— Якая тут лоўля... Так, праседзіш дзень,— хлопчык адказвае стала, быццам хвацкі рыбалоў.

— Што ж ты рабіць з ёю будзеш? Юшку хіба варыць?

— Сказаў...— усміхнуўся хлопчык.— Якога тут ражна юшка... Гэта я Наташцы лавіў. Раней, халера, не хацела мёртвую есці, жывую ёй прынось, а цяпер — прывыкла.

Я быў здзіўлены: жартуе ён ці не ? Хлапчук усміхнуўся: яго шыракаваты рот з прыпухлымі вуснамі зрабіўся яшчэ шырэйшы.

— Наташкай я ласку назваў. У яе такія ж вострыя зубы, як у мамінай сяброўкі Наташы. Сцерва, не давядзі бог. Не ласка, канечне, а Наташка.

— Дзе ж ты ласку злавіў? Хіба яны водзяцца тут?

— Скажаш. Ласкі ў вялікіх лясах водзяцца,— кажа хлапчук, мабыць, верачы ў тое, што ласкі водзяцца ў бары. Гэта мне адзін дзядзька прывёз. Яна тады маленькая была, вось такенечкая, а цяпер вырасла.

— Навошта ж ты яе трымаеш?

— Вывучыць хачу. Ты Золлу бачыў? У яго ўсякія звеpы прывучаны. Што загадае ім, тое яны і робяць. Во здорава, праўда? Толькі мама кажа, што ласку не вывучыш. Яна, кажа, ад прыроды на характар сапсутая. Злосніца...

— Тыгры яшчэ больш злыя.

— Гэта праўда. А я неяк не падумаў.— Хлопчык памаўчаў, потым запытаўся:— А ты чаго тут сядзіш?

— Так... Ісці няма куды.

— Ты хіба злодзей?

— Чаму?

— Не ведаю. Падумалася. Я аднаго злодзея знаў. Чыжыкам звалі.

— Хіба ён на мяне падобны?

— Не, ён рыжы быў,— хлопчык задумаўся.

Апошнія промні сонца, што залацілі верхавіны дрэў на могілках, патухлі. Толькі высока на небе ўсё яшчэ гарэла чырванню маленькае воблачка. Але неўзабаве і яно пабурэла.

Увачавідкі цямнела. Зарослы кустамі востраў пазмрачнеў і неяк наблізіўся да нас. Здавалася, што чарната ночы паволі выпаўзае з зараснікаў. Рабілася страшнавата і няўтульна.





Хлапчук кашлянуў, пацёпаў плячыма, пэўна, ад туману, што ўздымаўся над вадой.
— Слухай, ці любіш ты страшнае?
— Сам не ведаю...
— А я люблю. Чым страшней, тым цікавей бывае. Не верыш? От, каб мне з гэтага месца не сысці. Я аднаго разу на татарскія могілкі хадзіў. Адзін пацан быў выдумаў, што нябожчыкі кожную ноч з магіл вылазяць. Знаеш, татар без труны хаваюць. Вось я і паверыў, што ім лёгка выбрацца. Залез пад куст і да раніцы ляжаў. Страху было... А цікава. Калоцішся ўвесь, а сам думаеш: не, усё роўна не ўцяку.
— Ну і што?..
— Нічога. Глупства. Ніхто з магіл тых не вылазіць.
— Хіба ж ты верыў, што нехта вылезе?
— Не верыў, а ўсё роўна страшна... А хочаш, я табе пра самае страшнае раскажу,— хлопчык дапытліва паглядзеў на мяне.— Аднаго разу Чыжык вучыў мяне красці. Вось гэта страхаццё.
— Красці брыдка,— перапыніў я хлапчука.
— Канечне, брыдка. Але больш — страшна. Слухай, а ты быў калі ў вялікім лесе? Во дзе, напэўна, жах? Як вырасту, дык паеду ў тайгу, дзе мядзведзі водзяцца.
— Ты ў якім класе?
— Я? У трэці перайшоў бы. Дык мову праваліў. Ніяк пісаць не навучуся.
— Вось і ў мяне такая бяда. Таксама мову праваліў.
Хлопчык паглядаў на мяне з недаверам. У поцемку я дрэнна бачыў ягоны твар, але адчуваў, што хлопчык сумняваецца. Чамусьці мне захацелася расказаць гэтаму выпадковаму знаёмаму пра сваю няўдачу. Бадай гэта быў першы чалавек, які пасля майго правалу вось так шчыра размаўляў са мной.
Хлопчык слухаў уважліва, з нейкім асаблівым пачуццём пашаны і недаверу.
— Куды ж ты цяпер?— запытаўся ён.
— Сам не ведаю.
— Не пазайздросціш. Хоць што табе... Паехаў бы дамоў. А на лета зноў прыязджай. А ў вас там лес ёсць?
— Яшчэ які! І возера з сапраўдным востравам.
— Вот бы мне там пабыць.
— Прыязджай у госці,— пажартаваў я.
— Праўда?
— А чаму? Прыязджай.
— Здорава было б,— летуценна вымавіў хлопчык і раптам запытаўся:— Слухай, а ты сёння еў што-небудзь? Ці можа галодны ходзіш?
— Як ты думаеш? Еў, канечне. Паўталеркі баршчу...
Хлопчык падабраў вуды, лазовы пруток і, ускочыўшы на ногі, запытаўся:
— Ты, можа, пасядзіш яшчэ тут? — і ўжо іншым голасам дадаў: — Пасядзі, слухай. Добра?
Я паабяцаў, хоць ніяк не мог тады ўцяміць, чаму павінен сядзець тут.
Хлопчык пабег проста праз парк. Яго кволая постаць мільганула сярод дрэў і знікла ў цемрачы.
Я застаўся адзін сярод ночы. Вільготны вецер несціхана шамацеў



аерам, навяваючы сум. За спіной паныла і глуха гаманілі дрэвы ў парку. Ледзь чутна плюхалася аб бераг вада. Ды здалёк далятаў сюды глухі шум горада.
Пад гэты аднастайны начны гоман думалася прывычна і лёгка. Чамусьці прыгадалася родная хата, маці, уся наша вёска, з яе неўладкаваным яшчэ жыццём.
Чамусьці ўсплыла ў памяці тая раніца, калі я з маці ездзіў у лес па бярэзіну. Я заплюшчыў вочы і адразу ўбачыў, як падае ніц стройная прыгажуня-бяроза. Чаму я тады не адмовіўся, чаму не запярэчыў маці. Няхай бы пакрычала, нават паплакала. Затое бяроза і дасюль бы стаяла ў лесе. Выходзіць, што я звычайны слабак.
Успамін узварушыў жаласць. Даўкі камяк застраў у горле, і не было як пракаўтнуць яго. Нечакана паявілася думка, што я нечым нагадваю хлопчыка, які толькі што сядзеў са мной. Хіба я калі хацеў рабіць дрэнна? А нейкія сілы цягнулі мяне, бы ў прорву.
Вось і бярозу паехаў красці, паехаў, не хочучы таго. Чаму так выходзіць, што часам самыя блізкія людзі штурхаюць цябе на злачынства? Што іх прымушае? Як зрабіць так, каб нішто не пахіснула тваёй сумленнасці?
Крыху счакаўшы, думкі паплылі новым рэчышчам. А як утрымацца, стоячы супраць ветру? Быць бы непахісным! Як скіраваў, так і пайшоў, не збіваючыся з тропу. Рэж праўду ў вочы. Жыві па-людску, як Даніла Налягач. Таго і чорт не саб'е на дрэннае. Недарма кажуць, што Даніла выпэцкае палец у мёд і не абліжа, а саскрабе ў міску, бо калгасны, не свой.
У той вечар мне захацелася быць такім харошым, праўдзівым, шчырым. Чаго я тады не перадумаў, як толькі не прымяраў сябе да розных абставін.
Я нават не пачуў, як падышоў хлопчык. Ён узнік перада мной, як здань. Працягнуў руку з пакункам:
— На, павячэрай. Не вельмі каб якія прысмакі, але сытна будзе.
— Навошта ты? Не трэба было,— папярхнуўся я ад ягонай чуласці. Хацеў быў не ўзяць пакунак, але зразумеў, што гэта пакрыўдзіць хлопца.— Дзякуй. Не ведаю, як зваць цябе.
— Віцька я. Еж на здароўе,— неяк вельмі самавіта сказаў ён і прысеў побач.
— А мяне Янкам, прозвішча Сітоў. Запомніш, можа?
— Дзіва! У мяне памяць — будзь здароў! Ды ты еж, еж!
У газеціне быў загорнуты кавалак хлеба, гурок і скрылёк сала. Мабыць ад гурка пахла такім знаёмым і родным пахам, што я забыўся на ўсё: на ноч, на сырасць і холад.
— Маці хацела не пусціць,— азваўся Віцька.— Кажа, хай бы ты ў кватэру ішоў. А толькі, ну яе!
— Вы ўдвох з маці? Бацькі хіба няма?
— Няма. Я, разумееш, незаконны. Таму і на матчына прозвішча запісаны.
Я змоўчаў. Было няёмка распытваць, як ды што. Уяўлялася нешта непрыстойнае, пра што не гавораць уголас. Але Віцька разгаварыўся сам.
— Маці кажа, што я выпадкова паявіўся. А мне ўсё роўна, абы паявіўся.
— Гэта яна табе так кажа?— здзівіўся я.
— Не, гэта яна Наташцы казала.
Я адразу ўспомніў пра Віцькаву ласку і папікнуў сябе за няўважлівасць. Трэба ж было адразу запытацца, ці спадабалася ёй рыба.

— А ласка твая павячэрала ўжо?
— Павячэрала,— адказаў Віцька, думаючы пра нешта сваё. Ён памаўчаў крыху, потым запытаўся:
— А твая маці п'е гарэлку?
— Не. А чаму ты запытаўся?
— Мая любіць. Ёй бы толькі піць ды гуляць.
— Хіба яна не працуе?
— Хто яе трымаць будзе. Пайшла была дворнічыхай, дык не да спадобы. Пачала скардзіцца, што цяжка. Ну, я і кажу ёй: кідай ці што, а то надакучыла твой лямант слухаць.
— Як жа яна жыве?..
Віцька памаўчаў. Пасля неахвотна адказаў:
— Купіць — перапрадасць,— і зноў, памаўчаўшы, прапанаваў:— Слухай, пайшлі да мяне. Дзе ты начаваць будзеш... Холадна ўжо. Я дык зусім азяб.
Я сумеўся. Мне чамусьці вельмі хацелася ўбачыць Віцькаву маці, каб сказаць ёй, што за Віцькам трэба добра глядзець. І ў той жа час я пабойваўся, нават сам не ведаю чаго.
— Пайшлі,— ужо рашуча сказаў Віцька.— Не бойся, яна сёння цвярозая. Так, можа, ледзь-ледзь узяла.
— Пайшлі,— адважыўся я.
Страшнае і таямнічае сапраўды выклікала цікавасць.
Двухпавярховы цагляны дом на восем вокнаў па фасаду ляпіўся да ўзгорка. З завулка ён здаваўся даволі высокім, бо пярэдняя сцяна была прыўзнята на чатырох цагляных слупах. Жалезная лесвіца вяла на ганак. Адтуль, праз абабітыя лямцам дзверы, мы ўвайшлі ў калідор. Там было цёмна, хоць выкалі вочы.
Віцька ўзяў мяне за руку, папярэдзіў: «Асцярожна, тут дзве прыступкі». Мы павярнулі направа і адразу ўпёрліся ў сцяну. Віцькава рука пачала шукаць клямку. Глуха бразнула засаўка, дзверы адчыніліся ўнутр, і адразу ў нос шыбануў тытунёвы дым і пах гарэлкі.
— Наташка прывалаклася,— шапнуў мне Віцька.
Я ўжо каяўся, што пайшоў. Але адступаць не было як.
Мы спыніліся ў прыхожай, якая служыла і за кухню. Ад жылога пакоя яе аддзяляла квяцістая і даволі брудная шырма, што вісела на дроце. Па той бок шырмы ціха бубнелі жанчыны.
— Хто там? Ці ты, Віцька?
— А то хто... Я,— адказаў Віцька і шапнуў мне:— Ты тут пастой крыху.
Ён пайшоў у пакой. Да мяне далятаў прыглушаны шэпт. Потым на кухню выйшла жанчына — Віцькава маці, здагадаўся я. Цяжка было сказаць: прыгожая яна ці непрыгожая, маладая ці ўжо старая. Твар у Віцькавай маці быў акруглы, пухлаваты і вельмі маладжавы. А стан распаўнелы, друзлы. Цеснаваты халат яшчэ больш падкрэсліваў нейкую нездаровую паўнату.
— Дык гэта ты і ёсць?— спыталася Віцькава маці, пазіраючы на мяне круглымі на выкаце вачыма.
Я не ведаў, што адказаць. Крыху збянтэжаны, маўчаў. Віцька прыйшоў мне на дапамогу.
— Яго завуць Янкам,— сказаў ён і стаў са мной побач.
— Янка дык Янка. Мне ўсё роўна. Праходзь і садзіся, калі прыйшоў.
У пакоі за сталом сядзела вастраносая жанчына, з твару вельмі падобная на клін. Яна курыла, выпускаючы з роту густыя клубы дыму. Асавелыя маленькія вочы бессэнсоўна глядзелі на мяне з п'янай усмешкай. Жанчына і сапраўды была падобна на ласку.



— Есці будзеш?— запыталася Віцькава маці.
Наташка бязладна замахала рукамі.
— Чакай, Людка, чакай трохі. Няхай паўлітра прынясе. Тожа мне — госць без выпіўкі...— яна старалася непрыкметна падміргнуць, але я ўсё бачыў і таму адчуваў сябе вельмі ўжо няёмка.
— Ладна табе,— адмахнулася Віцькава маці,— абыдзецца. Можа віп'еш?.. Не хочаш — не трэба. А мы вып'ем.
Яны налілі гарэлку ў шклянкі, чокнуліся і выпілі, скрывіўшы ад гарэлачнага духу твары. Віцька, прыладзіўшыся на ложку, прагна еў хлеб з каўбасой і ўвесь час боўтаў нагамі.
— Дык ты з вёскі?— спыталася Віцькава маці.
— З вёскі,— адказаў я.
— Не люблю мужыкоў,— азвалася Наташка.— Скнары яны. Неяк у мяне баранавіцкі мужык начаваў. Двух кабаноў прывозіў прадаваць. Дык, халера, адно паўлітра з чорнай галоўкай купіў. А назаўтра ўсе скваркі, што ад вячэры засталіся, з сабой забраў. Во, скнара!
— А знаеш, мама,— убіўся ў размову Віцька,— Янка мяне ў госці запрашаў. Прыязджай, кажа, да мяне.
— Дурненькі ты мой, ашукаў ён цябе...
— Чаму? Няхай прыязджае,— запярэчыў я. Не хацелася быць падобным на таго баранавіцкага мужыка.
Жанчыны зноў налілі гарэлкі, доўга пералівалі з адной шклянкі ў другую, каб было пароўну. Потым павялі гаворку пра нейкія свае справы.
Маленькі насценны гадзіннік з піўной бутэлькай, падвешанай замест гіры, чыкаў аднастайна і глуха. Са сцяны, выскаляючы белыя зубы, насмешліва паглядала на нас маладая дзяўчына ў чырвоным купальным касцюме — ілюстрацыя з часопіса мод. Віцькава маці і Наташка, абняўшыся, спявалі пра «красавіцу ў высокім цераму». Здавалася, сум і маркота насыцілі да рэшты паветра невялікага пакоя з адным акном на двор.
Мне страшэнна захацелася дадому, у роднае Зарэчча. Цяпер у нас, мусіць, усе спяць. Ціха.
Віцька злез з ложка, пазяхаючы, сказаў:
— Я сабе з Янкам на кухні пасцялю.
— Сцялі,— азвалася маці.
Віцька падышоў да мяне, зашаптаў, каб не пачулі:
— Ты толькі не ўздумай з Наташкай ісці. Яна, шэльма, прыстане, каб адвёў дамоў,— і пайшоў на кухню.
Наташка абарвала песню, памутнелымі вачыма доўга глядзела на мяне.
— Вып'ем, студэнт. Усё адно паміраць...
— А ты не выскаляйся,— сыкнула Віцькава маці.— Ён мой госць.
— Твой, мой — наш. Вып'ем,— яна падсунула крэсла бліжэй да мяне, падпёрла падбародак кулакамі.— Асуджаеш, студэнт? Не хлусі, бачу. Ну і чорт з табой. Усе вы роўныя. Вырасцеш — лепшым за другіх не будзеш. Эх, піць буду і гуляць буду, а смерць прыйдзёт — паміраць буду.
Яна выпіла яшчэ, адна. Прыблізіўшы свой твар да майго, дыхаючы перагарам, пачала гаварыць хутка, захлёпваючыся:
— Баба роўная, кажуць. Роўная! А як ваш брат на яе глядзіць? Не, ты скажы. Баба, як забаўка: пагуляў і кінуў. Справядліва, скажаш?
— Наташка, памаўчы лепей,— ляніва папрасіла Віцькава маці.
— Не, няхай ён скажа.
— Не ведаю я такіх, як вы кажаце,— нясмела пачаў я.
— А я ведаю,— перапыніла мяне Наташка.— Во ў яе запытайся.

Пагуляў, пазабаўляўся і кінуў з дзіцем. А на ліха ёй дзіця? Сама прападзе і яго загубіць. Справядліва, скажаш?

Віцькава маці паглядзела на Наташку п'янымі вачыма, пустымі і невідушчымі.

— Паскуда ты і больш нічога,— сказала яна і раптам заплакала п'янымі, шчодрымі слязьмі.

Мне стала шкада яе. Пэўна ўпершыню за ўсё сваё жыццё я зразумеў, што каханне можа прыносіць не толькі радасць. Яно можа стаць і вялікім горам, калі хто-небудзь адзін ашукае другога.

Наташка непрыкметна штурхнула мяне пад бок. Яна старалася гаварыць шэптам, але ёй гэта не ўдавалася.

— А ну яе, пайшлі са мной... Правядзеш... Адна не дабяруся. Ды і пасцель у мяне мя-ка-анькая!

Віцькава маці, мабыць, пачула Наташку, бо раптам ускочыла з крэсла, стукнула кулаком па стале:

— Нікуды я яго не пушчу. А ты выматвайся.

Наташка ані не спалохалася. Яна скінула плацце, чаравікі і павалілася на ложак:

— Тады і я не пайду. Не гані мяне, Людмілка...

— Ну і шэльма,— нязлосна азвалася Людміла.— І ты яе не слухай. Ваабчэ, не трэба табе было прыходзіць,. П'яная баба горш за свінню.

— Мне Віцьку вашага шкада. Ён добры хлопец, а тут такое...— Я не пасмеў далей гаварыць, каб не абразіць гаспадыню.

Віцькава маці задумалася. Вочы страцілі тую бліскучую пустату, якая дасюль была ў іх. Яны зрабіліся журботныя.

— Сволач я, вось хто...— працадзіла яна скрозь зубы.— І яна сволач, можа большая, як я. Мяне хоць жызня скавырнула. А яе што? Балаўство ды лень. Яе, шэльму, тры гады на ўсім гатовым вучылі, спецыяльнасць далі, дык не!.. Ёй усякая праца дужа цяжкая была. Па вечарынках хацелася бегаць, у рэстаранах да позняй ночы сядзець. Во і даседзелася. А хто вінаваты? Ківаць на другіх мы любім. Ого, яшчэ як... А на сябе глянуць не хочацца. Думаеш, мне Віцьку не шкада? Свой жа, не чужы. От, так развярэджу іншы раз сэрца, думаю: кіну ўсё. А пасля не ўтрымаюся. Чорт з ёй. Такая я ўрадзілася, мусіць. А ў цябе дзяўчына ёсць? Ты не чырваней. Гэта добра. Беражы яе толькі. Дзеўкі яркае любяць. Яны на прыгожых ды языкатых падкія. Ад такіх беражыся. Выгадую Віцьку і ажаню яго на самай добрай дзяўчыне, а сама ўнукаў буду няньчыць. Піць кіну... Хоць... Ідзі ты хлопец спаць.

Наташка высвіствала носам. Сапеў за шырмай Віцька. Сонна чыкаў гадзіннік, і бутэлька-гіра апускалася ніжэй да падлогі. Усё здавалася несапраўдным, як у сне.

— Пайду,— ціха вымавіў я.

— Куды ты пойдзеш? Лажыся з Віцькам. Спаць трэба, позна ўжо.

...Прахапіўся я ад лёгкага шолаху, але доўга не мог расплюшчыць павекі. Яны зліпаліся, у галаве гуло, і вельмі цягнула на сон. Нарэшце я перамог санлівасць.

З пакоя ў кухню праз квяцістую шырму цадзілася сонечнае святло. Па столі гулялі зіхатлівыя зайчыкі. Было ціха. Толькі побач пасопваў Віцька. Ён спаў, падклаўшы пад шчаку далонь. Мне трэба было ісці, але я не ведаў, ці добра пайсці не развітаўшыся. Асцярожна, каб не разбудзіць Віцьку, адзеўся і паглядзеў за шырму. У пакоі на крэсле ў адной сарочцы сядзела Наташка, нацягвала панчохі. Яна прыклала



палец да вуснаў, каб я маўчаў. Я сарамліва адступіў за шырму. Не ведаў, як быць далей.

Неўзабаве Наташка выйшла на кухню. Пры сонечным святле яна здалася мне прыгажэйшай. Старыла яе толькі пухліна пад вачыма.

— Што, коцік, не спіцца? Мулка, відаць, спаць было. Звіні, канечне, што такая нездагадлівая.— Яна зарагатала.— Даспіш яшчэ, коцік,— сказала яна і выбегла.

Я стаяў, уражаны яе словамі. Было вельмі сорамна. Прачнуўся Віцька.

— Спі яшчэ,— параіў ён і ўткнуў нос у падушку.

— Пайду ўжо,— адказаў я.

— Тады пачакай і я з табой. Днём дасплю...

Мы выйшлі з хаты на прастор вуліцы, і абодва шчасліва ўздыхнулі.

## 2

Было яшчэ вельмі рана. Шырокая нямошчаная вуліца ўзбягала на пагорак і недзе хавалася за ім. Ад густых прысадаў на жоўты пясок, прыбіты расой, падалі на яе густыя цені. У засені было халаднавата. Віцька пацепваўся, стараўся як мага глыбей засунуць у кішэні рукі.

Тут амаль усюды стаялі прыватныя дамы, абнесеныя высокімі платамі. Праз плот на вуліцу звешвалася голле, ужо абцяжаранае пладамі. У садах стаялі буданы і вялізныя, злыя сабакі-ваўкадавы пільна сцераглі садавіну ад такіх, як Віцька, хлапчукоў.

У агародзе на другім баку вуліцы варушылася жанчына: цягала з град доўгую сінявату рэдзьку і акуратна складвала на двухколку. Калі мы прыпыніліся, яна падняла галаву, падазрона паглядзела на нас і зноў урупілася ў працу.

— Гэта татарка Зарына,— зашаптаў Віцька.— Страх якая багатая!.. А скупая... Хоць памры — яблыка не дасць. І ўсю ноч не спіць. Хлопцы да яе саду ніяк не дабяруцца... Цётка Зарына,— паклікаў ён,— пачастуйце рэдзькай...

— Ідзі, ідзі,— закрычала татарка,— я цябе пачастую. Вось зараз сабаку з ланцуга спушчу.

— Каму вы, цётка, стараецеся?..— не сунімаўся Віцька.

— Ідзі, ідзі, ведаю я вас. Султан, цуй іх, дзе ты, каб здох...

Шэры вялізны сабака, загрымеўшы ланцугом, стаў лапамі на нізкі плот, разявіў чорную пашчу, люта захрыпеў.

Мы пайшлі, азіраючыся, бо баяліся, што сярдзітая татарка спусціць з ланцуга ваўкадава. Нейкі час ішлі моўчкі. Я думаў над тым, што вось і ў горадзе, пад самым бокам новых заводаў, туліцца старое, нікчэмнае жыццё. Мне было брыдка, што яшчэ жывуць такія людзі, і шкада іх. Гэтая цётка Зарына ўсё жыццё трымаецца за свой гародчык, корпаецца на ім, як крот у нары, і не бачыць нічога: ні хараства сонечнай раніцы, ні новага горада, які наступае на яе хату, ні прыгажосці дрэў, што дораць ёй садавіну. На ўсё яна глядзіць прагнымі вачыма, ва ўсім бачыць адну карысць, выгаду, грошы. Чаму людзі неахвотна адмаўляюцца ад сваёй уласнасці? Хіба не зразумела ім, што жыць без яе спакайней і радасней?..

— Куды мы пойдзем? — перапыніў мае думкі Віцька.— Давай спачатку пакупаемся на возеры, а потым на дзіцячую чыгунку сходзім. Ты, мусіць, не бачыў яе.

Я згадзіўся. Мне было ўсё роўна куды ісці. Вядзі мяне, Віцька, куды хочаш, абы далей ад гэтых ціхіх хат пад шатамі садоў...

На возеры нікагусенькі. На тым баку ля прычала выстраіліся сінія, чырвоныя, белыя лодкі. На флагштоку трапеча марскі флаг, і ў празрыстай вадзе добра відаць яго адбітак. Мы распрануліся і адзін за адным кінуліся ў возера.

Вада яшчэ халодная. Яна апякае, як крапіва, калі нечакана ўпадзеш у яе. Але цела хутка прызвычайваецца. Хораша!..

Мы плывём на сажонкі, ныраем, плывём на спіне, паказваем адзін аднаму свой спрыт. Недзе ў далечыні лапоча матор. Неўзабаве на возеры паяўляецца маторка. На ёй на ўвесь рост стаіць чалавек у паласатай майцы і нешта крычыць. Але мы не звяртаем на яго ўвагі. Крычы сабе...

Лодка крута разварочваецца. Цяпер я бачу, што чалавек на ёй — хлопец маіх гадоў. І ніякай майкі на ім няма. Дзіва ды й годзе! Проста хлопец загарэў неяк дзіўна, паласа чорная, паласа — белая.

— А ну, вылазь! — крычыць ён.— Чаму за буйкі заплываеце? Хто адказваць будзе, калі ўтопіцеся?

— Коля, мы ўмеем плаваць,— кажа Віцька, і я разумею, што хлопцы гэтыя даўно знаёмыя. Але Коля робіць выгляд, што Віцька яму чужы.

— Плыві назад да берагу, а то аштрафую...

Мы вымушаны адступаць. Лодка чэрціць вакол нас кругі. Пад яе канвоем мы плывём да берагу. Вылазім. Віцька злуе.

— Чаго ты фарсіш? Думаеш, спалохаліся? Сам дык усюды плаваеш.

— Я магу. Мне дазволена,— ганарыста кажа Коля.

— А чаму нам нельга? — пытаюся я.

— Бо вы салака несалёная. І наогул мне часу няма з вамі вадзіцца.

Ён хоча павярнуць лодку, але Віцька спыняе яго.

— Коля, пакатай нас.

— Шчасце вялікае вас катаць.

— Знаеш, Коля, гэта Іван Сітоў. Ён у інстытут не паступіў. Пакатай, Коля...

— Ну, добра, сядайце. Толькі хутчэй.

Мы залазім у лодку, Віцька прыладжваецца на карме, дзе чырванее новенькі матор.

— Коля, дай я пакірую?

Коля спачатку паказвае поўную непрыступнасць. Потым мякчэе, і вось ужо Віцька вядзе па возеры маторку. Цяністы востраў і дальні парк вяртаюць нам гулкі пошчак. Ранішні ветрык працінае наскрозь цела. Холадна, але вельмі ж хораша. Можа і дарэмна я не паслухаў тады Стася? Махнулі б у Адэсу, уладзіліся б там на якую-небудзь пасудзіну, надзелі б сапраўдныя марскія цяльняшкі... Любата!.. Чалавеку, мабыць, трэба быць смялейшым у жыцці. Чаго трымацца за сваю хату, за свой гародчык? Вунь яна якая наша краіна! Ездзі па ёй толькі, і ўсюды безліч цікавых спраў...

Я шкадую, што нарадзіўся крыху позна. Каб хоць на якіх пяцьшэсць гадоў раней. Тады разам з усімі паехаў бы на цаліну ці на Брацкую ГЭС. А так спазніўся, і цяпер, во, пазнюся. Так без мяне ўсё пабудуюць, усе рэкі перагародзяць плацінамі. Трэба спяшацца жыць, каб ніводзін дзень не прападаў дарэмна.

І вось тут я лаўлю сябе на слове. Дык чаго ж я блукаю па горадзе? Чаго не еду дамоў, а, як той дармаед, глумлю дзень за днём? Спачатку дамоў, а пасля ўжо трэба рынуцца ў працу...

Над возерам носяцца тры чайкі і чамусьці крычаць. Мусіць, і яны дамаўляюцца аб новых падарожжах. Ды і што ім рабіць на гэтым возеры, дзе заўсёды шмат людзей?

Лодка тым часам агінае востраў — купку пераплеценых між сабою дрэў — і крута вырульвае на рэчку. За ёй поле злева і апошнія тры будыніны горада — направа. Тут пачынаецца вёска. Удалечыні на лузе чарада рабых кароў як бы наступае на нас разгорнутым строем. Статак вартуюць дзве жанчыны ў квяцістых хустках. Яны вітаюць нас, махаючы над галавой рукамі. На мяне павявае чымсьці дарагім і вельмі знаёмым. І цяпер я ўжо цвёрда вырашаю, што няма чаго мне блукаць па горадзе, што трэба ехаць дамоў.

Накрэніўшыся, лодка зразае яшчэ адзін вугал і цяпер шыбуе насустрач жанчынам, што стаяць на самым беразе невялічкай затокі. І зусім гэта не жанчыны, а дзяўчаты, маладзенькія яшчэ і, здаецца, вельмі прыгожыя.

Гуллівы вятрыска трэпле падалы іх спаднічак, і яны прытрымліваюць іх рукой. Сонца асвятляе іх твары, і мне здаецца, што смяюцца не дзяўчаты, а ранішнія сонечныя праменні. Усё адразу знікае: ноч, Наташка, гадзіннік з бутэлькай замест гіры, татарка Зарына, сонная вуліца — перада мной таямнічая зямля, дзе цудоўныя дзяўчаты на акіянскім беразе, што набліжаецца з зайздроснай хуткасцю.

Ткнуўшыся ў бераг, лодка спыняе свой разбег, і я першы саскокваю на зямлю. І адразу губляюся, бо ўсмешкі дзяўчат належаць не мне, а камусьці іншаму. Азіраюся. Коля глушыць матор, нетаропка сходзіць на бераг, падцягвае лодку, каб зачапіла носам зямлю, і толькі пасля гэтага падае дзяўчатам руку. У Колі сарамлівы, нават збянтэжаны твар, і толькі ў вачах бездань пяшчоты.

— Табе і рукі не варта падаваць,— кажа чарнявая,— бо вунь Зоська зусім учора змаркоцілася, цябе чакаючы.

Коля яшчэ больш бянтэжыцца. На маё здзіўленне, бянтэжыцца і чарнявая. Я пачынаю здагадвацца, што калі і маркоціўся хто, дык сама гэтая чарнявая.

— Няхай сумуе, а мне што...— панурыўшыся, гаворыць Коля.— Каб мог, дык прыйшоў бы. У нас вунь матрос захварэў, дык я ўдзень за яго працаваў, а ў ноч за дзеда вахту нёс.

— Кінь ты, Валька,— кажа другая дзяўчына, крыху падобная на Шуру. — Ты яе, Коля, не слухай. Яна сама сумавала.

— Ах ты, ябеда, Ленка!

Віцька корпаецца ў лодцы, не звяртаючы на нас ніякай увагі. Дзяўчаты дастаюць з плашчоў, што ляжаць непадалёк, яблыкі і першага частуюць Віцьку. Ён бярэ яблык і хавае ў кішэню. А сам зноў нешта робіць у лодцы ці, можа, робіць выгляд, што робіць...

Размова неяк не ладзіцца. Я адчуваю сябе тут лішнім. Чую, як Лена ціха пытае ў Колі, хто я такі. Коля адказвае проста: Віцькаў знаёмы. Гэтага вельмі мала для характарыстыкі чалавека. Мне б цяпер улезці ў размову, але не хапае смеласці.

Дзяўчаты і Коля перакідваюцца нейкімі толькі ім зразумелымі словамі. Каб не перашкаджаць, я залажу ў лодку. Віцька бурчыць, як заўсёды, па-старэчаму разважліва.

— Прыліп ужо. Без гэтай Валькі жыць не можа.

Віцька яўна раўнуе Колю. Каб не дзяўчаты, дык мы імчалі б па люстранай вадзе, а так — загарай тут...

Трое нечага шэпчуцца. Дзяўчаты адмахваюцца ад Коліных прапаноў, а ён усе больш настойліва ўпрошвае іх. Потым дзяўчаты садзяцца ў лодку. Яна ледзьве ўмяшчае нас, пецярых. Коля разварочвае лодку,

і мы ляцім назад паўз астравок, туды, дзе відаць пляж з парасонамі грыбкоў, сінімі павільёнамі «Марожанае» і брызентавымі палаткамі «Газіраваная вада».

Віцька пасопвае, седзячы на носе, і стараецца не глядзець у наш бок. Дзяўчаты на крутых паваротах ускрыкваюць, а Коля знарок кладзе то на адзін, то на другі бок нашу перагружаную лодку і радасна смяецца.

— Ой, Колечка, хопіць ужо...— просіцца Валя.— Каровы нашы яшчэ ў шкоду ўб'юцца.

Коля глухі да яе просьбаў. Ён бясконца рады, што можа пракаціць яе, паказаць свой матроскі спрыт. Лена толькі ўсміхаецца. Потым яна пытае ў мяне:

— А вы даўно Віцьку ведаеце?

— Не, з учарашняга,— адказваю я і, раптам асмялеўшы, пачынаю расказваць пра сябе, пра тое, як не паступіў на філалагічны факультэт.

Лена здзіўляецца.

— Як жа мы з вамі не сустракаліся? Я таксама сёлета паступала. Толькі на біялагічны. Вы ў якім патоку былі?

— У другім.

— І я. Ой, як жа мы не сустракаліся?

Лена шчыра шкадуе, што мы не сустрэліся раней. Гэта зближае нас, хоць Лена ўсё ж паступіла, а я астаўся за конкурсам.

— Трэба было на матэматычны ісці,— кажа яна.— Хлопцам добра даецца матэматыка, не тое, што нам.

— Не, Лена, я толькі на літаратурны пайду,— адказваю я.

— То можа вы пісьменнік?

Я бянтэжуся. Мне сорамна прызнацца, што пішу вершы і іх нават друкавалі ў піянерскай газеце. А што, калі Лена чытала мае вершы? Чаму так сорамна прызнацца, што ты друкаваўся, што тваё прозвішча, можа, і не такое ўжо невядомае?

На шчасце, лодка зноў прыстае да берагу. Мне не трэба адказваць, бо Коля гаворыць дзяўчатам:

— Вы мяне крыху пачакайце, я зараз.

Дзяўчаты ўтрымліваюць Колю. Але ён непахісны. А тут яшчэ Віцька бурчыць, ужо трымаючы за павадок лодку:

— Ну, чаго залемантавалі? Цэлы вашы каровы будуць. Не разумееце хіба, што чалавек пачаставаць вас хоча.

Коля ўжо ідзе па пясчаным беразе, шырока стаўляючы ногі, быццам пад ім не зямля, а палуба марскога карабля. Вось тады зрываюся з месца і я. Мне хочацца быць далікатным і гасцінным, як і Коля. Хіба ў мяне няма грошай?..

У сінім павільёне, над якім смешны белы мядзведзь трымае ў лапах эскімо, яшчэ нікога няма. Нават трыногія столікі згружаны ў адзін кут, а лёгкія рознакаляровыя зэдлікі — у другі. Але Коля не губляецца. Адразу відаць, што тут ён свой чалавек. Ён ідзе за высокі прылавак, адтуль у нізенькія дзверы. Там у цемнаватым пакойчыку дзябёлая ў белым халаце жанчына парадкуе скрыні. Навалам ляжаць доўгія брускі штучнага лёду і дымяцца. Другая жанчына, крыху маладзейшая, стаіць у дзвярах рукі ў бокі.

— А-а-а, Коля, добры дзень,— кажа яна.— Ну, што, зноў па марожанае прыйшоў? Калі ты ўжо нас з ёй пазнаёміш?

У Колі чырванеюць вушы. Гэта добра відаць насупраць святла, што падае з дзвярэй. Ён нешта мармыча, а паўнаватая жанчына разгінае стан і пачынае сварыцца на маладзейшую:



— Ну, чаго ты да яго вяжашся? От ужо языкатая. Не за твае ж грошы ён частуе.

— Ды я нічога,— апраўдваецца тая.— Ты, Колечка, не крыўдуй. Я па-харошаму запытала. Любіць не сорамна, калі па-харошаму ўсё. Якое табе марожанае даць? Свежанькае ўсё. Толькі прывезлі.

Коля бразгоча дробяззю.

— Эскімо, цётка Ксаня.

— Колечка, нямашака. Малочнае толькі і ленінградскае. Ленінградскае — смачнае з ізюмам. Колькі табе?

Коля выцягвае руку з кішэні, і тады я бачу, што на далоні ў яго адны медзякі.

— Пачакай,— кажу я.— Я куплю. У мяне грошы ёсць, а ты свае схавай. Дайце нам дзесяць штук.

Коля хоча запярэчыць, потым совае мне свае медзякі. Я адводжу ягоную руку. Якія там разлікі! Хіба мы не сябры? Так і трэба выручаць адзін аднаго заўсёды.

Мяне апаноўвае прага транжырыць грошы. Пакуль прадаўшчыца загортвае ў кардонку дзесяць пачак марожанага, пакуль абкладае яго лёдам, я рашаюся яшчэ на адну ахвяру: бяру тры бутэлькі «кока-мока». Я забраў бы ўвесь павільён, каб меў грошы, або каб тут было яшчэ што акрамя марожанага.

Нагружаныя, мы вяртаемся на лодку. Дзяўчаты сварацца на Колю. Яны і не падазраюць, што піруюць за мой кошт. І няхай! Самае галоўнае — рабіць людзям прыемнае. Мне падзякі не трэба. І вось мы імчымся назад адной сям'ёй. Нават Віцька больш не сапе ад злосці. Хораша!

Ля статка паходжваюць ужо Валін бацька і малодшы Ленчын брат, якіх дзяўчаты падмянялі ўранку. Валін бацька ківае галавой і знарок пагрозліва кажа Колю:

— Пачакай, матрос, от станеш зяцем, я табе тады пакажу, як дзевак ад работы забіраць.

— Ну што вы, тата,— заступаецца за Колю Валя.— Мы зусім недалёка былі. Толькі вось гэты востраў абагнулі.

— А марожанае дзе купілі? Ці можа яно на востраве за ноч вырасла?..

Дзяўчаты і Коля бянтэжацца. Затое я адчуваю сябе героем.

— Дзядзька,— кажу я,— вы ўжо на нас не сварыцеся. Гэта ўсё я вінаваты. Угаварыў паступленне Лены на вучобу адзначыць.

— Ды я нічога... Ну, дзяўчаткі, а цяпер марш дамоў. Там вас маці чакае.

Потым мы ўтрох едзем на дзіцячую чыгунку. Круцімся на каруселі ў парку. Снедаем і абедаем на адкрытай верандзе ў кафэ. Частую я, нібы той шчодры казачны прынц.

Расстаемся мы пад вечар, стомленыя, але задаволеныя сустрэчай, знаёмствам, усім тым цудоўным і добрым, што было сённяшнім днём. Пасля развітання настае тое самотнае пачуццё адзіноты, якое бывае, калі страчваеш, і можа назаўсёды, добрых сяброў. Але недзе ў грудзях яшчэ трымціць радасць, і ты адчуваеш, што тое, што было, застанецца назаўсёды ў тваёй душы, як дарагі скарб.

Я праводжу позіркам трамвай, у якім паехалі мае сябры. Нехта, мабыць Віцька, махае мне на развітанне рукой аж да тае пары, пакуль трамвай не зварочвае за вугал вялізнага дома.

Цяпер трэба збірацца ў дарогу і мне. Пара!..

## 3

На трэцім пуці стаіць цягнік, якім я магу даехаць да дому. Ля ва-

гонаў тоўпяцца людзі. Пасажыраў у гэты час багата. Едуць навучэнцы, настаўнікі, выкладчыкі. Чорны вялізны паравоз час ад часу пыхкае парай, усё роўна як дзед Гаўрыла люлькай. Мітусня такая, што аж гудзе ў галаве. Але яна мне мала памагае. Ля кожнага вагона стаяць кандуктары і прыдзірліва правяраюць білеты.

Я разы чатыры прайшоўся ля цягніка, але так і не здолеў, ці можа не асмеліўся, праскочыць у вагон. Гэты цягнік — мой адзіны ратунак. Не сяду ў яго, тады хоць ваўком вый.

Ля аднаго з вагонаў два матросы забаўляюць маладзенькую кандуктарку. Другога кандуктара не відаць. Я спыняюся непадалёк, задзіраю галаву ўгору, быццам мне вельмі цікава глядзець на руды вакзальны дах. Але ж трэба прыкідвацца, што я не проста «заяц», а звычайны, людскі пасажыр, якому трохі сумнавата чакаць адпраўкі цягніка.

Матросы ўвесь час нешта гавораць і смяюцца. І кандуктарка смяецца. Я прыслухоўваюся, але нічога не разумею. Проста хлопцам няма чаго рабіць, і яны выскаляюцца.

Паравоз далікатна свішча і памалу кратае вагоны.

— Садзіцеся, хлопцы,— кажа праваднiца,— а то застаняцеся...

— Марская служба не адстане,— адказваюць ёй матросы і па аднаму ўскокваюць на падножкі.

Я іду побач і працягваю рукі, каб ухапіцца за поручні. Колы бяруць разбег. І я прыбаўляю крок. Цяпер або ніколі...

— Давай руку,— крычыць матрос і спрытна хапае мяне пад руку.

— А білет ці ёсць у яго? — сумняваецца праваднiца.

— Ёсць, сястрыца, ёсць,— адказвае матрос і ўпіхвае мяне ў тамбур.

І вось я еду, прытаіўшыся ў купэ. За акном цёмная жніўеньская ноч. Калі прыкладзешся тварам да шкла, дык добра відаць яркія, яркія зоркі. На двары, мусіць, холадна. А тут цёпла. Мяне турбуе толькі адно: раптам пойдзе кантроль? Матросы, вядома, не здагадваюцца, што ў мяне няма білета. А я ніколі ў гэтым ім не прызнаюся. Можа я не так ужо баюся кантралёраў, як сораму, калі выявяць, што ў мяне няма білета. Што тады падумаюць хлопцы?

Я заплюшчваю вочы, бачу возера, лодку, Віцьку і раптам прахопліваюся ад нягучнага голасу:

— Грамадзяне пасажыры, прад'явіце білеты...

Ускокваю, як абвараны. Ніяк не магу зразумець, з якога канца вагона даляцеў голас. Потым бачу вусатага дзядзьку, які прабівае кампосцерам білеты. Спачатку асцярожна, потым зусім не асцерагаючыся, пачынаю выбірацца з вагона.

Адступаць давядзецца ў хвост цягніка. Што будзе са мной, калі дайду да апошняга вагона?.. Хай ужо ловяць там.

Я адступаю, не спяшаючыся, здаю адзін вагон за другім. Мне здаецца, што цягніку няма канца. Каторы раз я пераходжу чыгунныя масткі, што злучаюць вагон з вагонам. На мастках ірве вецер, па-ваўчынаму падсвістае. Агідна ляскаюць колы і вагонныя буферы: ах-ах-бац, ах-ах-бац,— папаўся...

Мінуўшы пераход, я не спыняюся ў вагоне. Тут мяне, не паспееш азірнуцца, схопяць. Я стаю ў тамбуры і праз шкляныя дзверы назіраю, калі паявяцца кантралёры. Толькі тады, як вусаты чыгуначнік даходзіць да сярэдзіны вагона, я іду ў наступны.

Вось вусач зноў паявіўся на супрацьлеглым баку. Я выбягаю на пляцоўку, аглохнуўшы ад тахкання колаў. На хвіліну спыняюся, потым рашуча адчыняю цяжкія, каваныя дзверы, каб перайсці ў наступны вагон.

Спачатку не магу зразумець, куды я трапіў. З-пад маіх ног выры-



ваецца чорная зямля з двума палоскамі рэек і знікае ў ночы. З бакоў бягуць прысады, нібы прывіды ў зачараваным царстве. Спіной да мяне, аблакаціўшыся на нізкі бар'ерчык, стаіць затуленая ў плашч постаць. Яна паволі паварочваецца.

— Чаго табе тут?

Я маўчу, нялоўка пераступаю з нагі на нагу. Чырвоны ліхтарык цьмяна асвятляе чалавека, ад таго ягоны твар выдае страшны.

— Кантралёр там...— нясмела адказваю я.

— А-а-а, Чыгунок. Гэты зловіць.

Я чую, як з грукатам адчыняюцца дзверы вагона, як натужна, захліпнуўшыся ад пылу, кашляе кантралёр. Я адступаю ў куток тармазной пляцоўкі і прысядаю. Мабыць, ад страху. У дзвярах паварочваецца ручка. Яна варушыцца, як галава гадзюкі. Дзядзька ў плашчы не спяшаючыся падыходзіць да мяне, так што я хаваюся за шырокімі поламі яго плашча. Сяджу на кукішках і не дыхаю. Ад плашча пахне брызентам і мазутам. Але гэты пах мне здаваўся найлепшым у свеце.

— Што, Панас, газуем? — пачуўся вясёлы голас кантралёра.

— Газуем, таварыш Чыгунок. Усё жыццё газуем.

— На хвасце, гы-гы-гы! На хвасце — проста.

— І хвост і галава — адно цела. Так што, гледзячы якая галава...

— Хвост і ёсць хвост. А мяне, брат, бабы чаркай пачаставалі. От, я табе скажу, баба дык баба!.. Аж мяне старога завідкі бяруць. А дурню дасталася. Філатава знаеш? Дык яго жонка.

На нейкі час усталёўваецца цішыня. Толькі ляскаюць колы, ды пыхкае, сапе паравоз. Мой збаўца маўчыць. Цікава, пра што ён думае? Якія адносіны ў гэтых людзей? Дзіўна, але ў крытычныя хвіліны мяне заўсёды ахопліваюць самыя неверагодныя думкі. Я пачынаю дакопвацца да сутнасці і ніяк не магу пасля зразумець, навошта мне гэта патрэбна. Няўжо такое бывае з усімі людзьмі?

— Неба якое зорнае,— дзівіцца кантралёр.

— Восень,— адказвае яму кандуктар.

— Ну, я пайшоў. Ты не думай, што я правяраў, ці не вязеш якога зайца. Па дружбе зайшоў.

— А я і не думаю. Думаць табе даводзіцца. Я на хвасце,— кандуктар яўна здзекуецца, але кантралёр або не хоча, або і сапраўды не разумее здзеклівага тону.

Ён яшчэ крыху затрымліваецца, потым паважна адчыняе дзверы і знікае.

— Ну, як, перадрыжаў, мабыць? Знайшоў бы цябе Чыгунок, дык дасталося б і мне на арэхі. А ты чаму без білета?..

Мы стаялі, абапёршыся на бар'ерчык і паціху размаўлялі. Я расказваў пра ўсё, што адбылося са мной. Дзядзька Панас слухаў уважліва і ўвесь час курыў. Вецер падхопліваў іскры, і яны, не дагнаўшы вагон, тухлі ў далечыні.

— Ага, брат, бываюць жа такія людзі, што ўласных дзяцей выракаюцца,— разважліва кажа дзядзька, выслухаўшы маё апавяданне пра Людмілу і Віцьку,— а дзеці — бацькоў. Ды яно было б і лепш, каб яна каму гэтага Віцьку аддала б. Можа харошы чалавек выйшаў бы. А харошы чалавек даражэй золата. Харошымі ўсе людзі павінны быць. От у сям'і, скажам, калі ўсе дружныя, дык як радасна жывецца, весела. А як толькі адзін нягодны завёўся, дык і ўсёй сям'і свет нямілы робіцца. І няхай там дастатак у хаце, а шчасця няма. І так яно ўсюды.

Дзядзька Панас змоўк, дакурыў папяросу, кінуў на вецер. Папяроса ўдарылася аб чыгуначнае палатно, разляцелася вогненнымі пырскамі.

— А чаму, дзядзька, скажыце вы мне, благіх людзей шмат. Няхай бы ўсе харошыя былі, каб, як вы кажаце, весялей жылося. Дык жа не, благіх шмат.

— Сысунок ты і больш нічога,— перабіў мяне Панас.— Шмат кажаш. А таго не бачыш, што іх ўсё меней ды меней сустракаеш.

— Якое там меней,— запярэчыў я.— Не паспееш азірнуцца, як абавязкова сустрэнешся з такім, што і сам не рады.

— Я і кажу, што малады ты, вопыту ў цябе няма, ды і жыцця не бачыў. Вось я табе раскажу пра адзін жыцейскі выпадак, а ты падумай, што і да чаго. Жыла некалі ў нашай вёсцы баба, Зубіхай звалі. Звычайная баба. Можа трохі неахайная, але гаспадарка яе спраўная была. Каровы, свінні, авечкі, куры — усё, адным словам, як трэба. Іх хата вялікая, прасторная, на пяць акон. За хатай нагляд патрэбен. А калі там простай бабе за чысцінёй глядзець, калі гаспадарка немалая? Ды баба і прывыкла да бруду, быццам так і трэба. Ёй нават здавалася, што ў хаце ўтульна. А тут раптам уздумаў сын жаніцца. Вяселле прызначылі. Хутка і маладую трэба ў хату прыводзіць.

Паглядзела Зубіха на вокны, а на іх копаці — бы на патэльні спадыспаду. Свету божага не відаць. «Дай,— думае Зубіха,— вокны пратру, усё святлей у хаце будзе, усё нявестку лепей разгледзець можна. Узяла анучку, працёрла шыбы да бляску. Адышлася і вохнула. Дасюль копаць толькі на шыбах была відаць, а цяпер і на падаконніку, і на рамах, і на ліштвах. Зноў узялася за анучу. Вымыла, выскрабла рамы, адышлася ў парог і за галаву ўхапілася: падлога, як зямля чорная. А раней жа гэтага не відаць было. Падаткнула спадніцу за пояс і ўзялася падлогу скрэбці. Бывала, пройдзе з анучай і здаецца, што падлога чыстая, а тут дзярэ, дзярэ дошкі, а яны ўсё брудныя, бо гразь глыбока ўелася ў іх. Вымыла ўрэшце, разагнула спіну: хвала богу, цяпер і нявестку можна сустракаць, дык так і села на лаўку. Здалося ёй, што печка неяк нахабна вылезла на сярэдзіну хаты, як жабрак у рызманах — закапцелая, чорная, з абабітай пабелкай. Давялося печку бяліць. А пасля печкі — столь мыць, сцены скрэбці, падпечак чысціць, паграбец пад падлогай да ладу прыводзіць, каб духу смярдзючага не было. Во як яно здарылася... Чым больш святла ў хаце, тым відней бруд. А каб вымыць бруд, што здаўна заведзены быў, дык і нявестцы Зубішынай давялося яшчэ нямала папрацаваць.

Поезд весела бег па рэйках. Святлела неба, і недзе там, куды бег паравоз, разгараўся ўжо новы дзень. Дзядзька Панас хітравата паглядзеў на мяне, сказаў:

— Чыгунок ужо спіць. Так што не бойся. Ды глядзі, другі раз без білета не ездзі. З білетам спакайней. Законна.

# КАХАННЕ

## I

Так, відаць, бывае з кожным: адлучышся на якіх тры дні з дому і ўжо думаеш, што там многае змянілася. А вернешся, і застаеш усё такім, як было, быццам за гэтыя дні час спыніў свой бег.

Змяркалася, калі я ўвайшоў у роднае Зарэчча. Вячэрняя зорка ўжо ярка гарэла над небакраем. К ночы ўзнімаўся вецер, і ад яго парывістых павеваў прыглушана і сярдзіта шумелі дрэвы, абтрасаючы на зямлю першыя пажоўклыя лісты.



Вуліца, як і заўсёды ў гэты час, пуставала. Людзі тупалі недзе па дварах, дарабляючы незакончаную за дзень справу. Сям-там ужо запальваліся агні, нияркія, бо няма чаго лішне глуміць газу: працадзіць малако можна і ў змроку.

Я знарок прыйшоў дамоў прыцемкам. Не хацелася трапляць людзям на вочы, слухаць іх спачуванні. І без таго на душы было пагана.

Але як я не асцерагаўся, сустрэча адбылася. Ля Восіпавага двара нехта вынырнуў з весніц, потырч паляцеў мне пад ногі. Упаўшы на карачкі, чалавек спрабаваў падняцца, але гарэлка не на жарт прыгінала яго да зямлі. Давялося памагчы.

— А я, слухай сюды, сам,— запярэчыў чалавек, і я адразу пазнаў Сцяпана Макуху.

Ён быў п'яны. Я ледзьве падняў яго, абапёр на плот. Сцяпан раскірэчыў ногі, учапіўся рукамі за штакеціны. Стаяў, звесіўшы галаву, і нешта бурчаў, відаць, кагосьці лаяў.

— Хадземце, дзядзька, правяду вас,— сказаў я Сцяпану.

— А ты хто будзеш? — Сцяпан выцягнуў шыю, каб разгледзець мяне лепей, адарваўся ад плота і зноў грымнуў аб зямлю. Ужо лежачы, зноў запытаўся: — Хто ты і якога ліха табе трэба?

— Іван я. Дар'і Сітовай. Хадзем, дзядзька,— гаварыў я, падымаючы Сцяпана.

— Іван? Сукін сын ты. Ну, вядзі... Люблю я цябе.

Сцяпан прыўзняўся на ногі, абхапіў мяне за шыю, хацеў, мабыць, пацалаваць, ды зноў не ўстаяў на нагах. Я ледзьве ўтрымаў яго.

Абняўшыся, мы папляліся па вуліцы. Сцяпан чапляўся нагамі, падаў, а падняўшыся, усчынаў гаворку.

— Начальства любіць трэба. Праўду я кажу ці не? А ў нас што? Маладзёж пайшла... Ні павагі, ні ўвагі. Праўду я кажу ці не? Злыдні вы, во хто... Пілі мы разам ці не? Пілі. Дык чаго ты мяне, слухай сюды, з хаты гоніш...

Я здагадаўся, што Восіпаў Хведар выгнаў Макуху з хаты, таму ён так і лаяўся, вылецеўшы з двара праз фортку. Не было што сказаць Сцяпану, і я маўчаў. Нейкі час і Сцяпан ішоў моўчкі. Потым з п'янай настойлівасцю зноў браўся за сваё...

— Не, ты мне скажы, чаму ён мяне гоніць? Мае ён права ці не?..

Мне хацелася пакінуць Макуху на вуліцы, але не хапала смеласці. Было горка і крыўдна. На ліха было падбіраць гэтага п'янчугу? Няхай бы ляжаў пад плотам. Дык не — пашкадаваў і цяпер, во, цягніся з ім, валачы на карку ды яшчэ слухай п'яныя трызненні.

Сцяпаніха даіла карову. Убачыўшы нас, яна выхапіла з дрывотні дручок, але замахнулася ім не на Сцяпана, а на мяне. Я аж утуліў галаву ў плечы. На шчасце, Сцяпаніха прызнала мяне.

— Авой, Яначка, ці ж гэта ты? Ледзьве цябе не перасвянціла. Думала гіцаль той, Цопа, з ім прывалокся. Гэта ж, во, спойвае чалавека, рады не магу даць... Скажы ты, не прызнала. Багаты будзеш... А ты чаго вылупіўся? — накінулася яна на Сцяпана, але не ўдарыла, а падхапіла яго пад пахі.— Ідзі ўжо, няшчасце маё горкае. Давядзе цябе гэтая гарэлка.

Я пастараўся знікнуць непрыкметна. Цяпер прыгода са Сцяпанам выдавала крыху смешнаватай. Так ужо вядзецца ў нас, у Зарэччы, што вінавацяць не вінаватага, а таго, хто на вочы трапіць. Вось і мне ледзьве не папала па галаве. Сцяпана ёй біць шкада — свой.

У нашай хаце ярка гарэла лямпа. Сляпучы пук святла выбіваўся

праз акно на панадворак, і ад яго росная трава выдавала вельмі зялёнай. Я мімаходзь зазірнуў у акно. Маці стаяла ля печы, падпёршы падбародак рукой. Здалося, што яна плача. Зрабілася брыдка. Чаму было не напісаць пісьма? Напэўна, маці турбавалася...

Знаёмыя прыступкі неяк жаласліва зарыпелі, калі я падымаўся па іх у сенцы. З дзвярэй дыхнула цёплым малаком і салёнымі гуркамі. На гарышчы буркнуў спрасонку голуб, быццам вітаўся. Сэрца страпянулася і балюча сціснулася. Дома!

На крэсле ля стала сядзеў Загурскі. Ён першы ўбачыў мяне і неяк мітусліва падняўся. А я дык зусім разгубіўся. З-за печы выбегла маці, заламала рукі і, як заўсёды, залемантавала, быццам здарылася нейкая бяда:

— А божачка мой, дзе ж ты прападаў? Во ўжо на пакуты мне дастаўся. З'ехаў і — ні слова. Перадумала ўсяго...

— Я казаў табе, што нідзе ён дзенецца,— неяк сурова вымавіў Загурскі і звярнуўся да мяне: — Маці вунь як перахвалявалася. Што ж ты?..

Выйшла, канечне, нядобра. А толькі і хвалявацца няма чаго. Хіба я маленькі?

— Чаго ж ты стаіш у парозе? — зноў накінулася на мяне маці, потым палагаднелым голасам дадала: — Ці еў жа што? Згатую чаго, бо не чакала ўжо.

Загурскі засабіраўся дамоў, але маці затрымала яго, ды ён не вельмі ўпарціўся. Ён настругаў трэсак. Маці расклала агонь на загнетцы, пачала смажыць сала. Усё неяк адразу ўвайшло ў сваё звычнае рэчышча.

— Ну, дык што, Янка, паступіў? — перабіў мае думкі Загурскі.

— Не паступіў,— азваўся я, думаючы над тым, што бачыў у горадзе, з кім сустракаўся ў гэтыя дні. Шмат што здалося мне пачварным, але больш людзей добрых, шчырых, і таму так хораша цяпер сядзець у сваёй хаце, не адчуваючы за сабой віны, што зрэзаўся на экзаменах. Праўда, сустрэча са Сцяпанам Макухай троху і расчаравала. Гэта лёгка, седзячы на лодцы, уяўляць сябе героем. А вось паспрабуй перайнач гэтага Макуху... У нашым калгасе мяняліся старшыні, а брыгадзіры аставаліся, і ўсё ідзе як ішло.

— Канечне, прыкра,— Загурскі прыкурыў ад лямпы, прысеў супроць мяне, прадоўжыў: — а галоўнае — крыўдна: мог бы паступіць. Бедаваць няма чаго. Малады яшчэ. Ды і ў калгасе папрацаваць не шкодзіць. Смялейшы будзеш.

Маці падала голас ад печы:

— Не ўжо, як там ні будзе, а няхай у горад ідзе,— яна абапёрлася рукой аб загнетку. Другой варочала скрыдлікі сала, каб не падгарэла, і нейкім чужым, незнаёмым голасам расказвала нам, як баялася ўпачатку аставацца адна ў вёсцы, думала ці справіцца, а цяпер пабачыла, што жыць і адной можна, бо я не вельмі вялікая ёй падмога. Потым яна ўсміхнулася сваім думкам, паглядзела на мяне хітравата: — Дзеўкі вунь кожны дзень прыбягалі. Ні сораму, ні сумлення. Бывала, калі пройдзеш з хлопцам, дык баішся на вочы яго бацькам трапіць. Вот і падумала я: таго і глядзі абкруцяць яны хлопца. Малады, неразумны яшчэ, трапіць да якой, дык роднай хаты не ўзлюбіш. З цяперашняй нявесткай сам знаеш, якое ўдовіна жыццё. Ты ёй слова, яна табе сто...

Маці больш звярталася да Загурскага, быццам не пра мяне вяла гаворку. Платон зацягваўся дымам, барабаніў пальцамі па стале, слухаў моўчкі. Было не зразумець — згаджаецца ён з маці ці не.

У кутку за печкай азваўся цвыркун. Яго падтрымаў другі. На патэльні гучна стрэліла сала. Маці адхінулася, выцерла твар, пачала біць яйкі аб край патэльні. Яйкі сквірчэлі, патрэсквалі. Пад столлю сонна гулі мухі. Некалькі камароў кружылася перад лямпай, усё нацэльваліся сесці на шкло, апякаліся і цененька звінелі, быццам скардзіліся. І зноў мне зрабілася моташна ад гэтай утульнасці. Хата неяк паменшала, а столь апусцілася ніжэй, прыціскала да падлогі.

Загурскі, папярхнуўшыся дымам, доўга кашляў. Было відаць, як высокі каўнерык кіцеля моцна ўразаецца ў шыю і на ёй уздуваюцца сінявыя ад натугі вены.

— Мы з табой, Даша, горшыя ад таго не сталі, што некалі пасвілі кароў,— адкашляўшыся, пачаў ён.— Зусім не важна, кім чалавек працуе. А які ён — во што важна. Я вунь увесь свет аб'ехаў, а зноў у Зарэчча вярнуўся. Пад старасць. І пайшоў адсюль не малады. А яму чаго ў такія гады ў свет ісці? Гора яго адсюль гоніць, ці што?

Маці прынесла патэльню, запрасіла Загурскага да стала і толькі пасля гэтага адказала:

— Табе што. У цябе пенсія. А ён што тут заробіць?

— Будзе працаваць, дык заробіць. Не ад каго іншага, як ад нас заробкі залежаць.

— Што ты гаворыш, Платон? Каб жа ад нас толькі. А то вунь яшчэ ад Хведарыхі, Лепятухі, Восіпа. Ды і брыгадзіры нешта значаць. Табе можна працаваць і за так. А нам з якой патрэбы?

— З такімі брыгадзірамі, як нашы,— азваўся я,— не вельмі заробіш. Вунь толькі што адвёў Макуху дамоў. Як зямля п'яны...

Загурскі неяк порстка павярнуўся да мяне і ўжо не лагодна, як размаўляў з маці, а жорстка і нават злосна загаварыў:

— Некалі мы не так разважалі. Да ўсяго цягнуліся, усё на свае плечы бралі. Я ў твае гады ў гэтым самым Зарэччы калгас ствараў. Не чакаў, пакуль гэта нехта зробіць. Сам! А вы чаго чакаеце? Каб нам у свой час такую асвету — мы чорт ведама як працавалі б. Не, брат, утрыманцам жыць — апошняя справа.

Я запярэчыў:

— Вам прасцей было...

— Прасцей, кажаш? — перабіў Загурскі.— Не, брат, складаней. Класавая барацьба — гэта табе не жартачкі... А тут Макуха нейкі.

— Хопіць вам,— сказала маці.— Чаго дарэмна спрачацца. Слава богу, і пры Макуху жывём. Хто яе ведае, як яно было б, каб другі хто на яго месцы працаваў. Гэты хоць не прыціскае дужа.

Нейкі час вячэралі моўчкі. Я стараўся асэнсаваць усё, пра што гаварылі маці і Загурскі.

Я хутчэй спрачаўся ў думках з сабой, бо ўсё тое, пра што так горача гаварыў Загурскі, хвалявала мяне не першы дзень. Жыць і далей так, як мы жывём у Зарэччы, не выпадае. Камусьці трэба ўзяцца і моцна страсянуць нас, захапіць такой справай, якая не пакінула б раўнадушных.

Я адчуў, што не ведаю, як перайначыць парадкі ў нашай брыгадзе. Нас гэтаму не вучылі. За дзесяць гадоў мы навучыліся пісаць і чытаць, рашаць задачы і ставіць доследы па хіміі, рабіць шпакоўні і садзіць расаду на школьным агародзе. А як жа дамагчыся таго, каб уся брыгада працавала добра?

У галаве ўзнікалі ўрачыстыя словы.

Вы абавязаны змагацца...

Вам даны правы...

Будзьце настойлівыя і прынцыповыя...

Не цярпіце недахопаў...

— Як жа нам быць? — крыкнуў я і спалохана азірнуўся.

Відаць, я закрычаў у думках, бо Загурскі і маці па-ранейшаму паціху размаўлялі. Я прыслухаўся, спачатку не вельмі разумеючы, пра што яны гавораць.

— Кажу так, бо ведаю Даніліху, абярэ яна цябе, от паглядзіш,— гаварыла маці.

— Хопіць і мне і ёй...

— Дык я зноў пра сваё. Як сабе хочаш, а жаніцца трэба. Дзевак у нас вунь колькі. Кожная пойдзе.

— А мне, Даша, кожная не падыходзіць.

Загурскі глядзеў у парог, міма маці. І яна старалася не глядзець на яго. Толькі цяпер я заўважыў, што маці ў новай кофце. Валасы ў яе гладка прычасаны, а на лбе закручаны ў завіточкі. Усё гэта неяк насцярожыла мяне. Далей я ўважліва слухаў размову, стараўся адшукаць у іх словах пацверджанне маім здагадкам.

— Кожная, гэта толькі так гаворыцца,— ледзь зірнуўшы на Загурскага, адказала маці.— Добрых дзевак, яно і праўда, не шмат.

— От бачыш, сама прызналася.

— І ўдаўцом жыць не выпадае.

— Ты, во, жывеш...

— Жызня, хай на яе...

На мяне яны як бы забыліся. І я моўчкі цікаваў за імі. Звычайная гаворка, якую я не раз чуў у нашай хаце. І ўсё ж мне здавалася, што размова вядзецца не так сабе. Яны як бы прыглядаліся адзін да аднаго, як бы хацелі сказаць нешта больш значнае, ды не адважваліся.

Цвыркуны перасталі крычаць за печчу. Тады выразна пачулася, як шуміць за сценамі вецер, як сіпіць, патрэсквае ў лямпе кнот.

— Хай яно скісне, думай, думай, а толку ніякага. Завялі мы з табой не пра тое зусім.

Цяпер яна глядзела Загурскаму проста ў вочы і чамусьці ўсміхалася.

— Што ж ты рабіць намеран? На мой бабскі розум, дык табе варта ехаць. Думаць няма чаго.

— А я думаю. Яшчэ як, аж галава пухне,— Загурскі памаўчаў крыху.— Знаеш, Даша, да горычы крыўдна. Помню, прыехаў да нас упаўнаважаны з горада. Сабраў нас, камсамольцаў, пачаў расказваць, што, як і для чаго мы рабіць павінны. Мне тады толькі шаснаццаць гадоў мінула. Увосень у камсамол уступіў. Слухаў я таго ўпаўнаважанага, і нібы пада мной агонь гарэў — уседзець ніяк не мог. Так ясна і проста ён пра ўсё расказваў. Спачатку арцель, пасля саўгас, камуна. Камунізм. Усяго хапае. Усе свядомыя — не за страх, а па сумленню працуюць. Вось павер, Даша, хацелася ўскочыць і праз ноч ісці арцель арганізоўваць, цягнуць людзей да святла, да шчасця, якога яны разумець не хацелі. Зарад мы той дарма не растрацілі. Калгас стварылі. І парадкі навялі ў ім. Ты, можа, не помніш, а толькі наш калгас у трыццатым годзе атрымаў першую прэмію.

— Помню, як жа не помніць,— азвалася маці.

— Ну, вось, помніш. І да вайны жылі як людзі, хоць і падсеклі нас аднаасобнічкі ў трыццаць трэцім. Расфундзілі сваю гаспадарку, ды галякамі ў калгас уступілі. Ні кароў, ні насення. А вытрымалі ж мы. За два гады на ногі сталі. І зноў да нас ездзілі вучыцца.

Загурскі задумаўся. Круціў у пальцах відэлец, хмурыў густыя бровы. Маці таксама нешта ўспамінала, але сваё, вясёлае. Вочы гарэлі жартаўлівымі агеньчыкамі. Загурскі грукнуў відэльцам аб стол, прыціснуў яго двума пальцамі:

— Дык чаму ж цяпер парадкаў няма? Вайна? Так, вінавата. Але ж колькі гадоў мінула, а Зарэчча ўсё ніяк на ногі не стане. Дык як жа я магу кінуць-рынуць усё і на лёгкі хлеб. Пачэсна, канечне. Інструктар. Лектар. Дакладчык. А тут хто будзе працаваць? Макуха? Цопа?

— На ліха табе здароўе гробіць? — ні то спыталася, ні то параіла маці.— Ды і са сваімі заядацца не варта. Людзі ў нас папрывыкалі да такой жызні. Работы не бог ведае колькі, а жыць можна.

— Што ж у нас палучаецца? — у Загурскага разы два торгнулася шчака, а брыво неяк заламалася, выгнулася трохкутнікам.— Партыя нас на дарогу выводзіць, а мы, як блазнюкі, хто куды, па абочынах. Не, Даша, не ўсе так думаюць, як ты кажаш. Паслухай Данілу. Ён іншай думкі. І не адзін ён. А ўсе тыя, што кожны дзень працуюць, ды сапраўды з-за іншых нічога са свайго працадня не маюць.

— Ат, знайшоў каго слухаць — Данілу. Той спіць і ў сне партфель бачыць...

— Ну, ты кінь. Гэта ўжо няпраўда.

Я таксама не мог уцярпець. Даўней, калі Даніла быў брыгадзірам, у нашым тады невялічкім калгасе парадак быў намнога лепшы. Маці, аднак, слухаць мяне не стала, махнула рукой.

— А ты што разумееш? — і панесла ад стала патэльню.

Калі Загурскі пайшоў, маці неяк дзіўна ўздыхнула, быццам пачула пра нейкую радасць, і пашкадавала, што яна прызначаецца не ёй.

— Будзе камусьці шчасце. І грошы ёсць, і, от паглядзіш, паставяць у начальства. Ды і не стары яшчэ. Шляхціцы ў яго гады на маладзенькіх жаніліся.

Мне здалося, што маці шкадуе сябе і зайздросціць камусьці нядобрай, злой зайздрасцю.

## 2

Паляцелі сумныя, аднастайныя дні. Ужо ў сярэдзіне кастрычніка паплылі з захаду бурыя калматыя хмары, сеючы на зямлю золкі, дробны дождж. Дарогі набрынялі, распаўзліся. У нізінах на пожнях стаялі вялізныя лужы і ў іх адбівалася свінцовае, непрыветлівае неба. Сяк-так з дапамогай студэнтаў выкапалі бульбу і скасілі авёс. Работа адвалілася, хоць, на добрае вока, яе хапала.

Людзі выходзілі з хат неахвотна. Больш завіхаліся на сваёй гаспадарцы. Чакалі пагодлівых дзён, каб распачаць малацьбу. Пакуль да нас нават нельга было прывезці малатарню.

Я не знаходзіў сабе месца. Чытаць не было чаго. Дзесятак тоненькіх кніг, некалі набытых на кніжных кірмашах, даўно быў вывучаны на зубок. Ісці ў цэнтр калгаса па кнігі — далекавата. Колькі разоў я хадзіў да Данілы ў хату. Там заўсёды было тлумна. Прыходзілі калгаснікі, спрачаліся, расказвалі Загурскаму пра парадкі ў брыгадзе. Я заўважыў, што прыходзяць сюды больш тыя, хто заняты на пастаяннай рабоце, хто сапраўды працуе ўвесь дзень. Астатнія збіраліся ў Восіпа. Зарэчча як бы раскалолася напалам.

Паслухаўшы размовы дзядзькоў, я непрыкметна ішоў на другую палавіну хаты, да Шуры. Звычайна заставаў яе за сталом. Нізка схіліўшыся, яна рашала задачы або нешта пісала. Са мной віталася ветліва, цёпла. Але гаварыць не было пра што. Добра яшчэ, калі ў яе не выходзіла задача. Тады, нахіліўшы над задачнікам галовы, мы ўпарта шукалі рашэння. Прызнацца, я часам знарок не падказваў яго, каб хоць крыху больш пабыць разам.

Успаміналіся летнія дні. Востраў на возеры. Нашы размовы. Аднаго разу, напярэдадні майго ад'езду на экзамены, заікаючыся і чырванеючы ад сораму, я прачытаў Шуры свой верш, напісаны па-руску.

Копошится в сердце грусть.
(Отчего бы? — спрашиваю...)
Копошится,
Ну и пусть —
Семнадцатую весну ведь вынашиваю.
На закат посмотрел:
Он сегодня красный.
Видно, ветер-пострел
В солнце дул напрасно.
Не погасло оно,
разгорелось только...
Почему же, скажи, так на сердце горько?
Неужели от того,
что любовь нагрянула?..
С нею я поборюсь:
К черту грустную грусть...
Грусть, как в воду, канула.

Шура тады здзіўлена паглядзела на мяне. У яе вачах была збянтэжанасць. Ды і я адчуваў сябе не дужа добра.

— Сам напісаў? — запыталася яна.

— Сам,— адказаў, чакаючы адабрэння.

Але Шура загаварыла пра іншае. Быццам я і не чытаў ёй верша. А потым, ідучы дамоў, сказала:

— У цябе, Янка, ёсць талент. І праўда, раскідацца ім не варта...

Тады я не надаў значэння яе словам, а цяпер было няёмка. Хацелася пагаварыць з Шурай, сказаць ёй, што ў тым вершы не было і грама праўды. Хіба ж я сумаваў з Шурай? Хіба баяўся кахання або збіраўся ахвяраваць ім? Проста, аднаго разу глядзеў на заход сонца, маркоціўся, што нельга было пайсці на спатканне, і вельмі лёгка, адразу, напісаў верш.

Пагутарыць нам не ўдавалася. У хаце заўсёды была Шурына маці. Ды і Шура, як мне здалося, неахвотна заставалася са мной. Не было і тых шчырых адносін, як улетку. І я вінаваціў толькі сябе. Атрымалася так, што я абразіў дзяўчыну, абвінаваціў, быццам яна навязваецца мне са сваім каханнем.

Было шкада летніх дзён і невыказаных слоў, якіх вельмі многа тады хацелася сказаць. Не было б дажджу, можа зноў пайшлі б калі на возера. Шура ўсё зразумела б. Яна ж разумная.

Неяк у суботу пад вечар маці паслала мяне да Макухі. Трэ было папрасіць назаўтра каня, каб адвезці на рынак яблыкі.

Сцяпана не было. Цётка Марына сустрэла мяне ў сенцах, пацягнула ў хату.

— Зайдзі, во, Канстанцінавіч, пасядзі троху. Адны ўвесь дзень ў хаце. Словам няма з кім перакінуцца.— А калі мы увайшлі, крыкнула ў бок перагародкі: — Хрысціна, паглядзі, хто да нас прыйшоў...

З-за аксамітнай парт'еры неўзабаве паявілася Хрысціна. У яе быў заспаны твар, але чорныя косы акуратна заплецены. Яна пазяхнула і неяк ляніва сказала:

— Спіцца ў дождж. Ачмурэць можна,— і адразу ж запыталася: — На вечарынку заўтра пойдзеш, ці можа, ужо і знацца з намі не хочаш? У горад, я чула, ісці збіраешся.

Сцяпаніха падхапіла яе словы:

— А божачка, чаго ён тут не бачыў!.. Гэта ж ты, во, не захацела вучыцца.



— Завяла ты, мама, сваё,— абыякава сказала Хрысціна і прысела да стала.

Сцяпаніха прынесла вяндлёную шынку, салёныя гуркі, памідоры.

— Давайце, во, дзетачкі, пачастуйцеся. Побач жывём, а за сталом адзін у аднаго не бываем.

За стол садзіцца не хацелася. Трохі было сорамна,— які я госць,— трохі пабойваўся маці — будзе сварыцца, што забавіўся.

— Запрашай, Хрысцінка, госця,— казала цётка Марына, бегаючы ад печы да стала.— Я ж і кажу — самае залатое ўрэмечка ў вас цяпер. І пагуляць, і павесяліцца трэба, пакуль клопаты не зваляцца на плечы. Я дык Хрысціну не прымушаю працаваць. Хопіць, што сама за свой век нарабілася. Бывала, і жыта жнеш, і бульбу капаеш, увосень малоціш, пасля кудзелю прадзеш. Хапіла работы. Ды яно іначай і не было як жыць. Бацька мой некалі ўсё на зямлю ўзбіваўся, пасля машыны хацеў купіць, каб не трэба было ў людзей браць малатарні ды веялкі. А мы са Сцяпанам да вайны хату будавалі. А вам цяпер няма чаго шчыраваць. Камунізм, кажуць, скора будзе. У Мікалаеўшчыне вунь загад прыйшоў. Дамы цагляныя, як у горадзе, будуць будаваць. Так што цяпер пра адно клопаты, як бы паесці ды адзець што было.

— Ладна табе ўжо,— ленавата махнула рукой Хрысціна.— Відэльцы во падавай хутчэй.

Сцяпаніха борздзенька пабегла на кухню па відэльцы. Мне было непрывычна, што маці так шчыра слухае дачку. У нас дома такой завядзёнкі не было: распараджацца магла толькі маці.

Пасля, калі мы вылезлі з-за стала, Сцяпаніха хвалілася гаспадаркай і набыткам у хаце. Паказвала адрэзы на паліто і плацці. Запыталася, ці падабаецца мне гардэроб з вялізным люстэркам і драўляны нізенькі ложак. Прымусіла Хрысціну адкрыць швейную машыну, каб я на свае вочы пераканаўся, што яна не абы-якая, а падольская. Потым яна прынесла альбом, чырвоную тоўстую кнігу, пачала паказваць фатакарткі, найбольш тыя, дзе сфатаграфавана Хрысціна.

— Авой, што ж гэта я сама!.. Твой альбом — ты і паказвай,— спахапілася яна і ўступіла крэсла Хрысціне.

Тая прысела на край, тыцкала пальцам у фатакарткі, тлумачыла:

— Гэта во я, калі ў чацвёртым класе вучылася. А гэта наш Пятрусь з жонкай.

Сцяпаніха пасядзела крыху, выйшла. Хрысціна ўсміхнулася, пагледзеўшы ёй услед.

— Маці цябе вунь як упадабала. Жызні не дае мне. Усё Янка, ды Янка...

Мяне быццам ашпарылі. Прапала цікавасць да альбома, Хрысціны і гэтай вялікай з фарбаванай падлогай хаты. Хрысціна зайшлася ад смеху.

— А ты не бойся. Замуж я за цябе не сабіраюся.

— Што ты, я нічога не думаў,— засаромеўся я.

— Думаў ці не — няважна. Жартую я.— Хрысціна адкінулася на спінку крэсла, заклала рукі за галаву.— Сумна ў нас. З самага мая кіно не бачыла. Занеслі цэнтр калгаса на край свету і забыліся пра нас. Дык тут чорт ведае да чаго дадумаешся...

Яна зноў пачала гартаць альбом, блізка прыхінаючыся да мяне. Яе валасы пахлі кветкамі маку, і гэты саладкаваты пах кружыў галаву. Перад вачыма ўвесь час мільгалі Хрысцініны рукі, маленькія і па-дзіцячаму пульхныя.

Раптам на адной са старонак альбома я ўгледзеў Шурыну фата-

картку. Мая рука сама прытрымала тую старонку. Хрысціна заўважыла гэта. Яна выцягнула фатаграфію, падала мне. На адвароце акуратным Шурыным почыркам было напісана: «Дарагой Хрысціне ад Шуры. Няхай наша дружба будзе вечная».

Прызнацца, я троху здзівіўся. Хрысціна намнога старэйшая за Шуру, і я ніколі не чуў, каб яны сябравалі.

— У леташнім годзе я ў Данілішыным звяне працавала, вось Шура і ўпадабала мяне,— растлумачыла Хрысціна і раптам запыталася: — Кажуць, што ў вас з Шурай неразлўная любоў?

— Выдумляюць,— паспешліва адказаў я і пачырванеў: было сорамна, што выракся нашай дружбы. Каб хоць крыху зменшыць няёмкае маўчанне, што было ўсталявалася ў хаце, пажартаваў: — Да любві мы не дараслі, а дружба моцная.

Хрысціна дапытліва глядзела мне ў вочы, ківала галавой.

— Ой, хлусіш. Толькі дарма ўсё. Яна цяпер з пасынкам Загурскага перапісваецца.

Нешта вострае балюча ўпілося ў сэрца, пачало смактаць яго. Я прыгадаў, што не раз бачыў на сцяне ў Данілавай хаце Кірылаву фатаграфію. Потым успомніў, што аднарукі Піліп Вострык нешта залішне часта забягае да Данілы. Не можа быць, каб Кірыла так часта пісаў лісты бацьку. Пэўна, іх палучае Шура.

І раптам усё здалося мне вельмі простым. Шура на мяне не злавалася. І верш тут не мае ніякага значэння Проста ёй сорамна было, што першая здрадзіла. Ну і няхай. Плакаць не стану...

Але я думаў пра яе. Калі ўсё пачалося? Няўжо з сенакосу? Я тады пайшоў з мужчынамі, а Кірыла паехаў на возе з дзяўчатамі. Успомнілася, як Шура смяялася, слухаючы Кірылу. Усё ясна. Вось тады і пачалося ў іх...

Мне ўжо не хацелася разглядаць фатакарткі. Хацелася хутчэй пабачыць Шуру, выказаць ёй усё, што накіпала на душы. Крыху пасядзеўшы, я пайшоў.

Дождж надціх. На захадзе, над Русакамі, вецер разарваў хмары, і скупыя, няласкавыя промні прабіліся на зямлю, азарылі вёску жаўтаватым святлом. А ў Зарэччы было змрочна. Мутныя лужыны здаваліся рабымі ад дробнага дажджу. І ручаі беглі паныла, быццам хацелі хутчэй выбрацца на прастор палёў.

## 3

Вечарынкі ў Зарэччы былі амаль кожную нядзелю. Музыканта і хату наймалі па чарзе. У тую нядзелю за гаспадара быў Восіпаў Хведар.

Пасля таго, як Хведар вярнуўся з прымаў, ён вельмі перамяніўся. Даўней Хведар быў ціхманы, сарамлівы і крыху цельпукаваты хлопец. Цяпер яго падхапіла і панесла, як трэску ў паводку. Ён напрапалую гуляў з дзяўчатамі, падкочваўся да ўдоў і замужніх жанчын. Разы тры яго бязлітасна за гэта білі. Але ён быў жывучы, як кот. З тыдзень адлежваўся на печы і зноў, ссунуўшы на патыліцу шапку, хадзіў па вёсцы лянівай хадой.

Жанчыны сустракалі яго лаянкай, але я не раз заўважаў у іх вачах нездаровую цікаўнасць. Многія яго шкадавалі, бо Хведара жывасілам аддалі ў прымы да гарбаносай удавы-акушэркі з каралішчавіцкай бальніцы. Але мне здавалася, што і шкадуюць Хведара па-асаблі-





ваму, быццам ахвяруюць сабой. А ён гэта адчувае і неяк брыдка глядзіць на жанчын. Можа таму я не любіў Хведара і, мусіць, не пайшоў бы на вечарынку, каб не спадзяваўся сустрэць там Шуру.

У суботу я доўга хадзіў па бярэзніку, пільнаваў Шуру, бо яна заўсёды вярталася са школы гэтай дарогай. Прамок да ніткі, а Шуру не сустрэў. У нядзелю разы два прайшоўся паўз Данілаву хату. Спадзяваўся ўбачыць Шуру ля акна. Але надзеі мае былі марныя.

Ідучы на вечарынку, я думаў над тым, што скажу Шуры і што адкажа яна. У галаве, як рой, гулі гнеўныя словы.

Вечарынкі заўсёды гулялі ў Цітковай Пелагеі. Вялізная на пяць акон Пелагеіна хата стаяла на водшыбе, за ручаём. Яшчэ здалёк я ўбачыў яркае святло, невыразныя цені на вокнах, што мітусіліся, як камары ў пагодлівы вечар, і спалохаўся. Як я паяўлюся ў чужой хаце? Думалася, што ўсе адразу заўважаць мяне, будуць глядзець, як на нейкае дзіва.

На тое ліха, нідзе нікога не было. Хоць бы адзін спадарожнік.

Калола вочы цемра, і я раз-пораз трапляў у лужы. Надакучлівы дождж ціха сіпеў у хмызняках. Навокал толькі і чулася вось гэтае самотнае сіпенне. Ды прыгінала да зямлі цемра.

За ручаём крыху пасушэла. Праз хлюпанне данесліся кволыя гукі гармоніка і прыглушаная гамонка людзей. Дзверы ў хаце былі адчынены насцеж.

У сенцах тоўпіліся дзеці. Я спыніўся ў парозе, баючыся віднаты і людскіх вачэй.

На вечарынку я прыйшоў упершыню. Калі быў яшчэ ў дзевятым класе, падмеўся быў схадзіць на вечарынку. Але маці мяне не пусціла, сказала са злосцю: «Што ты там забыўся? Добраму там не навучышся, а дрэннае само прыйдзе. Ходзяць туды тыя, хто вучыцца не захацеў. Так што яны табе не таварышы...» Я так і вырас у далечыні ад вёскі, ад людзей, пазіраючы на іх вачыма маці. А яна зарачанцаў не любіла.

Танец якраз кончыўся, і, разагрэтыя полькай, хлопцы і дзяўчаты хлынулі ў сенцы. Мяне запіхнулі ў кут на дзежкі. Я стаяў, прыслухоўваўся да размоў і не мог адшукаць у іх ні сэнсу, ні цікавасці. Так, пустыя размовы.

Я быў сабраўся пайсці, але мяне заўважыла Хрысціна. Яна стаяла на парозе і махала хустачкай перад тварам.

— Прыйшоў!..— здзівілася яна.— І як цябе маці пусціла...

Было крыху крыўдна. Няўжо я такі маленькі. Маўчаў. Пайсці цяпер не выпадала.

— Чаго ты ў хату не заходзіш? Распранайся, а то там горача.— Яна паклікала Пелагею, а калі тая прыйшла, папрасіла:— Цётачка, павесце ягонае паліто ў шафу.

Мне зрабілася няёмка. Навошта такая ўвага. Але Пелагея прымусіла распранудца і, нібы нейкую дарагую рэч, панесла паліто на выцягнутых руках у пакой.

З натоўпу выдраўся Хведар. Доўга ціснуў руку, гаварыў:

— Во, малайчына, што прыйшоў. Дзевак адусюль панайшло, а мальцаў небагата,— і пацягнуў мяне за сабой у закутак за печчу.

Там стаяла тумбачка. На сцяне цьмяна гарэла шасцілінейная лямпа. На табурэтках сядзелі данькаўскія і русакоўскія хлопцы. Двух я ведаў. Астатнія — незнаёмыя.

— Во, падмогу прывёў,— абняўшы мяне за плечы, сказаў Хведар.— Садзіся, Іван. Сёння ўсіх частую. Не тое, што дзеўкі. Зробяць вечарынку, а пасля з музыкантам нават не могуць разлічыцца.



Хлопцы пацiснуліся, далі месца.

Я прысеў, але піць не стаў, хоць мяне і прымушалі. Калі ўжо не было як адмовіцца, дык я стараўся непрыкметна выліць гарэлку пад ногі.

Хлопцы хвалілі Хведара, дзівіліся, адкуль бярэ ён грошы. Хведар падміргваў, адказваў коратка:

— Жыць, браточкі, трэба ўмець!

Нарэшце гарманіст ускінуў на плячо лямкі, трохі няўпэўненай хадой пайшоў у хату. Хведар ускочыў, піхнуў табурэтку.

— А цяпер лінцыя, мальцы. Якраз на два кругі.

— Што ты, я ж не танцую,— мяне ахапіў страх. Нават гарэлка не адабрала развагу.

— Чапуха, навучым. Механіка не дужа хітрая. Пайшлі.

«Лінцыя», як і кадрылю, танцуюць чатыры хлопцы і чатыры дзяўчыны — круг. Самы для мяне танец, бо ніякіх складаных фігур у ім няма.

Усёй гурбой мы спыніліся сярод хаты. Хлопцы курылі, прыглядаліся да дзяўчат. На тое ён і «лінцыя», каб усё рабіць не спяшаючыся, спакваля. Дзяўчат запрашалі па чарзе. Нехта адзін пакідаў нас, ішоў да купкі дзяўчат, кланяўся адной з іх. Калі дзяўчына схіляла галаву — значыць, давала згоду на танец. Я стаяў, баючыся сысці з месца, бо ведаў, што калі першы раз запрашаеш на «лінцыю», дык не толькі таму, каб патанцаваць. Першае запрашэнне, як бы выбар дзяўчыны па каханню. Яе пасля трэба будзе і дамоў весці. Каб была Шура, дык я не задумваўся б. Але яе не было.

— Чакай, Янка, я сам табе запрашу,— сказаў Хведар, і я ўзрадваўся.

Шырока расстаўляючы крывыя, як абады, ногі, Хведар пайшоў у парог, згубіўся сярод дзяўчат. Мне вельмі хацелася пабачыць, каго ён запросіць на танец, але так і не ўбачыў. Хведар вярнуўся да нас, падміргнуў:

— Крыўдаваць не будзеш...— і тры разы пляснуў у далоні: — Дзеўкі — на круг!

Справа ад мяне стала Хрысціна, усміхнулася:

— А ты чаму сам не прыйшоў запрашаць?

Я адказаў, што было боязна, раптам адмовіла б. Танцор з мяне няважны.

Пасля на працягу ўсяго танца мы не перакінуліся з ёй ніводным словам. Мне даводзілася больш думаць над тым, што і як рабіць, каб зусім не заблытацца сярод сваіх партнёраў. Хрысціна танцавала лёгка. Можа таму ўсё сышло для мяне гладка.

Пасля танца Хрысціна пайшла ў куток, прысела там на ложку. Мяне цягнула да яе, але было сорамна падыходзіць. Я стаяў адзін, бо хлопцы гаварылі пра нейкія свае справы і зусім забыліся на мяне. Непрыкметна адступаючы, я апынуўся побач з Хрысцінай. Яна адразу пасунулася, каб я мог сесці ля яе.

— Дык ты зусім нядрэнна танцуеш. Прыкідваешся толькі.

Я нешта адказаў. Завязалася няхітрая размова, у часе якой я мімаволі абдумваў кожнае слова. Не ведаю чаму, але мне заўсёды хочацца разважаць над кожным словам і сваім, і субяседніка.

Хрысціна слухала мяне не вельмі ўважліва. Я адчуваў, што ёй сумна ад маіх цяжкаватых размоў, важкіх слоў і старэчай разважлівасці. Але не мог перамагчы сябе.

— Праўда, сумна ў нас? — запыталася Хрысціна.

Я адчуў, што яна як бы спачувае мне, быццам адгадала мае невясёлыя думкі.

— Не весела...

— Нічога, прывыкнеш. Гэта спачатку толькі,— яна памаўчала трохі і ўжо неяк зусім па-другому сказала: — Ты, Янка, не вельмі з Хведарам дружы.

Я здзівіўся. Цяпер Хрысціна гаварыла так, як мая маці. Насцярожана, з недаверам і крыху таямніча, быццам ведала нешта такое, чаго не магу ведаць я.

— Чаму? Ён — кампанейскі.

— Ай, кампанейства яго...

Побач з намі на ложку сядзеў у абдымку з Хведарышынай дачкой данькаўскі хлопец. Мне вельмі хацелася пачуць, пра што яны гавораць. Але яны ўвесь час маўчалі і, здаецца, самі больш прыслухоўваліся да нас.

— Трэба дамоў ісці,— сказала Хрысціна.— Нам жа ў адну дарогу.

Мы выйшлі на двор. Дажджу не было. На захадзе праяснялася неба, як на мароз. Яно было нейкае вельмі сіняе на фоне чорных хмар. У прасветлінах дрыжалі яркія зоркі.

З хатняй віднаты ўсё навокал танула ў цемры. Каб не гэтая пасвятлелая стужка неба, ісці было б зусім няможна. Я стараўся прыладзіцца ў нагу да Хрысціны, пакутліва разважаў, ці прыстойна ў першы ж вечар браць яе пад руку? І раптам узлаваўся: вечна я раздумваю.

Яна нічога не сказала, калі я ўзяў яе за локаць. Перамяніла толькі нагу, і мы пачалі ступаць улад, выбіраючы сушэйшыя мясціны. Маўчалі. Не паяўляліся тыя патрэбныя ў гэты час словы, якія б разбурылі скаванасць і няёмкасць. Пустыя вымаўляць не хацелася.

Ля веснічак Сцяпанавай хаты спыніліся. З-пад Русакоў дзьмуў золкі вецер, шалахцеў голлем тапалі. Даводзілася тупаць, каб трохі сагрэцца. Пайсці неяк адразу было няёмка, каб пасля Хрысціна не пасмяялася, што збег. Перакідваліся нязначнымі словамі. Хрысціна больш гаварыла пра дзяўчат, што спявалі прыпеўкі. Высмейвала іх. А мне хацелася, каб размова была больш значная.

— Зойдзем на той бок двара. Там зацішней будзе,— сказала яна і пайшла вакол хаты па палісадніку.

На тым баку пад хлевам ляжала салома. Тут і сапраўды было зацішна. Нават цёпла. Мы прыселі. Хрысціна абапёрлася спіной аб сцяну, глядзела на мяне і, здаецца, загадкава ўсміхалася. У хляве сапла карова, раз-пораз нехта грукаў у сцяну, і тады пачынаў незадаволена рохкаць парсючок.

Сядзець было нязручна. Але я ніяк не мог адважыцца ўстаць і пайсці. Чакаў, пакуль Хрысціна скажа сама, што пара ўжо дамоў.

— Шкада будзе, калі ты пойдзеш у горад,— азвалася яна, і я здзівіўся, чаго ёй шкадаваць. Хрысціна дадала: — З табой добра. Ты не такі, як усе. Сарамлівы.

Было цяжка зразумець, хваліць яна мяне або насміхаецца, бо апошнія словы яна вымавіла неяк па-асабліваму.

— Холадна ўжо як...— прадаўжала Хрысціна.— Лета так хутка прамільгнула, што і не заўважыла.

Яна шчыльней захуталася ў куртку, падняла каўнерык, затуліла ў яго твар. Рукі схавала ў рукавах. Цяпер яна здавалася маленькай і вельмі кволай. Неяк было шкада яе. Хацелася сказаць штосьці добрае, ласкавае, такое, што сагрэла б яе. Але па-ранейшаму не знаходзіліся разумныя словы. Хрысціна падсунулася бліжэй. Цяпер яе плячо ўпіралася мне ў грудзі. Здавалася, што я чую, як ад яго ідзе цеплыня.



— Чаго ты такі маўклівы? Галя Янчык аднойчы казала мне, што ты самы разумны ў школе. Калі пачнеш гаварыць, дык заслухаешся. А ты маўчыш. Аж няёмка. Ці можа я табе надакучаю?

— Не. Чаму ж? Мне цікава цябе слухаць.

— Праўда?

— Канечне, праўда.

— Разумныя, мабыць, заўсёды больш маўчаць. У залеташнім годзе мяне разы два данькаўскі настаўнік праводзіў з вечарынкі. Дык таксама больш маўчаў. Ідзе і — ні слова за ўсю дарогу. Я тады маладзейшая была, дурная, раззлавалася на яго і аднаго разу ўцякла. Ну, ён больш і не пайшоў. А летась паехаў у Мінск вучыцца. Аспірант цяпер. А Мікола Шугалей, з Русакоў, дык той усю дарогу трэплецца. Аж моташна бывае...

— Пустое гаварыць няёмка.

— Праўда. Толькі, Янычка, і маўчаць усягды не выпадае. Хочацца іншы раз душу адвесці. А на разумнае розуму не хапае. Ды і пра што гаварыць будзеш, калі на падзеі нашае Зарэчча не багата. Усё адно і тое ж.

— Гэта праўда.

Мы яшчэ крыху пасядзелі. Потым Хрысціна запыталася:

— На цябе маці сварыцца не будзе? Мая, дык нічога. А ў цябе — строгая.

— Хіба я маленькі?

— Яно так. Але на сёння хопіць. Пасядзелі, пагаварылі. Заходзь, Янка, калі час будзе,— і ўжо развітваючыся, запыталася:— У цябе кнігі, мусіць, ёсць? Даўно ўжо нічога не чытала. Прынясеш можа?

— Добра,— згадзіўся я.

Расстаўся я з Хрысцінай лёгка. Надакучала скаванасць. Няёмкасць, якія я адчуваў увесь вечар. Але чым далей адыходзіў я ад Хрысцінінай хаты, тым больш яскрава ўяўляў Хрысцінін твар, з вечнай усмешкай на ім, тым выразней чуў яе голас. Нейкі дзіўны сум агортваў мяне. Хрысціна вабіла да сябе, выклікала цікавасць, як дарагая, мімаходзь убачаная рэч. Цяпер пачалі паяўляцца прыгожыя і разумныя словы, якія я мог сказаць, але так і не сказаў.

У тую ноч я доўга не мог заснуць. Усё вырашаў, што за чалавек Хрысціна. У сне бачыў Данілаву Шуру з вянком васількоў на галаве і доўгага без акуляраў пасынка Загурскага, які піў гарэлку шклянкамі.

## 4

Пасля снядання ля тока паставілі малатарню, падагналі трактар. Стасеў бацька Ягор Пацябня важна хадзіў ля трактара, выціраў перапэцканыя рукі вяхоткай. Убачыўшы мяне, усміхнуўся, паклікаў пальцам:

— Хадзі сюды, Янка. Як ты жывеш? Чаго не зайдзеш калі ў нядзелю? Стась часам на выхадны прыходзіць, хоць, я табе скажу, работы ў яго многа...

— А чаго ж ён сам не зойдзе? Я дык усягды дома.

— У іх, брат, не абы-які інсціпут. Дужа не пагуляеш.— Чолка памаўчаў, потым надумаў паспачуваць мне: — Прамахнуўся ты тады. І Стася ледзьве не звёў. Добра, што я табялёк у яго адабраў. А то цяпер бы ўдвух бібікі абівалі. Харошы інсціпут, я табе скажу. Свая гас-

падарка, у сталовай дзяшоўка. Інтэрнат на ўсіх, і не цесны. Не паслухаў ты тады мяне, сукін сын. Мабыць, сам каешся, дык жа цяпер за локаць не ўкусіш.

— У мяне, дзядзька Ягор, зайздрасці няма. Я ў ветэрынарны інстытут ніколі не пайду.

— Ну і дурань. Будзеш боўтацца тут, як каровін шавяк у прорубцы. А гады бягуць! Іх, брат, не дагоніш.

— Не, дзядзька Ягор, вучыцца я ўсё роўна паступлю. Туды, куды цягне. А не туды, куды лягчэй...

— Кім жа ты быць хочаш? Міністрам можа?..

— Я пісаць хачу.

— Яно і такая спецыяльнасць не пыльная... Аднаго разу ў мяне карэспандэнт начаваў, дык хваліўся, што ім добра плацяць.

— Я не пра тое думаю, колькі плацяць. Хочацца, каб ад працы радасць была.

— Эге, радасць! А па мне любая работа, калі не цяжкая ды заработачная,— радасць. Да вайны мяне, знаеш, у ціятры цягнула. У гуртках выступаў. Пра «Вочную стаўку» можа чуў што? Дык я там шпіёна іграў... Ледзь быў у ціятр не трапіў. Я там натоўп прадстаўляў. Намажуць грымам, і ходзіш па сцэне, крычыш, калі трэба, або рукамі махаеш. Дужа мне такая работа падабалася. Хоць грошы невялікія, але і работа не бі ляжачага. Паставілі мяне асвяціцелем. Гэта, знаеш, ліхтарамі на сцэну трэба было свяціць з верхатуры. Ну я і гэтую работу палюбіў. Думаў, што лепей за яе на свеце няма. А тут хоп-лоп — вайна. Мяне за шкірку, ды на фронт, заходнія беларусаў, значыць, вызваляць. Адтуль, як і водзіцца, на Карэльскі перашыек. Потым у Эстонію пайшлі. Я ўжо тады памкамузвода служыў. Хоць і не было ў мяне асветы, а службу нёс спраўна. Гэта толькі прыдуркам вайсковая жызня страшнай здаецца.

Ягор кінуў анучку ў скрыню, дастаў кісет, скруціў тоўстую, з аглоблю, цыгарку. У паветры паволі таяў сіняваты дымок. Я глядзеў на яго кволыя наміткі, што паволі растваракоцца ў чыстым марозным паветры, і мне здавалася, што вось гэтак жа знікае, раствараецца мая нянавісць да Стасевага бацькі. Што ты ад яго хочаш, калі чалавеку пэўна што не салодка жыць даводзілася?

Ягор, памаўчаўшы, прадаўжаў апавядаць. Ён, відаць, захапіўся ўспамінамі і цяпер ужо не помніў, з якога выпадку пачаў гаворку. Я не перабіваў яго.

— Ага... Дык я, значыць, пра тое, як ваяваў. У мяне тады два кубарыкі на пятліцах віселі. А якраз пагоны ўвялі. Здаецца, гэта зімой было. Наш брат, акопнік, яшчэ тых пагонаў і ў вочы не бачыў. Толькі што ў газетах на малюнках паглядзелі, і ўсё. А тут раптам генерал прыехаў. Я якраз на НП адзін быў. Афіцэр, значыць, я адзін. Адказыраў, далажыў чын па чыну, а сам на пагон генеральскі гляджу. Генерал, мабыць, заўважыў мой позірк ды і пытае: «Ну што, лейтэнант , зайздросціш?» Генералы таксама жартаваць любілі. Адказваю яму чын па чыну: «Так што, таварыш генерал, не тое што зайздросна, а ў сувязі з маёй любоўю да вайсковай справы, не дрэнна было б вось такія пагоны хоць адзін дзень панасіць. А там хоць і памірай». Ну, генерал усміхнуўся і кажа: «Золата, лейтэнант, шмат, а прасветліны няма...» Во, брат, урэзаў. Значыць, я так разумею, што, чым вышэй на пасаду ўзбіраешся, тым жыць трудней. А калі жыць цяжка, дык якая тут радасць... Няма яе.

— А вось гэта няпраўда,— узгарэўся я.



— Дык я не пра тую, што ваабчэ. Ваабчэ яна ёсць. Іншы раз сам не знаеш, чаго радуешся. Во, я, скажам, закурыў — і то на душы лёгка зрабілася...

Да тока на машыне пад'ехаў Хведар. Ён выскачыў з кабіны, смачна вылаяўся.

— У шыю гоніць, а малацьбу не пачынаў.

— А ты не гарачыся. Няхай машына адпачне,— азваўся Ягор і зноў заняўся сваёй справай.

Хведар абабег вакол машыны, пастукаў ботам па колах.

— Гаспадары, скула ім у бок! Гума ўся на манжэтах, а яны — каб плюнуць...

Ён падышоў да мяне, падаў руку, запытаўся:

— Як у цябе з Хрысцінай? Газуеш?.. Яна, брат...

Я пачырванеў. Мне і без слоў, па адным падміргванні, зразумела, на што намякае Хведар. Сорамна. Нават у думках я не трымаю таго, пра што думае Хведар.

— Ты Хрысціну не чапай...

— Даруй, канечня. А толькі баб я навылёт бачу. Зойка навучыла на баб без усякіх там ахаў ды вохаў глядзець. Акушэрка, брат, як поп: ёй ва ўсіх грахах прызнаюцца.

— Чаго ты ад яе збег? — з'едліва запытаўся я, бо спрачацца з Хведарам марная справа.

— Ад яе збяжыш! Пажывеш — будзеш ведаць, чаго ад баб уцякаюць.

Ён смачна плюе пад ногі. Гаварыць у нас больш няма пра што. Хведар ідзе да Ягора, кпліва аглядае маленькі трактар «Беларусь». Ягор корпаецца ў машыне, быццам побач нікога няма. Хведар абапіраецца аб задняе кола, выцягвае губы — свішча.

— Чаго свішчаш? — не разгінаючыся, пытаецца Ягор.

— Весела.

— Ну-ну, весяліся...

— А табе што, сумна?

— І мне нічога... весела.

— Па начальніцкаму партфеліку не сумуеш?

— Не.

— Думаў, твая праўда камусьці трэба. Тыя часці сам старшыня тады загадаў прывезці.

— Гэта я ведаю.

— А чаго кіпяцішся?

— Мяне б ён пасадзіў...

— Навошта ж пра «масквіча» пісаў? Пагляджу на цябе: састарыўся, а розуму не набраўся.

— Цяпер разумнейшы буду. Начальству наперакор ісці, што супраць ветру пляваць.

Я пачынаю разумець, пра што ідзе гаворка. Стасеў бацька пры тым старшыні, што вызвалілі сёлета напрадвесні, працаваў механікам гаража. Старшыня загадзя рыхтаваўся да ўцёкаў. Ён загадаў памяняць на «масквічы» матор, колы, каб дзешавей было адкупіць яго ў калгасе. Адначасова ў горадзе быў абменены матор з-пад «зіла» на запасны матор і колы для «масквіча». Усё гэта рабіў Хведар, а Ягор Пацябня глядзеў-глядзеў ды і напісаў у раён. Адтуль прыязджала камісія. Для старшыні ўсё сышло гладка. А ў Ягора выявілі недахоп інструментаў. Яго знялі з пасады механіка, ды яшчэ налічылі грошай

рублёў пяцьдзесят. Усе казалі, што вінаваты Ягор. А выходзіць, жулікам быў старшыня. Ды пасля і без таго стала зразумела.

Пакуль я ўспамінаю пра вясковую калатнечу паміж Ягорам і старшынёй, Хведар шэпчацца з Ягорам. Стасеў бацька спачатку адмахваецца, пасля як бы пачынае згаджацца з Хведарам.

З вёскі паяўляюцца дзяўчаты, жанчыны, мужчыны. Сярод іх я бачу Шуру і доўгага Кірылу, пасынка Загурскага. Ён ідзе побач з Шурай, і яго акуляры паблісківаюць на сонцы, калі ён паварочваецца да яе тварам.

Адкуль ён паявіўся? Я нямею ад рэўнасці. Чаго мне раўнаваць? Хіба я люблю Шуру? У мяне ёсць Хрысціна. А вось жа раўную. Аж сэрца калоціцца ад злосці. Крыўдна!

З-за трактара паяўляецца Хведар. Ён стаіць, адставіўшы нагу, разпораз цыркае слінай.

— Бач ты, і Данілаў недаростак у дзеўкі лезе,— я разумею, што ён гаворыць пра Шуру, абражае яе, але ў мяне пагана на душы, і я маўчу.— Гадкоў шаснаццаць ёй, мабыць, стукнула? У самы раз... А гэты ў падфарніках чаго прыехаў? Так, брат, і чэшуцца рукі звездануць яму па фарах, каб шкелцы пасыпаліся. Накачала іх з войчымам на нашы галовы.

Натоўп разыходзіцца па пляцоўцы ля тока. Дзяўчаты папраўляюць хусткі. Прычэсваюцца. Па чарзе глядзяцца ў ашкелачак люстэрка, быццам ім прадстаіць не малацьба, а пагулянка. Кірыла падыходзіць да мяне, вітаецца за руку.

— Не вельмі перажываеце, што праваліліся? — пытаецца ён.

— Анічуць,— бадзёра адказваю я і падыходжу да Хведара, які адбрэхваецца ад дзяўчат.

Неўзабаве паяўляецца Сцяпан Макуха, зусім цвярозы. Следам за ім прыязджае на кані Цопа. Таксама цвярозы. Відаць, прачулі, што будзе Чукрай.

— Мяхі прынёс? — пытаецца Цопа.

— Слухай сюды, я думаў, ты прывязеш.

— Дзе ж я іх вазьму?

— А я што, хвокуснік які?

— Хведар,— крычыць Цопа,— матай у цэнтр, няхай мяхі даюць. Скажы, што малацьбу пачалі, а ссыпаць няма куды.

Хведар лаецца, потым гаворыць мне:

— Лезь у кабіну. Удвух весялей.

І вось мы гонім машыну ў цэнтр калгаса. Едзем па мяхі. Але чаму яны павінны быць там? Вясной мяхі раздалі па брыгадах. Дзе яны дзеліся, ніхто не ведае.

У канторы тлумна. Чукрай зрабіў тут рамонт, і цяпер кантора раздзелена на тры часткі: кабінет старшыні, кабінет галоўнага бухгалтара і агульная канцылярыя. Людзі ляскаюць на лічыльніках. Чукрай сядзіць у крэсле і таксама нешта лічыць. Чукрай любіць лічыць, а што любіць начальства, тое падабаецца і падначаленым. На Хведара і мяне старшыня глядзіць сярдзітымі вачыма.

— Што вам трэба?

— Мяхоў няма,— кажа Хведар,— па мяхі нас паслалі.

Чукрай адкідаецца на спінку крэсла. Цяпер у яго вачах разгубленасць.

— Якія мяхі? Абсурд! Хіба ў мяне склад?

— Зерне няма як вазіць з току,— падказваю я.

— А бястаркі? Чаму скрыні не зрабілі?



— Нас паслалі — мы прыехалі. Дык што сказаць Цопу?

Чукрай апранае паліто, капялюш, выкочваецца з канторы. Мы ідзём за ім. Чукрай пагражае, што некалі ўсё ж дабярэцца да гэтага Цопы. Але мы чамусьці не верым у гэта. Хто пагражае, той не дужа спяшыць. Было б, вядома, не дрэнна, каб Чукрай дабраўся, разагнаў гэтую неразлучную пару. Добрых людзей у нас хапае. Дык чаго трымацца за Цопу?

Мы прыходзім у свірны. Чукрай загадвае кладаўшчыку:

— Выдай ім мяхі.

Кладаўшчык панура маўчыць.

— Каму ім? Нашто ім? — пытаецца нарэшце ён.

— Дзевятай брыгадзе. Хіба не бачыш?..— злуе Чукрай.

— У мяне мяхоў няма,— адразае кладаўшчык.

— Як жа яны хлеб у свіран адвязуць.

— А мая якая справа? Я без мяхоў не астануся.

— Абсурд!..— крычыць Чукрай.— Як жа яны, па-твойму, будуць хлеб вазіць? Заўтра яны мяхі прывязуць.

— Прывязем,— бурчыць Хведар.

Мы спрачаемся яшчэ хвілін дзесяць. Кладаўшчык аж не плача: ён, вядома, разумее, што мяхі гэтыя ў свіран не ўсе вернуцца.

— Пішыце распіску,— кідае ён нам і вырывае ліст накладной.— Трыццаць хопіць?

— Хопіць,— адказвае Хведар і да мяне: — Пішы, Іван, распіску. У мяне рукі акачанелі.

Я пішу распіску. Кладаўшчык акуратна складае яе ў чатыры столкі, запіхвае ў кішэню. Хведар бяжыць па машыну. Чукрай таксама ідзе ў кантору, а мы з кладаўшчыком лічым мяхі. Яны новенькія, з фабрычным кляймом і чорным штампам.

Кладаўшчык кажа мне:

— От, Сітоў, глядзі, як адзін, мяхі новыя. Каб прывёз такія ж назад. У нас ёсць сквалыгі, што мех і той падменяць. Ад цябе я буду прымаць толькі вось гэтыя, са штампам. Так што глядзі, каб усё цэла было.

Пад'язджае Хведар. Мы грузім мяхі ў кузаў, развітваемся з кладаўшчыком і газуем, але не дамоў у Зарэчча, а на ўскраіну сяла, дзе стаіць вялізная крама-сельмаг.

— Папярос трэба купіць,— тлумачыць Хведар.

У краме даволі людна. Прывезлі бочку піва. Піва — дэфіцытны напітак. Яго прывозяць сюды раз у паўтара-два месяцы. Часта прывозіць піва крамніку нявыгадна. Кожны дзень піць піва не станеш. А раз у два месяцы кожны захоча пакаштаваць.

Крамнік з зубілам і малатком у руках, закасаных па локаць, выдзёўбвае затычку. А вакол бочкі стаяць з напружанымі тварамі мужчыны, чакаюць. З-за шырмы жонка крамніка выносіць паўлітровыя слоікі з пад кансерваў, ставіць іх на прылавак і таксама пачынае сачыць, як выдзёўбвае яловую затычку яе муж.

— Бяры папяросы, ды хутчэй паедзем. Людзі ж чакаюць,— кажу я.

— Пачакаюць,— усміхаецца Хведар.— Свежае піва — гэта, браце ты мой, прадукт. Яго пасля месяцы два не паспытаеш...

Бочка нарэшце адкрыта. Мы п'ём бакал, другі, трэці... Піва сапраўды добрае. Ці ведалі толькі тыя рабочыя, што зварылі яго, хто будзе піць іх піва? Сумленны чалавек цяпер на працы. А вось такім гультаям, як мы, дык не варта было б варыць піва...

Думка гэтая мільгае і змяняецца другой, больш зямной: у мяне няма і граша за душой. Але піва скіроўвае мяне на дабрадушны лад.

Частуе ж Хведар. Ён дапівае пяты бакал, выцягвае пяць рублёў і па-царску, гэтак абыякава, кідае грошы на прылавак. Рэшту абыякава ссыпае ў кішэню.

— Цяпер паехалі,— гаворыць ён.

У Зарэччы малацьба ідзе поўным ходам. Малатарня не Цопа — яна чакаць не будзе. Людзі завіхаюцца на стозе, ля барабана.

— Дзе вас чорт насіў? — перакрыкваючы гул малатарні, крычыць Даніла Налягач.

Мы скідваем мяхі, ахапкамі носім іх на той бок, дзе з бункера сыплецца пшаніца. Я заўважаю, што мяхі аднекуль паявіліся. Яны стаяць у рад, паўнюткія, як завязаць. На ліха тады нас ганялі ў цэнтр.

Я, Хведар, Халімон Лепятуха і Сцяпан Макуха пачынаем грузіць мяхі на машыну.

— А хіба ўзважваць не будзем? — пытаюся ў Макухі.

— Дык жа вагі, слухай сюды, зламаліся. Я сам буду ездзіць, каб гэты п'яніца Хведар не адсыпаў часам з мяхоў.

Цопа лічыць мяхі, стоячы на коле, запісвае ў блакнот. А мы грузім. Не ведаю чаму, але я таксама лічу, колькі мяхоў укінута ў кузаў.

— Хоп!..— крычыць Хведар.— Хоп, кажу. Не бачыш, колы на манжэтах...

Макуха з Халімонам узвальваюць яшчэ два мяхі.

— Сорак два,— кажа Цопа.

Няўжо я памыліўся. Па-мойму, мы пагрузілі сорак чатыры мяхі.

— Сорак чатыры,— кажу я.

Хведар узлазіць наверх, пачынае пералічваць мяхі. Ён лаецца на чым свет стаіць. Асабліва дастаецца Цопу. Брыгадзір таксама адбрэхваецца. Хведар доўга лічыць, выпрамляецца і катэгарычна заяўляе: сорак два.

Я і Лепятуха залазім у кузаў. Макуха і Хведар у машыну. Ля вушэй свішча вецер, пранізвае наскрозь. Зябка. Я хутаюся ў каўнер, нацягваю шапку на вушы.

Ля Сцяпанавай хаты машына спыняецца. Макуха выскоквае з кабіны, на ходу крычыць:

— Я зараз. Перахвачу чаго, бо макавай расінкі ў роце не было.

Хведар зноў лаецца. Колькі я помню, дык Хведар заўсёды сварыцца з брыгадзірам і яго памочнікам. Мне здаецца, што яны самыя лютыя ворагі. Лепятуха чмыхае носам, спаўзае з машыны.

— Ото ж чалавечак, ото ж расцяпа! Прывык на ходу ўсё рабіць. Мне, можа, таксама есці хочацца...

На двары паяўляецца Хрысціна. Яна бачыць мяне і бянтэжыцца. Хведар рагоча.

— Хрысціна, чаго не здароўкаешся? Зазналася?

— Ідзі ты...

Мне вельмі хочацца пагаварыць з Хрысцінай, але сорамна падысці да яе. Хведар будзе смяяцца. І я стаю. Хрысціна развешвае на плоце бялізну. У наш бок яна не глядзіць. Але я ведаю, што яна думае пра мяне. І ад гэтага так хораша, так вусцішна на сэрцы. Мілая, добрая Хрысціна!..

Хведар усё яшчэ лаецца, абзывае Сцяпана самымі брыдкімі словамі. На ганак выходзіць Сцяпаніха. Яна здароўкаецца з адным мной, пляскае ў далоні:

— Авой, ён жа прастудзіцца! Чаго ж ты, Канстанцінавіч, не адзеўся цяплей?

— Мне цёпла,— храбруся я.



— Ідзі хоць пагрэйся ў хаце. Мой нячысцік яшчэ доўга будзе корпацца.

— Ідзі, цешча кліча,— смяецца Хведар.

І тут з хаты выходзіць Макуха, на хаду дажоўвае нешта. Цётка Марына накідваецца на яго:

— Чалавека нашто марозіце? Ці бачаць твае п'яныя бельмы, што на ім апранута? Другога каго не было хіба пасадзіць...

На Макуху жончына буркатня ніякага ўражання не робіць. Затое Лепятуха падае голас:

— Мы і ўтрох згрузім. Кладаўшчык, калі што, паможа.

Хведар зноў пачынае лаяцца. А я адчуваю няёмкасць, хоць праваліся скрозь зямлю.

— Я і не думаю не ехаць,— кажу я ім.— Давайце толькі хутчэй.

І тут усе пачынаюць мяне пераконваць, што я прастуджуся, што мне будзе холадна наверсе. Іх клопаты расчульваюць мяне.

— Ідзі апраніся, слухай сюды, цяплей ды шпар з Хрысцінай на ток. Там людзей малавата. А мы ўжо самі справімся.

Калі яны міналі Восіпаву хату, я падумаў, што мог паехаць у кабіне, а Макуха няхай бы пасядзеў наверсе. Спрэчка Хведара, Сцяпана і Халімона Лепятухі нагадвала цяпер добра наладжаны спектакль. Толькі я не мог зразумець, навошта ім разыгрываць мяне. І тут я ўспомніў, што налічыў на два мяхі пшаніцы больш, чым Цопа. Няўжо яны згаварыліся?

Хрысціна запрасіла мяне ў хату. Пакуль яна пераапраналася, я размаўляў з цёткай Марынай.

— Яначка ты мой,— казала Сцяпаніха,— не вадзіся ты з гэтым вісусам Хведзькам. Да дабра ён цябе не давядзе. Ён каго хочаш утравіць так, што пасля не адкапаешся.

Я не паспеў адказаць, бо з каморкі выйшла Хрысціна.

— А вось і я,— сказала Хрысціна, і мы пайшлі.

Упершыню днём ішоў я з Хрысцінай па вуліцы. Трохі саромеўся, але больш ганарыўся.

На Хрысціне плюшавая жакетка на ваце, цёплая хустка, ногі ў гумавых боціках на засцёжцы. З-пад жакеткі відаць сіняя спадніца, расклёшаная ўнізе. Любата, а не дзяўчына! Шчокі расчырванеліся, вочы паблісквають, а бровы чорныя-чорныя. Вот бы так і хадзіць усё жыццё побач...

Цопа заганяе нас у ток скідаць пшаніцу з застаронка на такаўню. Адсюль яе носяць да малатарні. Па шуле я ўзлажу на застаронак. Хрысціна падае мне вілы, потым я падаю ёй чэран вілак і ўсцягваю дзяўчыну наверх. Мы падхопліваем снапы, шпурляем уніз. Трохі пыльна, але ж побач Хрысціна. Я бачу яе вочы, ясныя, чыстыя, яе вусны, ледзь раскрытыя, чую яе голас, і мне хочацца працаваць і працаваць. Мы скочваем уніз вал за валам так, што знізу крычаць нам: «Чакайце, адпачніце, а то зусім завалілі нас».

Мы садзімся. Хрысціна смяецца, і я смяюся. Чаму? Проста нам хораша. У працы забываешся на ўсё: на крыўды, на сумненні, на непаладкі. У працы харашэеш душой.

— Хрысцінка...— шапчу я.

— Ну што?— ціхутка пытаецца яна.

— Добра як.

— Ага.

Я абдымаю Хрысціну за плечы. Яна спачатку прытуляецца да мяне, а пасля адхінаецца і шэпча:

— Убачаць жа.

— Ну і няхай бачаць...— храбруся я, але адсоўваюся. Усё ж боязна плётак.

Назаўтра мы закончылі малацьбу. Толькі цяпер я ўспомніў пра мяхі. Адказваю ж за іх я, а не Цопа. Пачынаем збіраць мяхі. Паўтузіна не хапае, і я хвалююся, ледзь не плачу.

— Ды не бойся ты,— кажа Цопа,— нешта прыдумаем. У мяне тут лязерва ёсць.

Ён прыносіць шэсць латаных-пералатаных мяхоў, скідае ў агульную кучу.

— Не прымуць жа,— кажу я.

— Прымуць,— адказвае Цопа.

Зноў мы едзем на Хведаравым грузавіку. Я думаю, як бы абхітрыць кладаўшчыка. Лаўлю сябе на думцы, што гэта подла. Але ж неяк трэба выкручвацца: мяхі абмяняў не я. Добра яшчэ, што падмянілі шэсць штук, маглі больш.

Кладаўшчык, аднак, заўважае падмену. І тут пачынаецца. На мяне пішуць акт. Я распісваюся. Цяпер за мной доўг, які я мушу пагасіць з запрацаваных мною працадзён. Крыўдна. Але навука добрая. Няўжо маці казала праўду, што не трэба нідзе лезці наперад? Хавайся за спіны другіх. Вось таму мы і жывём дрэнна. А каб усе разам узяліся за працу. Ды сумленна. Ды не стараліся абхітрыць адзін аднаго...

У горадзе паяўляюцца брыгады камуністычнай працы. Пра гэта я ведаю з газет. І я зайздрошчу тым людзям. Чаму ж у нас жыццё не ладзіцца? Што трэба зрабіць, каб паправіць яго? Што трэба рабіць мне?

## 5

Загурскі ходзіць пануры. Часам ён бывае ў нас. Тады твар яго святлее, робіцца мякчэйшы. Маці таксама весялей трымае галаву. Яны аб нечым гавораць, спрачаюцца, а потым, калі змаўкаюць, пазіраюць адзін на аднаго крадком і ўсміхаюцца. Я — не маленькі, я ўсё разумею, але ад гэтага боль не сціхае. Мне было б вельмі непрыемна, каб Загурскі перасяліўся да нас. Гэту хату будаваў мой бацька. Тут нябачна для нас ён жыве і цяпер... Добра, што аб перасяленні Загурскага пакуль што не ідзе гаворка. Я нават чуў, што Загурскі хоча вясной будаваць хату. Пакуль ён жыве ў Амельнічэнкаў.

— Іншага выйсця, Дашанька, няма,— чую я голас Загурскага.

— Рабі як хочаш. Толькі я свайму ворагу такога не пажадаю.

— Час жа канчаць гэту каніцель. Цопа з Макухай зусім расцягнуць брыгаду.

— А табе што, больш за ўсіх трэба...

— Даша, што ты кажаш, падумай. Хіба ж сумленны чалавек можа такое цярпець? Камунізм — не за гарамі, а ў нас што? Абсурд, як кажа Чукрай. Час цяпер, Даша, не той, каб маўчаць. Гэта мы прывыклі некалі аднаго чалавека слухаць, дык ніяк не навучымся думаць і змагацца з непарадкамі. А камунізм — гэта найвялікшая самадзейнасць народа, калі кожнаму да ўсяго ёсць справа, калі кожны выкрывае хібы і ўсе разам выпраўляюць іх.

— Глядзі, прапішуць табе хібы...

Настае доўгае маўчанне. Мне здаецца, што ў хаце нікога няма. Гэта мяне палохае, але я чамусьці саромеюся заходзіць у хату. Грукаю ботамі, кашляю і толькі пасля гэтага адчыняю дзверы.



— Дык я пайду... І так заседзеўся,— далятае з залы голас Загурскага.

Відаць, ён адчувае, што я не надта люблю яго.

Хвіліну счакаўшы, маці гаворыць мне:

— Платона брыгадзірам будуць выбіраць. На ліха яму тое здалося!.. З нашымі людзьмі хіба кашу зварыш... Сядзеў бы ціха.

— Калі будуць выбіраць?

— Ты ж пра гэта, глядзі, нікому не кажы.

Навіна здзіўляе. Па шчырасці, лепшага брыгадзіра ў нас не знойдзеш.

У суботу з раніцы Макуха хадзіў па хатах, наказваў ісці на сход. У сельпоўскай краме на раскрыжаванні пілі гарэлку, спрачаліся да хрыпаты. Вечарам усе рынулі ў Русакі. Як на кірмаш ішлі.

Цесненькі русаковіцкі клуб запоўнены да рэшты. Пальца не ўваб'еш! За сталом рэжуць «казла». На лаўках кураць самасад, лускаюць гарбузікі. Дым — слупам. Пыл — каромыслам. Я прабіваюся праз натоўп у сенцах. Нехта ляскае па плячы, закрывае вочы рукамі, якія прапахлі лякарствам.

— Стась,— здагадваюся я.

— Здароў, Янка. Колькі зім, колькі летаў...

Мы выходзім на двор. Спыняемся ў зацішку пад плотам. Я гляджу на Стася і ўсміхаюся, як здурнелы.

— Як ты? Расказвай!

— Вучуся. Грызу навуку.

— Задаволены?

— Ты, можа, пасмяешся, а толькі я сапраўды задаволены. Знаеш, сельская гаспадарка — праблема нумар адзін. Работы ў нас непачаты край...

— Не, Стась, я смяяцца не буду. Я разумею цябе і рад, што ты знайшоў сваю дарогу.

— І ты не гаруй, знойдзеш.

— Я не гарую.

— Ты тут, кажуць, да Хрысціны заляцаешся. А Шура як?

— Што Шура? Ну, а ты?..

— Я, брат, таксама пазнаёміўся з адной цудоўнай дзяўчынай. Яна на два курсы старэй за мяне. Дачка палкоўніка-адстаўніка. Добрая дзяўчына.

— Глядзі, брат,— усміхаюся я,— каб пасля інстытута ты не пачаў вырашаць праблему нумар адзін на цесцевай дачы...

— Не, мы з Эмай на вёску махнём. Яна ўрачом, я — заатэхнікам. Яна ў мяне талковая.

— Тады добра, бо ты, Стась, крыху несур'ёзны.

Стась не ведае, крыўдаваць яму ці не.

Да клуба імчыць грузавік. На ім, трымаючыся за абшыўку кузава, стаяць Чукрай і Загурскі. Машына спыняецца, з кабіны выходзіць незнаёмы чалавек, відаць, прадстаўнік з раёна. Адразу ж ад хаты Кузьмы Цопы паяўляецца натоўп: сам Кузьма, Сцяпан Макуха, Халімон Лепятуха, Стасеў бацька — Ягор Пацябня, кладаўшчык Змітрок Бабчык і яшчэ дзесятак русаковіцкіх мужыкоў.

Мяне вельмі здзіўляе, што на звычайны брыгадны сход прыехаў прадстаўнік з раёна. Але Стась растлумачвае, што адбылося ў нас.

— Загурскі гэты,— шэпча Стась,— не ўпадабаў нашы парадкі. Яны, праўда, нікому не падабаюцца. Ну, вось і павёў ён атаку на Цопу. А Кузьму, брат, зваліць не так проста. У яго палова раёна знаёмых. Ды і хітры ён, як чорт. Чукрай спачатку гатовы быў скінуць Цопу,

а тады назад падаўся. Мабыць у раёне сказалі, каб не чапаў Кузьму. Загурскі, канечне, пачаў пісаць. А знаеш жа, як любяць скаргі? Сёння будзе такая бітва, якой наша дзевятая брыгада даўно не бачыла.

У клубе стала яшчэ цясней. Мы са Стасем сяк-так узабраліся на вітрыну. Хоць і хісткае збудаванне, а трымацца можна.

За сталом ужо сядзелі прадстаўнік з раёна, Чукрай, Цопа і Сцяпан Макуха. У брыгадзіра на кіцелі медалі і ордэн. Нехта з пярэдніх радоў выгукнуў:

— А штой-та ты, Кузьма, культ на паказ носіш?

Успыхнуў і патух смех. Цопа доўга глядзеў у залу, працадзіў праз зубы:

— Ты мне культам не тыцкай. Гэтыя медалі мне за пралітую кроў далі. Такім, хто за печкай вайну прасядзеў, гэтага не зразумець.

— Ты сход адкрывай,— падаў голас Чукрай.— Дыскусіі чаго разводзіць.

Цопа аб'явіў, што сход адкрыты. Выбралі прэзідыум: Чукрая, прадстаўніка з раёна Вараніцына, Цопу, звеннявую па кукурузе Наталлю Смулёву і Змітрака Бабчыка.

Зала не сціхала. Асабліва было шумна ў парозе. Чукрай доўга супакойваў людзей, а калі шум надціх, пачаў гаварыць:

— Мы, таварышы, склікалі сход, каб пагутарыць па чыстату. Да мяне і ў раён, і нават вышэй, паступалі скаргі на брыгадзіра таварыша Цопу і яго памочніка, а фактычна брыгаднага ўчотчыка таварыша Макуху.— У зале настала напружаная цішыня.— Хадзілі чуткі таксама, што Цопа, Макуха і яшчэ хтосьці прысвоілі сабе, ці, проста кажучы, укралі некалькі мяхоў пшаніцы ў часе малацьбы. Былі і другія сігналы. Пра іх вы і скажаце пасля таго, як таварыш Цопа дасць вам справаздачу аб сваёй рабоце. Слова мае брыгадзір дзевятай брыгады таварыш Цопа.

Лёгкі шолах прабег па радах. Цопа ўстаў, расшпіліў кіцель. На грудзях жаласліва звінелі медалі, пакуль ён даставаў з-за пазухі сшытак — тэзісы сваёй справаздачы.

Звычайна Цопа гаворыць па-беларуску, але на сходах ці з начальствам трымае форс — размаўляе па-гарадскому, бязбожна крыўляючы рускія словы на мясцовы лад.

— Мой адчот, значытца, будзіт кароткі, іба ўсе знаюць і маю работу і мае ўсловія жызні. Я ўвесь на віду і значытца без народа нічога не раблю, бо анцірэсы народа для мяне святы закон. А цяпер па сушчаству майго адчота, дарагія таварышы,— ён разгарнуў сшытак, пачаў чытаць, зрэдку ўзнімаючы галаву:— Па плану нашая дзевятая брыгада ўзяла на сябе павышаныя, значытца, абавязацельствы, каторыя мы або выпалнілі, або перавыпалнілі. Клеверу, ці па-нашаму канюшыны, мы пасеялі на дзесяць гектараў больш. Ржа, жыта, значытца, таксама перавыканана. Тры гектара. Зноў жа кукурузы. Выпалнена на сто і пяць дзесятых працэнты. Замінка ў нас, таварышчы, палучылася, значытца, з агароднінай. Тут вінаваты і я па лічнасці і нашае праўленне з яго былым старшынёй таварышам Дубасекавым. Апяць жа нам не далі сямян і расады. Так што недасеў аднаго мы перакрылі другім.

— Сеяць вы з Макухай умееце, а што сабралі? — прагучаў адзінокі ў цішыні голас.

Цопа падняў галаву. На хвіліну адарваўся ад сшытка, хацеў быў адказаць, але, мабыць, палічыў, што спрачацца пакуль не варта.

— Пераходжу цяперака на догляд, значытца, пасеваў і ўборку. Людзі нашы, асазнаўшы важнасць догляду, харашо, таварышчы, трудзіліся не ўсе, канечня, што само сабой непахвальна. Апяць жа ўлічыць нада тое, што трудаспасобных у нас мала. Сенаўборку, праўда, мы зацягнулі. Апяць жа — цехнікі, самі знаеце, мала. Тут ужо віна праўлення — «масквічы» старшыням купляем, а касілак нямашака.

Гул адабрэння пракаціўся па зале. Я адразу скеміў, што Цопа надзвычай хітра адводзіць ад сябе крытыку. Я ўжо не так уважліва слухаў, што гаворыць брыгадзір, колькі сачыў за тым, як паступова Цопа скіроўвае людзей на выступленне супраць тых старшынь, якіх ужо знялі з работы.

— Дык вот, таварышчы, такая наша работа. Цяперака пра жалабы і кляўзы. Жалаб на кожнага брыгадзіра будзіць. Аднаму каня не дасі, другога палаеш, што на работу спазніўся — людзі абіжаютца. Абідаў гэтых многа. Можа каго і абіжаў, дык даруйце. Нашчот пшаніцы. Сказаць, што гэта сабачая брахня, дык тыя, хто пісаў, абідзятца. Другога слова не найду. Анцірэсна знаць, як жа я мог красць, калі ад малатарні не адхадзіў. Вінават, вагаў не было. Но, вы, таварышч Чукрай, тожа зналі пра вагі. І што вы мне сказалі? Нечага пяць разоў важыць тое, што за адзін раз можна.

— А дзе шэсць пустых мяхоў дзелі? З дурня майго хочаце сарваць? — гэта ўжо мая маці.

— Ты, Дар'я, не шумі. Што мяхі падмянілі, факт, но Івана твайго мы ў абіду не дадзім. Нада было яму мне сказаць. Я плату за мяхі са Сцяпана, Хведара і Халімона ўзяў бы. Хаця і твой сынок вінаваты. Я яго, значытца, на пагрузку паставіў, а ён Макухіну дзеўку пад паху, дый на ток. Мяхі грузіць яму цяжка. Хай цяжка, але ж самавольна. Но грошы мы з яго не будзем браць. Несправядліва было б.

Цопа сеў, выцер насоўкай нос, потым зноў падняўся.

— Забыўся на галоўнае. Дашка Сітова мыслю перабіла. Дзела, значытца, у следуюшчым, я ўжо нарабіўся брыгадзірам во, па горла, нада, каб хто другі паспытаў гэтага хлеба. Чуў я, што Загурскага мецяць. Харошая кандзідатура. Канечня і камуніст, і ваяка, паболей ардзяноў, чым у мяне. Дый нашанскі, тутэйшы, як кажуць. Хаты, праўда, у яго нямашака. Нічога, пабудуем. Нам не прывыкаць. Хай абжывецца чалавек. Па свеце паездзіў дай бог кожнаму. І тут ён доўга не ўседзіць. Я вунь чуў, што яго хацелі ў райком браць. І возьмуць. Такі чалавек доўга не ўседзіць. Але ж няхай парадак навядзець. Апяць жа дзісцыпліну. Каб, значытца, на работу, як у горадзе, хадзілі, апяць жа сена каб не касілі сваім каровам, бо скаціна, што ў лічнасці кожнага імеецца, бальшая загваздка ў дзісцыпліне і ва ўсім нашым абчэственным трудзе. Я вас заклікаю, значытца, галасаваць за Платона Максімавіча, нашага дарагога маёра роднай Савецкай Арміі.

— Ну, брат, і пахваліў,— зашаптаў Стась,— цяпер Загурскага ні ў жысць не выберуць.

Я толькі кіўнуў галавой. Вараніцын, мабыць, успрыняў апошнія словы так, як хацелася Цопу, бо паціснуў брыгадзіру руку і задаволена кіўнуў галавой. Цопа павесялеў, ён паглядаў на людзей невінаватымі вачыма, як святы анёлак, якога без віны аддаюць на здзек натоўпу.

— У каго будуць пытанні да таварыша Цопы? — запытаўся Чукрай.

— На другую палавіну працадзён будуць выдаваць прадукт, ці авансам абмяжуемся?..

— Сказануў!.. Не знаеш...

— З сенам як будзе?
— Коней чаму ў Русаковічах трымаеце?
— А-а-а, вы іх бы даўно замарылі голадам.
— У вас лепшыя?..
— Дазвольце. Чаму нам бульбянішча не даяце пераворваць?
— Яго і так рыдлёўкамі перакапалі.
— Гультаі капаюць.
— Ты ўжо нарабіўся.

У-у-у-га-га-га-а-а! Сход шуміць, гамоніць, як лес у непагоду. Спачатку яшчэ можна разабраць асобныя словы, нават фразы, пасля яны зліваюцца ў адзін суцэльны гул. Чукрай стукае алоўкам па стале. У лямпе хліпае агонь. На сярэдзіне з трэскам ломіцца лаўка, і ўвесь рад падае на зямлю. Смех, крыкі, лаянка... Чукрай б'е па стале кулаком. Настае цішыня, у якой недарэчна гучаць абрыўкі людской гамонкі.

— Так мы да раніцы прасядзім. Не сход, а адзін абсурд. Выступаць трэба па адным. Хіба яшчэ не навучыліся? Хто хоча выступіць?

Цяпер людзі маўчаць. Крычаць у грамадзе куды спадручней, бо крыкі з натоўпу не запісваюцца ў пратакол, за іх ніхто і ніколі не адказваў. А выступаць боязна. Нават не боязна, а няёмка. З Цопам заядзецца жыць. А як паглядзіш яму ў вочы, калі перад начальствам будзеш яго бэсціць? У гарачцы чалавеку можна нагаварыць лішняе, і ён не пакрыўдзіцца. Гэта не слова, а пух, які здзімае лёгкі подых ветру. А выступленне на сходзе — гэта ўжо нешта значнае. Гэта, як скарга, як данос. А хто іх любіць? Тых, хто крытыкуе, на сходзе слухаюць уважліва нават тыя, каго крытыкуюць. Да крытыкі трэба быць уважлівым. За выступленне супраць крытыкі можна мець непрыемнасці. А вось пасля сходу са смельчаком можна разлічыцца. Неўпрыкметку, вядома. Спакваля. Так насаліць, каб век помніў.

— Давайце, таварышы, выступайце, кажыце, чым незадаволены. Улічым, паправім.

Зала, як туга нацягнутая струна. Людзі хаваюць галовы за спіны пярэдніх.

— Дай мне слова,— не чакаючы дазволу, ля акна ўстае на ўвесь рост Даніла Налягач.
— Слова мае таварыш Амельнічэнкаў,— аб'яўляе Чукрай.
— Я, грамадзяне, без запісу скажу,— пачынае дзядзька Даніла.— У каго баліць, той пра свой боль і гаворыць. Я пра пчол скажу. За сёлетняе лета ў мяне пяць калод загінула. Зараз скажу, чаму загінулі. У самы медазбор Кузьма надумаў кукурузу падкармліваць. Я тады хадзіў да яго, прасіў, каб падкормку перад дажджом пасеялі. Яно так і па інструкцыі лепей, бо падкормка хутчэй да корняў дабярэцца. Кузьма мяне тады не паслухаў. У самую гарачыню ўгнаенне высявалі. Мала таго. Я неяк ужо гаварыў у праўленні. Макуха на п'яныя вочы змяшаў угнаенне з гексахлараням. Ну і сеялі мешаніну гэту. Як зацярушылі ёю кукурузу, дык два тыдні, пакуль дажджы не пайшлі, брыдка на поле было глядзець. Быццам мукой хто абсыпаў. Вось так і ўгнаенне зглумілі і пчол атруцілі. А за ўгнаенне грошы плацілі.
— Недагляд выйшаў,— кінуў Цопа.
— Недагляд, кажаш? Калісьці гэта шкодніцтвам называлася і за такі недагляд на Калыму ссылалі. Добра, час не той, але ж нехта адказваць і цяпер павінен. Ты кажаш, недагляд? А што ўгнаенне па поплаве сеялі, таксама недагляд? Засталося тры тыдні да касавіцы, а па поплаве ўгнаенне з дустам рассыпаюць. А чаму, бо ты, Цопа, хацеў першым у калгасе правесці падкормку. Табе няважна было, дзе і што падкормліваць. Абы рассеяць угнаенне. А аграном наш калгасны ў гэты час зводкі ў раён страчыў. Каго ж мы абманваем, грамадзяне? Сябе абманваем.

Было вельмі ціха. Людзі настройваліся на сур'ёзную гаворку, бо ў кожнага было што сказаць пра непарадкі ў брыгадзе.

— Цяпер яшчэ пра адну справу скажу. Пра коней, грамадзяне. Да вайны я разам з Мікітам Батоўкіным на нарадзе быў. Як цяпер помню, Будзённы пасля нарады з намі гаварыў. Наказваў каня берагчы. А як мы яго беражом? Мы дабіваем каня, грамадзяне. У Русаковічах і Зарэччы калісьці было за сто коней. А цяпер дваццаць восем ваўкарэзін. Я часта думаю, каб хто-небудзь пачаў знішчаць паравозы, паравыя рухавікі толькі таму, што электраматоры лепей, дык яго палічылі б за вар'ята. А вось каня мы выводзім. Не трэба нам конь. Машыны ёсць. Па-гаспадарску гэта? Вось хоць бы старшыня наш. На трохтонцы на сход прыехаў. А бензін — тыя ж грошы. Захварэе хто, зноў у горад гані машыну. За нявестай ехаць — падавай дзве машыны. І так скрозь. Гаспадары так не робяць.

Вараніцын шаптаўся з Чукраем. Я адчуваў, што Вараніцыну не спадабалася прамова Данілы. Даніла, між тым, узяўся за Цопу і Макуху. Быў ён бязлітасны ў словах, і ўсё тое, пра што ён гаварыў, было правільна. Хто скажа, што Цопа і Макуха не п'юць? Што яны не маюць любімчыкаў? Што не абдурваюць старшыню калгаса? І ўсё ж залішне рэзка гаворыць Даніла...

Пасля выступлення Данілы пачулася некалькі галасоў: цяпер многія хацелі выступіць. Налягач развярэдзіў балючыя раны. Але Чукрай даў слова Вараніцыну. Гэта здзівіла, бо ўпаўнаважаныя звычайна выступаюць пад канец.

— Мяне вымусілі выступіць антымеханізатарскія настроі папярэдняга прамоўцы. На кані, таварышы, у камунізм не ўедзеш. І паравозы, лакаматывы мы замяняем электравозамі. Нам не трэба чапляцца за каня. Я разумею таварыша. Ён жыве мінулым, дарагімі яму ўспамінамі. Але мы, таварышы, выступалі і будзем выступаць супраць антымеханізатарскіх настрояў. Такая крытыка не памагае нам, а цягне назад, у мінулае.

Вараніцын сеў, горды ад усведамлення выкананага ім абавязку. Наступіла тая прыкрая паўза, калі людзі пачынаюць раздумваць над сваімі намерамі: варта выступаць ці не? Паўза зацягнулася. Дарэмна Чукрай пытаўся, хто яшчэ будзе выступаць. Людзі маўчалі, як набраўшы ў рот вады.

— Дазвольце мне,— пачуўся гучны, крыху хрыплаваты голас Загурскага.

Як толькі Загурскі пачаў гаварыць, я зразумеў, што дыпламатнічаць ён не ўмее. Так можна выступаць хіба ў арміі. У Русаковічах такі тон не падыходзіць. Людзі, праўда, слухалі яго ўважліва, але з той увагай, якая азначае толькі адно: у начальства меціш, прыціснуць думаеш, а мы яшчэ паглядзім...

— Так далей працаваць нельга,— грымеў голас Загурскага.— На работу ходзяць каму калі ўздумаецца. Многія зусім не ходзяць. А калгасным дабром карыстаюцца нароўні з другімі, сумленнымі. Агарод — пяцьдзесят сотак. Карову і авечак на калгаснай пашы пасе. Сена калгаснае косіць. Свіней калгаснай бульбай корміць. А бульбу накопвае на калгасным полі, якое сам жа стараўся дрэнна ўбіраць. Не, таварышы, так мы не хутка ў камунізм прыйдзем. Пара з гэтым канчаць. Рашуча і без аглядкі. Цяпер, таварышы, наконт несумлен-

насці. Я веру ў тое, што большасць нашых людзей сумленныя. Але ж ёсць і такія, што гатовы расцягнуць калгас па вінціку, па зярнятку. У каго яны крадуць? У нас, у сумленных. Дык як жа можна цярпець, калі да цябе ў кішэню злодзей залазіць? Не можам мы цярпець! Ганьба таму, хто церпіць. Вось вы, цётка,— звярнуўся Загурскі да Хведарыхі,— бачылі, як Макуха, Восіпаў Хведар і Халімон Амельнічэнка скідвалі ў рове мяхі з пшаніцай. Чаму ж вы сказалі пра гэта праз пяць дзён, а не адразу?

Хведарыха ўнурыла галаву ў плечы, апусціла вочы. А я падумаў, што тады не ашукаўся: два мяхі былі лішнія на машыне. Загурскі чакаў адказу. Некалькі разоў ён паўтарыў: «Скажыце, цётка, не бойцеся».

— Нічога я не бачыла.

— Але ж вы казалі.

— Мала чаго. Ну вас! Няма чаго цёмную бабу ў вашу грызню ўмешваць.

— Афіцэр, а плёткі бабскія збірае,— жаночы з кута голас. Відаць, Цопавай жонкі.

І панеслася душа ў пекла. Крыкі, гоман.

— Каровак чым карміць?..

— Мы пенсіі не палучаем.

— Яму што...

— Такога пастаў, жызні не захочаш.

Чукрай крычаў да хрыпаты. Вараніцын усміхаўся, нешта гаварыў Цопу. Загурскі пабялеў, на лбе ў яго выступіў пот. Ён не выціраў яго. Нарэшце настала сякая-такая цішыня. Чукрай пастараўся перакрычаць няўмоўчны шум.

— Выступаць хто будзе?

— Хопіць.

— Нагаварыліся.

— Спаць пара.

— А цю, не выспаўся?..

— Канчай!

— Каго ж брыгадзірам выберам? — запытаўся Чукрай.

Зноў шум, гоман, з якога часам вырываліся асобныя прозвішчы, словы.

— Цопу!..

— Адпіў. Няхай другі параскашуе.

— Цопу.

— Налегача.

— Загурскага.

— Ці стане ён яшчэ?

— Не трэба.

— Міколу... Гарбуза.

— Ідзі ты...

— Міколу...

— Гарбуза...

Узапрэлы Чукрай не ведаў, што рабіць. Тады на выручку яму прыйшоў Вараніцын. Людзі як бы выбеглі на глухую сцежку, спыніліся, разгубленыя.

— Давайце па парадку. Без шуму. Што ў нас наўгародскае веча ці калгасны сход? У нас была думка рэкамендаваць на пасаду таварыша Загурскага.

— Не хочам!..

— Свайго выберам.



— Хопіць.

— Няхай хату сам будуе.

— Таварышы, я знімаю сваю кандыдатуру,— сказаў Загурскі.

Людзі супакоіліся.

— Хто такі Налягач?

У зале смех. Вараніцын ніяк не зразумее, чаму смяюцца людзі. Цопа растлумачвае.

— Налягач — гэта мянушка. Устань Даніла.

Даніла ўстае, знімае шапку, запіхвае ў кішэню.

— Я, таварышы, немалады ўжо,— гаворыць Даніла.— Быў я адзін час брыгадзірам. Не падабаўся тады некаторым. Бо я за справу нашую стаяў. І цяпер стаяць буду. От вы тут крычалі, што Загурскі прыцісне з работай. Дык і ад мяне палёгкі не чакайце. Трэба, людцы добрыя, за парадак брацца. І зноў — адзін я нічога не зраблю. А гультаі, п'яніцы няхай ад мяне дабра не чакаюць.— Даніла памаўчаў крыху, абдумваючы штосьці, потым павярнуўся тварам да прэзідыума.— Можа таварышу ўпаўнаважанаму не спадабаецца, але я скажу. Скажу!.. От вы тут мяне абвінавачвалі і так справу павярнулі, быццам хоць зноў Цопу на пасадзе брыгадзіра пакідай. А ці ж вам давядзецца з ім працаваць? Вось у чым справа... Я сам сумленна скажу, што працаваць нам давядзецца і вось яму, старшыні калгаса. Дык хіба Чукрай падыме калгас з такімі, як Цопа ці Макуха? Цопу не выгадна, каб Загурскі тут застаўся. Ого, ён такіх баіцца. А гэта нам, тым хто дабра хоча, на руку. На месцы Чукрая, я паставіў бы Загурскага сваім памочнікам. Тады ў нас справа пайшла б. Загурскі свой чалавек. Ён гэты калгас з аднаасобных гаспадарак збіраў. Ён і цяпер за яго перажывае. Крычалі тут тыя, каму дысцыпліна не па нутру, хто прывык вудзіць рыбку ў мутнай вадзіцы. Дык, можа, хопіць слухаць такіх?..

Данілу слухалі ўважліва. Было відаць, што згаджаюцца з ім. Аднекуль з куткоў нарастаў гул абурэння супраць былога кіраўніцтва брыгадай. Яго, відаць, зразумеў Вараніцын, бо, нахіліўшыся да Чукрая, нешта казаў, мабыць, прасіў хутчэй канчаць сход.

Галасавалі дружна. Данілу выбралі амаль аднагалосна. Устрымалася чалавек пяць, не больш.

Вараніцын адчуваў, што сход пайшоў не так, як яму хацелася. Таму ён, пакуль галасавалі, думаў, як далажыць райкому. Вырашыў, што варта ўсё ж далажыць так, каб у начальства склалася пра Загурскага дрэнная думка. «Няхай бы,— разважаў ён,— Загурскага выбралі брыгадзірам. А то зноў павядуць гаворку, каб забраць яго ў райком». Гэтага Вараніцыну не хацелася.

*Заканчэнне будзе.*



*Марыя Шаўчонак нарадзілася ў 1942 годзе ў вёсцы Новы Востраў Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1960 годзе скончыла Чычэвіцкую СШ. Цяпер вучыцца на IV курсе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.*

**Марыя ШАЎЧОНАК**

★

Магчыма, мяне спытаюць,
Адкуль я і хто такая.
З гонарам найвялікшым
Я адкажу: «Зямная»
І пакажу ў паўзмроку
Зямлю — сваю родную зорку.
Глядзіце, мая Радзіма.
Вунь той я сцежкай хадзіла,
За гэтым возерам сінім
Вёсны страчала і зімы,
А там вунь—чабор і бярозкі
І сосны ля самай вёскі.

На ўскраі, як казка, верас,
У неба глядзіш — не верыш,
Што гэткая неабдымная
Над галавою веліч.
А я, нібы кропля ранняя,
Вецер павее — растане.

Магчыма, мяне спытаюць,
Адкуль я і хто такая.
З гонарам найвялікшым
Я адкажу: «Зямная».
Усю прыгажосць зямную
У гэты момант адчую.

★

Хлопчык спяваў пра сонца,
Хлопчык спяваў пра неба,
Слухалі далі сонныя,
Слухалі ніцыя вербы.
Хлопчык спяваў. У залі
Дарослыя ціха ўздыхалі.
Песня замоўкла, знікла,
Зрабілася ціха нязвыкла.
І раптам, здаецца,— бура,
І раптам шматгучнае «Брава!»
Сонца заўсёды будзе,
Неба, зямля і мама.
Зноў зазвінела песня —
Зрабілася ў залі цесна.
Усё, ад зямлі да неба,
Спявала, як мір яму трэба.
Потым песню дадому
Кожны панёс, вядома.

## ДАРОГА ДАМОЎ

Мабыць, з пуху дарога дамоў,
Мабыць, боты салдацкія лёгкія.
Недзе побач — пахучы дымок
І усплёскі буслінага клёкату.
Кожны крок — як спатканне з былым,
Кожны кусцік ад радасці свеціцца.
У руцэ чамаданчык малы
Нібы ззяе ад поўнага месяца.
Вось і хата. У шыбы ледзь-ледзь
З заміраючым сэрцам пастукае
І матулю, што выйдзе сустрэць,
Як малую, падхопіць на рукі ён.
І не слёзы, а большае штосьць

Раптам к горлу падступіць хлапечаму,
Калі з роднымі сядзе за стол
Гэтым ціхім, заслужаным вечарам.

★

Зрабіўшы нясмелы крок,
З-за куста выглядае восень.
Сосны ківаюць здалёк:
«Заходзь, калі ласка, просім».

Нідзе не чутно галасоў,
Нязвыклая ціш на паляне,
Бароды густых верасоў
Плывуць у пахучым тумане.

Згубіцца б сярод галін,
І з задумённай усмешкай
Многа-многа гадзін
Хадзіць незнаёмай сцежкай.

Слухаць ледзь чутны голас,
Знаёмы з самай калыскі,
Кожнаму дрэву ў пояс
Схіліцца ў паклоне нізкім.

У кожны куточак глянуць,
Сабраць бы лясныя ўсе песні,
І потым, як лепшую памяць,
З сабой у жыццё іх несці.

★

Надзеі, і мары, і веру,
І пошук бяссонны — ўсё гэта
Узяла беззваротна папера
З душой палымянай паэта.

Ён столькі заўважыў, прадумаў,
Адчуў, зразумеў і акрэсліў,
Што з радасці светлай і суму
Адліў сваю новую песню.

А хтосьці, магчыма, рукою
Махне толькі: гэткая справа!
«Мне дробяззю, — скажа, — такою
Займацца зусім нецікава».

З усмешкаю пройдзе ён міма
І болей ні слова не скажа,



І ведаць не будзе, магчыма,
Як многа згубіў, не заўважыў.

★

Стаяў над ракою бязлісты лазняк,
Зямля пад снегам драмала ўся.
Ніхто не заўважыў, калі і як
Вясна да яе падкралася.
Пучкамі праменняў прабіўшы кару,
Сонца ў галіны ўлілося,
І пацягнуліся дрэвы ўгару
Піць веснавую просінь.
І коцікаў жоўтая,
тонкая поўсць
Лавіла праменні тыя.
Здавалася, скокнуць яны вось-вось,
Нібы кацяняты жывыя.

## ПЕРШАЯ НАВАЛЬНІЦА

Спявае вясновы лес
Пад рытм дырыжора-дзяцела.
Дрыжачай смугою дзесь
Хмара краі ўскалмаціла.
І ўжо не ўтрымалі цяжар
Вясновыя рукі кволыя...
Празрыстае срэбра хмар
Упала на сцежкі голыя.
Маланка усё ярчэй,
І кроплі, як тупат конніцы.
А лівень зямлю сячэ,
А лівень ніяк не стоміцца.
Ручай не ўмяшчае вады,
Наперад імкліва клікае:
«Ідзі, калі ты малады,
Насустрач шчасцю вялікаму.
Будзе звычайны дождж,

Навальніца ж, вось-вось
адгрымеўшая,
Ужо не паўторыцца больш,
Як тое каханне першае».

★


ут не прызначалася сустрэча,
Нас звяла сцяжынка незнарок.
Ты спачатку гаварыў аб нечым,
Не знайшоўшы слоў, пасля замоўк.
Нам здалося: словы — толькі гукі,
Сярод іх патрэбнага няма...
Вочы... Толькі вочы...
Потым рукі...
Потым вусны...
Потым — цішыня...



Павел ТКАЧОЎ

# ДВА АПАВЯДАННІ

Мал. П. Калініна.

## СЦЕЖКА ІЛЬІЧА

Рачулка Шуш летам зусім мелкая. Вясною ж, што тое мора, разліваецца. На шматлікіх астраўках тады царства птушынае. Здалёк чуваць гагатанне гусей, краканне качак ды посвіст кулікоў.

Пагодлівым майскім днём па беразе Шушы ідуць двое. Уперадзе невысокі, каржакаваты чалавек у паляўнічых ботах. Цераз плячо стрэльба, збоку ягдташ. За ім дзед. Збоку паглядзець, дык, каб не барада,— хлапчаня той дзед. Маленькі, кашчавы. У вялізнай заечай шапцы. Ідуць моўчкі. Толькі пад нагамі: чаф-чаф-чаф-чаф!.. Праз каторы час уваходзяць у лес.

— Пачакайце, Ільіч. Ух! Запарыўся,— цяжка дыхаючы, загаварыў стары.— Ну і хадок жа вы! Такіх цяперака толькі пашукаць. Быў, канечне... адзін.

Дзед скінуў з плячэй стрэльбу, мяшок і прытуліўся спіной да дрэва, верхавіна якога была зламана бураю. Зняў шапку і рукавом кажуха выцер мокры ад поту лоб.

Уладзімір Ільіч стаў насупраць. У ледзь прыжмураных вачах — усмешка. Ведаў ён — зараз Сасіпатавіч скажа нешта смешнае. Але той змарыўся і маўчаў. Толькі соп. Запытаўся тады Уладзімір Ільіч:

— Кажаце, быў адзін. Хто ж ён?

— Як хто? — Стары ажно адхіліўся ад дрэва.— Пра сябе кажу. Быў час, бегаў з падскокам, як той казёл. На паляванне хадзіў без сабакі. Сам вёрст пяць за зайцам бег і гаўкаў. Больш, праўда, дыху не хапіла.

Ільіч засмяяўся. Веснавою парою ў тайзе гулка. Падхапіла рэха смех — панесла... Далёка адгукваецца.

А Сасіпатавіч тым часам дастаў капшук, шматочак паперы і пачаў круціць папяросу.

— Ільіч, можа таго... закурыце?

— Не, дарагі Сасіпатавіч. Не куру. І вам не раю. Атрута.

— Яно, канечне, так,— атрута. Але ж звычка. Цягне.

— Цягне. А вы кіньце раз і назаўсёды,— Ільіч рэзка ўзмахнуў рукою.— Толькі так, Сасіпатавіч...

— А вы ніколі не курылі?

— У юнацтве быў пачаў. Маці даведалася. І толькі сказала: «Хіба ж можна?» Я даў ёй слова больш ніколі не курыць. І бачыце — стрымаў.

— Вам усё проста,— неяк задумліва сказаў стары.

Блакітнае воблачка дыму паплыло паміж галінамі дрэў. Над лесам, бліжэй да рэчкі, праляцела чародка качак. Сасіпатавіч схапіўся за стрэльбу. Позна. Качкі за верхавіны дрэў схаваліся.

— Можа, на Шушу пойдзем? Качак пастраляем? Га, Ільіч?

— Не, Сасіпатавіч. Вырашылі — на цецерукоў. Усё. Кропка.

— Яно, канечне,— і стары закінуў мяшок за плечы.

Ільіч перакінуў стрэльбу з аднаго пляча на другое, паправіў ягдташ і пакрочыў па ледзь прыкметнай сцяжынцы.

Ад сяла Шушанскага кіламетры два пройдзеш — лес пачынаецца. Сяляне борам завуць той лес. Там-сям сасна ці бяроза, што тыя волаты на варце. А больш — кусты. Адыдзеш глыбей — прыгожы лес. Тайга пачынаецца. Там усялякай дзічыны шмат — цецерукоў, глушцоў, рабчыкаў...



— Ільіч, таго... не туды ідзем,— сказаў Сасіпатавіч.— Тут такія мясціны — не прайсці. Балота. Трэба збочваць. Вёрст пяць з абыходам. Ах, каб на таго бога: нарабіў балот. Не паспеем да вечара месца агледзець, буданы зрабіць.., Сонца ж хутка схаваецца. Нацянькі б — усяго ж вярста якая...

— Паспрабуем, нацянькі, Сасіпатавіч,— Уладзімір Ільіч падміргнуў і ўсміхнуўся.

Стары маўчаў. Жартуе Ільіч ці не?

— Хадземце, Сасіпатавіч. Сцежку я ведаю. Быў неяк у гэтых мясцінах.— І Уладзімір Ільіч упэўнена пайшоў у балота. Стары паглядзеў здзіўлена, пацiснуў плячыма і рушыў следам.

Не спяшаючыся, размераным крокам ідзе Ільіч. Лёгка абапіраецца на кій. Часам папярэджвае:

— Асцярожней, Сасіпатавіч. Яма.

І зноў крочыць далей.



Хутка сцежка пайшла ўгору. Стала суха. Узышлі на ўзгорак.

— Тут і спынімся,— сказаў Ільіч і пачаў здымаць з пляча стрэльбу.

Толькі вечарам, калі распалілі касцёр, Сасіпатавіч запытаўся:

— Ільіч, а як вы знайшлі гэтую сцежку?

— Вельмі проста,— адказаў Уладзімір Ільіч,— лось паказаў.

— Лось?

— У пачатку сакавіка прыходзіў я сюды цецеруковыя такі паглядзець. Змарыўся. Вельмі не хацелася абыходзіць. А тут бачу — сляды лася проста ў балота павялі. Падумаў я: лось, мусіць, сцежку ведае. Пайшоў за ім. Па дарозе адмецiны пакідаў: там галінку адламаю, засечку зраблю... Вось так, Сасіпатавіч...

Быццам зачараваны, глядзеў стары на Ільіча. Глядзеў і думаў: што ён за чалавек. Кемлівы які! І просты. Таму, мабыць, і цягнуцца да яго сяляне. Не, не дарэмна баіцца яго цар. Вось і саслаў у Сібір — далей ад людзей...

— Што змоўклі, Сасіпатавіч? — запытаўся Ільіч.— Каша зварылася. Смачная будзе, з дымком...

Прагаладаўшыся, елі са смакам. Сасіпатавіч пад лыжку падстаўляў кавалачак хлеба.

Пасля вячэры стары закурыў і прылёг на хваёвыя галінкі. Ільіч прысеў на пянёк ля кастра.

— Вось вы, Уладзімір Ільіч,— памаўчаўшы, загаварыў Сасіпатавіч,— супраць цара пайшлі. Такая ж сіла...

— Чаму толькі супраць цара? — Ільіч павярнуў галаву.— Мы і супраць усіх прыгнятальнікаў: паноў, фабрыкантаў. Каб людзі працы самі былі гаспадарамі. Кажаце — сіла... Аднойчы мне ўжо аб гэтым гаварылі. Студэнтам я тады быў. Вучыўся ва ўніверсітэце. За тое, што ўдзельнічаў у студэнцкіх сходках, арыштавалі мяне. Прыстаў і гаворыць, так павучальна: «Вы што бунтуеце, малады чалавек? Сцяна ж!..» Паглядзеў я на яго і адказаў: сцяна, ды гнілая,— крані, і разваліцца.

— Так і сказалі?

— Так.

— А ён што?

— Ажно аслупянеў.

— Ха-ха-ха! — засмяяўся стары.

Уладзімір Ільіч падняўся.
— Час класціся спаць, Сасіпатавіч.
Прачнуўся Ільіч ад холаду. Хвілін некалькі размахваў рукамі, прысядаў, каб сагрэцца. Паглядзеў на гадзіннік — нічога не відно. Але адчуваў, што час ісці на паляванне.
— Сасіпатавіч, уставайце! — Уладзімір Ільіч патрос за плячо.
Стары ўсхапіўся:
— Га? Што? Бач ты... Ледзь не праспаў. І праспаў бы, стары пянёк,— Сасіпатавіч лаяў сябе па-сапраўднаму. Да такой самакрытыкі старога Ільіч ужо даўно прывык.
Сабраліся хутка. Спачатку ішлі разам. Потым разышліся.
Ільічоў буданчык у зарасніках маладзенькіх сасонак на ўскраіне паляны. Далей — балота. Уладзімір Ільіч знайшоў адразу сваё месца. Уладкаваўся. Цішыня наўкола. Раптам — недзе побач заквохкала цяцёрка. Ёй адгукнулася другая. І, быццам па камандзе, забалбаталі цецерукі. Спачатку ціха, а потым разышліся. А старыя такавікі-верхаводы, дык тыя: «Чуф-шшыы! Чуф-шшыы!» Маўляў, сюды! Памераемся сілаю. Хто мацней?
Уладзіміру Ільічу не зусім зручна сядзець. Па назе пабеглі мурашкі. Трэба ж! Тут нават варухнуцца нельга. Пачуюць цецерукі, разляцяцца.
І ўсё ж давялося прыўзняцца. Трэснула сухая галінка. Ільіч стаіў дыханне. Потым усміхнуўся: ад таго, дыхаеш ці не, нічога не зменіцца. Асцярожна сеў на ягдташ. Лепш стала, зручней. Але ж нага быццам не свая.
Пасвятлела. Лес аж зазвінеў ад птушыных галасоў. Цецеручынае балбатанне і чуфыканне, жураўліныя крыкі, скрыгатанне глушцоў, гагатанне гусей,— усё злівалася ў адну лясную веснавую песню.
На палянцы, непадалёку ад Ільічовага буданчыка, пачалася сапраўдная бітва. Аднекуль зверху, здаецца, з высокага кедрача, зляцеў прыгожы чорны цецярук. Толькі расправіў крылы, а тут — сядзіць другі. І пачалі яны адзін аднаго тузаць, дзяўбсці. Ажно пер'е ляціць.
Уладзімір Ільіч прыўзняў стрэльбу. Але стрэліць не паспеў — па лесе гулка разнеслася рэха ад стрэлу Сасіпатавіча. Цецерукі прыціхлі.
«Ёсць адзін»,— падумаў Уладзімір Ільіч.— Рады стары...» На нейкі момант убачыў перад сабою твар Сасіпатавіча. Такі працячок, маўляў, я не я і хата не мая. А вочы хітраватыя, кемлівыя і разумныя.
Дамоў вярталіся вечарам. У кожнага па некалькі цецерукоў.
Ля дома Сасіпатавіча Уладзімір Ільіч спыніўся і падаў руку старому:
— Да пабачэння.
— Ага, Ільіч, да пабачэння. Увесь час думаю пра тую размову... У тайзе... Трудная, вельмі трудная тая сцежка.
— Якая? Нешта не разумею...
— Ваша, Ільіч... Па якой ідзяце ў жыцці.
— А чаму яна толькі мая? Гэта шлях многіх. Народы ўсяго свету пойдуць па ім. Будзе так,— цвёрда сказаў Ільіч.— Ну, бывайце.— І спакойна пакрочыў па вуліцы.

# СЛЁЗЫ СТАРОГА РЫБАКА

Мы сядзім на вялізным камені на беразе мора. Я — савецкі турыст, і стары італьянскі рыбак Антоніо. А побач — проста на пяску — Джані, унук Антоніо. Сядзім і паціху размаўляем.
Крокаў за дзесяць ад нас ласкава плюскоча блакітнае мора. Неба — таксама блакітнае. Блакітнае і бяздоннае. А сонца пячэ моцна. У нас такой гарачыні не бывае.
Добра ім, старому Антоніо і Джані: з вялізнымі палямі капелюшы, зробленыя ці то з якойсьці травы ці то з саломы, засланяюць твар ад сонца. А з мяне сыходзіць, мабыць, соты пот.
Антоніо час ад часу смокча сваю люльку, выпускаючы невялічкія воблачкі дыму. Смокча і расказвае пра сваё жыццё.
Джані не ўмешваецца ў нашу размову. Ён толькі глядзіць, пільнапільна, на мой пінжак, што ляжыць побач са мною на камені.
Чорныя вачаняты Джані бліпчаць: па іх, што па кнізе, можна чытаць. І я чытаю: хлопчык вельмі хоча, каб я яму аддаў значок — маленькі чырвоны сцяжок з сілуэтам Уладзіміра Ільіча Леніна. І яшчэ чытаю: калі я аддам значок, Джані будзе самы шчаслівы чалавек на ўсім узбярэжжы вострава Капры.
— Хадзі сюды, Джані! — клічу хлопчыка.
Ён ускоквае, абтрасае пясок і, прытрымліваючы адной рукой свой капялюш, падыходзіць.
— Табе падабаецца? — я паказваю на значок.
— О, сеньёр! — у вачах хлопчыка радасны бляск.— Яшчэ як!
Антоніо глядзіць сурова: што падумае савецкі госць? Маленькі Джані, унук рыбака,— папрашайка. На твары старога папрок. Але ён нічога не гаворыць: мабыць баіцца пакрыўдзіць мяне.
— Злавацца на Джані няма чаго,— кажу я.
Стары здзіўлена глядзіць: адкуль я ведаю, што ён думае?
— Гэта значок асаблівы. Паглядзіце.
Я адшпільваю чырвоны сцяжок і падаю. Антоніо асцярожна бярэ сваімі вузлаватымі пальцамі. Падносіць да вачэй. Я бачу, стары Антоніо хвалюецца. Хуценька дастае насоўку, разгладжвае на каленах і кладзе на яе значок. Сам пачынае абмацваць кішэні.
«Мабыць акуляры шукае»,— падумаў я. Так яно і было: стары Антоніо шукаў акуляры. Вось ён дастаў іх і спяшаецца раскрыць футлярчык.
Раптам абветраны, суровы твар рыбака памякчэў, паявілася цёплая ўсмешка. Шчаслівая і нейкая задумённая.
— Сеньёр Дрынь-дрынь! — нарэшце прамовіў Джані.
— Гэта Ленін, Антоніо.
— Так, так, Льенін,— па-асабліваму мякка выгаварыў Антоніо: — Для ўсіх Ленін. А для мяне яшчэ і сеньёр Дрынь-дрынь. Прабачце — успаміны далёкага дзяцінства. Я з сеньёрам Леніным сустракаўся. Вось як з вамі.— На вачах старога рыбака паявіліся слязінкі. Ён зняў акуляры і насоўкай выцер вочы.
— Няхай вас не здзіўляюць мае слёзы. Гэта ад шчасця. Я меў гонар сустракацца з вялікім чалавекам. Так, так!
Стары змоўк і нейкі час аб чымсьці думаў. Потым пачаў успамінаць, расказваць. Я стараўся запомніць кожнае яго слова.

* * *

На Капры тады жыў рускі пісьменнік Максім Горкі. Цудоўны, скажу, чалавек. Хлапчанём быў я, крыху старэйшы за Джані. Часта раніцай прыносіў Горкаму рыбу. Мой бацька Джыавані выбярэ самыя лепшыя рыбіны і кажа:
— Сеньёру Горкаму, Антоніо.
Я ў кошык тую рыбу і бягу да дома, дзе жыў пісьменнік. Часта мяне сустракаў сам Горкі. Высокі, у кашулі, падпяразанай вузенькім поясам, і ў чорных бліскучых ботах. Усміхнецца ў свае вусы і спытае:



— Як справы, Антоніо?

Вельмі любілі Горкага рыбакі. Лічылі яго сваім чалавекам — рабочым.

Зрэдку да Горкага прыязджалі рускія. Тады ён прасіў майго тату:

— Сеньёр Джываніі, будзьце ласкавы, падрыхтуйце лодку для рыбалкі.

Тата заўсёды даваў лодку. Часам і сам ездзіў з рускімі.

Неяк прынёс я рыбу сеньёру Горкаму, дзверы адчыніў мне невысокі чалавек. Што адразу кінулася мне ў вочы — гэта вялікі лоб і маленькая бародка. Збянтэжыўся чамусьці я, а ён па-італьянску:

— Праходзьце, праходзьце, малады чалавек.

Якраз выйшла кухарка сеньёра Марыя.

— Антоніо, чаго стаіш? Гэта сеньёр Ленін. Да сеньёра Горкага прыехаў.

Я прайшоў. Выклаў з кошыка рыбу. А Ленін рукі за камізэльку і, крыху схіліўшы галаву, пачаў разглядаць:

— Вось дык рыба. Сам ловіш?

— Бывае што і сам, а то — разам з татам.

— Цікава. Цікава. Хацеў бы і я паспрабаваць шчасця на рыбалцы. Возьмеш?

Я паглядзеў: ці не жартуе ён. Бачу — не.

— Калі ласка, сеньёр... Ленін.

Дома я падрыхтаваў лодку, рыбалоўныя прылады. Усё як мае быць. Заўтра ранкам, думаю, паедзем. Але не пашанцавала. Надвор'е перашкодзіла. Вясною ў нас час ад часу дзьмуць вятры, ідзе дождж.

І вось неяк устаў ранкам. Яшчэ цемнавата.

Ветру няма — ціха. Я апрануўся і — да Леніна. Бачу — у акенцы агеньчык гарыць. Значыць, не спіць. Падыходжу — у другім акне таксама святло. Пастукаў. Адчыніліся дзверы — на парозе сеньёр Ленін.



— Што здарылася, Антоніо? — усхвалявана запытаўся ён.

А я задыхаўся, слова сказаць не магу. Ледзь вымавіў:

— Сеньёр, на рыбалку... Надвор'е добрае.

Ленін палец да вуснаў: маўляў, цішэй, спяць у доме, будзіць не трэба.

Праз некаторы час мы былі ў моры. З намі паехаў мой тата. На світанні мора цудоўнае. Замерла яно — ледзь-ледзь калышацца. Маленькія хвалі бягуць адна за другою, як дзеці гуляюць. Хутка ўзыдзе сонца. Сеньёр Ленін стаяў на карме і ўважліва глядзеў удалеч. Што ён бачыў — не ведаю. Але і цяпер мне здаецца, што нешта бачыў такое, чаго мы не бачылі.

Павярнуўся ён потым да нас:

— Сапраўдны асілак! Спакойна цяпер ляжыць. Га?

Спачатку мы не зразумелі, пра што ён гаворыць.

— Пра мора кажу...-- Ленін зноў пачаў глядзець удалеч.

— Добра сказана — «асілак»,— тата засмяяўся.— Калі ж разлуецца — сцеражыся...

— Вось-вось. Сцеражыся.— Ленін прысеў на лавачку.— Так і народ. Спакойны, але ж калі ўзнімецца — не стрымаць. Ды што казаць — у вас, італьянцаў, жыве дух Гарыбальдзі.

— О, чырвоныя кашулі, сеньёр Ленін, у кожнага ёсць,— сказаў тата.

— Чырвоныя кашулі, кажаце. Вельмі добра. Чырвоны колер — колер крыві народнае. А ну, дайце мне вёслы.

Скажу вам: такога добрага весляра не бачыў я.

Тата здзівіўся, нават запытаўся:

— А дзе гэта вы, сеньёр Ленін, навучыліся веславаць?

— Я не вучыўся. Проста так... крыху ў дзяцінстве.

Не паверыў тата, пацiснуў плячыма.

На рыбалцы мы жартам празвалі яго сеньёрам Дрынь-дрынь. А было так. Леніну спадабалася, як я лавіў рыбу без вудзільна, з рукі.

Леска наматвалася проста на палец. Тое ж зрабіў і Ленін. Закінуў і чакае. Прайшло даволі многа часу. А ён ціхенька сядзіць сабе.

І раптам:

— Сеньёр... Дрынь-дрынь!

Ад нечаканасці я ажно ўздрыгануў. Аказваецца, у Леніна пачала кляваць рыба і моцна пацягнула леску. Разам з татам сеньёр Ленін выцягнуў рыбіну. Гэта быў прыгожы марскі акунь.

— Такія не часта трапляюцца,— сказаў мой тата: — Вам пашанцавала, сеньёр.

І бачылі б вы, як радаваўся Ленін. Ён смяяўся, не мог уседзець на месцы.

Потым ужо дома тата сказаў:

— Так смяяцца можа вельмі харошы чалавек.

Вярнуліся мы апоўдні. Яшчэ здалёк на беразе ўбачылі высокую постаць сеньёра Горкага. Ён стаяў, абапёршыся адной рукой на кій, і не зводзіў вачэй з нашых лодак. Сеньёр Ленін і я наляглі на вёслы. Праз некалькі хвілін лодка плаўна падышла да прычала. Сеньёр Горкі нешта з дакорам пачаў гаварыць. Ленін уважліва слухаў. Потым павярнуўся да нас, усміхнуўся і, паказваючы на рыбіну, нешта па-руску сказаў. Горкі паглядзеў, развёў рукамі і таксама засмяяўся.

Пазней я даведаўся пра тую размову Горкага з Леніным. Кухарка Марыя расказала:

— Сеньёр Ленін усю ноч працаваў. Потым з вамі на рыбалку паехаў. Вось сеньёр Горкі і хваляваўся: не адпачыў жа.

— Дзякую за рыбалку. Да пабачэння, сеньёр Джываніі! Да пабачэння, Антоніо!

— Сеньёр... — замітусіўся тата.— Вазьміце рыбу!

— Рыбу? — Ленін засмяяўся.— Навошта? Я добра правёў час. Цудоўна адпачыў. Дзякуй. А рыбу пакіньце сабе.— І яны пайшлі.

І яшчэ я запомніў сеньёра Леніна. Вось ён сядзіць на камені на беразе мора, а вакол — рыбакі. Яны аб нечым размаўляюць, спрачаюцца. Больш гавораць рыбакі, а ён уважліва слухае.

... Стары Антоніо змоўк. Пацягвае люльку. Пых — і воблака, пых — і воблака... Джані не зводзіць вачэй з дзеда. Побач аб каменні прычала плешчацца мора. Бягуць хвалі адна за адной. Жаласліва крычаць чайкі. Стары глядзіць удалеч, і зноў на вачах яго паяўляюцца слязінкі.

— Час ісці, унучак. Хутка тата прыедзе. Сустракаць трэба.— Стары падняўся.

— Джані, пачакай.— І я чапляю хлопчыку на кашулю чырвоны сцяжок з сілуэтам Уладзіміра Ільіча Леніна.

Хлопчык задаволены.

— Дзякую, сеньёр. Вельмі, вельмі...

— Ну, Джані, цяпер ты самы малады камуніст у нашай сям'і. Да пабачэння, сеньёр!







**Алег ЛОЙКА**

# МОРА КЛІЧА

**З «Каўказскага дзённіка»**

Зялёна-блакітныя хвалі
Коцяцца за небасхіл...
Што за прастор, за далеч,—
Тут проста трагічна без крыл!..

Пячэ ногі бераг каляны,
Прыбой вабіць не перастаў,—
Калі б не было Магелана,
То я б ім напэўна стаў!..

Адно, мне здаецца, ён марыў
Не новыя землі адкрыць,
Ён ветразі ўзносіў пад хмары,
Як пару надзейных крыл.

І ён паляцеў да сузор'яў...
Зялёнай ракеты абрыс —

На ціхай пляцоўцы узмор'я
Праводзіў яго кіпарыс!..

★

Каўказ, Расія за Каўказам,
На поўдзень — іншых земляў далі...
Як сёстры, па-над самай хваляй
Сасна і пальма сталі разам.

А па-над імі горным кручам
Далёкае былое сніцца:
Чарнявы малады паручык
На ўцёсе у журбе садзіцца.

Ён аб сасне — самотнай, дальняй,
Аб снах яе нязбытных піша...
Перада мной сасна і пальма
Ледзь чутна лапіны калышуць.

На голкі веерам-далонню
Паклала пальма ліст свой згодна,
Гатовая сасну хоць сёння
За мора весці ў край свой родны!..

## БЛАКІТНАЕ АЗЕРЦА

Яно блакітнае
Пры хмарах, пры пагодзе,
Аб ім легенды
Ходзяць у народзе:

— Спыніся тут
На хвілю, падарожны,
Памый свой твар,
І стане ён прыгожы!..

І не знайшоўся
Сярод нас няверца,
Што б не паверыў
Казцы пра азерца.



Гуськом спускаліся
Да возера мы ў госці,—
Таму і людзі мы,
Што прагнем прыгажосці!..

Блакіт мы чэрпалі
Рукамі асцярожна...
Былі мы розныя,
І быў прыгожы кожны!..

Блакіт плыў з рук маіх,
І цешылася сэрца,
Што ўсіх нас зблізіла
Блакітнае азерца!..

## РАЗВІТАННЕ З КАЎКАЗАМ

Бела-блакітныя, дальнія,
На гарызонце, крыштальныя,
Застаяцеся, хрыбты,
Вы, як магніт, прыцягальныя,
Блізкія й недасягальныя,
Заказнікі пекнаты.
Будзеце сніцца вы, мроіцца
І прымушаць непакоіцца:
«Як альпіністы ідуць?..»
Знаю, аднак, новай раніцай
Сэрца да вас зноў пацягнецца,
Каб яшчэ раз азірнуць,
Схілы пабачыць замглёныя,
Лес на іх пенай зялёнаю,
Рэк горных радасны шум,
Бачыць цясніны бяздонныя,
Бачыць над імі аголены
Глыбаў валуністы тлум,
І пад іх масай знямелаю
Віць па шляху петлі смелыя,
Птушкай ляцець паміж гор:
Чуць шчасце лёту крылатага,
Хмары рукамі пакратываць,
Зоры разглядваць ва ўпор.
Не, не расстаўся б сягоння я
З вамі, красою натхнёныя,
Радасць нямая, хрыбты,
Каб не любоў мая першая,
Што за ўсіх вас найвышэйшая,
Каб, родны край мой, не ты!..



Валянцін **МЫСЛІВЕЦ**

# ДУБЫ НЕ МАЎЧАЦЬ

## Апавяданне

Мал. Б. Аракчэева.

Я ішоў у госці да свайго маладога сябра Мішы Антонава. Нізкае сонца не грэла.

Восеньскі вецярок, ціхі, як раскідаць валасы, нібы падганяў. Ад яго свежасці мне было неяк казытліва ў носе і лёгка ў грудзях.

Вячэрнія туманы ўжо ўкрылі нанач лагчыну выгану, якая раней была відаць з вуліцы аж да лесу. Сінім востравам плавала цяпер пушча па сівым разводдзі туману.

Доўга ўглядаўся я на шатрыстую, вогненную на сонцы крону дуба, які рос на ўскрайку лесу пры дарозе. Нават на курлыканне журавоў у небе не падняў галавы.

Кожнае лета я хадзіў па грыбы і заўсёды адпачываў пад зялёным шатром раскідзістага дрэва. Прысяду, бывала, і доўга ўдыхаю чыстую, густую прахалоду. А то і задрамлю, здаралася, на ўзбубнелым сухажыллі карэнняў.



І хоць больш за пятнаццаць гадоў я добра знаюся з гэтым дубам, але кожны раз падыходжу да яго з новай цікаўнасцю, чытаю сіняватую «шыльдачку» на ствале.

Невядомы чалавек некалі пралысіў лапіну на кары і выразаў: «Тут пахаваны партызан Віктар Антонаў. 1943 год».

Праз некалькі гадоў надпіс акаймаваўся серабрыста-зеленаватым абадком, а сама шыльдачка быццам урасла ў ствол.

Жалезная агарожа і крыж паявіліся пазней, і доўга думалася мне, што яны лішнія.

Ішоў я паволі, як на шпацыр, і вельмі задумаўся. Мне было крыўдна за сябе. Праз гады біўся я параўнаць шэлест лісцяў дуба з чым-небудзь важкім, значным. А ў галаву прыходзіла толькі дробязь. І сапраўды, хіба гэта адкрыццё, што дуб шуміць, быццам млын на адлегласці? Што іменна так гамоніць успененая вада, калі кідаецца, уз'юшаная, з лопасцей кола? Нікога не здзівіш і тым, што так сіпіць вада або снег на правадах высакавольтнай лініі. Так трэцца карабель аб хвалі, гудзе вулей. Нарэшце, вельмі падобна «бубніць» вялікая чытальная зала.

І ўсё гэта не тое, чаго б хацелася. Гэта не тая свежая, здаровая мелодыя, як уляснога волата. Вось бы падняцца ў нябесныя віры! Вось бы тыя пералівы данесці да людскога слыху!

Хто яго ведае, куды б я зайшоў, каб не музыка. Яна раптоўна вырвалася з акна хаты Антонавых ды неяк балюча кальнула сэрца сваёй маладзецкай гучнасцю.

Ледзь чутна рыпелі вароты на вуліцу. Дзверы ў хату і кладоўку таксама былі расчынены. Я падумаў, што госці сабраліся, і паспяшаўся на двор.

Дзед Антонавых, Ярмол Кірылавіч, тупаў каля парога. Якраз спавядаў за нешта жанчын.

— Век не знойдзеш,— крычаў ён,— як чысцюхі запратораць!

— Добры вечар, дзеду! — трохі пастаяўшы, сказаў я.— За што гэта вы так?..

— Ды малаток... палажылі недзе. А ён трэба,— адказаў дзед і падаў руку.— У хату праходзь. Пасядзі, пакуль астатнія прыйдуць. Займі там гасцей трохі... Унучкі прыйшлі.

Я нічога больш не сказаў, толькі падумаў, як пастарэў дзед. Нявестка Антонавых, Ніна Карпаўна, наліснікі выпякала. Шчуплая, падрумяненая полымем ад печы, яна выглядала маладой дзяўчынай.

Бабка, падслепаватая, сагнутая, хадзіла паўз сталы, нешта шаптала. Потым бачыў, як несла яна кляновы апалонік. Хоць Ніна Карпаўна і пярэчыла, але старая палажыла яго на стол.

Прытуліўшыся да сцяны, немалады музыкант іграў «Арлёнка». Чорныя, прапыленыя сівізною валасы акуратнымі завіткамі ўкрывалі галаву. Шырокі цыганскі твар, здавалася, акамянеў. Сарочка не сходзілася на тоўстай шыі. Пруткае шчаціннe вытыркала з запазухі.

Дзядзька здаўся мне тым чалавекам, якому пакажы толькі гармонік, і тады ўжо хоць махалам махай — увесь вечар будзе дурыць галаву.

У хаце сядзелі дзве дзяўчыны. Я прывітаўся з імі, пазнаёміўся. Маладзейшая назвалася Тамарай. Усміхнулася, паглядзеўшы на мяне. Другую, з вострым носікам, звалі Юзяй. Ад яе слова не пачуў. Ды і нагогул, колькі ні спрабаваў з імі разгаварыцца, усё марна. Што ні скажу, ніяк на густ не патраплю.

— Што вы ўсё сыкаеце, як восы тыя,— нарэшце не сцярпеў я.

— Заткнуўся б ты, дзядзька,— пралапатала Юзя, і я змоўк.

І так, у чаканні гасцей, маўчалі мы больш за гадзіну. На сэрцы ў мяне было, як з свету сходзячы. Вось, думалася, і пагуляю, як голы

ў крапіве. Усе мы былі нейкія чужыя, адзінокія.

Развесяліў нас Міша. І гэты раз зайшоў ён у хату з вясёлай усмешкай на твары.

— Сястрычкі, вы яшчэ не ўлюбіліся ў яго?— сказаў ён да дзяўчат.— Не трэба... Бойцеся яго. Ён хлопец з ганьбачкай... Бачылі, ногі не парныя... Адна левая, другая правая...

Прыпыніў Міша музыку.

— Дзядзька Хведар, а дзядзька...— сказаў ён да музыканта.— Вы хоць пот з твару змахніце... Ды і галасы хай трохі астынуць.

Дзядзька прыняў гэта ўсур'ёз і — выцерся хусцінкай. Мы ўсе, як згаварыўшыся, зарагаталі. Музыкант паставіў гармонік і выйшаў на двор.

Нарэшце, госці сабраліся.

За сталом абапал мяне пасадзілі: злева — маўчуна-музыканта, справа — Тамару і Юзю.

І тут неўзаметку я падсунуў Юзі бабін блінны апалонік.

Пасля першай чаркі Тамара ўсё нашэптвала мне, які вясёлы і прыгожы хлопец Міша. Юзя, праўда, маўчала. Толькі, усім на здзіўленне, закусвала, як не ў сябе.



«Эх, каб маці бачыла,— падумаў я,— дала б прачуханца...»

— Ад кавалера трэці месяц пісьма няма,— сказала Тамара.— Ён падводнік...

— Вось бы яе туды, каб галаву астудзіла трохі,— умяшаўся музыкант.— Бесталковаму няма ўседні...

— Было ж сказаць, дык і дзядька Хведар не граў бы,— сказаў я.— Праўда, дзядзька?

«І што за ўпіры апанавалі мяне,— думаў я.— Здаецца, бачыў свет і людзей, а тут не магу зладзіць».

Раптам мой сусед нешта заварушыўся, ды з лавы ўстае. Разводзіць тоўстымі ручышчамі, быццам хоча ўсіх прыціснуць да зямлі, і крычыць: «Ціха! Ціха!»

— Слухайце, гэта хата, а не карчма,— сказаў дзядзька Хведар.— Давайце, не будзем курыць. Лепш паспяваем...

Ён сеў і цяжка ўздыхнуў.

Не паспеў я разгаварыцца з Тамарай, як дзядзька штурхнуў мяне пад бок.

— А ты помніш Віктара? — спытаў ён, пазіраючы на мяне.

— Як праз сон,— адказаў я.— Толькі і засталося, як на вяселлі бачыў...

— З твару ўвесь Міша,— сказаў Хведар.— У плячах толькі шырэйшы... Ай, братачкі, здароўечка меў чалавек... Аднойчы двух паліцаяў прывалок з гарнізона... А толькі аплявушыў кожнага па разу... Рука была сухая, а жылістая...

— І Міша не дробны,— адказаў я, кіўнуўшы галавою.

Мне не хацелася, каб ён гаварыў. І самому не ўдавалася знайсці харошых слоў для гаворкі.

— А мяне на вяселлі бачыў? — зноў штурхнуў пад бок Хведар.— Шаферам быў...





— У галаве там было малому...— буркнуў я.— На маладога ўсё трэшчыўся.

— І вяселле чын-чынарам адгулялі. Толькі гэтак во селі за сталы. Зрабілі па шклянцы ды гамонім.... Усе, лічыць, партызаны... Машына з немцамі каля варот прыпыняецца... Ну, хоць бы адзін хто раней пачуў матор. Дзед не разгубіўся: «Сядзіце, кажа, сядзіце. Без бою аб'ягорым». Наша зброя ў баковачцы была, пад замком... У мяне, у Віктара пісталеты пры сабе... Пашарылі прышэльцы па хаце... Няпрошаныя за стол садзяцца... Вінтоўкі стары ў качарэжнік паставіў, а сам у прысядкі пайшоў па хаце. Смяюцца «госці», п'юць самагонку, маладой падміргваюць... Віктар, помню, вылез з-за стала, ды як крыкне: «Ганды гох, гансы»... І паехалі ў лес...

— Пра гэта чуў,— адказаў я.— Бацька не раз гаварыў...

— А восенню на засаду трапілі,— не сунімаўся дзядзька.— Так неспадзявана. На два крокі не ўспеў за дуб... Паміраў на руках...

— Можа гэта вы на дубе надпіс пакінулі?— спытаў я музыканта.— Вечнае вока тое...

— Братачка, зваліць хацелася,— гаварыў дзядзька.— Са злосці разоў з пяць усадзіў лязо... Потым часануў, выразаў...

І, не слухаючы астатніх, не зважаючы ні на каго, раптам заспяваў:

Орлёнок, орлёнок, взлети выше солнца
И степи с высот огляди!
Навеки умолкли...

Я ніяк не мог прыпомніць, дзе чуў такое. Малады голас цягнуў песню, быццам, перадаваў добрую, вясёлую быль са звонам крыўды. Не глядзеў Хведар ні на хату, ні на людзей, а неяк засмаргнуўся ў самім сабе і ўсё спяваў, спяваў.

Мне падумалася: няўжо такую страшную сілу мае над гэтым чалавекам яго мінулае? Так задзірыста, да шчымоты ў грудзях, нёс ён мелодыю песні.

Нешта незвычайнае тварылася са старымі Мішы. Бабуля, плюскаючы вачыма, выйшла з хаты. Дзед адвярнуўся ад гасцей і толькі відаць было, як ўздрыгваюць яго плечукі.

Ніна Карпаўна пачырванела. Па шчацэ каціліся буйныя слёзы. Міша пацепваўся, махаў маці пальцам, каб сунялася. Горка крануліся губы ў Тамары. Узяўшыся рукамі за скроні, яна схілілася над сталом.

Тут і маё сэрца ёкнула. Успомніліся ваенныя гады, як сцябаў мяне плёткаю немец. Станавілася больш пэўным, дзе быў мой бацька. А я плакаў і крычаў, што ў мяне няма таты. Як учора было, уявіў вяселле ў Антонавых. Помню, доўга крычалі: «Горка, горка!». А я сабіраў лушпінне з вараных буракоў. І казаў пасля маці, што маладая скупая: «Не магла хоць гарошку дзе купіць».

Спяваў на вяселлі больш за ўсіх малады, паказваючы белыя дугі здаровых зубоў. Падцягвала Ніна Карпаўна, і яе чыстыя слёзы сыпаліся на белую шаўкавістую сукенку. Граў смуглы, чубаты, з бантам — цяперашні мой сусед.





# ПАЭТ-ВОІН

*Картлі, зямля дарагая,*
*Родная наша зямля,*
*Нашым агністым*
*сонцам*
*І сцягам клянуся я,*
*Калі паспрабуюць*
*чужынцы*
*Гэтае неба зацьміць,*
*Жыццё я аддам*
*маладое,*
*Каб маці-Радзіме*
*служыць!*

*М. Гелавані.*

Пагодлівым летнім днём 1934 года семнаццацігадовы юнак адчыніў дзверы будынка, у якім размяшчаўся Саюз пісьменнікаў Грузіі, і нясмела стаў падымацца па доўгай, вітой лесвіцы на другі паверх. Тут яго сустрэў паэт Г. Цэцхладзе. А праз некаторы час мы прачыталі ў апублікаваных Р. Гветадзе «Лашаурскіх вечарах»:

«Тры-чатыры дні таму назад у Саюз пісьменнікаў, як палахлівае аленянё, заглянуў адзін юнак. Ён прынёс з сабой рукапісны слоўнік Сулхана Саба Арбеліяні, перапісаны некім у даўнія часы. Юнак чамусьці накіраваўся проста да мяне і ветліва спытаў, ці не набудзе Саюз пісьменнікаў гэты слоўнік. З аднаго боку, мяне зацікавіў рукапіс, з другога — мне захацелася даведацца, хто такі юнак. Ён аказаўся сынам свана, які перася-

ліўся ў Ціянеты, і вучыўся ў восьмым ці дзевятым класе. Мне спадабаўся яго выгляд, манера гаварыць. Я распытаў яго. Высветлілася, што ён піша вершы, сочыць за ўсім, што публікуецца, ведае на памяць вершы многіх паэтаў. Я абнадзеіў яго і параіў аднесці рукапіс слоўніка ў літаратурны музей.

Сёння я атрымаў ад яго ліст, і ў ім некалькі вершаў. Адзін з іх, найбольш варты ўвагі, я прынёс з сабой, каб прачытаць яго вам.

— Цікавая гісторыя, — заўважыў Лаша.

— Прачытай нам яго, прачытай! — папрасілі астатнія.

Гіві пачаў чытаць ціхім, задушэўным голасам:

### БЕЛАЯ ЗЯМЛЯ

Зямля накінула адзенне белае,
І як палацi белыя — хрыбты
ўгары.
Ляпіла снежкі ты рукой няўмелаю,
Я помню ўсё і па табе тужу з тае
пары.

Нібы віхор магутны — жаданне
ўбачыцца,
І чыстае яно, як белая зіма.
Запомніўся твой твар з радзімкаю
гарачаю,
Мне трэба твая ўсмешка, тваё
сэрца й ты сама.

*Рэзо Гелавані.»*

Так быў надрукаваны першы верш Мірзы Гелавані. У 1935 годзе ён скончыў Ціянецкі педагагічны тэхнікум і на працягу некалькіх месяцаў настаўнічаў у сярэдняй школе Сіманіят Хеві. А праз год Гелавані прыехаў у Тбілісі і з захапленнем заняўся літаратурнай працай. Адзін час ён супрацоўнічаў у выдавецтве «Федэрацыя», потым у рэдакцыі абхазскай газеты. Але Мірза нідзе не затрымліваўся падоўгу, таму што, як ён сам лічыў, служба перашкаджала яму ажыццявіць запаветную мару.

Вершы Мірзы Гелавані былі надрукаваны ў часопісе «Чвені таоба» («Наша пакаленне»). Пазней яго творы друкаваліся і ў іншых часопісах і газетах. Першыя ж вершы паэта заваявалі высокую ацэнку чытачоў і пісьменніцкай грамадскасці. Мірзу прынялі ў Саюз пісьменнікаў, а ў 1939 годзе ў клубе пісьменнікаў быў арганізаваны яго творчы вечар, які паказаў, якую любоў чытачоў паспеў заваяваць гэты таленавіты юнак на працягу якіх-небудзь трох гадоў. Іменна ў гэтыя гады былі апублікаваны яго лепшыя вершы і балады: «Аон», «Пандуры», «Тушынка ля ручая», «Цхракара», «Пагроза пастуха», «Сойка, забітая на двары Важа», «Шаўлега», «Торгва», прысвечаная гераічнаму мінуламу камсамола Грузіі паэма «Шаўнабада» і іншыя творы.

Марозным лістападаўскім ранкам 1939 года Мірза накіраваўся ў далёкі шлях. Перад адыходам ён казаў мне:

«Я хачу зведаць жыццё салдата, і хто ведае, удзельнікам якіх вялікіх бур я стану. Калі я ўцалею, вершы мае будуць больш праўдзівыя і мужныя».

Як салдат, ён змагаўся ў многіх кутках нашай радзімы. З «Дзённіка ваеннага шафёра», які даслаў М. Гелавані ў 1940 годзе, мы даведваемся, што ён разам з часцямі Савецкай Арміі ўступіў у Бесарабію, вызваленую нашымі войскамі. «Калі вызваленчы грукат нашай арміі запоўніў Карпаты, калі неба засланілі савецкія самалёты, калі мая машына рухалася сярод мора ўзрадаваных людзей, я быў перапоўнены пачуццём, якое напэўна адчуваў Георгі Саакадзе, калі ён вызваляў Грузію», — сказана ў «Дзённіку» Мірзы Гелавані.

А ў 1941 годзе ў лісце да сясцёр і родных ён піша:

«Вайна пачалася. Я ведаў, што яна пачнецца... Верце, мае дарагія: калі лёс мой абарвецца гэтай вайной, калі мне наканавана смерць, я прымушу ворага дорага заплаціць за маё жыццё. Ніколі вам не давядзецца чырванець за мяне. Я спакойны. У мяне ажылі дух і цвёрдасць Цатнэ Дадзіяні, і вы можаце з гонарам казаць: я абараняю сваю айчыну, я змагаюся, каб будучыя пакаленні былі шчаслівейшыя і дужэйшыя за нас. Радзіму я люблю больш за сваё жыццё. Радзіма, нягледзячы ні на што, — жыве, і воклічы яе сыноў абуджаюць смерчы... Гэта самая найвялікшая з усіх войнаў на зямлі. Ні войны Ганібала, ні Македонскага, ні Напалеона не параўнаюцца з ёй у велічы... І не было нідзе на свеце такога вялікага сэрца, як мае сэрца цяпер, як сэрцы маіх таварышаў».

Цяжкім, крывавым шляхам ішоў паэт-воін разам з савецкімі салдатамі і вызваляў гарады і вёскі Украіны і Беларусі. Вершы і лісты Мірзы гэтага перыяду сагрэты вялікім патрыятычным пачуццём.

Вось адзін з апошніх яго лістоў. Ён датаваны 30 красавіка 1944 года. Мірза ў Беларусі. Яму споўнілася 27 год. У лясах Беларусі наступіла вясна.

«Па палях пацякլі ручайкі, ля-



**На магілу паэта Мірзы Гелавані прыехалі родныя з далёкай Грузіі.**

жаў лёд, які апранаў зямлю, і ў паветры адчуваўся пах свежасці. Я цэлую гадзіну хадзіў з тваім лістом у руках, — піша ён сваёй сястры Русудан Гелавані, — і мне прыгадалася, як аднойчы вясновым днём у Тбілісі я, хлапчук, стаяў ля Опернага тэатра і глядзеў на пажылога селяніна, што беражліва трымаў у руках букет фіялак: калі да яго набліжалася маладая пара, ён бясклапотным голасам прапаноўваў: «Фіялкі... фіялкі... фіялкі!..» І сёння быў якраз такі ж дзень, як тады: у прыродзе многае паўтараецца. Паўтараюцца нават дні, і адно лёгкае воблачка зараз якраз гэтак жа стаіць на паўночным небе, як некалі стаяла яно над Тбілісі. Сонца распусціла залатыя космы і, быццам вясёлкавы мыльны пухір, лёгка плыве ў вышыні; і я чакаю: вось яно лопне там, угары, і пральецца залатымі кроплямі, як відовішча самае велічнае. Дзень гэты наведаў мяне і прынёс з сабой перажыванні даўніх часоў. А гэта ж і ў мяне быў бы цяпер такі ж бесклапотны голас, як у таго селяніна. І я мог бы гэтак жа паўтараць: «Фіялкі... фіялкі... фіялкі!..» Цяпер я дваццацісямігадовае дзіця, і вось, перад маімі вачыма ўзнікаюць тыя гады — з болем, які яны прынеслі, з ашуканствам, якое дасталося ад іх на маю долю. І хаця ў мінулым маім я бачу толькі адзін-два светлыя, радасныя дні, усё-такі я ўсміхаюся, прыгадваючы яго. Я перапоўнены радасцю! І такое прыгожае гэта сонца, што я ўсё дараваў свайму мінуламу».

А ўлетку таго ж года абарвалася жыццё Мірзы. Гэта была страта не толькі для яго родных, сяброў і знаёмых, але і для ўсёй літаратурнай грамадскасці.

Ішлі гады, мы нічога не маглі дазнацца пра магілу Мірзы. Ніка Агіяшвілі, адзін з бліжэйшых сяброў Мірзы Гелавані, у сваёй кнізе «Яны засталіся юнымі назаўсёды» пісаў: «І Мірза так і не ўбачыў «Сонца перамогі пасля баёў».

А да заканчэння вайны заставалася так нямнога... Вестка пра смерць яго быццам громам аглушыла нас. Але можа мы яшчэ здолеем адшукаць магілу Мірзы! Можа яна знойдзецца, паявіцца дзе-небудзь, бясконцая хада часу вынясе яе да нас гэтак жа, як вада снегу, які растае ад спякотных праменняў летняга сонца, выносіць з патаемных расколін цела альпініста, што загінуў многа год назад. Хто ведае, а пакуль што:

Лада заснуў ля варот Тбілісі, –
Магіла ж Мірзы нам невядома.»

І вось яшчэ адзін ліст. Але ён напісаны не Мірзой. Яго прыслалі маці Мірзы (цяпер нябожчыцы) беларускія піянеры. Ліст датаваны 13 чэрвеня 1963 года. У ім мы чытаем:

«Паважаная Гелавані Ева Іосіфаўна, вам пішуць піянеры Ржаўскай сярэдняй школы.

На нашай тэрыторыі ў сяле Саннікі знаходзяцца вайсковыя могілкі, на якіх пахаваны ваш сын Мірза Гедэонавіч Гелавані. Наша школа шэфствуе над яго магілай: штогод 22 лютага і 9 мая ўскладаем вянкі і садзім дрэвы.

Мы вельмі хочам, дарагая Ева Іосіфаўна, ведаць усё падрабязна аб вашым сыне. Мы вас вельмі просім, каб вы нам адпісалі на наш ліст, і калі ёсць у вас фотаздымак вашага сына і ваш асабісты, то прышліце нам, калі ласка.

З прывітаннем да вас усе піянеры нашай дружыны.

Пішыце нам па адрасу:

БССР, Віцебская вобласць, Бешанковіцкі р-н, Біклажскі с/с, п/а Ржаўка, Ржаўская СШ, дырэктару».

12 ліпеня гэтага года ў Віцебск вылецелі сястра Мірзы Русудан Гелавані, яго брат Тэймураз і блізкі сваяк Трыстан Хуцышвілі. Вось што расказалі нам яны, вярнуўшыся адтуль дадому:

«12 ліпеня мы прыбылі ў Віцебск, дзе наведалі інструктара абкома камсамола Марыю Андрэеўну Стальмакову, якая вельмі сардэчна сустрэла нас, выслухала і пазваніла ў Бешанковіцкі райком, каб нам памаглі, калі мы прыедзем у Ржаўку.

На наступны дзень нас цёпла сустрэлі ў сярэдняй школе дырэктар Мікалай Іванавіч Берасцень, настаўнікі, піянеры і мясцовыя жыхары. Тут жа прысутнічаў і старшыня выканкома сельсавета Аляксандр Васільевіч Журко.

Са школы мы накіраваліся на брацкія могілкі, якія знаходзяцца непадалёку ад вёскі Саннікі, каля Заходняй Дзвіны. На могілках узвышаецца ўстаноўлены ў 1952 годзе абеліск з надпісам:

«Вечная слава героям, якія загінулі ў барацьбе за свабоду і незалежнасць нашай радзімы (1941—1945). Тут пахаваны старшы лейтэнант Мірза Гедэонавіч Гелавані, гвардыі сяржант Ваут Ізмаілаў і іншыя».

Прах Мірзы перанесены сюды ў 1952 годзе, калі былі закладзены гэтыя могілкі, на якіх разам з Мірзой пахаваны астанкі трыццаці байцоў, перанесеных з розных месцаў.

Як высветлілася, Мірза Гелавані загінуў у ліпені 1944 года ў часе фарсіравання Заходняй Дзвіны. Яго спачатку пахавалі ўскрай дарогі ў лесе непадалёку ад вёскі Ніжняе Крывіна. Мясцовыя жыхары добра памятаюць яго пахаванне. З намі гутарылі былыя партызаны Ганна Васільеўна Савельева і Васіль Харытонавіч Красіцкі, якія хавалі тут загінуўшых байцоў. На ранейшай магіле Мірзы быў устаноўлены помнік з яго партрэтам і надпісам.

Заўчасна загінуў малады таленавіты паэт, які пакінуў нямала добрых вершаў, балад і паэм.

Грузінская літаратурная грамадскасць з пачуццём удзячнасці ўспамінае паэта-воіна. Няхай будуць неўміручымі слова і справа Мірзы Гелавані. Няхай паслужаць вялікім прыкладам дружбы народаў, у прыватнасці дружбы беларускага і грузінскага народаў, тыя брацкія могілкі, дзе спачывае прах нашага палымянага паэта і адважнага воіна, эпітафіяй якому маглі б быць радкі з яго ўласнага верша:

«Дзесяткі ран ад кулі і клінка,
Маўчаў ты — над табой сябры
стаялі.
Я шолах ветру чуў, данёс ён
землякам
Твой голас, твае словы загучалі».

**Вахтанг БЕЦУКЕЛІ.**

НА АРБІТУ КАМУНІЗМА

# І ЗНОЎ БУДУЦЬ ПЕСНІ



**Нарыс**

I

Яшчэ над блакітным Гронаўскім плёсам гаманіла электрапіла, неакораныя калоды зрываліся з эстакады і па лагах каціліся ў ваду, яшчэ моцныя рукі плытагонаў вязалі на вадзе з калод грабёнкі, а на прыстані адчувалася ўжо маўклівае чаканне чагосьці...

Нарэшце звязаны апошні плыт, на аралы накінуты прычальны дрот, і плытагоны сышлі на бераг.

Браты Іван і Міхал Крыжовы, Іллюк Цыганкоў ды Іван Захарэнка сабраліся купкай. Закурылі. Брыгадзір Іван Крыжоў дастаў з карабка чатыры запалкі, адну надламаў і ўсе разам схаваў у шырокай далоні: чатыры загадкі. Першы пацягнуў Захарэнка. І тут жа злосна кінуў запалку вобзем. Яму выпала плысці першым.

Я сядзеў на сляпуча белай кручы, чакаючы той хвіліны, калі хлопцы прынясуць хатулі з хлебам, салам, бульбаю і мы адчалім ад прыстані. Чатыры плыты адзін за адным ляжалі на вадзе. Паныла ўткнуўшыся насамі ў зямлю, на беразе драмалі рыбацкія чаўны. Гэтак жа паныла, размораныя пад сонцам, чакалі сваіх гаспадароў вялізныя лодкі-дубы. І здавалася, што ўсё на прыстані прыціхла перад развітаннем з плытагонамі. Прыціхла з сумам і клопатам.

Першыя ля плытоў з'явіліся гронаўскія хлапчукі. Яны неслі шасты з набітымі на канцы жалезнымі рачыкамі, маткі тоўстага дроту, ланцугі. Распрануўшыся і паўлазіўшы ў ваду, яны пачалі ўкладваць на плытах жэрдзе, колле, дошкі: бацькам усё спатрэбіцца ў дарозе.

Басанож па пясочку з кручы збеглі меншыя сыны Івана Захарэнкі. Яны смела ўскочылі ў рыбацкі човен і адпіхнуліся ад берагу. А тым часам з берагу спакваля спускаліся бацька, маці і старэйшы сын Паўлік.

У хвіліну развітання бацька, як заўсёды строга, наказваў Юрку і Тосі, каб слухаліся матку. Паўліку ён нічога не гаварыў, мусіць, лічыў, што ён ужо дарослы.

Вось плынь ужо вынесла Іванаў плыт на сярэдзіну ракі. Іван яшчэ раз махнуў шапкай у той бок, дзе на беразе загарэлымі ручанятамі махалі хлапчукі і, абняўшы малых за плечыкі, стаяла жонка.

За ім адчалілі і мы з Крыжовым. За намі Міхал і стары Іллюк.

Сонца бралася на поўдзень. Я паклаў два бярозавыя бярвенцы на шырыні, якой на двох з Іванам павінна было хапіць, каб легчы, паслаў між бярвенцаў дошкі, кінуў на іх ватоўку...

II

Спачатку Сож быў шырокі і роўны. Потым то з аднаго, то з другога боку пачалі пракідацца водмелі, і разам з імі на нашым шляху вырасталі вешкі, якія паказвалі глыбіню вады. Неўзабаве ўсе вешкі збегліся ў правы бок, і мы трымаліся левага берагу. Часамі плыт набягаў на бераг і, рушачы зямлю, тармазіў адным рогам, другі рог заносіла ўперад, і плыт пачынаў, як п'яны, раз за разам тыцкацца ў кручу. Яго круціла, нібы трэску. Тады Іван спрытна скакаў з грабёнкі на грабёнку,



**Першымі ля бацькавага плыта былі Юрка і Тося.**

з бервяна на бервяно, заносячы доўгі шост і напінаючыся ўсім сваім дужым целам.

Недзе ззаду сеў на мель Міхалаў плыт. Скочыўшы ў ваду, Іван берагам пашыбаваў да брата на падмогу. А праз некалькі хвілін, калі я адзін сядзеў на плыце і разпораз шлёпаў па вадзе блясною спінінга, данеслася злоснае і патрабавальнае:

— Прыча-ал! Выкідвай арала!..

Я не паспеў здагадацца, што здарылася, як да мяне на плыт ускочыў Іван Захарэнка. Ён схапіў тоўсты кол з прычальным дротам і, выскачыўшы з ім на бераг, адразу ўсадзіў у зямлю. Аднак плыт вышмаргнуў арала з зямлі, і Іван усё бег і бег, спрабуючы ўсадзіць арала яшчэ раз... Нарэшце дамогся свайго, плыт здрыгануўся, як злоўлены звер, заскрыгатаў ланцугамі, зарыпеў бярвеннямі і пакорліва прыхінуўся да берагу.

Першыя хвіліны дарогі і першыя нягоды. Недарма ўзяў наш плыт на арала Іван Захарэнка: наперадзе, счапіўшыся адзін з другім і ўпершыся ў абодва берагі, сталі два плыты з той самай брыгады, якая выйшла ў дарогу надоечы. Зацяты Мікалай Цацоха і рухавы Мікалай Антонаў бралі грабёнкі на вагу, тапілі адзін плыт, каб па ім цягнуць другі, але нічога не выходзіла. Тады ніжэйшы плыт пачалі разбіраць па грабёнках, кожную грабёнку спіхваючы на волю.

Тут можна было ўзапрэць хоць якому мацаку. Назіраючы, як пацелі хлопцы, я пачынаў разумець Івана Крыжова, які сказаў: «Хто хоць адзін раз прагоне плыт па Сожу, той запомніць гэта надоўга. Шмат людзей паспытала наш хлеб, але рэдка хто ўпадабае хлеб гэты на ўсё жыццё». Пачынаю я разумець і яшчэ адно Іванава прызнанне: «Просяць мяне пайсці на лесасеку. А нашто мне гэта, калі я плытагон? Не хачу. Не магу я плыты пакінуць. Можа, скажаце, з-за доўгага рубля тут? Э-ге! Доўгія жылы патрэбны, а рубель тут не такі ўжо і доўгі, а бывае і зусім кароткі. Тут я вам так скажу, хто ўцягнуўся ў нашу плытніцкую справу, той яе не пакіне».

... Вечарэла. Мы мінулі яшчэ адну лесасплаўную прыстань — Карэлаўку, праплылі ўсцяж зарослага зелянінаю гарадка Чэрыкава і выйшлі на шырокі Ліменьскі плёс.

Барвовае сонца, як каравела з чырвонага золата, гойдалася на вадзе. Мы расклалі вогнішча іварылі юшку. На вячэру да нас прыйшоў Міхал.



На плыце моцна пахла рыбаю, водарасцямі і свежым мурожным сенам. Плыты ішлі ціха і пакорліва. Іван і Міхал расказвалі мне пра сваё плытніцкае жыццё, пра сплавы вясновыя і асеннія, даваенныя і цяперашнія. Яны гаварылі, як аднойчы на вачах у старэйшага гронаўскага дубовіка Шнэйдара (апошнія гады ён працуе на прыстані дзесятнікам) здарылася такое, чаго больш за ўсё баяцца плытагоны.

Неяк увесну Шнэйдар праводзіў плыты з Гронава. Узняўся вецер, і Сож запеніўся, раз'юшыўся, завіраваў. Узлёгся на першы плыт, затапіў пярэднюю грабёнку, а з другога боку падкраўся пад бярвенні і падняў іх з жорасцямі над вадою. Ветру падсабіла вада. Удвох яны падхапілі плыт на дыбкі, і нейкае імгненне ён стаяў у вадзе неверагодна страшным злыднем, гатовы абрынуцца ўніз і патапіць усё жывое... І ён абрынуўся.

Толькі цудам уратаваліся плытагон і Шнэйдар: вада выкінула іх на бераг. Але найбольшы страх пяражыў плытагон, які з таго часу невядома куды дзеўся з прыстані. Казалі, што ён умомант стаў сівы, а калі ў яго пыталіся, як здарылася такое, ён толькі матаў галавою ды ўздыхаў, гаворачы адно і тое ж: «Перажыў вайну, бачыў жахі, але такога пекла ніколі не сустракаў!..»

Гэта было ўвесну, самую страшную для плытагонаў пару, калі на вялікім разліве ракі вада мчыць з незвычайнай імклівасцю, кідаючы плыты, як ільдзінкі, і кожны раз пагражаючы перавярнуць іх або разбіць аб кручу.

У гэты таямніча ціхі вечар ля вогнішча Іван не расказаў пра тое, як і яго, гадоў некалькі назад, вясна абдала не толькі цеплынёю, але і жахам перад раз'юшанай стыхіяй.

— Як і цяпер, плыты гналі ўдзень і ўночы,— потым ужо расказаў Іван.— Уночы падняўся вецер, падзьмуў у спіну. Калі ў меру дзьме — добра, а тут падняўся пагоннік, ды такі злосны, і павёў плыты, павёў... А месца маё (так мы плыты завём, па-плытніцку) нялёгкае было. Адна грабёнка ўся з асіны зімовай нарыхтоўкі. За зі-



**Потым прыехаў бацька з Паўлікам.**

му ды вясну асіна набрыняла, грабёнка мая і асела. Так асела, што паклёсы нацягнуліся і прыўзнялі заднюю, лягчэйшую, грабёнку. А як прыўзнялі, тут вада з ветрам падхапіла яе, нібы прыпол жаночай сукенкі, на дыбкі. Хлопцы крычаць: «Скачы ў ваду, кідай месца...» А я думаю: як гэта месца кінуць? Засмяюць потым, сорам плытніку кінуць сваё месца. «Дык хатуль тут»,— крычу, каб адчапіцца. А сам упёрся шастом у грабёнку, якая ўжо над самаю галавою, напінаюся, як толькі можна. «Кідай хатуль, гары ён гарам!» — крычаць. І бачу я, што паклёсы вытрымаюць грабёнку, не дадуць ёй адарвацца, а значыць, яна вось-вось рухне на плыт, на галаву мне... З усіх ног кінуўся я з плыта. Ледзьве паспеў адплысці, як гахнула на плыт грабёнка...

— Страшна гэта, Іван?

— Як сказаць...— маўчыць.

Мы сядзім на сене, якое падаслалі на ноч. Побач распакаваны Іванаў хатуль, пачатая буханка духмянага хлеба, кавалкі вяндлі-



**Выдатнік міліцыі, старшы сержант Міхаіл Чыжык. (Гл. рэпартаж «Людзі просяць памагчы»)**

Фота **А. Дзітлава.**



**Вядомаму беларускаму пісьменніку, аўтару гісторыка-рэвалюцыйнага рамана «Сустрэнемся на барыкадах» і шматлікіх зборнікаў паэзіі і прозы Піліпу Сямёнавічу Пестраку 27 лістапада гэтага года спаўняецца шэсцьдзесят гадоў.**

**Актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнага руху ў былой Заходняй Беларусі, Піліп Сямёнавіч многія свае творы пісаў у турмах і нярэдка — цвіком на сцяне турэмнай камеры. Цяпер Піліп Сямёнавіч у росквіце сваіх творчых сіл. У яго шмат задум, вялікія творчыя планы.**

**Ад усяго сэрца жадаем нашаму юбіляру многа здароўя і плёну ў яго літаратурнай дзейнасці.**

ны, гуркі і банка венгерскага фаршыраванага перцу. Перац Івану не падабаецца — слабы. Мы толькі расклаліся вячэраць, ды не вячэраем: моўчкі думаем аб сваім.

Я думаю пра Івана. Ён прыблізна маіх гадоў, але, скажу па-праўдзе, рукі і плечы яго не маім раўня. Ён увесь з мускулаў, нібы спецыяльна народжаны для нялёгкай плытніцкай справы. Але ўсё гэта — яшчэ не тое асноўнае, што вабіць мяне ў гэтым хлопцу. Зачароўвае яго зацятасць, калі ён ставіць плыт на арала, або, распяўшыся на шасту, выводзіць на сярэдзіну ракі сваё непакорлівае месца ад берагу. Для кожнага руху ў яго свая пастава, дасканала выпрацаваная за трынаццаць год адной і той жа работы. Але ў кожнай паставе ён аднолькава моцны, маўклівa зацяты, напружаны, як узведзеная спружына. Іван бялёсы, галава яго і бровы залацяцца, падсмаленыя на сонцы. Вецер, сонца, вада і сцюжа — яго заўсёдныя цырульнікі, часта бязлітасныя.

Такі ён і цяпер сядзіць насупраць мяне.

Такім я бачу яго ў той вясновай



**Вось ён, бясстрашны плытагон Іван Крыжоў!**

сутычцы з стыхіяй раз'юшанай вады і ветру.

Такім я хачу запомніць Івана Крыжова.

## III

Калі плытагон выходзіць у сплаў, дарога абяцае яму сустрэчы, сустрэчы...

Сустрэчы і ростані. У плытагона яны то радасныя, з сакавітымі кпінамі і смехам, то гаркава-маўклівыя, то з сур'ёзнай і неабходнай шчырай размовай. Бываюць яшчэ і другія.

Найчасцей плытагоны сустракаюцца з рыбакамі. Размова ў іх пачынаецца асцярожна, а канчаецца шчырым рогатам. Тут ёсць і свежая выдумка, і даўнія дасціпныя плытніцкія жарты.

— Прадай рыбы, рыбак... — заўсёды спытае плытагон, хоць свая юшка стаіць на вогнішчы.

— Колькі табе? — абавязкова з сур'ёзным выглядам спытае рыбак. А ў душы пачынае ўжо смяяцца, бо навошта ж плытніку рыба?

— Кілаграмчыкаў пяць, — хоча збіць з панталыку свайго субяседніка плытагон.

— Дык кідай шост, нясі грошы, — не здаецца рыбак і пераможна ўсміхаецца.

— Шост нельга кінуць, бо зацягне к чорту!.. Нясі рыбу сам. Во грошы, — ляпае па пустой кішэні плытнік.

І раптам абодва рагочуць.

Надараецца сустрэча і з такім рыбаком, які на жарт: «Прадай рыбы...» дабрадушна і шчыра, не разумеючы кепікаў плытагона, адкажа:

— Не злавіў яшчэ.

Так адказваюць звычайна дачнікі — хто не ведае мясцовай завядзёнкі. На такі выпадак у плытагона ёсць свой, ужо соладка-стрыманы, нават нейкі лірычны смех.

— Як уловіш, то мяне пакліч. Я буду чакаць тут, за галоўкаю. Добра зарабіць дам...

Аднак найчасцей да плыта далятае даўні, па-блазенску прастадушны, жарт:

— Плытагон, вады даць?..

Гэта ўжо без ніякай сур'ёзнасці, больш таго — спачатку пачуеш рогат і потым ужо: «Плытагон, вады даць?..»



Ад гэтых слоў плытагон заўсёды хмурыцца, бо колькі год можна вось гэтак здзекавацца з яго, якога вада і носіць, і корміць... Толькі блісне вачыма плытагон, задумаецца: якія словы знайсці, каб добра адгаварыцца. І заўсёды штосьці прыдумае, моцнае, салонае.

І так ад далягляду да далягляду: нястомны жарт плытагонаў, невычэрпныя выдумкі з навевам крынічна-чыстага і прастадушнага смеху. Гэта і ёсць сонечныя пырскі славутага фальклору плытагонаў, які здаўна цешыць, весяліць і радуе людзей на Сожы.

І яшчэ ёсць чыстыя працяжныя плытніцкія песні, якія глыбока западаюць у душу па начах, калі пад табою патузваецца на паклёсах плыт, а ты смачна, з невыказнай асалодай ва ўсім целе, ляжыш на свежым сене, глядзіш у бяздоннае зорнае неба і слухаеш. Слухаць уначы няма чаго, акрамя лагоднага лапацення вады пад бярвеннем ды працяжнай, як ноч, спакойнай, як рачная плынь, Міхалавай песні:

Гоне, гоне плытагоне
Сваю долю, сваю волю...

Мяккі, крыху падсохлы Міхалаў голас хвалюе не аднаго мяне, бо раптам і хвалі вакол угаманіліся, і зоркі пазырчэлі, і мой Іван прыціх побач і шырока раскрытымі вачыма глядзіць у бездань неба...

Наскочыўшы на бераг, — нібы таксама заслухаўся, — плыт тузануўся і пайшоў кругам. У вачах паплыла з канца ў канец зорная карта начнога Надсожжа, аднекуль збоку выплыў круглявы месяц і спыніўся наперадзе, перад нашымі зачараванымі вачыма. А песня таксама вылецела наперад, бо цяпер мы ляжым тварам да Міхалавага плыта, які сунецца следам за намі. З недасягальнай вышыні падсвечвае месяц павольную стужку Сожа, а на ёй — плыт, з якога на ўсю прастору плыве па-ранейшаму стрымана і працяжна:

Гоне, гоне плытагоне...

І гэта — таксама сустрэча. З плытніцкай песняй, з песеннай ноччу, з лірычным строем сваёй і Міхалавай душы.

А потым — сустрэчы ўранні. Там будзе маўклівае спатканне з дубам, які стагоддзямі вітае на гэтым шляху плытагонаў, уніз па кручы



звесіўшы ў Сож свае перасохлыя карэнні.

Будзе вясёлая сустрэча з шчабятлівай загарэлай чэрыкаўскай, а потым міргашчанскай, дабранскай, слаўгарадскай дзетварой, якой незвычайна радасна ўскараскацца на плыт і з яго даць нырца ў ваду, нарабіўшы звону і гаманы.

Будзе таксама сустрэча з бакеншчыкамі Верхне-Дняпроўскага параходства Герасімам Пракопавічам Харламавым і Іванам Сафонавічам Гурковым. Яны прычэпяць маторку да нашага плыта і доўга будуць



**Шмат цікавых сустрэч бывае ў плытагонаў.**

Фота аўтара.

сур'ёзна размаўляць з Іванам Крыжовым аб службе ў параходстве і лесапункце, аб тым, як з гадамі мялее Сож і дзе якая глыбіня, дзе на які корч можна натрапіць, а дзе можна і паспаць, не баючыся наскочыць на мель.

Пагаварыўшы, можна будзе і закурыць. Нарэшце пажадаем адзін аднаму добрай дарогі і...

— Да хуткай сустрэчы!

А яшчэ, праплыўшы белую кручу, пакінуўшы за спіною зялёнае сяло Жураўлі, абавязкова сустрэнешся...

## IV

Гэта сустрэча з легендамі майго краю.

Сустрэча з яго гневам і сілаю.

Тут, на неспакойным бурлівым перакаце Сожа, як і сёння, ішлі плыты. Вада была шырокая, ды мелкая: цяжкія плыты садзіліся на пясок. І адзіная сіла, якая ўсё ж перамагала водмелі, была на левым беразе Сожа, у самым выгіне яго галоўкі: старая нястомная працаўніца кацярынка — звычайны калодзежны калаўрот, ад якога да плыта бег напяты сталёвы трос.

Але найбольшая сіла жыла не ў кацярынцы, а ў кацярыншчыку. Гэта быў магутны, як дуб, чалавек. Тут, на беразе, ён правёў сваю маладосць, тут і састарыўся. На сконе год вочы старога памутнелі і мала бачылі, нервова ўздрыгвалі вусны, а ў руках усё яшчэ была сіла, і яны нястомна валаклі цераз перакат плыт за плытам. «Рыгу-рыгу-рыгу...» — пела і пела кацярынка, пела ад вялікай натугі, хоць стары кожны дзень і змазваў, і паднаўляў яе. «Рыгу-рыгу...»

Доўгі век жыў стары, і калі плытагоны сыходзілі на бераг, каб памагчы яму круціць кацярынку, ён садзіўся збоку на зямлю і расказваў. Яны цягнулі трос, а ён расказваў пра тое, што бачыў і чуў на гэтым перакаце за дзесяткі год. Расказваў, як некалі ў старыя часы драўніна аднымі шастамі ды сілаю плытнікаў сплаўлялася адсюль ажно ў Крамянчуг, Екацярынаслаў, Херсон, як адборны чэрыкаўскі лес граф Пацёмкін адпраўляў па гэтай і дняпроўскай вадзе аж у Чорнае мора для рускага ваеннага флоту.

«Тады лясок о-го які быў, не раўня сённяшняму! На гротмачты плылі сосны па 120 і 130 футаў...»

А знізу, напяўшы канаты, па беразе сунуліся бурлакі. Яны цягнулі ўверх па Сожу галеры, гружаныя соллю.

... Плыты пакідалі перакат, а кацярыншчык заставаўся ля сваёй кацярынкі. Тут стаяў яго будан з ільмавага сучча, дзе ён сніў сны ад ранняй вясны да глыбокай восені. Тут была закапана ў зямлю трыножка, на якой ён варыў бульбу, запраўляў яе салам. Тут ён чакаў новыя плыты. І не было ў гэтым краі больш паважанага чалавека, як стары кацярыншчык, які, можна сказаць, зарабляў хлеб не толькі сабе, але сем'ям усіх сплытчыкаў і сплаўшчыкаў. Сам стары разумеў гэта і мусіць таму не пакідаў кацярынку.

А перад апошняй вайною яго не стала: у буру, калі ён цягнуў плыты цераз перакат, трос лопнуў і паваліў старога. Паваліў назаўсёды.

Два дні збіраліся плыты на перакаце, а плытагоны — ля кацярынкі. На трэці дзень яны паднялі на руках труну і асцярожна панеслі па перакату на другі бераг Сожа. Старога пахавалі пад магутным дубам, які стаяў насупраць кацярынкі і які ўсё жыццё быў на вачах у яго.

... Даўно няма таго дуба. У самы разгар партызанскай вайны на Чэрыкаўшчыне фашысты загадалі сялянам зрэзаць дуб. Але нават пад пагрозаю смерці ніхто не пайшоў к дубу з сякераю і пілою.

Тады фашысты вымушаны былі ўчыніць гэту ганьбу рукамі сваіх салдат. Два дні рыпела піла над Сожам, а дуб не хацеў скарыцца. Ён не скарыўся б і на трэці дзень, калі б, звар'яцеўшы перад гэтай сілішчаю, фашысты не пачалі ліць на яго газу.

Дзень і ноч гарэў дуб высокім і гнеўным пажарам, яшчэ большай нянавісцю запальваючы людскія душы...

Няма таго дуба, няма кацярынкі, няма кацярыншчыка. Але і цяпер жыве над перакатам дух, які праз гады і гады даваў сілу людзям. І калі к перакату падплываюць плыты, яны ідуць ледзьве-ледзьве, а плытагоны апускаюць у ваду шасты і моўчкі здымаюць з галоў шапкі.

Нізка і сумна, без аніводнага голасу, кружаць над плытамі ластаўкі-беражанкі, ніколі не здымаючы з сябе чорнай жалобнай накідкі.

## V

На ціхім золаку ля Слаўгарада плытагонаў сустракаюць кулікі. Бесклапотна пасвістваючы, яны праводзяць плыты на шырокі, спакойны плёс і вяртаюцца назад, а нас ужо да самага канца шляху вядуць лоцманы-маякі.

На падыходзе да старыка плыты разбіраюцца па парах, звязваюцца. Насустрач выходзіць буксір. Ён чапляе тросам першую пару і валачэ яе на старык. Потым другую, трэцюю, чацвёртую...

Плыты састаўляюцца ў адзін караван, які звязваецца па абодва бакі тросамі. Канцы тросаў выкідваюцца на бераг. Ля берагу стаіць буксір-цеплаход з гордым надпісам на борце: «Экіпаж камуністычнай працы». На высокай мачце пад сонцам матросы сушаць плотак, а на палубе сабраўся экіпаж цеплахода: капітан Віталь Міхайлавіч Шлыкаў, яго памочнікі Мікалай Мохараў і Міхаіл Лапіцкі, матросы Оля Анікеенка, Таіса Шлыкава і Пятро Байкачоў. Жартам і смехам яны вітаюць плытагонаў.

Да пасажырскай прыстані, куды за намі з Гронава прыйшоў аўтобус, плывём на маленькім буксіры. Хлопцы маўчаць, нібы пакінулі на плытах не толькі чорныя плямы ад начных вогнішчаў і сагрэтае пад бакамі за двое сутак сена, але яшчэ — плытніцкі гумар і песні...

Але я ведаю, што Іван і Міхал Крыжовы, Іван Захарэнка, стары Іллюк і ўсе астатнія плытагоны вяртаюцца ў Гронаў не на спачын — праз дзень яны зноў будуць вязаць грабёнкі, састаўляць іх у плыты. Потым будуць укладваць хатулі з хлебам, салам, гуркамі, будуць развітвацца з дзецьмі і жонкамі, каб... зноўку два дні і дзве ночы працаваць ад душы і, безумоўна, спяваць працяжныя плытніцкія песні...

**Віктар КАРАМАЗАЎ.**

# ЯК РАЗДЗЯЛІЦЬ СОЛІ

У высокім пакоі на трэцім паверсе было ўсё, як даўней. «Сцежачка» перасякала яго, як раней, па дыяганалі — ад уваходных дзвярэй, што ў кутку, да двух дзвярэй насупраць. Па баках «сцежачкі» былі раскіданы металічныя часткі апаратаў, кавалкі руды, падобнай на бекон: белыя пражылкі — варыстая соль, ружовыя — калійная. Тады гэты пакой занялі асвятляльнікі, яны накідалі тут гурбы правадоў, кабеляў, трыног і сядзелі на чорных металічных кажухах так спакойна, як сядзяць людзі на вакзале, чакаючы цягнік.

Мы вялі рэпартаж з сумежнага пакоя. Рэжысёр нерваваўся: увесь пакой быў застаўлены рознымі ўстаноўкамі, апаратамі ды яшчэ быў перагароджаны і не было дзе паставіць тэлекамеры, пражэктары. Галоўным аб'ектам нашага тэлерэпартажу была ўстаноўка, якая, накшталт добрай рускай печы, займала чвэрць залы. Кажуха, які б закрываў усю ўстаноўку, як звычайна абхінаюць на заводах апараты, машына не мела. Былі відаць касцяк і ўсе рабочыя органы, і таму ўстаноўка здавалася крыху нязграбнай. Але вучоных пакуль не цікавілі зграбныя лініі, а галоўнае — ці ўдалася ўстаноўка, якая б рэалізавала новыя шляхі адлучэння калійнай солі ад варыстай. Тое, што прапанавалі, было новае ў саляной прамысловасці.

Старажытнае, цёплае, мелкае мора, якое пакрывала амаль усё Палессе і бераг якога праходзіў недзе каля цяперашняга Салігорска, «працавала», з нашага пункту гледжання, не вельмі разумна. Нізкі паклон яму за тое, што яно адкладала соль, але ці не магло яно пашкадаваць сённяшніх людзей, не задаваць ім столькі працы. Замест таго, каб адкласці пласт солі таўшчынёю ў два мет-



Сёння Станіслаў Сакалоў — тэхнік па прыборах, а заўтра... Не будзем забягаць наперад, ён пакуль што вучыцца ў політэхнікуме.

ры, а потым варыстай такой жа магутнасці, яно вырашыла перапластаваць усё — тонкі пласток сантыметры ў два-тры калійнай солі, тонкі пласток варыстай і зноў калійнай... Ды яшчэ ўклініла сюды пражылкі гліны, некаторыя магніевыя злучэнні.

Дно мора ўвесь час апускалася, старажытныя магутныя рэкі неслі ў Палескую нізіну пясок, гліну, каменне, і неўзабаве рэшткі мора былі пахаваны пад тоўстым пластам зямлі. І нам цяпер трэба не толькі аддзяліць адну соль ад другой, але дастаць руду глыбока з-пад зямлі.

На першым буйнейшым камбінаце краіны — у Салікамску — соль падзяляюць хімічным метадам: руду раствараюць і вылучаюць з яе хлорысты калій (KCl). Але для беларускай руды гэты метад непрыгодны. Атрымалася, як у той байцы пра лісу і вінаград: бачыць вока, ды дастаць далёка — залежы солей велізарнейшыя, калійныя ўгнаенні вельмі патрэбны беларускім глебам, Прыбалтыйскім рэспублікам, усёй нечарназёмнай частцы Савецкага Саюза, а яны ляжаць гэтакім гіганцкім слаістым пірагом і пацьвельваюцца: а ну паспрабуй, пакаштуй!

Узяліся за гэтую праблему вучоныя. Трэба было пераадолець сустрэтыя цяжкасці. Таямніцы прыроды і цяжкасці абуджаюць фантазію чалавека. Прырода змусіла чалавека эксперыментаваць. Беларускімі солямі заняліся ленінградскі інстытут галургіі і Інстытут агульнай і неарганічнай хіміі Акадэміі навук БССР.

Цяпер цяжка ўзнавіць увесь малюнак навуковага мыслення ў галіне даследавання солей. Магчыма, што разважанні ішлі такім шляхам. Хімічны метад ужыць нельга. Трэба шукаць іншыя.

Чым жа калійная і варыстая солі адрозніваюцца адна ад другой? Розная удзельная вагой. Солі можна раздзяліць у так званых цяжкіх суспензіях (вада плюс размолаты магнетыт). KCl павінен усплыць, NaCl — патануць. Гэтай працай займаліся маскоўскія вучоныя. Яны стварылі апарат — гідрацыклон. Але гэтыя даследаванні спасцігла няўдача. Установка, падобная на гіганцкі шпрыц, спачатку працавала, але потым падзел солей спыняўся — мянялася ўдзельная вага цяжкай вадкасці. Работу спынілі.

Але як жа ўсё-такі раздзяліць солі? Можа, ужыць флатацыю? Для абагачэння многіх руд у нас ёй карыстаюцца. Праўда, гэта складаная вытворчасць, але затое асвоеная. Пачалі даследаваць флатацыю і атрымалі станоўчы вынік. Руду размолваюць — каб крупінкі былі не больш міліметра, уводзяць у насычаны саляны раствор, ачышчаюць ад гліны, змешваюць з тлушчавымі рэчывамі. Апошнія, згодна некаторых сваіх асаблівасцей, абвалакваюць толькі калійную соль. Потым праз усё гэта прапускаюць мелкія пухіркі паветра, якое прыстае да камячкоў тлушчавых рэчываў, дзе ёсць і крупінкі KCl, і выносіць іх на паверхню. Там здабытыя крупінкі зграбаюць і высушваюць.

Толькі самыя агульныя звесткі пра флатацыю змясціліся ў адным абзацы, а калі гэтае слова пабачыць увасобленым у бясконцыя трубкі вялікіх і малых дыяметраў, у чаны, своеасаблівыя паўкруглыя сіты, у тоны тлушчавых рэчываў, у сушыльныя апараты і дзесяткі іншых самых разнастайных установак, машын, прыбораў — можна ўявіць сабе ўсю складанасць працэсаў флатацыі.

Аловак галоўнага інжынера лабараторыі на вялікім белым аркушы з адным адарваным ражком прывычна накідваў схему вытворчасці калійных угнаенняў флатацыйным метадам. Лініі былі скрыўленыя і да рэшты дэфармаваныя, бо рабочыя органы ўстаноўкі накідваліся з вялікай дозай умоўнасці з разліку на багатую фантазію слухача. Адчувалася, што інжынеру ўжо не раз даводзілася накідваць для дасведчаных і недасведчаных гэтую схему. Галоўнага інжынера называлі Фамою Мажэйкам. Ён быў маленькі, з хуткімі рухамі рук і ўважлівымі шэрымі вачыма, валасы яго былі падстрыжаны, але не заўсёды прычэсаны, можа гэта і падкрэслівала ў ягоным абліччы няўрымслівасць характару. Калі мы рабілі тэлерэпартаж, Фама быў старшым інжынерам, у кадры ён паказваў гідрацыклон. Гэтая ўстаноўка заўсёды працавала бездакорна, але раптам перад тэлеаб'ектывам, як на тое, зляцела адна з трубак. Фама прыгадвае гэтае старое непаразуменне і збянтэжана пасміхаецца.

— А ваша ўстаноўка, тая, што ў кутку стаяла?

Фама адразу падхоплівае пытанне.

— Не тая ўстаноўка, іншая. Тую мы паламалі і зрабілі новую. Першая ўстаноўка была вельмі недасканалая. Мы яе паламалі. У другой ужылі той самы гравітацыйны метад — раздзяленне па вазе. Тона ўгнаення будзе каштаваць танней.

Гэта мы гаворым не пра гідрацыклонную ўстаноўку, якую таксама не дарабілі да канца маскоўскія таварышы, а пра зусім новую, незвычайную — пра сепаратар. У сепаратары таксама раздзяленне адбываецца па вазе, у цяжкіх суспензіях. Толькі гэта робіцца не пад прымусам цэнтрабежнай сілы, як у гідрацыклоне, а па прынцыпу дэльты ракі. Рака выносіць у мора пясок, гліну, глей. Самыя буйныя часцінкі асядаюць бліжэй, драбнейшыя плывуць далей, а самыя маленькія і лёгкія можна сустрэць далёка ў моры. Кандыдат навук Хасень Александровіч і галоўны інжынер Фама Мажэйка сканструявалі для раздзялення солей нешта накшталт дэльты ракі. З аднаго боку ў вялікі чан уліваецца «рака», вада яе — гэта сумесь цяжкай суспензіі і молатай руды. Варыстая соль цяжкая, яна павольна апускаецца на дно. Буйныя часцінкі асядаюць раней, дробныя — потым. Да другога боку чана даплывае толькі чысты KCl. Вось і ўсё.

— Новая ўстаноўка, — гаворыць Фама, — больш дасканалая, чым першая. А ў параўнанні з флатацыяй — і гаварыць няма чаго. Затраты на яе выраб нязначныя. Калі яна вытрымае прамысловае выпрабаванне — паставіць яе замест апаратаў па флатацыі будзе не такой ужо складанай справай. Мы толькі нядаўна закончылі эксперыменты і разабралі яе. — І Фама вядзе ў вялізны пакой, дзе працавала ўстаноўка.

Зала пустая і чорная. Чорнай яе зрабіў магнетыт. У пакоі як быццам яшчэ прысутнічае дух эксперыментаў, і ў высокай зале віднеюцца рагатыя абрысы машыны, якая не абшыта кажухом. Сотні вопытаў робяцца адзін за другім. Задача — атрымаць з дапамогай канструктыўных удасканаленняў лепшае і хутчэйшае раздзяленне калійных і варыстых солей.

— А вось апошняе паведамленне, — гаворыць Фама. — Выдадзена 130 тысяч на будаўніцтва нашай установкі ў Салігорску.

Даследаванні — гэта нешта накшталт ланцуговай рэакцыі. Кінь толькі першы камень. Солі разглядаюць з усіх бакоў. І дзе ёсць хоць самае маленькае адрозненне KCl ад NaCl — а гэтых адрозненняў вельмі мала — спрабуюць убіць клін. Для гэтай мэты карыстаюцца нават электрычнасцю.

Фама ўводзіць у залу, дзе стаяла першая гравітацыйная ўстаноўка. Цяпер гэты пакой здаецца вялізным, свабодным і крыху фантастычным. Апошняе надаюць яму

апараты таго тыпу, якія любяць маляваць мастакі, што ілюструюць навукова-фантастычныя кнігі. Пасярод пакоя стаіць вышынёю метры два з паловаю шкляны паралелепіпед, а ў ім відно нешта накшталт гіганцкага матылька, які сядзіць лапамі ўгару, з велізарнымі прамавугольнымі серабрыстымі крыламі. Побач, за металічнай сеткай, вялікія шкляныя трубкі, а на іх — шары. Ля гэтых незвычайных апаратаў прахаджваюцца два чалавекі, адзін — поўны, павольны ў рухах і задумлівы, год пад сорак, другі — тонкі, стройны, гадоў яму трыццаць пяць. Гэта ленінградзец Яўген Смірноў і мінчанін Савелі Дворын. Яны выконваюць сумесную работу: раздзяленне солей у электрычным полі.

— Гэтай тэмаю я займаюся даўно, года так з шасцідзесятага, — расказвае Савелі Дворын. — Тут вельмі шмат няяснага. Тэарэтычных абгрунтаванняў няма. Як, што, чаму — зусім незразумела.



Электронны мікраскоп — вялікая падмога для навуковых супрацоўнікаў лабараторыі мінеральных солей Іны Ерафеевай і Савелія Дворына.

Мы ідзём да вырашэння пытання эксперыментальным шляхам.

Асноўны прынцып, па якім раздзяляюцца солі, адкрыты Фарадзеем, а калі гаварыць больш дакладна — яшчэ старажытнымі грэкамі. Яны націралі бурштынавы кіёчак і атрымлівалі электрычны зарад. Праз дзве тысячы год Фарадзей вызначыў, што гэта не што іншае, як электрычнасць. Яшчэ праз сто год гэтай электрычнасцю, што ўзнікае ў нерухомых рэчах і таму названай статычнай, зацікавіліся вучоныя-салевікі. Калі раздробленую руду награваць і перамешваць, калійная соль зараджаецца адным зарадам, варыстая іншым. Гэта і скарысталі, каб іх раздзяліць.

Рухавы юнак, малодшы навуковы супрацоўнік Ігар Гарэчы, спрытна ўзабраўся па лесвіцы да верхняй часткі шклянога паралелепіпеда, дзе знаходзяцца невялікія цыліндрычнай формы апараты, і высыпаў у іх руду.

— У цыліндрах руда перамешваецца, награваецца, зараджаецца, — гаворыць Яўген Смірноў. — А цяпер глядзіце сюды, — ён паказвае на шкляны паралелепіпед, на паўтараметравыя серабрыстыя крылы матылька. — Гэта два электроды. Плюс і мінус. Ёсць такі закон: аднайменныя зарады адштурхоўваюцца, а рознаіменныя — прыцягваюцца. Калій у нас зараджаны дадатна, а варыстая соль — адмоўна. Вось яны ляцяць. Бачыце?

Між велізарнымі «плюсам» і «мінусам» сыпаліся драбочкі солі і на ляту адхіляліся, адны — управа, другія — улева. Пад адным электродам вырастаў ружовы ўзгорачак, пад другім — белы.

— Будучы завод можа быць вертыкальны. Вось такія электроды размесцяцца адзін над другім. Зверху будуць сыпаць соль, а ўнізе атрымаюць гатовую прадукцыю. Восемдзесят — дзевяноста працэнтаў хлорыстага калію! Вось. — Яўген Смірноў разгортвае папяровы мяшэчак з ружовымі драбкамі калійнай солі.

— Гэта мы раздзялілі. А пры флатацыі атрымліваецца вось што, — ён падводзіць нас да скрыні з ружовай мукой. — Маленькія часцінкі? Вам здаецца, што гэта добра? Не зусім. Тут застаецца вільгаць і праз некаторы час усё гэта робіцца каменем. Камення на палях і так шмат. А ў нас — гранулы, такія часцінкі, якія патрэбны. Пры іншых метадах раздзялення соль патрэбна яшчэ сушыць. Перавага? Ці не так? А энергіі мы бярэм столькі, колькі бярэ электраплітка.

Перавагі новага метаду велізарныя. Гэта бачна, нават не паглыбляючыся ў эканамічныя разлікі.

— Мы высвятляем цяпер, — гаворыць Савелі Дворын, — пры якіх умовах лепш зараджаюцца солі. Справа ў тым, што гэтыя ўмовы павінны быць вельмі жорсткія, нават тэмпературныя. Дапусцім, дзвесце градусаў — адзін зарад, крыху паднялі тэмпературу — зарад змяніўся на працілеглы, яшчэ паднялі тэмпературу — зноў ранейшы. А ў першы год калі я пачаў працаваць, дык здарыўся такі казус. Сабралі мы ўстаноўку. Пачалі рабіць вопыт — нічога няма. Не раздзяляе. А потым праз некалькі дзён раптам — раздзяляе. А потым — зноў не раздзяляе. Ламалі, ламалі галаву — усё рабілі, як і раней, і — ніякіх вынікаў. Тады я пачаў цікавіцца знешнімі ўздзеяннямі. Узяў зводку вільготнасці паветра. І цікава, калі вялікая вільготнасць — раздзялення няма. Пачалі ўводзіць гарачае паветра...

Электрастатычныя зарады, як вядома, існуюць даўно. Звычайна, на тое, што ўсім вядома, ніколі не звяртаюць пільнай увагі. Шукаюць новае, незвычайнае. А таямніцы тояцца часам у выкарыстанні простых і банальных з'яў, якія ведае кожны вучань школы. Соль, напрыклад, можна кінуць у полымя і яна будзе патрэскваць. Ну і што? А магчыма, і не варта абмінаць такую з'яву? Магчыма, карысна лізнуць соль, і тады адкрыюцца яе новыя якасці, якія памогуць раздзяліць яе на калійную і варыстую? Магчыма, варта скінуць яе з вышыні дзевяціпавярховага дома? Можа ў гэтых банальных і на першы погляд недарэчных пытаннях тояцца адкрыцці.

Цэлы нязведаны свет у колбе прадстаў перад Марыяй Рэчыц — старшай лабаранткай.

У вялікім прахадным запыленым пакоі, дзе было ўсё, як і даўней, дзе былі раскіданы металічныя часткі машын і ляжалі кавалкі «нераскрытай» руды, падобнай да бекону, я стаяў перад вялікай кучай солі і задаваў недарэчныя пытанні. Самага дасканалага метаду раздзялення солей яшчэ няма. І, магчыма, яго вынайдзе нехта з тых, хто сёння сядзіць яшчэ за школьнай партай і для каго самы маленькі кручочак у літары — не другарадная з'ява. Вынайдзе той, хто авалодае здольнасцю вельмі глыбока зазірнуць у простае і зразумець яго першапачатковы сэнс.

**Віктар ГОВАР.**

Фота **С. Чырэшкіна.**



Гары, камсамольскі агеньчык!

# ПАД'ЁМ У ПЯЦЬ

У пакоі два акны, яшчэ як след не прасохшыя ад фарбы, два нікеляваныя ложкі, засланыя сінімі коўдрамі. У кутку на сцяне невялічкі карычневы рэпрадуктар. Побач стол. З кніжкамі, з часопісамі, з будзільнікам у пластмасавым жоўтым футляры. У куце справа — вешалка. На ёй вісяць два выходныя касцюмы, два паліто. Гаспадароў пакоя таксама двое. Яны браты. Старэйшы — Жэня, малодшы — Мікола. Вечарам, калі хлопцы вяртаюцца з поля, пакой напаўняецца пахам мазуты і салярکі, хоць фуфайкі і боты засталіся ў калідоры, а самі хлопцы старанна мыліся на кухні. Такая ўжо, відаць, прафесія сельскага механізатара — ад яго не хоча адставаць пах трактара і поля.

Раніцою, асабліва вясновай, хлопцаў падымае на ногі будзільнік — роўна ў пяць. Калі ж на полі крыху менш работы, іх будзіць рэпрадуктар — роўна ў шэсць. Так ужо каторы год — з дня ў дзень, з таго часу, калі Жэня вярнуўся з Маларыцкага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі ў свой родны калгас механізатарам, а Мікола стаў працаваць пасля сямігодкі прычэпшчыкам.

Калі раненька хлопцы збіраюцца на работу, маці працягвае ім вычышчаныя фуфайкі: мала што можа быць — дзень вялікі. Жэня з Міколам пераглядваюцца: учора па радыё абяцалі цёплае бязвоблачнае надвор'е. І ўсё ж фуфайкі бяруць: нельга крыўдзіць старую, ды ўрэшце ж не абавязкова іх апранаць, паклаў на сядзенне і няхай сабе ляжаць...

Мікола спяшае напрасткі да трактара. Там яго чакае трактарыст, а хлопцу што: ён прычэпшчык. Затое ў Яўгена кожная раніца вось ужо другі год пачынаецца з непрыемнасцей: трэба бегчы на калгасны стан і прасіць каб хто-небудзь з сяброў памог завесці матор у ягоным маленькім «ДТ-20». Крыўдна Яўгену. Ён дасканала ведае любую сельскагаспадарчую машыну, сам другі год рамантуе свой трактар. А вось завесці раніцай самастойна яго не можа... Чаму? Аб гэтым крыху ніжэй... Яўгенавай віны тут няма. А тое, што пра яго гавораць на раённых нарадах працаўнікоў сельскай гаспадаркі, як пра передавога буракавода, тое, што ён узнагароджаны ганаровай граматай Вярхоўнага Савета рэспублікі — усё правільна. Яўген Белямук заслугоўвае такой пашаны.

Аднак пачнем па парадку. Нарадзіўся ў 1937 годзе, у 1952 скончыў сямігодку ў роднай вёсцы Голя, працаваў на розных работах у калгасе. Як і ў кожнага з ягоных сяброў, у Яўгена была свая мара — стаць механізатарам, навучыцца кіраваць складанымі машынамі. Асабліва захацелася здзейсніць свой намер пасля таго, як даведаўся пра знатнага механізатара Аляксандра Гіталава. Змог жа Гіталаў абагнаць па ўраджайнасці вядомага амерыканскага фермера Гарста. Чаму ж ён, Белямук, не можа? Рукі ж у яго мускулістыя, дужыя...

Маларыцкае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі Яўген закончыў у 1958 годзе. Навучыўся вадзіць трактары ўсіх марак, абыходзіцца з камбайнам, ільноцерабілкай, бульбасаджалкай, умеў сам знайсці і выправіць непаладкі. У свой калгас малады механізатар вярнуўся з камсамольскім значком на грудзях і з гарачым жаданнем сесці на магутны «ДТ-54» або, на крайні выпадак, за руль «Беларуса». Але яго чакала горкае расчараванне.

— Не спяшайся, хлопча, — сказалі яму ў праўленні. — Папрацуй спачатку пад наглядам вопытнага механізатара на прычапных прыладах, а потым і трактар табе дамо.

Спачатку заспрачаўся, нават пакрыўдзіўся. Але хлопцу растлумачылі, што так будзе лепш і для яго, і для калгаса. Прыйшлося згадзіцца. І ўжо ў першы год працы пра Яўгена Белемука загаварылі, як пра дбайнага працаўніка. За вясну ён пасеяў 150 гектараў кукурузы, убраў на жніве 300 гектараў збажыны.

— Гэты хлопец не падвядзе, — сказаў пра яго на партыйным сходзе брыгадзір трактарнай брыгады Мікалай Калток. — Яму можна даручыць любую машыну.

Тады ў калгас якраз прыбыў новенькі трактар «ДТ-20», маленькі, але затое ўвішны. І, вядома, дастаўся ён Яўгену.

— Цукровыя буракі будзеш вырошчваць. Хопіць жанчынам усё лета корпацца на плантацыях, — сказаў яму старшыня Іван Фёдаравіч Барысёнак. — Мусіць жа знаёмы з агратэхнікай буракоў? У Маларыцы вучылі?

Яўген разгубіўся: трактар быў ужо ў яго руках, а тут на табе!.. Справа ў тым, што вырошчваць буракі ён не ўмеў... Пачырванеў і шчыра прызнаўся, што ў вучылішчы больш націскалі на агратэхніку збожжавых, кукурузы і бульбы.

— Ну, гэта не бяда, — суцешыў яго старшыня. — Прыйдзецца на



**Вось так дзень пры дні на сваім трактары дабіваўся Яўген Белямук поспехаў.**

месцы вучыцца. Аграном табе паможа, астатняе сам зробіш. Было б жаданне...

Жаданне ў хлопца было. Аграном Раман Раманавіч Клебанюк таксама памог. Ён растлумачыў Яўгену, што да чаго, даў яму некалькі брашур. Хлопец іх прачытаў. Асабліва яму спадабалася адна з іх, дзе гаварылася пра вопыт украінскага буракавода Мельнічэнкі.

— Дазвольце мне з'ездзіць да яго хоць на некалькі дзён, — папрасіўся Яўген у старшыні.

Стаяла ранняя вясна, да выхаду ў поле было яшчэ тыдні тры. Старшыня згадзіўся. Гэта было ў мінулым годзе.

З Украіны Белямук вярнуўся ў добрым настроі і з цвёрдай упэўненасцю, што цукровыя буракі ён

зможа вырошчваць самастойна. Добра ўгноіў глебу пад буракі, у лепшыя тэрміны пасеяў, старанна даглядзеў плантацыю. І калі сабралі ўраджай, то аказалася, што кожны з 60 гектараў даў па 190 цэнтнераў клубняў. 700 тон буракоў прадалі дзяржаве, астатнія пакінулі на корм калгасным каровам.

Перад уборкай буракоў у Яўгена выдаўся вольны час. Таму ён рашыў дапамагчы ільнаводам. Ільноцерабілкай убраў 80 гектараў ільну ў сваёй арцелі, а потым пераехаў у калгас «Іскра», дзе атрымалася няўпраўка з ільном, і яшчэ 45 гектараў выцерабіў.

Гэта было ў мінулым годзе, а сёлета ў сакавіку Яўген прачытаў у газеце ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб тым, што за поспехі ў механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці і ўкараненне перадавых метадаў работы ён узнагароджаны ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Той граматай, аб якой мы гаварылі ў пачатку.

Першым павіншаваў Яўгена з узнагародай яго сябар Іван Ліставіч. Раней Іван сам быў трактарыстам, таму добра разумеў, што значыць першы год вырошчваць буракі і сабраць па 190 цэнтнераў з гектара. Яўген падзякаваў сябру і па сакрэту падзяліўся з ім сваёй задумай:

— У гэтым годзе хачу па 250 цэнтнераў атрымаць.

Сядзелі, курылі, размаўлялі. Раптам Яўген задумаўся і змоўк. А праз некаторы час падвёў Івана да клубнага стэнда з маральным кодэксам будаўніка камунізма.

— Я, Іван, часта перачытваю пункты маральнага кодэксу і думаю, што трэба рабіць, каб быць такім, як вучыць партыя. Вось чытай:

«Калектывізм і таварыская ўзаемадапамога: кожны за ўсіх, усе за аднаго».

— Дык ты ж, Яўген, летась убраў у адстаючай «Іскры» 45 гектараў ільну. Хіба гэта не «кожны за ўсіх», не «таварыская ўзаемадапамога»? — запярэчыў Іван. — Ды і нашы даяркі ўдзячны табе за буракі. Без буракоў, кажуць, малака было б менш...

— Я не пра гэта, Іван, — спытаў яго Яўген. — Я пра тое, чаму ў іншых калгасах яшчэ вельмі нізкія ўраджаі буракоў і каштуюць яны дорага. Чым я памог буракаводам суседніх арцелей? Нічым. А вось Мельнічэнка памагае.

У той вечар сябры доўга гутарылі, а калі праз некалькі дзён у Камянцы сабралася раённая нарада буракаводаў, Белямук выйшаў на трыбуну... Яго слухалі ўважліва, бо камсамолец заклікаў механізатараў узяць вырошчванне буракоў у свае рукі, разгарнуць спаборніцтва за атрыманне высокіх ураджаяў без прымянення ручной працы. А потым адбылося штосьці незвычайнае, новае: дзесяткі механізатараў упраўлення рашылі падтрымаць Яўгена. Ва ўсіх калгасах і ў саўгасе «Белавежскі» былі створаны механізаваныя буракаводчыя звенні. Потым звеннявых сабралі ў калгасе імя Леніна — да Белемука. Стрымліваючы хвалянне, расказаў ён хлопцам усё, што ведаў пра буракі: як і калі сеяць, апрацоўваць, даглядаць і ўбіраць.

Такімі вось клопатамі пачалася сёлетняя вясна для Яўгена. Як і ў мінулым годзе, сёлета калгас імя Леніна сеяў 60 гектараў цукровых буракоў, і, зноў-такі, сяўбу, догляд і ўборку іх узяў на сябе Яўген Белямук. Адзін, пры дапамозе тэхнікі. Зараз, калі на плантацыях ва ўсіх чатырох брыгадах калгаса шуміць шыракалістае бацвінне, а з зямлі выпіраюць вялікія, што збаны, клубні, у маладога буракавода спакойна на сэрцы: ураджай будзе добры, лепшы, чым у мінулым годзе. А вось за вясну і лета хлопец перахваляваўся нямала, асабліва вясной, калі сеяў. На самай справе: сёння ў адной брыгадзе, напрыклад, сееш буракі, заўтра ў другой барануеш, паслязаўтра ў трэцюю спяшаешся, затым у чацвёртую. Карацей кажучы, спаць не было калі. Ды і брыгадзіры не заўсёды паваротлівыя былі: то насенне своечасова не падвязуць, то падкормку.

Яўген неахвотна расказвае пра сваю нялёгкую працу механізатара. Мала што там было! Не знайшлося ў чацвёртай брыгадзе прычэпа ў час падкормкі, дык на фурманцы хімікаты падвозіў. Цікава было глядзець, як трактар фурманку цягне... Калі размова зайшла пра трактар, мы схамянуліся.

— Чакай, Яўген. Ты і сёлета без акумулятара працуеш?

Яўген спахмурнеў.

— Уявіце сабе, што без акумулятара... Ох, колькі ён мне, гэты самы акумулятар, нерваў папсаваў. Раніцай ад чужога трактара свой заводжу, а пасля цэлы дзень і не выключаю. Старшыні калгаса амаль кожны дзень надакучаю, у вобласці гаварыў, на рэспубліканскай нарадзе механізатараў пытанне задаваў. Адказ усюды адзін: няма да такой маркі трактара акумулятараў. Так і працую... Праўда, у баразне стаяць менш прыходзіцца: гаручага шкада... Можа, напішаце пра гэта?

Абавязкова напішам. Пра ўсё, што ты расказаў. І яшчэ пра тое, што ў далёкай вёсцы Голя любяць і паважаюць цябе, Яўген, твае землякі. За твае ўмелыя рукі, за тваю працавітасць і настойлівасць, за твой сапраўдны камсамольскі энтузіязм.

**Барыс БРЭЎДА,**
**Уладзімір ЯФІМОВІЧ.**

**Камянецкі раён.**



**У Яўгена Белемука нямала паслядоўнікаў. Прыемна сустрэцца з імі, пагутарыць аб надзённых справах.**

Фота В. Замулкі.



**Добрыя буракі ўрадзілі! Яўген Белямук можа ганарыцца сваёй працай.**

# ЛЮДЗІ ПРОСЯЦЬ ПАМАГЧЫ

**Рэпартаж**

Бяда прыйшла раптоўна. Мама маленькага Пеці, прыйшоўшы ў дзіцячы сад па свайго сына, убачыла, што шафа, на дзверцах якой намаляваны вожык і ў якой звычайна віселі паліто і шапачка малога, была пустая. Пецева маці разгублена глядзела на малюнак, не ведаючы, што і падумаць.

— Дзе ж тваё паліто? — пачуўся за яе спіной здзіўлены мужчынскі голас.

— Дзе маё паліто?.. Няма майго паліто, — разгублена паўтарыў хлопчык.

У той дзень з садзіка было ўкрадзена некалькі дзіцячых паліто, жакет выхавацельніцы і паліто ўрача.

Паведамленні аб гэтых здарэннях адразу ж насцярожылі работнікаў міліцыі. Вопытныя людзі адразу заўважылі падабенства акалічнасцей, або, як кажуць, падабенства «почыркаў», ва ўсіх пакражах, якія здарыліся перад гэтым у Магілёве, Віцебску, Мазыры...

Я не стану падрабязна расказваць аб тым, як адшукалі рабаўніка. І справа нават не ў тым, што людзі, якія папрасілі памагчы ў бядзе, адразу ж атрымалі дапамогу. Амаль усе ўкрадзеныя рэчы, ўдалося знайсці і вярнуць іх уладальнікам. Хочацца звярнуць увагу вось на што.

Уявіце сабе высокага сівога мужчыну з прыемным і добрым тварам. Гэта Іван Іванавіч Папоў, чалавек, які загадвае ўсімі справамі крымінальнага вышуку ў рэспубліцы.

Адзін са старэйшых работнікаў міліцыі, ён падобны больш за ўсё на дырэктара школы. Расказваючы пра сваіх супрацоўнікаў, ён заўважыў:

— Чалавеку, які страціў рэакцыю на слёзы, я не магу даверыць сур'ёзнага аператыўнага задання. Работнік міліцыі, хто б ён ні быў, павінен чула адносіцца да людской бяды. Людзі звяртаюцца да нас толькі за дапамогай. Калі чалавек жыве спакойна, шчаслівa, ён не думае пра міліцыю, хоць, заўважым у дужках, у многіх выпадках ён павінен быў бы ўспомніць нас добрым словам.

Гэтая заўвага Івана Іванавіча Папова гаворыць пра многае.

Злодзей выклікаў агіду, бо аб'ектам сваёй «дзейнасці» выбраў ледзь не самых безабаронных. Вось чаму работнікі крымінальнага вышуку так горача ўзяліся за справу. Ён быў злоўлены ў Слоніме. Гэта быў Корзін, злодзей-рэцэдывіст.



Калі Корзін быў арыштаваны, узнікла пытанне: дзе ж знаходзяцца ўкрадзеныя рэчы? Як, з чыёй дапамогай ён збываў іх?

І вось мы знаёмімся яшчэ з адным прадстаўніком вялікага калектыву людзей, якія ахоўваюць грамадскі парадак. Гэта аператыўны работнік Яўген Рыгоравіч Курганскі. Ён сфатаграфаваны ў часе размовы з калегам.

— Так, так, усё раскрыта! Магу спакойна брацца за наступную справу...

Спакойна? Не, ён будзе хвалявацца гэтак жа, як і раней.

Яўген Рыгоравіч вёў следства па справе Корзіна. Перад ім быў чалавек, для якога папраўча-працоўная калонія, як кажуць, родны дом. У чаканні суда Корзін трымаўся нахабна.

— Так, краў. Ледзь не чвэрць стагоддзя... Так, часцей за ўсё дзіцячыя рэчы. Каго крыўдзіў? Ну і што ж, што дзяцей? Усякі злодзей бярэ чужое. Я ж не для нажывы. Украў — прадаў. Праеў грошы — зноў украў. І не дорага прадаваў. Хіба я спекулянт? Я не нажываўся...

— А хто ж нажываўся?

Корзін прамаўчаў.

Толькі ў час трэцяй або чацвёртай размовы злодзей раптам адчуў «сімпатыю» да аператыўнага работніка і стаў адкрыты да канца. Аказалася, што ўкрадзеныя ў розных гарадах Беларусі рэчы ён збываў адным і тым жа людзям. Аднойчы пазнаёміўшыся з імі і даверыўшыся ім, ён часта наведваў гэтых людзей і нават выконваў іх заказы. Ён аблюбаваў вёску Уручча на Маскоўскай шашы паблізу Мінска. Тут ён і «намацаў» сваю кліентуру — бессаромных скупшчыц крадзенага, спекулянтак і самагоншчыц.

Вось яны.

Наталля Алданава, свінарка учгаса. Ведаючы аб тым, што рэчы крадзеныя, яна купляла іх двойчы. Спачатку купіла за два рублі вязаную шарсцяную кофту. Другі раз за пяць рублёў — цэлую груду дзіцячых рэчаў: два паліто, дзве пары чаравічкаў, паўзункі, некалькі шапачак, шкарпэткі. Частку гэтых рэчаў яна падарыла дачцы, якая жыве ў Мінску. Калі ўся гісторыя адкрылася і дачка даведалася аб усім, болю яе не было канца. Яна лічыць сябе зганьбаванай на ўсё жыццё.

Ядзвіга Алданава, кантралёр аптэчнага склада, купіла сабе ў Корзіна за сем рублёў новае дэмісезоннае паліто, сукенку і жакет.

Валянціна Шырынская, якая працуе прадаўцом у магазіне на Падлеснай вуліцы ў Мінску, набыла камплект рэчаў, украдзеных у Мазыры: шарсцяны пуловер, жакет, плашч і дзве камбінаваныя курткі. За ўсё гэта Корзін узяў з яе 15 рублёў. Задаволеная, што так дзёшава ёй абышлося, яна зрабіла заказ на новую партыю адзення.

Самай сквапнай скупшчыцай крадзенага аказалася Антаніна Белашова. Яна рабіла Корзіну не «заяўку» наогул, а называла рэчы, якія жадала мець. Так ён аднойчы даставіў Белашовай новы жакет і атрымаў за яго шэсць рублёў. Аплата здалася злодзею вельмі шчодрай, і ён аддаў спекулянтцы



Следчы Я. Р. Курганскі.

дарам два дзіцячыя паліто і джэмпер...

Хоць гэта гучыць і парадаксальна, але сярод работнікаў міліцыі многія лічаць «непажаданым», каб да іх звярталіся за дапамогай. Да іх ліку адносіцца, напрыклад, старшы сержант Міхаіл Чыжык.

— Лепей, калі да гэтага не даходзіць, — гаворыць ён. — Я павінен сам прадбачыць магчымае здарэнне і прадухіліць яго.

Абавязак Міхаіла Чыжыка — вячэрняе і начное патруляванне адаго з участкаў Заводскага раёна Мінска. Ён робіць заўвагі хлапчукам, якія сярод вуліцы катаюцца на веласіпедах. Ён з наступленнем халадоў уважліва абыходзіць незачыненыя падвалы. Начамі, калі горад спіць, Міхаіл Чыжык павольна крочыць уздоўж дамоў, прыслухоўваючыся да самага нязначнага шолаху.

Росту Чыжык невялікага, а бачыць усё, нібыта назірае за вуліцай з высокай вежы. У яго на дзіва пільны, нейкі асабліва чэпкі позірк. Чалавека ён запамінае надоўга. У яго зоне патрулявання знаходзіцца кінатэатр «Камсамолец». Ці мала тут перабывае людзей за вечар?! Але вось увагу Чыжыка прыцягвае малады чалавек у шэрым плашчы. Хлопец як хлопец. І плашчоў такіх шмат. А Чыжыку нешта здалося падазроным. («Не было ў нас, здаецца, такога. Вочы бегаюць, нібыта шукаюць некага. Бровы над пераноссем блізка сышліся і на правай руцэ татуіроўка — якар ў выратавальным кругу. Абцасы стаптаны ва ўнутр...») Але мала што можа здацца. Запісаў прыкметы ў блакнот, потым пазваніў у крымінальны вышук, і аказалася, што гэтага хлопца шукаюць. Назіранні патруля падаспелі своечасова. Хулігана, які ўцёк было ад пакарання, у той жа вечар арыштавалі.



Выдатнікі міліцыі — старшы сержант Ф. Быліцкі і малодшы сержант Я. Чарнуха.

Такіх выпадкаў было нямала.

Хочацца расказаць яшчэ пра адзін выпадак, калі пільнасць і энергія вартаўнікоў грамадскага парадку праявіліся яшчэ ў большай ступені.

Апоўначы па Лагойскай шашы ў Мінск імчалася «Волга». Пры ўездзе ў горад яе няроўны і звышхуткі ход быў заўважаны дзяжурным работнікам аўтаінспекцыі, старшыной Уладзімірам Кузьмічом Ганчаровым. Ён падаў вадзіцелю знак спыніцца. Але той, пагасіўшы агні, прамчаўся міма.

Хто быў у машыне? Куды ён так спяшаўся? Якой бяды ён мог нарабіць уперадзе, на цёмных вуліцах?

Разам з Ганчаровым дзяжурыў адзін з лепшых матацыклістаў горада — старшы сержант міліцыі Іван Шагойка. Долі секунды спатрэбіліся ім на тое, каб завесці матор, выруліць на шашу і пусціцца наўздагон за парушальнікам.

Вуліца Якуба Коласа, Валгаградская, Ленінскі праспект, вуліца Захарава, Красная... Вадзіцель «Волгі» рабіў адзін за адным правыя павароты.

Красная вуліца, вуліцы Якуба Коласа, Багдана Хмяльніцкага, зноў Ленінскі праспект...

Некалькі разоў матацыкл апярэджваў «Волгу», ішоў з ёю паралельным курсам. Шагойка праяўляў цуды вадзіцельскай тэхнікі, заўважаючы на поўным хаду нечаканыя перашкоды і аб'язджаючы іх. Ганчароў некалькі разоў чырвоным святлом ліхтарыка загадваў вадзіцелю «Волгі» спыніцца. Усё дарэмна...

Каля політэхнічнага інстытута «Волга» нечакана зрабіла рэзкі паварот направа. Матацыкл абышоў яе і тут жа, узяўшы крута ўлева, аўтамабіль урэзаўся ў матацыкл!..

Ганчароў быў забіты на месцы. Шагойку даставілі ў бальніцу без прытомнасці, залітага крывёй. «Волга» уцякла.

Амаль праз суткі, на нейкае імгненне апрытомнеўшы, Шагойка прашаптаў:

— Ноль дзевяць, ноль дзевяць... — і зноў на некалькі тыдняў страціў прытомнасць.

Пошукі злачынцы былі вельмі заблытаныя, але, у канчатковым выніку, паспяховыя. Уладальніка «Волгі», ваграншчыка трактарнага завода Лукашонка знайшлі ў лесе, дзе ён хаваўся. Ён прызнаўся, што ў тую ноч быў вельмі п'яны. У машыне з ім было яшчэ восем чалавек, у тым ліку яго жонка і двое дзяцей. Усіх іх ён рызыкаваў забіць пры катастрофе.

А Ганчарова, цудоўнага чалавека і сябра, больш няма ў радах тых, хто стаіць на варце нашага спакою.

Каго забіў Лукашонак? Перш за ўсё, сумленнага чалавека. У асабістай справе Ганчарова тройчы значацца падзякі за затрыманне крымінальнікаў. Ганчароў быў выдатным спартсменам-трэнерам. За заслугі ў ахове грамадскага парадку ён двойчы ўзнагароджаны медалямі.

Імёны і ўчынкі такіх людзей не павінны сцірацца з нашай памяці...

...Просячы дапамогі, трацячы апошнія сілы, паявіліся ў міліцыі муж і жонка. З дзіцячага сада знік іх трохгадовы сын Жэня.

У дзіцячы сад па Жэню зайшла жанчына, якая назвала сябе яго цёткай, і забрала малога, нібыта па просьбе маці. І гэтай «цёці» і хлопчыка не стала.

Выпадак неверагодны!

Першыя дні пошукаў ніякіх вынікаў не далі. Можна было думаць, што злачынца выехала за межы рэспублікі. І на ногі была пастаўлена міліцыя ўсёй краіны.



У. К. Ганчароў, які загінуў, ахоўваючы грамадскі парадак.

Між тым, недарэчныя чуткі распаўзаліся з двара ў двор, з базара на базар, з горада ў горад. А ў гэты час усе савецкія міліцыянеры, усе дружыннікі, усе, хто мае



Старшы сержант міліцыі Іван Шагойка зноў у страі.



Капітан М. В. Паўленка ўручае першы пашпарт вучню 31-га тэхнічнага вучылішча У. Хліманаву.

дачыненне да аховы грамадскага парадку, рабілі сваю справу. Па ўсёй краіне шукалі маленькага хлопчыка. І ўрэшце, на дваццаты дзень, знайшлі яго.

Задавальняючы цікавасць чытачоў, скажам, што Жэня быў украдзены маладой жанчынай, махляркай Лангай Ляўчук. Жыла яна ў Сібіры, а яе маці — у Гродзенскай вобласці. Каб разжалабіць старую і выманіць у яе больш грошай, дачка пісала ёй пра ўсялякія недарэчнасці. Выдумала гісторыю пра мужа, які кінуў яе, пра няшчаснае дзіця, на выхаванне якога ў яе няма сродкаў. Надумаўшы наведаць маці, яна рашыла, што такі візіт будзе асабліва пераканаўчы, калі ў яе на руках будзе дзіця. І ўкрала Жэню Г.

Цяпер, калі гэта жудасная гісторыя прыйшла да свайго шчаслівага канца, многія нават могуць усміхнуцца, слухаючы расказ аб прыгодах авантурысткі. А калі б ёй раптам прыйшло ў галаву расправіцца з малым, як з міжвольным сведкам?.. Дорага б тады абышлася бестурботнасць работнікам дзіцячага сада.

...Адным з клопатаў міліцыі з'яўляецца абавязак сачыць за тым, каб ніхто з нас не забываўся пра свой грамадзянскі абавязак. Пачынаюцца гэтыя клопаты з уручэння пашпарта, як толькі чалавеку спаўняецца 16 год. Працэдура ўручэння стала традыцыйна ўрачыстай. Атрымліваючы «серпасты, малаткасты савецкі пашпарт», дзяўчаты і юнакі становяцца паўнапраўнымі грамадзянамі СССР.

Нядаўна ў Ленінскім пакоі Заводскага раённага аддзялення міліцыі Мінска адбылася такая ўрачыстасць.

Начальнік аддзялення капітан Паўленка напомніў маладым грамадзянам аб іх правах, гарантаваных Канстытуцыяй Савецкай дзяржавы, і звярнуўся да іх з бацькоўскімі словамі:

— Няхай высокае ўсведамленне грамадзянскага абавязку кіруе кожным нашым учынкам!

**А. ДЗІТЛАЎ.**

Фота аўтара.

**Мікола ЮРКЕВІЧ,**
**кандыдат юрыдычных навук**

# ЦАРКВА І ШЛЮБ

## ЛАРЧЫК АДЧЫНЯЕЦЦА ПРОСТА

Выключная большасць шлюбаў у наш час — гэта шлюбы, якія бяруцца ў ЗАГСе або сельсавеце. Але сустракаюцца і царкоўныя шлюбы. Маладыя іншы раз не хочуць вянчацца. І вось пачынаюцца абгаворы, нагаворы, падгаворы. Якая-небудзь бабка Прузына сакоча па ўсёй вёсцы: «Не будзе шчасця Янку з Марыляй. Вунь Пятрок кінуў сваю. Без царквы яно заўсёды так...»

Янка і Марыля прапускаюць гэтыя словы міма вушэй, Васіль жа і Зося задумваюцца: «Можа ў гэтым і праўда нешта ёсць?..»

Аднак думаць тут якраз і няма пра што. Нават з пункту гледжання чалавека, які верыць у бога, вянчанне ніякага «таінства», ніякага «сакраменту» не мае. Як сведчыць біблія, міфічны Хрыстос разам з божай маці і вучнямі прысутнічаў на вяселлі ў Кане Галілейскай. Усе яны там былі як госці, а вяселле адбывалася пасля ўжо шлюбу. Гэта і дае права гаварыць, што шлюб без вянчання (звычаі яўрэйскага народа вянчання не ведалі) «ёсць шлюб сапраўдны і ўгодны богу». Да такога вываду прыходзіць у 1887 годзе вядомы рускі праваслаўны кананіст, прафесар кананічнага права А. Паўлаў. І ён не адзінокі. Да пятроўскіх часоў гэта было для царкоўнікаў аксіёмай.

У чым жа тады справа? Чаму царква так чапляецца за абавязковасць вянчанняў?

Ларчык адчыняецца проста. Царква заўсёды была важным сродкам умацавання ўлады эксплуататарскіх класаў. У прыватнасці, яна была адной з важнейшых апор феадальнага ладу. Дамагаючыся абавязковасці вянчання, царква, тым самым, умацоўвала свой уплыў на насельніцтва. У гэтым галоўнае. Але адначасова царкоўнікі павялічвалі і свае даходы. Апошняе нам хацелася б асабліва падкрэсліць, бо захавалася многа старых дакументаў, у якіх мітрапаліты, архіепіскапы і іншыя праваслаўныя іерархі патрабуюць сачыць, каб «попы венечных пошлин (гэтыя пошліны ішлі на карысць памянёных іерархаў. — **М. Ю**) не крали, и доносить... о лицах, живущих с жёнами без молитвы».

«Прынцып матэрыяльнай зацікаўленасці» датычыў і радавых духоўнікаў. Ужо ў XII стагоддзі парафіяльнае духавенства брала такую аплату за трэбы, што яны,

гаворачы словамі М. Доўнар-Запольскага, «ці з рукі былі беднаму чалавеку». У пачатку XX стагоддзя мы бачым той самы малюнак. У. І. Ленін у адной са сваіх прац цытуе выступленне дэпутата трэцяй Думы селяніна Ражкова, які расказаў праўду пра папоўскія вымаганні, пра тое, як папы патрабуюць за шлюб, акрамя грошай, «бутэльку гарэлкі, закуску і фунт чаю, а іншы раз просяць такое, аб чым з трыбуны я і гаварыць баюся».

У нашы дні англійскі часопіс «Эканаміст» у артыкуле з характэрнай назвай «Шлюбны бізнес» зноў-такі падкрэслівае, што царкоўны шлюб каштуе не малыя грошы, што царкоўнікі, таксама як і іншыя гандляры, добра зарабляюць на гэтым бізнесе.

Хцівасцю папоў вытлумачваюць *галоўным* чынам тое, што царкоўныя шлюбы сярод насельніцтва пашыраліся павольна.

У сярэдзіне XVI стагоддзя ў Магілёве, які быў тады адным з буйнейшых беларускіх гарадоў, шлюб адбываўся ў магістраце. За грамадзянскім шлюбам звычайна ішоў царкоўны. Але для законнасці шлюбу царкоўнага абраду не патрабавалі. Аб гэтым сведчаць старадаўнія дакументы.

Нешта падобнае было таксама ў Гродна і Полацку. У 1898 годзе вядомы дарэвалюцыйны даследчык становішча жанчыны С. Шашкоў пісаў, што «ў некаторых паветах Віцебскай губерні да пазнейшага часу жаніх і нявеста на масленіцу ехалі ў лес, да запаветнага дуба, аб'язджалі яго тры разы і на тым канчалася іх вянчанне». Так што звычай вянчання ў нас не такі старадаўні, як думаюць некаторыя.

Можна сказаць, што ў Еўропе цяперашні грамадзянскі шлюб вядзе свой пачатак з часоў французскай буржуазнай рэвалюцыі. Следам за Францыяй абавязковыя грамадзянскія шлюбы ўвялі многія іншыя еўрапейскія дзяржавы, якія пераходзілі на шлях капіталістычнага развіцця. У прыватнасці, так зрабілі Швейцарыя, Германія, Бельгія.

Каталіцкая царква сустрэла гэтую навіну варожа. Паміж ёю і дзяржавай пачалася ў сувязі з гэтым зацятая барацьба, якая не скончылася і сёння.

Кардынала Атавіяні смела можна назваць адной з першых скрыпак у рымскім багаслоўскім аркестры: пад яго ўладай знаходзіцца так званы святы Афіцыум, адна з буйнейшых устаноў рымскай курыі, ён стаяў на чале падрыхтоўчай да сабора багаслоўскай камісіі, ён аўтар шырока вядомага ў каталіцкім свеце падручніка «Асновы публічнага кананічнага права» і г. д. Дык вось, Атавіяні называе адлучэнне царквы ад дзяржавы дактрынай «цалкам фальшывай», «бязбожнай, неразумнай, несправядлівай». А канадскі кананіст Лео Гінц піша так: «Прырода шлюбаў хрышчоных асоб і прырода звышнатуральнага царкоўнага грамадства, патрабуюць, каб шлюбы належалі выключна царкве. І гэтая ўлада царквы цалкам незалежная ад добрай волі дзяржавы». Потым ён яшчэ раз паўтарае: «Па волі бога гэтая ўлада належыць толькі царкве...»

А як жа абавязковы цывільны шлюб і дзяржаўнае заканадаўства, якое рэгулюе яго? Адказ, у прыватнасці, дае амерыканец Жазэф Байэрль: «Мірнае суіснаванне двайнога шлюбнага заканадаўства, царкоўнага і свецкага, — гаворыць ён, — немагчыма». Як бачыце, Байэрль не сароміцца ставіць кропкі над «і».

Погляды Байэрля, Гінца, Атавіяні не з'яўляюцца іх прыватнымі поглядамі. Яны абапіраюцца на афіцыйныя дакументы, якія зыходзяць з Рыма.

## РАЗВЕДКА БОЕМ

Час ад часу царкоўнікі вядуць разведку боем. У 1956 годзе Петра Фіярдэлі, біскуп у Прата (Італія), вырашыў не дапускаць грамадзянскіх шлюбаў. Тое, што гэтыя шлюбы прадугледжаны італьянскім законам, яго не спыніла. І вось у якасці аб'екта націску была выбрана пара: Ларыяна Нунцыяці, каталічка, і Маура Беландзі, які спачувае камуністам.

Спачатку з Ларыянай гаварыў настаяцель яе парафіі Даніла Аяці. *Але калі гэта не дало вынікаў*, за справу ўзяўся сам біскуп. Ён тлумачыў дзяўчыне, што пасля грамадзянскага шлюбу яна не стане жонкай Беландзі, а толькі адкрытай, публічнай яго каханкай. Пагражаў ёй.

Услед за дзяўчынай у палац біскупа быў выкліканы яе бацька. Ён аказаўся больш падатлівы, але сустрэў з боку зяця такое супраціўленне, што махнуў на ўсё рукою.

Неўзабаве Ларыяна Нунцыяці і Маура Беландзі ўзялі шлюб у мясцовай мэрыі. У той самы дзень ва ўсіх цэрквах горада чыталі пасланне біскупа. Ларыяна і Маура аб'яўляліся відавочнымі грэшнікамі. Нават пахаваць іх пасля смерці не дазвалялася на агульных парафіяльных могілках. Не забыўся біскуп аблаяць і бацькоў Ларыяны.

Але гэта быў толькі пачатак. Сапраўдны шабаш ведзьмаў разгарэўся некалькі пазней, пасля таго, як Маура Беландзі вырашыў абараняць свой гонар і гонар сваёй жонкі пры дапамозе суда. У горадзе былі пастаўлены на ногі ўсе царкоўнікі. Дзейнічалі ксяндзы, цэлая армія манахаў і манашак, члены царкоўных гурткоў, саюзаў і іншых арганізацый. Усе яны з раніцы да вечара нагаворвалі, падгаворвалі, нацкоўвалі.

Супраць кафэ, якое належала бацьку Ларыяны, і супраць магазіна бацькі Маура з'явіліся пікеты. Пачаўся байкот. Старшы Беландзі карыстаўся гандлёвым крэдытам у «Італьянскім банку» і «Банку святога духу». Абодва банкі яму адмовілі ў крэдыце. Адначасова крыклівую кампанію вёў увесь каталіцкі друк. Ватыкан узяў дзеянні біскупа Фіярдэлі пад сваю поўную і безумоўную абарону.

Маура Беландзі перанёс грып. Аслаблены арганізм зацкаванага чалавека не вытрымаў: адбылося выліццё крыві ў мозг і наступіў параліч. Прававерныя адразу ж кінуліся дзякаваць свайму богу за тое, што ён наслаў такую кару на ворага царквы.

Тым часам Ватыкан выкарыстоўваў усе даступныя яму сродкі ўздзеяння на судовых чыноўнікаў і іх начальства. Суд першай інстанцыі адхіліў скаргу Беландзі. Пракурор у судзе другой інстанцыі таксама заявіў, што біскупа караць нельга. Таму прысуджэнне 1 сакавіка 1958 года Фіярдэлі да штрафу было зусім нечаканым.

Ватыкан проста шалеў ад злосці. Папа ў знак пратэсту і жалобы адклаў урачыстае набажэнства ў гадавіну сваёй каранацыі. Да Фіярдэлі адна за другой ляцелі тэлеграмы, у якіх італьянскія біскупы выказвалі яму спачуванне і абураліся прыгаворам. «...вайна супраць рэлігіі? — пытаўся кардынал Ранкалі. — Добра. Няхай, аднак, ведаюць ворагі, што мы гатовы да пакутніцтва». Сам Фіярдэлі афіцыйна апрануўся ў тогу пакутніка. Ён дзякаваў богу за тое, што прыгавор італьянскага суда даваляе яму «стаць побач з біскупамі, ксяндзамі, каталіцкімі дзеячамі, якія за жалезнай заслонай прыгаворваюцца да страшэнных пакаранняў».

## НІЧЫМ НЕ ГРЭБУЮЦЬ

Вось вам і масток з Італіі за «жалезную заслону», у краіны сацыялістычнага лагера. У гэтых краінах таксама ідзе зацятая барацьба. Каталіцкае духавенства выкарыстоўвае кожны зручны выпадак, не грэбуючы ніякімі сродкамі.

У польскім друку параўнаўча нядаўна паведамлялася аб такім факце. Памёрла жанчына. Яе сын пайшоў да ксяндза дамовіцца аб пахаванні. Але ксёндз паставіў умову: кінеш сваю другую жонку, з якою ажаніўся ў грамадзянскім парадку, вернешся да першай, з якой вянчаўся, тады і пагаворым аб пахаванні тваёй маці. Уявіце сабе становішча гэтага чалавека. Ён сам не стаў яшчэ атэістам. А маці, напэўна, была веруючай. Пахаваць яе без ксяндза? Пракляне! Страх быў такі моцны, што чалавек не ўтрымаўся. Каб пахаваць маці па рэлігійнаму абраду, ён пакінуў законную жонку і дзяцей, а сам пайшоў да жанчыны, з якою жыў кароткі час шмат гадоў таму назад і якая даўно стала яму чужой.

Праўда, царква ў адпаведных выпадках не забараняе браць шлюб і ў дзяржаўных органах. Але гэта «непатрэбная» з пункту гледжан-

ня царквы працэдура дапускаецца з адзінай мэтай: даць веруючым магчымасць аберагчыся ад законаў, якія прызнаюць грамадзянскі шлюб абавязковым.

Калі ж гаварыць наогул, то хрысціяне павінны выконваць законы дзяржавы, паколькі яны «не супярэчаць рэлігіі і евангельскай маралі». Лёгка заўважыць, што ў гэтым правіле другая яго частка амаль цалкам перакрэслівае першую. Калі царква лічыць які-небудзь закон несправядлівым, веруючыя могуць і нават павінны яго абыходзіць. Важна толькі не папасціся.

«Калі мы прызнаем юрыдычную незалежнасць дзяржавы і царквы, кожнай у сферы сваёй улады, гэта не азначае, што няма розніцы ў рангах паміж імі,— гаворыць той самы Жазэф Байэрль.— Хутчэй наадварот, мы павінны цвёрда трымацца таго погляду, што царква па прычыне яе больш высокай мэты этычна стаіць вышэй за дзяржаву. Той быў бы дрэнным або непаслядоўным хрысціянінам, хто сумняваўся б у гэтым».

Каб прымусіць царкоўнікаў паважаць дзяржаўныя законы і забяспечыць інтарэсы грамадзян, закон 18 жарміналя X года Французскай рэспублікі забараніў каталіцкім ксяндзам вянчаць маладых, пакуль яны не ўзялі грамадзянскага шлюбу. Артыкулы 199 і 200 крымінальнага кодэксу прадугледжваюць за парушэнне гэтага правіла штраф, турэмнае зняволенне і нават высылку. Памянёныя артыкулы маюць на ўвазе служыцеляў усіх рэлігій.

З таго часу і па сённяшні дзень крымінальная адказнасць духоўнікаў за парушэнне правіла, аб якім ідзе гаворка, з'яўляецца інтэгральнай часткай заканадаўства амаль усіх еўрапейскіх краін, дзе існуе абавязковы грамадзянскі шлюб. У некаторых краінах забаронена вянчаць тых, хто яшчэ не ўзяў грамадзянскага шлюбу, надана значэнне прынцыпу, замацаванага ў канстытуцыі (Бельгія, Югаславія).

З еўрапейскіх краін народнай дэмакратыі толькі ў ГДР няма забароны вянчацца да грамадзянскага шлюбу. У суседняй з намі Польшчы гэтая забарона была ўведзена параўнаўча нядаўна — у 1958 годзе.

## А ЯК У НАС?

Савецкія людзі ў пераважнай большасці — свядомыя атэісты. Але, як адзначыў Л. Ф. Ільічоў у дакладзе на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС, «рэлігійныя перажыткі жывучыя, яны чэпка трымаюць мільёны людзей». Для тых, хто верыць, царкоўны абрад застаецца прывабным. Веруючыя схільны надаваць рэлігійнаму шлюбу асноўнае значэнне. Шлюб жа ў ЗАГСе для іх з'яўляецца нечым фармальным, другарадным. Ясна, што гэта можа выклікаць цяжкія вынікі.

Па-першае, у сувязі з тым, што царкоўны шлюб не мае ў нас юрыдычнай сілы, ён можа адбіцца на інтарэсах маці і дзіцяці. Напрыклад, грамадзянка Ю. мае трох дзяцей. Яе муж загінуў ад няшчаснага выпадку. Для атрымання пенсіі патрэбна даведка аб грамадзянскім шлюбе. Такія даведкі выдаюць органы ЗАГСа, калі ёсць актавы запіс. Але ў дадзеным выпадку запісу няма, хоць Ю. брала шлюб пасля вайны. Нехта параіў звярнуцца ў суд з заявай аб устанаўленні факта рэгістрацыі шлюбу. Аднак гэтага факта не было. Ю. змагла даказаць толькі тое, што сапраўды мела месца: факт вянчання ў касцёле.

Калі шлюб быў толькі царкоўны, жонка і дзеці па заканадаўству, якое дзейнічае, не маюць права таксама на аліменты і права на спадчыну пасля смерці мужа і бацькі.

Па-другое, рэлігійны абрад вянчання можа стварыць для некаторых ілжывае ўяўленне аб законнасці другога шлюбу асобы, якая ўжо знаходзіцца ў адным нескасаваным шлюбе.

Па-трэцяе, царква можа даць шлюб малалетняму. Напрыклад, шлюбнае царкоўнае паўналецце ў католікаў роўна 14 гадам для «мужчын» і 12-ці — для «жанчын».

Па-чацвёртае, сектанты іншы раз жэняць ці выдаюць замуж прымусова. Абавязак спачатку ўзяць шлюб у ЗАГСе, магчыма, садзейнічаў бы ў некаторых выпадках недапушчэнню такіх шлюбаў.

Нельга сказаць, што царква не разумее, да якіх вынікаў можа прывесці вянчанне, якое адбываецца да грамадзянскага шлюбу. Служыцелі рэлігійных культаў адзначаюць у сваіх кнігах нумары і даты выдачы органамі ЗАГСа даведак аб шлюбе. Але робяць гэта, з аднаго боку, не заўсёды, а з другога — у судовай практыцы неаднаразова сустракаліся выпадкі, калі нумар выдадзенага органамі ЗАГСа дакумента ў царкве ці касцёле запісаны, але ўзяты «са столі». На самой справе ніякай рэгістрацыі не было. Бацюшкі за невялікую накідку да асноўнай платы (а магчыма і без яе) не саромеюцца «браць грэх на душу». Не саромеюцца тым больш, што з рэлігійнага пункту гледжання тут ніякага грэху няма.

Наогул, няма ніякіх падстаў лічыць, што служыцелі рэлігійных культаў самі па добрай волі і ва ўсіх без выключэння выпадках будуць выконваць правіла, аб якім ідзе гаворка. Мы добра ведаем, што сярод «пастыраў духоўных» ёсць шмат людзей, якія з лёгкім сэрцам парушаюць не толькі патрабаванні маралі, але і законы, у тым ліку царкоўныя.

У сяле Бортнікі Бабруйскага раёна жаніўся дзяк мясцовай царквы. Вядома, шлюб быў царкоўны. Аднак жонка аказалася не такой багатай, як думаў служка божы. «Памылка» была выпраўлена: дзяк жонку прагнаў і хутка ажаніўся, зноў царкоўным шлюбам, на другой жанчыне, у якой сапраўды была «тоўстая» ашчадная кніжка. Развод дзяк не браў. Гонячыся за грашыма, ён і поп, які яго вянчаў, адкінулі як нешта непатрэбнае царкоўны дагмат аб таінстве і нескасавальнасці шлюбу.

Асабліва многа злоўжыванняў адносна шлюбу робяць розныя сектанты. Старшы прасвітар евангельскіх хрысціян-баптыстаў па Магілёўскай і Віцебскай абласцях Н. Ткачоў пазнаёміў сектанта Стэпчанку з «сястрой» А. Лазаравай з Бабруйска і раіў яму з ёю ажаніцца. Цішком ад членаў абшчыны ў Чэрыкаве, дзе добра ведалі Стэпчанку як мнагажонца, прасвітар В. Лукашэнка вязе жаніха ў Бабруйск, дзе і адбываецца «сочетание». Калі ў ЗАГСе пасля «сочетания» адмовіліся прыняць заяву аб шлюбе ў сувязі з тым, што ў Стэпчанкі няма пасведчання аб разводзе, «нехта» падказаў, што заяву трэба «перапісаць». Пры гэтым у ЗАГСе быў прасвітар Ткачоў. У адпаведнасці з новай заявай Стэпчанка ўжо дзяцей не меў, браў першы шлюб. Калі мнагажонца прыцягнулі да крымінальнай адказнасці, прасвітар абшчыны ў Чэрыкаве Лукашэнка проста сказаў следчаму: «Я дрэннага за Стэпчанкам нічога не прыкмячаў і яго не асуджаю».

Усё гэта прымушае думаць, што, магчыма, у нас таксама варта было б выдаць законы аб адказнасці служыцеляў усіх рэлігій і сект за адпраўленне рэлігійнага абраду да таго, як будзе ўзяты шлюб у органах ЗАГСа.

## ЭМАЦЫЯНАЛЬНАЕ УЗДЗЕЯННЕ

Аднак галоўнае не ў законе. Толькі законам нельга знішчыць прывабную сілу царкоўнага вянчання. Царква праз стагоддзі збірала ў адзіную сістэму розныя сродкі эмацыянальнага ўздзеяння на чалавека. Гэтай мэце служаць царкоўныя архітэктура, жывапіс, музыка, спевы. Царкоўнікі ведаюць, што чалавек — асабліва, калі ён адзначае, скажам, нараджэнне дзіцяці або бярэ шлюб — мае аб'ектыўную патрэбу ва ўрачыстасці, хоча, каб яго радасць і разуменне важнасці моманту не зніжаліся абыдзённасцю абставін, а былі падкрэслены ўсімі даступнымі сродкамі, каб гэтыя сродкі ўзмацнялі, рабілі больш яркімі яго пачуцці і перажыванні.

Вось царква і эксплуатуе гэтую патрэбу чалавека. Эксплуатуе ўмела, з дакладным разлікам. Ведаючы цану эмацыянальнага ўздзеяння, царкоўнікі надаюць яму выключнае значэнне. Нездарма ватыканскі Сабор першым пытанем парадку дня паставіў пытанне аб літургіі, у прыватнасці, аб тым,

як зрабіць багаслужэнне больш урачыстым і прыгожым. Таму неабходнай умовай паспяховай барацьбы супраць царкоўнага шлюбу з'яўляецца замена царкоўных сродкаў эмацыянальнага ўздзеяння свецкімі, у нас — савецкімі.

Гэта даўно вядома. Яшчэ ў мінулым стагоддзі буржуазныя вучоныя адзначалі, што ў Германіі абавязковы грамадзянскі шлюб атрымаў як мага больш бедную празаічную форму для таго, каб жаніх і нявеста не знаходзілі ў ім задавальнення і пазней звярталіся да царкоўнага благаславення. У сучаснай Італіі так званыя «чырвоныя» муніцыпалітэты выдзяляюць для грамадзянскіх шлюбаў самыя лепшыя залы. Наадварот, у многіх гарадах, дзе муніцыпалітэты з'яўляюцца хрысціянска-дэмакратычнымі, грамадзянскі шлюб можна аформіць толькі ў брудным і цёмным памяшканні.

І вось калі глядзіш на некаторыя нашы бюро ЗАГСа, робіцца неяк сумна. Мімаволі думаецца, што мы многа гаворым пра барацьбу супраць рэлігійнага дурману і зусім мала змагаемся. Нават у Мінску, у сталіцы рэспублікі, размовы аб палацы шлюбаў да сённяшняга дня астаюцца ўсяго толькі размовамі.

А весці барацьбу супраць царкоўных шлюбаў трэба. І перш за ўсё таму, што рэлігійны абрад стварае або ўмацоўвае сувязі савецкіх людзей з чужой нам ідэалогіяй. Трэба растлумачваць моладзі, што ў той час, як у касцёле іх вянчае адзін ксёндз, другія ксяндзы — еўрапейскія, амерыканскія і ўсякія іншыя — праклінаюць з амбонаў наш грамадскі лад, нашы законы, нашу ўладу.

Трэба таксама паказваць маладым людзям, што вянчанне звязвае іх — будаўнікоў камунізма — з глыбока рэакцыйнымі поглядамі на сям'ю. Сучасныя прапаведнікі каталіцызму, з аднаго боку, ілжыва сцвярджаюць, быццам хрысціянства было « магутнай сілай», што пераўтварыла жанчыну з несамастойнай істоты і служкі ў асобу паважаную. Але з другога боку — яны нават не спрабуюць адмаўляць, што паводле іх вучэння «мужчына застаецца галавой і кіраўніком сям'і». Так, у прыватнасці, гаворыць Д. Вудс, манахіня-каталічка, у кнізе «Амерыканская сістэма сям'і». Пры гэтым яна не забываецца працытаваць апостала Паўла: «Жонкі, падначальвайцеся сваім мужам, як госпаду, таму што муж ёсць галава жонкі, як і Хрыстос галава царквы...»

Барацьба супраць рэлігійных шлюбаў з'яўляецца часткай нашай агульнай барацьбы супраць рэлігійнага светапогляду, за ідэалагічнае адзінства савецкага народа ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства. Гэта таксама частка агульнай барацьбы за новага чалавека, цалкам вольнага ад рэлігійнага дурману.

Уладзімір **АНІЧЭНКА**

# СУСТРЭЧЫ ПРАЗ ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ

...Цягнік Чоп-Прага, набіраючы хуткасць, імчаў на пад'ём між Высокіх Татраў, якія з абодвух бакоў вяршынямі ўпіраюцца ў бязвоблачнае неба. Горы ўзнімаюцца ўсё вышэй. Здавалася, ім няма канца. Цягнік прытармажваў на крутых паваротах. Лёгкі ветрык, што ўрываўся праз адчыненыя вокны, лашчыў твары святочна настроеных людзей. Адны з іх спакойна сядзелі ў купэ вагонаў, а другія ўсхвалявана хадзілі ўзад-уперад, пазіралі на гадзіннікі. Можна было здагадацца, што яны з нецярплівасцю чакаюць прыпынку.

Будынкі вакзалаў і прывакзальныя плошчы выглядалі па-святочнаму. Усюды вывешаны савецкія і чэхаславацкія сцягі, партрэты дзяржаўных дзеячоў Савецкага Саюза і Чэхаславакіі, транспаранты з надпісамі: «Дружба чэхаславацкага і савецкага народаў на вечныя часы!», «На вечныя часы нам ярка ззяюць зоркі над Крамлём!»

За горадам Жыліна горы паступова знікаюць, дарога становіцца раўнейшая. З аднаго боку мільгаюць рэчкі, квітнеючыя сады, а з другога — шорыкія палі і лясы. На палях працуюць людзі. Яны раз-пораз кідаюць позіркі на вагоны, ветліва махаюць рукамі пасажырам.

Неўзабаве сцямнела. Гарады і вёскі зазіхацелі агнямі. На ясным небе ўспыхваюць рознакаляровыя агні самалётаў, і аднекуль даносяцца мелодыі чэшскіх песень.

Позна ноччу паравоз пачаў прыкметна тармазіць і, нарэшце, спыніўся. Чэшска Тршэбава. Не паспеў я выйсці з вагона, як па радыё на чэшскай мове было аб'яўлена: «Таварыш Уладзімір Васільевіч Анічэнка! Вас чакаюць каля галоўнага ўваходу ў вакзал». Значыць, тэлеграму атрымалі своечасова! Выходзіць, дарэмна хваляваўся.

Малады хударлявы мужчына з прыкметнай сівізной ў валасах зрабіў крок уперад, усміхнуўся:

— Я — Ян Кашпар, супрацоўнік інстытута гісторыі партыі.

— Ян Чэрнах, супрацоўнік акруговага Нацыянальнага камітэта, — сардэчна прывітаўся другі, сярэдніх год чорнавалосы мужчына.

— Значыць, два Іваны, —

здзіўлена адказаў я чэхаславацкім сябрам.

— Вы нас так і называйце, — пачулася ў адказ.

У аўтамашыне разгаварыліся, як даўнія сябры. Успамінаем аднаго, другога, трэцяга. Як яны сябе адчуваюць? Дзе цяпер жывуць, працуюць? Ян Кашпар кладзе руку на маё плячо, пераскоквае з аднаго імя на другое, ківае галавой, усміхаецца:

— А лепш за ўсё яны самі пра сябе раскажуць.

Аўтамашына імчыць між гор. За рулём сядзіць невысокі шыракаплечы пажылы мужчына. Ён уважліва ўглядаецца ў дарожныя знакі, пераводзячы позірк на горы, што навіслі з абодвух бакоў дарогі.

Успамінаюцца знаёмыя мясціны. Тут у свой час давялося многае перажыць...

Вось і Жамберк. Аўтамашына спынілася каля гасцініцы на гарадской плошчы.

Спаць у гэту ноч доўга не прыйшлося: хацелася хутчэй выйсці на вуліцу, сустрэцца са знаёмымі людзьмі, паглядзець горад і пахадзіць па тых вуліцах, на якіх у свой час адбывалася сустрэча з тутэйшым насельніцтвам.

...Калоны дэманстрантаў са звонкімі песнямі ішлі на гарадскую плошчу. Над трыбунай развяваюцца чэхаславацкія і савецкія сцягі. Яна ўпрыгожана партрэтамі Маркса, Энгельса, Леніна. На чырвоным палотнішчы надпіс: «Усе сілы для далейшага развіцця нашага сацыялістычнага грамадства!»

Мітынг адкрывае старшыня Жамберцкага гарадскога Нацыянальнага камітэта Яраслаў Галірж. Ён вітае ўсіх удзельнікаў дэманстрацыі з міжнародным святам Першага мая, прадстаўляе мяне.

Слова бярэ сакратар Акругавага камітэта партыі Францішак Юнэк. Прамоўца гаворыць аб тых зменах, што адбыліся ў жыцці чэхаславацкага народа за пасляваенныя гады.

Потым выступаю я. Людзі слухаюць уважліва.



Сям'я Долечкавых.

Мітынг закончан. З плошчы да трыбуны спяшаецца невысокага росту сівавалосая жанчына з букетам жывых кветак у руках. Яна падыходзіць да мяне, працягваючы здалёк рукі:

— Уладзімір!

Марыя Долечкава, такая родная, дарагая і блізкая, доўга абнімае мяне, быццам сустрэлася са сваім сынам. Змахнуўшы слязу з вачэй, яна ўздыхнула:

— Майму мужу Чэнеку і сыну Ольду паставілі помнік на Лугу. Паклапацілася дзяржава і ўшанавала іх памяць. А зямлянкі захаваліся яшчэ і цяпер на Затвары і на Горцы ў Лібхаве. Памятаеш?

Я помню тыя нашы партызанскія зямлянкі. Але якія яны цяпер?

Пасля сустракаюся з Фердынандам Кепртам, Францішкам Мацясам і Ладзіславам Калоусам. Размаўляем, як блізкія сябры дзяцінства.

— Дзе цяпер Францішак Галенда?

— Ужо на пенсіі!

— Што чуваць пра Эду Петрушчака?

— Жыве ў Клоцкай Быстрыцы. У Польшчы. Ад граніцы рукой падаць...

— Дзе працуе?

— Цяпер ён капітан, начальнік міліцыі.

— А ты?



— У Акадэміі навук, у Мінску.

— А Мікола Аўсянікаў?

— Скончыў інстытут замежных моваў у Маскве. Працуе дырэктарам сярэдняй школы на Смаленшчыне.

— Здарова!

Фердынанд ківае галавой, усміхаецца і прапануе:

— Пройдземся па горадзе! Успомнім Дзень перамогі...

Сваё падарожжа мы пачалі з гарадской плошчы. На ёй — высокі абеліск з пазалочанай наверсе статуяй Мадонны і групавымі фігурамі ў ніжняй частцы яго. Гэта гарадскі знак.

Жамберк — старажытны чэшскі горад. Узнік ён у XIII стагоддзі на месцы былога славянскага пасёлка пры старадаўняй дарозе, непадалёку ад горнай бурлівай рэчкі Дзікая Орліца. У часы панавання нямецкіх каланістаў горад называўся па-нямецку Сенфтэнберг. Пазней ён прыняў сучасную назву Жамберк.

Непазнавальна змяніўся горад за пасляваенныя гады. Выраслі новыя жылыя дамы, магазіны. Вялікі прасторны будынак пошты, а крыху далей — гарадская паліклініка.

На ўскраіне горада з аднаго боку патанае ў зеляніне шматпавярховая лячэбніца, куды прыязджаюць папраўляць сваё здароўе людзі з розных куткоў краіны, а з другога боку — карпусы тэкстыльных фабрык «Масілана» і «Орбан», шарсцяныя і баваўняныя вырабы якіх экспартуюцца за межы рэспублікі.

У Жамберку ёсць тэатр, кінатэатр, прасторны заводскі клуб. Непадалёку ад горада ў маляўнічай мясціне знаходзіцца так званы «Жамберскі кацёл», дзе штогод праходзяць матацыклетныя гонкі спартсменаў усёй краіны.

Мы спыніліся каля двухпавярховага каменнага дома, дзе некалі была гасцініца.

— Памятаеш гэты дом? — пытае Фердынанд.

— Добра памятаю. Тут мы святкавалі Дзень перамогі.

Толькі цяпер гэта ўжо была не гасцініца. На першым паверсе прасторны прадуктовы магазін, а другі паверх пераабсталяваны пад жылыя кватэры.

Потым паехалі за горад. Дарога становіцца ўсё больш пакручастай і ўзнімаецца ў горы. З абодвух бакоў яе акружае лес. Вось і той узгорак, дзе скончыўся апошні бензін ў аўтамашыне, нагружанай трафейнай нямецкай зброяй, боепрыпасамі.

Вось тут, на скрыжаванні дарог, мы ўбачылі тады двух коннікаў. Чым больш яны набліжаліся да нас, тым выразней станавіліся іх сілуэты. Два запененыя рысакі, памахваючы галовамі, адбівалі гулкія крокі па асфальце. Капыты іх былі так стаптаны, што сачылася кроў. Дасталося ж ім! У сёдлах былі два конныя савецкія разведчыкі з аўтаматамі і біноклямі.

— Браткі! Значыць, сустрэліся! Няўжо гэта канец вайне?

— А хіба вы не адчуваеце? — усхвалявана прамовіў разведчык.

А другі раптам запытаў:

— Няўжо не ведаеце, што гітлераўцы капітулявалі?

Куча гітлераўскіх трафеяў, якая ўзвышалася каля дарогі, напамінала ўсім аб тым, што ворага лупцавалі і ў хвост і ў грыву...

Разведчыкі спыніліся толькі на хвілінку, каб выкурыць з сябрамі па цыгарэце і сказаць ім некалькі цёплых слоў. На тварах усмешкі. Усім было лёгка на душы: гаварылі свае са сваімі. Ніхто з нас не ўспамінаў ні слова аб тым, што было перажыта за прайшоўшыя гады, бо адчувалі, што ўсім хапіла за час вайны.

Успомнілася, як неўзабаве пасля сустрэчы з коннай савецкай разведкай на гэтай жа дарозе паказаліся калоны савецкіх войск. Гудзелі маторы аўтамашын, грымелі танкі, па дарозе ішлі ваенныя абозы. Усе яны спяшаліся наперад, туды, дзе яшчэ засталіся недабітыя фашысты, дзе яшчэ грымела вайна. Радасна было пачуць у гэты момант словы рускай песні, якую падхапілі сотні галасоў:

Все пушки, пушки грохотали,
Трещал наш пулемёт.
Фашисты отступали,
Мы двигались вперёд!

Гэта дарога бачыла радасці і лі-



Вёска Кунвальд.

лу сваёй дачкі, пабывала на месцах, дзе змагалася яна і загінула. Мы яе сустракалі і праважалі як самую дарагую госцю. Нашы дзеці называлі Дзегцярову «рускай бабуляй». Шкада, што сем'і астатніх загінуўшых нам пакуль што невядомы!

А старшыня гарадскога Нацыянальнага камітэта Яраслаў Галірж дадае:

— Імёны загінуўшых савецкіх воінаў-вызваліцеляў сталі для нас сімвалам барацьбы савецкага народа супраць гітлераўскай навалы!..

Разам са сваімі старымі чэхаславацкімі сябрамі давялося мне пабываць у вёсцы Кунвальд, трыццаць два жыхары якой удзельнічалі пры разззбраенні нямецкай дывізіі каля вёскі Барташавіцы напярэдадні вызвалення.

Да драбніц знаёмыя мясціны... Вось тыя зямлянкі, якія мы калісьці будавалі, пні, на якіх сядзелі, крутыя ўзгоркі і скалы. Ад зямлянак мала чаго і засталося. Столь іх абвалілася, а на дне — бітая цэгла. І толькі горная рэчка Ракітанка засталася такой жа, як і дваццаць гадоў таму назад. Яна імкліва нясе свае воды наперад, насустрач новаму жыццю, якое квітнее ў гэтым цудоўным краі.

У вёсцы Кунвальд новыя дамы, сярэдняя школа, клуб. Замест вузкіх палосак, дзе сяляне гнулі свае спіны, шырокія калектыўныя нівы, на якіх сёння рукамі вольных людзей вырошчваецца багаты ўраджай, удзень і ўначы гудуць трактары...

З Кунвальда глыбокі роў вядзе ў вёску Клаштарэц. Ля канцавой хаты ўзвышаецца старая, разлозыстая ліпа. Некалі пад гэтай ліпай ляжала вялікая куча галля, а пад ім замаскіравана была зямлянка, у якой я знаходзіў свой часовы прытулак. Землянку і сёння можна пазнаць, хаця яна і пастарэла. Затое ліпа засталася такой, якой была тады, калі пад ёй пры-

халецце, удачы і няўдачы. Па гэтай дарозе ў свой час няспынна рухаліся ў розных напрамках варожыя калоны. Адсюль не адзін раз раздаваліся дружныя залпы тых, хто прыкладаў усе сілы, каб стрымаць націск гітлераўцаў на ўсходні фронт, дзе ішла барацьба не на жыццё, а на смерць.

Зайшлі на могілкі Жамберка, на ўскраіне маляўнічага бора ля крутой гары. Спыніліся каля помніка знаёмых і незнаёмых вызваліцеляў Чэхаславакіі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, каб схіліць над магіламі галовы і згадаць вякапомныя дні, калі людзі, не шкадуючы сіл, змагаліся да апошняй кроплі крыві ў імя міру і шчасця на зямлі.

На могілках шырокі помнік, атулены кветкамі. На гранітнай пліце высечана пяцікутная зорка з сярпом і молатам. Унізе надпіс: «5.V.1945», а па баках на рускай і чэшскай мовах: «Вы далі жыццё, мы вам любоў». Ніжэй прозвішчы загінуўшых: «Сяржант Георгі Пружыцкі, салдат Валя Дзегцярова, старшына Самот Сабізянавіч Сабізянаў». Да падножжа помніка мы паклалі вянкі.

— Летась, — расказвае старшыня Саюза чэхаславацка-савецкай дружбы ў Жамберку Здэна Пешава, — да нас з Валгаграда прыязджала маці Валі Дзегцяровай — Паліна Фёдараўна. Бачыла магі-



ходзілася праводзіць не адну бяссонную, трывожную ноч...

Па зарослых сцежках-дарожках дабіраемся ў Орліцкія горы, каб убачыць знаёмыя мясціны і ўспомніць пра тагачасныя падзеі, якія прыйшлося перажыць. Паміж вёскамі Барташавіцы і Ганічка ўзвышаецца вялікі горны хрыбет, пакрыты хвойнікам, а ўздоўж яго па даліне працякае Дзікая Орліца, па якой некалі праходзіла граніца паміж Германіяй і Чэхаславакіяй.

Ужо недалёка і прыгранічныя бункеры, збудаваныя ў Чэхаславакіі напярэдадні другой сусветнай вайны. Падыходзім бліжэй. Амбразуры бункераў накіраваны ў адзін і той жа бок, да суседніх бункераў, якія цягнуліся ўздоўж граніцы. Усё гэта было зроблена ў свой час для таго, каб не дапусціць ворага праз пагранічную паласу ўглыб Чэхаславакіі. Але гэтым пагранічным умацаванням не суджана было выканаць сваёй ролі па ахове дзяржаўнай граніцы Чэхаславакіі. Затое гітлераўцы скарысталі гэтыя бункеры.

Праз жалезныя вароты заходзім у крайні бункер, размешчаны на схіле гары. Адсюль пачынаецца многа падземных тунелей у розныя бакі. Адны з іх вядуць да суседніх бункераў, другія — да падземных складаў, па трэціх пракладзена вузкакалейная чыгунка. У тунелях цёмна, мокра.

Вось і адсекі пад зямлёй, дзе размяшчаліся нашы стаянкі. Разбурыліся печкі, параскіданы рэшткі паржавелага посуду...

З шасейнай дарогі Барташавіцы — Кунвальд — Жамберк аўтамашына крута паварочвае ў напрамку да Ракітніцы. Чарговы прыпынак ля доміка, на фасадзе якога сякера — эмблема мясніка.

На пароге сустрэў нас невысокага росту пажылы, маршчыністы мужчына з газетай у руках. Ён пачаў пільна прыглядацца. Я, доўга не думаючы, накіраваўся проста да яго:

— А, Францішак Галенда! Не пазнаяце?

— Пачакайце... — прагаварыў усхваляваны Францішак. — Чую знаёмы голас... — Уладзімір... Езус-Марыя!..

Францішак настроіў радыёпрыёмнік на Маскву. Загучалі мелодыі рускіх народных песень. Успамінаюцца мінулыя дні. Францішку Галенду не адзін раз прыходзілася занавешваць вокны чорнымі шторамі, каб з вуліцы ніхто не мог здагадацца, што ў яго на кватэры народныя мсціўцы слухаюць апошнія паведамленні з Масквы. Ніколі не забыць доўгія марозныя вечары і ночы ў кватэры Францішка Галенды і тыя словы, родныя і блізкія, якія прыносіла нам з-за фронта маскоўскае радыё. Мы падбадзёрвалі чэхаславацкіх сяброў, што ёсць на свеце сіла, якая прынясе працоўным Чэхаславакіі шчаслівае жыццё. Ёсць на свеце краіна, армія, якая ўмее перамагаць. Імя гэтай краіне — Савецкі Саюз.

Кватэра Францішка Галенды служыла не толькі месцам, дзе можна было пачуць маскоўскія навіны, але і атрымаць харч. Ён у той час працаваў мяснікам і часта дзяліўся з намі сваімі запасамі. Цяпер яму каля сямідзесяці год, ён атрымлівае дзяржаўную пенсію.

Развітваемся. Едзем дамоў. Зноў знаёмыя мясціны — горныя лясы на паўднёвым захадзе ад Жамберка паміж гарадамі Усці над



Браціслава. Помнік савецкім воінам, што загінулі ў вайне.

Орліцай і Брандысам над Орліцай. У гэтых лясах з 1939 года працаваў лесніком жамберскі ўраджэнец Чэнек Долечак. Жыў ён тады на Лугу. Дом лесніка знаходзіўся непадалёку ад чыгункі Чэшска Тршэбава — Прага. Чыгунка была пад пільным наглядам нямецкіх салдат. Нягледзячы на гэта, Чэнек Долечак і яго сын Ольда, шаснаццацігадовы хлапчук, трымалі цесную сувязь з партызанамі. Не адзін раз да яго ў дом прыходзілі надзейныя людзі, якіх ён хаваў у навакольных лясах. Ён памагаў партызанам будаваць у лесе зямлянкі, прыносіў з сынам ім харч, адзенне, медыкаменты, якія даставала яго жонка Марыя і дачка Ганка ў суседніх вёсках.

У 1943 годзе гітлераўцы раптоўна абкружылі дом лесніка на Лугу і арыштавалі ўсю яго сям'ю. Тры месяцы Долечкавы знаходзіліся ў турме ў Пардубіцах. Кожны дзень іх цягалі на допыты, катавалі. Гестапаўцы хацелі даведацца ад Чэнека і членаў яго сям'і пра стаянкі партызан, але з гэтага нічога не выйшла. Тады гітлераўцы пачалі марыць іх голадам. І зноў яны трымалі сябе мужна, не гаворачы ніводнага слова пра партызан. Усе ў адзін голас адказвалі: «Нічога не рабілі, нічога не ведаем!»

З Пардубіц сям'ю Долечкавых гітлераўцы вывезлі ў канцлагер Тарэзін, прызначаны для палітычных зняволеных. Арыштаваныя думалі, што, магчыма, з імі тут будуць абыходзіцца лепш, чым у Пардубіцах. Але ім прыйшлося хутка ў гэтым расчаравацца. У Тарэзіна сям'ю Долечкавых раздзялілі — Ольду вывезлі ў нямецкі канцлагер Модрыген — Золінг, а астатніх — у Дрэздэн. Чаго не зрабілі гестапаўцы ў Пардубіцах, таго яны дасягнулі ў Дрэздэне і Тарэзіне. Тут адбыўся суд: Чэнека Долечкава прыгаварылі да смяротнага пакарання, жонку асудзілі на шэсць год, а дачку — на чатыры гады. 18 кастрычніка 1944 года Чэнека гестапаўцы пакаралі. Жонка і дачка былі вызвалены Савецкай Арміяй. А Ольду не суджана было вярнуцца дадому: яго закатавалі гітлераўцы, ён аслеп і памёр у Германіі.

Памяць пра Чэнека Долечкава і яго сына Ольда назаўсёды захаваецца ў сэрцах многіх людзей. Тыя лясныя зямлянкі, якія памагаў будаваць партызанам на Затвары і на Горцы ў Лібхаве Чэнек Долечак дваццаць гадоў таму назад, стаяць і сёння. Яны з'яўляюцца сімвалам барацьбы савецкага і чэхаславацкага народаў супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў.

За выкананне партызанскіх заданняў Чэнек Долечак і яго сын Ольда ўзнагароджаны пасмяротна чэхаславацкімі ваеннымі крыжамі. Цэнтральны камітэт Саюза супрацьфашысцкіх барацьбітоў узнагародзіў Марыю Долечкаву Ганаровай граматай і залатым значком Юліуса Фучыка.

Насупраць дома лесніка, дзе калісьці жыла сям'я Долечкавых, стаіць цяпер помнік з надпісам: «Чэнек Долечак і сын Ольдрых. Загінулі ў змаганні супраць фашызму».

Не пазнаць цяпер навакольных мясцін на Затвары і на Горцы ў Лібхаве. Гэта — дачнае месца. На ўзлесках, уздоўж глыбокага рова, стаяць прыгожыя домікі, у якіх летам праводзяць свой адпачынак працоўныя Чэхаславакіі.

Мы кіруемся на захад ад Жамберка. Ззаду засталіся гарады, рабочыя пасёлкі, вёскі. На палях бачны высокія слупы, злучаныя паміж сабой жалезным дротам. Гэта плантацыі хмелю, які ў Чэхаславакіі дае вялікі ўраджай і ідзе на экспарт.

Насустрач зноў пацягнуўся горад. На дарожным знаку напісана: «Мост». Шматпавярховыя каменныя дамы з вастраверхімі дахамі відны здалёк. Неба падпіраюць частыя заводскія трубы, над імі — дымнае воблака. Мост — гэта галоўны прамысловы цэнтр паўночнай часткі чэшскіх зямель. Тут здабываецца буры вугаль. Мост вядомы таксама вырабамі з дрэва, шкла і фарфору. Тут знаходзяцца сталеліцейныя заводы. Я пазнаю шахтавыя вышкі, якія відаць здалёк, і сярод іх шахту № 4.

Выехалі на дарогу, па якой не адзін раз даводзілася хадзіць пад канвоем на работу. Пад'ехалі да шахты № 4. Узнімаюся на шахтавую вышку, але мне адказваюць, што гэта шахта ўжо даўно не працуе: вугальныя запасы ў ёй скончыліся. Яна служыць цяпер запасным выхадам суседняй шахты № 3 «Мінерва» і вентыліруе астатнія тры шахты, размешчаныя непадалёку адна ад другой.

Памятаю глыбокае падзямелле, нізкія цёмныя тунелі, цяжкае пыльнае паветра, вялікую духату ў забоі. Твары шахцёраў брудныя, запыленыя. Нікога не пазнаеш. Усе дні работы ў шахце адбываліся абвалы. Сярод вязняў фашызму амаль кожны дзень былі забітыя і параненыя. Ніхто з іх не ведаў, ці застанецца ён жывы пасля змены.

Мізэрнага лагернага пайка не хапала для падземнай работы. Людзі з кожным днём слабелі, страчвалі зрок, таму што зранку да вечара знаходзіліся пад зямлёй і не бачылі дзённага святла. Але немцы былі няўмольныя: ім патрэбна была дармовая рабочая сіла, каб больш здабыць вугалю. Ад наглядчыкаў толькі і чулі:

— Бистро, бистро, работа!

Чыгунка праходзіць каля самай шахты. Знаёмая чыгунка. Уяўляю сабе, як застукалі колы вагонаў, калі разам з вугалем цягнік вывозіў і нас, пакутнікаў лагера. Па-абапал чыгункі высокія горы. У цяснінах пятляе цягнік, збаўляючы хуткасць на крутых паваротах, пад'ёмах. І тады былі ўсе заняты адной думкай: хутчэй бы скокнуць з вагона.

Дзесьці ўперадзе мільгануў агеньчык. Заскрыпелі тармазы. Поезд пачаў прыкметна збаўляць хуткасць. Адзін за адным мы скокнулі з вагона і рушылі ў горы, у лес, на ўсход...

Перш чым пайсці з шахты, я міжволі зірнуў на возера, якое віднелася каля падножжа гары. Яно чамусьці стала меншае, але затое чысцейшае, чым раней.

Паварочваем направа — нічога не пазнаць!.. Вось тут дзесьці павінна быць месца, дзе размяшчаўся канцлагер № 29. Але дзе ён цяпер? На месцы нізкіх, доўгіх баракаў высяцца карпусы хімічных заводаў.

Тут стаяла высокая лагерная сцяна, абнесеная дротам, па якому праходзіў ток. На кожным рагу агарожы тырчалі будкі лагерных паліцэйскіх. Кожны рад баракаў быў адгароджаны калючым дротам. Так зрабіла лагернае начальства для таго, каб не сустракаліся вязні фашызму, што трапілі сюды з розных краін. Але сустрэчы ўсё ж адбываліся — у глыбокім падзямеллі, калі разам працавалі. Тут, у забоі, чэхі і славакі, палякі і французы ўважліва прыслухоўваліся да кожнага нашага слова аб савецкім ладзе, аб наступленні Савецкай Арміі на фронце, аб партызанскай барацьбе ў тыле ворага. Тут і ўзнікла думка ўцячы з шахты.

Я быў запрошаны ў Чэхаславакію не толькі для таго, каб паглядзець знаёмыя мясціны, а галоўным чынам, каб сустрэцца са сваімі чэхаславацкімі сябрамі.

Дырэктар Навукова-даследчага інстытута бавоўнянай прамысловасці В. Раглена пазнаёміў мяне з новымі ўзорамі тканін і тэхналогіяй іх вырабу. Сумесна з савецкімі вучонымі і інжынерамі тут распрацоўваецца найбольш рацыянальная тэхналогія вырабу бавоўняных тканін. Некаторыя прапановы гэтага інстытута з поспехам выкарыстоўваюцца на тэкстыльнай фабрыцы «Орбан» у Жамберку.

Надоўга застанецца ў памяці сустрэча са школьнікамі ў Жамберку, Кунвальдзе і Брандысе.

Наведаў я і сваіх пражскіх сяброў, з якімі мне прыходзілася ўжо раней сустракацца. Многа цёплых сардэчных слоў пачуў я ад філолагаў пражскага Карлава ўніверсітэта. Яны выказваюць удзячнасць беларускім сябрам-філолагам БДУ імя Леніна за дасланую навуковую літаратуру па розных пытаннях беларускай філалогіі, за карысныя парады, якія атрымалі ў часе асабістых сустрэч.

Я развітаўся з чэхаславацкімі сябрамі, упэўніўшыся ў вечнай, непарушнай дружбе нашых брацкіх народаў. Ад'язджаючы на радзіму, я сказаў: «Бывайце, сябры. Да новага спаткання!»

# МАГІЛЁЎСКІ БУКВАР

Адным з друкароў-прадаўжальнікаў справы Георгія Скарыны і Івана Фёдарава быў Спірыдон Собаль. Упершыню яго імя было заўважана тымі, хто вывучаў гісторыю стварэння друкарняў на Украіне.

Пераезд у Беларусь гэтага друкара звязаны з тым, што мецэнат Багдан Статкевіч запрасіў Спірыдона Собаля ў свой маёнтак Куцейна пад Оршай. У 1631 годзе з друкарні Спірыдона Собаля выходзяць «Малітваслоў» і «Буквар». Поўная назва гэтай апошняй кнігі такая: «Букваръ сиречъ, начало ученія детем начинающим чтенію извыкати в Кутейне изобразися в типографии Спиридона Соболя. Року 1631». Буквар быў надрукаваны на 40 старонках, памерам у адну дванаццатую частку аркуша.

Пазней, у 1632 годзе, тут былі выдадзены яшчэ дзве вучэбныя кнігі — Псалтыр і Часаслоў.

Праз некаторы час Спірыдон Собаль пераязджае ў Буйнічы пад Магілёў і там выпускае новае выданне Псалтыра, а пазней ў Магілёве — вучэбную кнігу «Букварь языка славенска», на тытульным лісце якой напісана: «Писаніи чтенія учися хотящимъ в полезное руководжение. З Могилева, з друкарни Спиридона Соболя». На адвароце тытульнага ліста — гравюра з лацінскім надпісам, якая размешчана ў рамцы з арнаменту, што ўжываўся для заставак.

У граматычнай частцы буквара даецца славянскі алфавіт з 44 літар. Ён размешчаны на адной старонцы пад загалоўкам: «Буква или писмена». Спачатку ідуць вялікія літары, потым малыя, а далей алфавіт паўтараецца ў адваротным парадку. Гэта было зроблена, каб вучні маглі развіваць зрокавую і маторную памяць пры завучванні алфавіту. Далей мы бачым «слози двописменніи от согласных начальные» тыпу: **«Ба, ва, га... бе, ве, ге...»** «и слози триписменніи — **бра, вра, гра...»** Інакш кажучы, даецца ўтварэнне складоў з адной зычнай, дзвюма зычнымі і галоснай.

У буквары прыведзена 16 слоў, якія пры спалучэнні трох літар даюць самастойнае слова. Да такіх адносяцца: **мне, кто, чту, мню, ныю** і іншыя..

У заключэнне граматычнай часткі ідзе рубрыка: «В исправление языка отрочате, слози словес под титлами». У ёй даецца адна з часцін мовы, якія былі вядомы тагачаснай граматыцы — **імя** (цяпер назоўнік і прыметнік).

Словы з цітламі размешчаны ў алфавітным парадку. Са слова ўтвараюцца ад яго вытворныя ў адзіночным і множным ліку, напрыклад: **уч(и)тель, уч(е)ник, уч(е)ницы.**

Гэтыя невялікія звесткі з граматыкі былі прызначаны для першапачатковага навучання грамаце. Спірыдон Собаль лічыў, што іменна яны неабходны для пачатковага навучання ў школе і дома.

У магілёўскім «Буквары» захаваўся 31 аркуш. Апошнія аркушы згублены. Кніга была аддрукавана ў адну восьмую аркуша, як звычайна друкавалася вучэбная літаратура.

Спірыдон Собаль свой Псалтыр, які выйшаў у 1637 годзе ў Магілёве, прысвячае Пятру Магіле — прыхільніку лацінскага кірунку асветы. Спірыдон Собаль знаёміцца з маскоўскім друкаром Васілём Бурцавым, які высока цаніў веды Собаля не толькі як друкара, але і як перакладчыка на рускую мову кніг з беларускай, украінскай, грэчаскай, лацінскай і польскай моваў.

Друкары абмяняліся кнігамі. Васіль Бурцаў набыў у Спірыдона Собаля некаторую друкарскую маёмасць.

Дзейнасць Спірыдона Собаля па пашырэнню асветы ў Беларусі пакінула свой след: яго друкарні выпусцілі 14 назваў кніг.

**Марат БАТВІНІК.**





# «РЭСТАЎРАТАРСКАЕ» МАЙСТЭРСТВА ДАСЛЕДЧЫКА




Паўстанне 1863 года стала для Беларусі мяжой дзвюх сацыяльна-эканамічных фармацый. 1863 год з'явіўся важнай вяхой у гісторыі нашага народа, у развіцці яго літаратуры. І не толькі таму, што ўдзел у паўстанні трагічна адбіўся на асабістым лёсе яе лепшых прадстаўнікоў: быў павешаны Каліноўскі, сасланы ў Сібір Вярыга-Дарэўскі, пасаджаны ў турму, а затым аддадзены пад нагляд паліцыі Дунін-Марцінкевіч, надоўга адарваны ад роднай зямлі Багушэвіч. Галоўнае ў тым, што беларуская літаратура, імклівае развіццё якой на нейкі час перапынілася рэпрэсіямі царскіх улад, неўзабаве зноў акрыяла, каб упэўнена пайсці новым шляхам крытычнага рэалізму. 1863 год — гэта канец аднаго і пачатак другога этапу ў духоўным жыцці беларускага народа.

А між тым, што мы ведаем пра паўстанне 1863 года? Якім было яно па сваіх мэтах, па рухаючых сілах? Адны даследчыкі сцвярджаюць: шляхецкім, нацыянальна-вызваленчым. Другія пярэчаць ім: не, сялянскім, сацыяльным; шляхецкім, маўляў, з'яўлялася толькі паўстанне ў Польшчы, у Беларусі ж успыхнула незалежная ад польскага руху сялянская вайна. Такія дыяметральна супрацьлеглыя думкі выказваліся, дарэчы, зусім нядаўна ў артыкулах, апублікаваных беларускім друкам у сувязі са стагоддзем з дня пачатку паўстання. Ці возьмем пярэсты разнабой у беларускім літаратуразнаўстве: удзельнічаў у паўстанні Дунін-Марцінкевіч ці не ўдзельнічаў? А калі ўдзельнічаў, то на чыім баку: «белых» ці «чырвоных»? Сілай ці слабасцю Каліноўскага была яго сувязь з польскім вызваленчым рухам? Памыляўся аўтар «Мужыцкай праўды» ці не, прыхарошваючы мінулае?

Адказаць на ўсе гэтыя пытанні даволі цяжка: па-першае, складанай, супярэчлівай была тагачасная эпоха, па-другое, ад яе да нас

дайшлі вельмі скупыя фактычныя звесткі, па-трэцяе, нават тое, што не знішчыў час ды суровыя рукі жандараў і цэнзараў, тэндэнцыйна замоўчвалася, а то і скажалася і польскай рэакцыяй, і беларускімі нацыяналістамі, і вялікадзяржаўнымі шавіністамі. Патрэбна была карпатлівая работа рэстаўратара, каб зняць чужыя напластаванні, скласці з паасобных фактаў і архіўных матэрыялаў праўдзівую панараму тагачасных падзей. І часткова такую работу ўжо выканалі беларускі даследчык А. Смірноў, маскоўскі — М. Міско, польскі — В. Кардовіч, літоўскі — А. Лазутка і іншыя. Аднак па-ранейшаму ў вывучэнні паўстання 1863 года ў Беларусі заставалася многа «белых плям» і нявырашаных пытанняў.

Без перабольшвання можна сказаць, што гэтых «белых плям» паменшала пасля выхаду ў свет першай кніжкі маладога даследчыка Генадзя Кісялёва «Сейбіты вечнага», якая складаецца з чатырох артыкулаў: «Вялікі сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі», «В. Дунін-Марцінкевіч і паўстанне 1863 года», «Беларускі рэвалюцыянер Антон Трусаў» і «Гімназічныя і студэнцкія гады Францішка Багушэвіча»*. Праўда, у скарочаным выглядзе ўсе яны ўжо друкаваліся ў беларускай перыёдыцы, але, сабраныя разам, дапрацаваныя, звязаныя адзінай канцэпцыяй, гэтыя артыкулы пакідаюць цяпер у чытача іншае, больш цэласнае ўражанне. І не толькі таму, што ўсе яны прысвечаны адной і той жа тэме, расказваюць аб удзеле ў паўстанні лепшых сыноў беларускага народа, а і таму, што аўтар мае свой, арыгінальны і, як мне здаецца, правільны погляд на падзеі 1863 года. Правільны таму, што заснаваны на гістарычных фактах, вядомых і невядомых раней.

Г. Кісялёў параўноўвае працу даследчыка з працай мастака-рэстаўратара, які, сабраўшы разам «кавалкі гістарычнай тканіны», дамалёўвае выцвіўшыя дэталі, каб вобраз мінулага заззяў свежымі фарбамі, набыў новае жыццё. Гэтае параўнанне стасуецца і да самога аўтара кнігі «Сейбіты вечнага». Умелы даследчык-рэстаўратар, ён сабраў у архівах Вільнюса, Мінска, Масквы, Ленінграда велізарны фактычны матэрыял, выкарыстаў разнастайныя беларускія, рускія, польскія, літоўскія, нямецкія друкаваныя і рукапісныя крыніцы. І кожны новы факт, кожная дэталь, знойдзеныя Г. Кісялёвым, арганічна кладуцца ў даследаванне, у панараму тагачасных падзей. Аўтар валодае зайздросным уменнем супастаўляць розныя, здавалася б, не звязаныя нічым факты (напрыклад, смерць Каліноўскага і замах Грынявіцкага) і, выходзячы з іх, рабіць абагульненні. Г. Кісялёву ўдалося глянуць на многія праблемы беларускай літаратуры сярэдзіны мінулага стагоддзя неяк «збоку», па-новаму. Даследчык пераадольвае некаторыя ўстарэлыя, традыцыйныя канцэпцыі, якія склаліся ў нашай гістарычнай навуцы, літаратуразнаўстве, у яго асобе спалучаюцца і ўсебакова эрудыраваны гісторык, і эстэтычна чулы літаратуразнаўца.

Погляды Г. Кісялёва на паўстанне 1863 года найбольш выразна выкладзены ў артыкуле «Вялікі сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі». Тут аспрэчваецца думка гісторыкаў, якія безагаворачна лічылі паўстанне «сялянскай вайной». Рэвалюцыйны рух у Беларусі ўспыхнуў у цеснай сувязі з нацыянальна-вызваленчым рухам у Польшчы, які, гаворачы словамі У. І. Леніна, набываў тады «гіганцкае, першаступеннае значэнне з пункту гледжання дэмакратыі не толькі ўсерасійскай, не толькі ўсеславянскай, але і ўсееўрапейскай»*. У кнізе пераканаўча паказана, што частка беларускага сялянства варожа аднеслася да паўстання. Верачы ў «добрага цара» і блытаючы панскі прыгнёт з польскім вызваленчым рухам, беларускія мужыкі нават выдавалі паўстанцаў царскім уладам. І ўсё ж на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Літвы, дзе вастрэй былі класавыя супярэчнасці, паўстанне 1863 года мела больш яскрава выражаны сацыяльны характар. На чале руху тут сталі такія перакананыя рэвалюцыйныя дэмакраты, як Каліноўскі, Серакоўскі, Урублеўскі, Мацкявічус. Усе яны паходзілі са шляхты. Але аўтар слушна падкрэслівае, што шляхта была вельмі неаднароднай: з аднаго боку — буйныя магнаты, з другога — шарачковая працоўная шляхта, якая па свайму матэрыяльнаму становішчу мала адрознівалася ад сялянства. З асяроддзя шляхты выйшлі і прыгнятальнікі народа, і барацьбіты за народную справу. Так ужо здарылася, што на чале паўстання 1863 года, якое, па сутнасці, было своеасаблівай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй, магла стаць толькі дэкласаваная шляхта, блізкая да разначынства і асабліва шматлікая ў Беларусі: сялянству неставала пісьменнасці і арганізаванасці, пралетарыят толькі нараджаўся, буржуазія ж тут ніколі не вызначалася рэвалюцыйнасцю. На жаль, правільна ўказаўшы на дыферэнцыяцыю шляхты, аўтар часамі аб гэтым сам жа забывае. Працытаваўшы невядомыя раней словы Каліноўскага: «Перш за ўсё нам трэба знішчыць гэтую гнілую і разбэшчаную касту, якую называюць дваранствам», даследчык тут жа абагульняе, што вялікі рэвалюцыянер-дэмакрат, шляхціч па паходжанню, «заклікаў да знішчэння шляхты» (стар. 57). Якой шляхты? Той, што хадзіла за сахой і сама была зацікаўлена ў аграрнай рэвалюцыі? Тут патрэбна ўдакладненне. Праўда, крыху далей (стар. 61) аўтар, нібы спахапіўшыся, зноў падкрэслівае, што Каліноўскі прыраўноўваў дробную шляхту да сялян.

У многіх папярэдніх працах сцвярджалася, што Кастусь Каліноўскі быў больш практыкам, чым тэарэтыкам. Г. Кісялёў рашуча абвяргае гэтую думку. Палымяны барацьбіт дапасоўваў ідэі рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі, Бялінскага і Чарнышэўскага, да спецыфічных умоў Беларусі і Літвы. Ён абвергнуў тыя догмы, на якіх трымалася пануючая тады шляхецкая ідэалогія. Яна абвяшчала: «Няма шляхты без народа, таксама як няма народа без шляхты», «Няма Польшчы без Літвы і Беларусі, як няма Літвы і Беларусі без Польшчы». Як піша Г. Кісялёў, «скідаючы з гістарычнай сцэны дваранства» (хоць паставіць знак роўнасці паміж дваранствам і шляхтай можна толькі вельмі ўмоўна), Кастусь Каліноўскі ўскладваў надзеі на народ, на развязванне яго творчых сіл, на сувязь сялянскага выступлення ў Беларусі і Літве з рэвалюцыяй у Расіі і Польшчы. У тэарэтычных адносінах план Каліноўскага быў прадуманы да канца: мэта — ліквідаваць памешчыцкае землеўладанне, сродак — сялянская рэвалюцыя, абавязковая ўмова — арганізацыя земляробаў. Улічваючы ўсё гэта, трэба пагадзіцца з аўтарам, што Каліноўскі-ідэолаг, Каліноўскі-тэарэтык ярчэйшы і цікавейшы за Каліноўскага-практыка, бо многае са сваіх задум яму не ўдалося ажыццявіць. Трагедыя Каліноўскага заключалася ў тым, што ён, як тэарэтык, на многа год апярэдзіў сваіх сучаснікаў, што неставала сіл, каб ажыццявіць яго тэарэтычныя палажэнні.

Генадзь Кісялёў паказвае нам вялікага беларускага рэвалюцыянера ва ўсіх яго супярэчнасцях, якія тлумачацца супярэчнасцямі эпохі. Тое, што лічылася памылкамі Каліноўскага, на самай справе было абумоўлена эпохай, уплывам польскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай думкі. Дарэчы, Г. Кісялёў слушна мяркуе, што сувязь беларускага рэвалюцыянера з польскім вызваленчым рухам трэба ацаніць толькі станоўча. Каліноўскі бачыў рэвалюцыйны цэнтр там, дзе, як указваў У. І. Ленін, ён быў у сапраўднасці. І ў гэтым — не слабасць, а сіла вялікага беларуса. Палемізуючы з тымі даследчыкамі, якія абвяшчалі Каліноўскага палякам або літоўцам, пагаджаючыся, што яго спадчына належыць тром суседнім народам, аўтар дакументальна ўстанаўлівае, што палымяны рэвалюцыянер паходзіў з той часткі паланізаванай беларускай шляхты, якая ў першай палове мінулага стагоддзя пачала ўсведамляць свой абавязак перад беларускім народам, сваю нацыянальную належнасць.

Ну, а Дунін-Марцінкевіч?! Ці

* Генадзь Кісялёў. Сейбіты вечнага. Артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячоў рэвалюцыйнага руху 1863 года. ДВ БССР. Мінск, 1963.

* У. І. Ленін. Творы, т. 20, стар. 407.

меў ён прамое дачыненне да паўстання 1863 года?! А можа аўтар побач з артыкулам пра Каліноўскага зусім выпадкова змясціў артыкул пра аўтара «Гапона», творчасць якога дагэтуль лічыцца ў беларускім літаратуразнаўстве класічным прыкладам шляхецкага лібералізму?! Аказваецца, не, не выпадкова. І Дуніна-Марцінкевіча, як бачна з артыкула, мы маем права аднесці да тых змагароў, якія, гаворачы словамі Някрасава, сеялі разумнае, добрае, вечнае. У многім, асабліва ў абароне беларускай нацыянальнай культуры, пазіцыі першага беларускага прафесіянальнага пісьменніка збліжаліся з пазіцыямі Каліноўскага. Непасрэдны ўдзельнік падзей 1863 года, Дунін-Марцінкевіч блізка стаяў да сялян, разумеў іх патрэбы. Вядома, ён больш сімпатызаваў шляхецкім рэвалюцыянерам, чым рэвалюцыйным дэмакратам. У яго творчасці адбіліся сентыментальныя ілюзіі аб мірным вырашэнні супярэчнасцей паміж панам і селянінам. А ілюзіі, якімі захапіўся Дунін-Марцінкевіч, у многім, узнікалі пад уплывам тагачаснай польскай (у тым ліку і дэмакратычнай) літаратуры, з якой аўтар «Гапона» быў цесна звязаны.

Перагортваючы кніжку Г. Кісялёва, міжволі думаш: колькі слаўных сыноў дала славянству беларуская зямля ў мінулым стагоддзі і як мала мы пра іх ведаем! Вось Антон Трусаў, якому аўтар прысвячае асобны артыкул. Да Г. Кісялёва мы і не падазравалі, што сярод нашых землякоў ёсць удзельнік падзей 1863 года, камандзір паўстанцкай групы, які пазней, у эміграцыі, стаў адным з кіраўнікоў Рускай секцыі I Інтэрнацыянала, завязаў перапіску з Карлам Марксам. Не ведалі мы і таго, што адной з першых грамадскіх дзеячак у Беларусі была Каміла Марцінкевіч, дачка Дуніна-Марцінкевіча. Ссылкай пакаралі царскія ўлады адважную патрыётку за яе смелыя ўчынкі. А колькі такіх імёнаў застаецца ў забыцці! Зберагаючы памяць аб такіх барацьбітах, як К. Каліноўскі, А. Трусаў, Ф. Багушэвіч, К. Марцінкевіч, мы захоўваем лепшыя рэвалюцыйныя традыцыі. Захоўваем не толькі, каб шанаваць, але каб памнажаць іх, каб выхоўваць на іх новыя пакаленні. Вось чаму кніжка Г. Кісялёва сёння, пасля чэрвеньскага Пленума ЦК КПСС, гучыць вельмі надзённа, хоць гаворка ў ёй ідзе аб падзеях стогадовай даўнасці.

«Сейбіты вечнага» варты пахвалы яшчэ па адной прычыне. У нашым літаратуразнаўстве даволі трывала ўкараніўся сухі і груваскі «навуковы шціль». Г. Кісялёў лёгка абыходзіцца без яго. Аб складаных праблемах ён умее гаварыць проста і вобразна, шчасліва спалучаючы лагічнае мысленне з мастацкім, бясспрэчнае з гіпотэзамі. Вядома, напрыклад, што на нейкі час Каліноўскі пайшоў на кампраміс, на «суіснаванне» з «белымі». Чаму? Паслухайце, як проста і зразумела тлумачыць даследчык: «Гэта былі, бадай, самыя цяжкія дні ў жыцці Каліноўскага. Было нясцерпнае жаданне — кінуць усё, уцякаць куды вочы глядзяць ад гэтых «рэвалюцыянераў» з іх езуіцкімі замашкамі, ад дзябёлых памешчыкаў, якія яшчэ ўчора давалі аплявухі сваім дваровым, а сёння гаспадараць у рэвалюцыйнай арганізацыі. Але цвярозы розум падказваў, што гэтае жаданне прадыктавана пакрыўджаным самалюбствам, што гэта — адыход ад барацьбы. Быў намер — не падпарадкоўвацца загаду, не прызнаваць «Аддзела». Але ці хопіць сіл, каб адначасова весці барацьбу і з царскімі ўладамі і з даволі магутнай арганізацыяй «белых», якая да таго ж у курсе многіх спраў Каліноўскага? Ды і ці пойдзе за ім уся арганізацыя «чырвоных»? Невялікая розніца, якая існавала перад паўстаннем паміж левымі «белымі» і правымі «чырвонымі», цяпер, пасля далучэння «белых» да паўстання, знікла. Многія б з яго ворагаў жадалі, каб ён пайшоў па аднаму з гэтых двух шляхоў. Але ён пойдзе па трэцяму: ён будзе працаваць у агульнай, цяпер ужо «чырвона-белай», арганізацыі, але працаваць, зразумела, не для памешчыкаў, а для народа». І далей: «...суровыя абставіны прымусілі Каліноўскага пацісну́ць руку Гейштару. Выпешчаныя пальцы памешчыка схаваліся ў шырокай далоні мужыцкага змагара. Але ў гэтым поціску не было цеплыні. Апошні раз узнялася, прыкрываючыся дэмакратычнымі лозунгамі, памешчыцкая Польшча. Апошні раз ішла нейкі час побач з ёю сялянская Беларусь». Некаторыя старонкі кнігі Г. Кісялёва чытаюцца, як добрая мастацкая проза, з'яўляюцца добрым прыкладам таго, як можна проста і вобразна пісаць пра складанае.

Вядома, і кніга «Сейбіты вечнага» не прэтэндуе на тое, каб стаць апошнім словам пра паўстанне 1863 года. І ў ёй не пастаўлены ўсе кропкі над «і», спрэчна вырашаны некаторыя пытанні. Але яна будзе трывалай цаглінай, абапіраючыся на якую іншыя даследчыкі (ды і сам аўтар) пойдуць далей, да ўсебаковага асвятлення такой складанай і супярэчлівай з'явы, як паўстанне 1863 года і ўдзел у ім беларускіх пісьменнікаў.

**Адам МАЛЬДЗІС.**

# ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА




Нярэдка пасля знаёмства з чалавекам, пасля першай сустрэчы не запомніш яго твару, але затое добра адчуеш, які ў яго характар: добры ён ці злы, шчыры або скрытны, смелы або баязлівы.

Так бывае пры знаёмстве не толькі з людзьмі, але і з кнігамі.

«Першая навальніца» — першая кніжка апавяданняў маладога празаіка Алега Фомчанкі, які піша на рускай мове. Шлях журналіста да мастацкай прозы натуральны і заканамерны. Можна ўявіць сабе, колькі ўражанняў, падзей, цікавых лёсаў адкладваецца ў яго памяці ад пастаянных сустрэч з людзьмі. Пра людзей, з якімі яму давялося сустрэцца ў жыцці, пра іх клопаты, дружбу, каханне, працу, засмучэнні, радасці і піша Алег Фомчанка ў сваіх апавяданнях.

У фактах, якія ён стараецца разгледзець, у выбары герояў выяўляецца любоў маладога пісьменніка да ўсяго добрага і светлага, што ёсць у нашай рэчаіснасці, да нашых людзей, да роднай прыроды, да нашага ладу думак і жыцця. Убачыць і паказаць станоўчае, высокае ў самых звычайных, на першы погляд, людзях і падзеях — вось яго мэта.

Алег Фомчанка піша, галоўным чынам, пра вельмі маладых людзей. Яго героі яшчэ зусім «неўладкаваныя», яны толькі выходзяць на жыццёвую дарогу, шукаюць сваё месца, церпяць няўдачы, перажываюць крушэнне якойсьці мары. Але праходзяць першыя няўдачы, і перад імі адкрываюцца яшчэ больш шырокія далягляды.

У гэтым плане найбольш цікавыя такія апавяданні, як «Хлапчук», «Цырульнік», «Фенін дзень».

Лёшка, які з дзяцінства марыў пра моры, караблі і капітанскі мосцік, становіцца па капрызу лёсу цырульнікам. А мара? Яна жыве ў Лёшкавым сэрцы. Не страціць яе яму памагае дзіцячае нястрымнае ўяўленне, у якім жывуць і караблі, і дзяўчына з сінімі, «как море во время штиля», вачамі і белымі, «как гребни волн», валасамі. Яму памагае

і вядзе яго ўперад па жыццю і сама рэчаіснасць, у якой смешная, недарэчная і ненатуральная сама думка аб «разбітых» марах. Вельмі натуральна ўспрымаецца Лёшкава думка: «А почему бы и не поработать на стройке, специальность еще одну приобрести? А потом, потом, конечно, и в мореходное можно». Лёшка едзе на будоўлю, працуе там цырульнікам (цырульнік тут аказаўся больш патрэбны за кранаўшчыка) і па-ранейшаму марыць пра мора. Можа мара яго яшчэ змяніць свае абрысы, але галоўнае, самае цудоўнае, самае неабходнае — гэта радасць, якую прыносіць людзям яго праца.

Вельмі падобны да Лёшкавага жыццёвы шлях Фені («Фенін дзень»), якая пайшла ад канцылярскай чарніліцы да трактара. У гэтым апавяданні гаворка ідзе ўжо не толькі аб месцы ў жыцці, падказаным марай, але і аб пошуках, падказаных абавязкам.

А. Фомчанка ўмее слухаць, бачыць, вобразна перадаваць убачанае. І не толькі з лірызмам, але і з гумарам, мяккім, трапным і дасціпным, як у адным з лепшых апавяданняў зборніка — «Дыялектыка». Два жывыя вобразы праходзяць перад вачамі чытача: Ганна Анціпчык, былая лепшая даярка, якая стала «атрыбутам прэзідыума», і балбатун-старшыня Ілля Назаравіч. Добра паказана тое, што такія людзі, перастаўшы ўдзельнічаць у жыцці, уласна, і жыць перастаюць. Назва апавядання «Дыялектыка» ўспрымаецца і жартам і ўсур'ёз. Жартам — па форме апавядання, перасыпанага трапнымі іранічнымі характарыстыкамі і заўвагамі (Ганна ўпэўнена крочыць у прэзідыум, «як на пастамент», Пеця Закруткін, які прагна ловіць кожнае слова любога прамоўцы і многае іншае), а ўсур'ёз — па сутнасці і правільнасці гумарыстычнага прыцэлу.

Любоў і давер'е да людзей — вось пачуцці, якія вызначаюць адносіны пісьменніка да сваіх герояў і якія пісьменнік імкнецца ўнушыць чытачу. У гэтым — сіла аўтарскага бачання свету. Але іншы раз дабрата і любоў пераходзяць у Алега Фомчанкі ў сентыментальнасць, у той абстрактны гуманізм, які чужы гуманізму сацыялістычнаму. З гэтым мы сустракаемся ў такіх апавяданнях, як «Смычок і Васька», «Родныя месцы» і асабліва ў апавяданні «Слова аб подзвігу». Тут у ролі героя — Пеця Сарокін, які да вайны быў злодзеем, а ў вайну стаў няўлоўным адзіночкай-партызанам, гразой фашысцкага гарнізона. Учынкі Сарокіна непераканаўчыя іменна таму, што пісьменнік не дае прынцыповага, ідэйнага абгрунтавання подзвігу, не паказвае таго духоўнага пералому, пасля якога Пеця Сарокін з паразіта грамадства стаў, як гаворыць аўтар, сапраўдным, карысным для людзей чалавекам.

Алегу Фомчанку не заўсёды ўдаецца глыбока раскрыць псіхалогію сваіх герояў. У гэтым — адзін з істотных недахопаў яго апавяданняў. У героя апавядання «Родныя месцы» Гурына няўдала склалася жыццё. У яго душэўнай і жыццёвай неўладкаванасці як быццам ніхто і не вінаваты, акрамя вайны. А між тым, Гурын безумоўна вінаваты — і ў тым, што страціў сваю любоў і прынёс нямала гора Настачцы, і ў тым, што яго дачку выхоўвае чужы чалавек. Такое ўсёдараванне наўрад ці будзе зразумела чытачу, тым больш маладому, якому адрасавана кніжка.

Некаторым апавяданням Алега Фомчанкі нестае пачуцця меры ў адборы жыццёвага матэрыялу. Аўтар іх часам малюе ўсё, што трапляе яму на вока. Гэта распыльвае сюжэт, рассейвае ўвагу чытача. Возьмем апавяданне «Вяргіні». У ім не аб'яднаны адзінай аўтарскай думкай назіранні над рознымі па характару людзьмі — Паўлам, Міхаілам і Кузьмічом, не высветлена да канца, як уплываюць адзін на другога гэтыя людзі. Затое мы знойдзем тут зусім не абавязковыя звесткі пра маці студэнткі Галі, якая не дазволіла дачцы сустракацца з Паўлам, пра жонку старога Кузьміча, якая мае вельмі далёкае дачыненне да падзей, што разгортваюцца ў апавяданні.

Алег Фомчанка імкнецца пісаць проста, без лішніх моўных выкрутасаў. Але гэтая прастата часам мяжуе з няўважлівасцю да слова, з моўнай неахайнасцю: «В ушах все еще звучал насмешливый Олькин смех», «На столе среди газет и последнего номера «Вожыка» ничего не оказалось». Або яшчэ: «...непомерно высокий доктор» (нібыта ёсць нейкая мерка для доктарскага росту!); «...речушка с диким названием Лань» — у такім спалучэнні «дзікі» азначае «недарэчны», у той час як назва рачулкі якраз паэтычная і мілагучная.

Маладому празаіку трэба дабівацца большай ёмістасці, большай выяўленчай сілы слова, большай разнастайнасці і багацця сваёй моўнай палітры.

Пасля першай сустрэчы з маладым празаікам хочацца пажадаць яму шчаслівай дарогі ў жыцці і больш добрых творчых знаходак, не выпадковых, а здабытых цяжкай, але раднаснай працай.

**Міхаіл СТАЛЯРОЎ.**

# ПРАТАПТАНЫМІ СЦЕЖКАМІ




Назва зборніка «Край мой сінявокі» даволі дакладна перадае яго асноўны тэматычны змест: дарагой Беларусі прысвячае сваё «прызнанне ў любві» малады паэт Уладзімір Карызна. Яго вабяць малюнкі прыроды роднага краю, ён захапляецца красой Браслаўскіх азёр і нават далёка ад дому беларускія сосны служаць для паэта сімвалам мужнасці і нязломнасці яе сыноў.

У маладога паэта ёсць задаткі паэтычнага бачання свету. Прыемнае ўражанне пакідаюць вершы аб цаліне, у прыватнасці, такія, як «На таку», «На гарах пшанічных», «У гасцях у казаха». Адчуваецца, што ўсё, пра што расказвае ў іх паэт, пражыта ім самім, што падзеі, якія сталі іх зместам, прайшлі не толькі перад вачамі паэта, але і праз яго сэрца:

На гарах пшанічных так
лапатай
Намахаешся за доўгі дзень,
Што паўкіламетра да
палатак
Паўгадзіны добрае ідзеш.

Праца прыносіць герою вершаў вялікую радасць, сапраўднае маральнае задавальненне. Вось чаму яму

Так лёгка дыхаецца, спіцца
І месяц пахне родным хлебам.

У вершах пра цаліну выяўляецца і назіральнасць маладога паэта, яго імкненне карыстацца паэтычнай дэталлю. Вось першая страфа верша «У гасцях у казаха»:

Стол нізкі такі,
Што здаецца:
Пад цяжарам ногі
падкурчыў,
Страчаючы нас ля парога
Закускай,
Кумысам шыпучым.

Сапраўды, для беларуса, скажам, стол ніжэй калена — не стол, а для казаха — рэч звычайная. І вось з гэтага назірання нараджаецца арыгінальны вобраз, пабудаваны на зрокавай асацыяцыі: стол падкурчыў ногі пад цяжарам пачастункаў. Так па-свойму паэт выказвае думку аб шчодрасці і гасціннасці казахскага народа.

У вершах «На таку», «На гарах пшанічных», «У гасцях у казаха» нават праклёўваецца свой лірычны герой, акрэсліваюцца пэўныя рысы яго характару: у аўтара пачынае праразацца свой паэтычны голас. І калі б гэтыя маленькія заваёвы былі «замацаваны» ў іншых вершах, творчы плён маладога паэта быў бы значна большы.

Але гэта — калі б... Уся бяда ў тым, што гэтая ўмова адсутнічае ў кнізе Уладзіміра Карызны, аб добрых вершах у ёй даводзіцца гаварыць, як аб прыемным выключэнні.

Мы ўжо гаварылі, што большасць вершаў зборніка прысвечана тэме Радзімы, прыродзе роднага краю. Паэт ставіць сваёй мэтай паказаць прыгажосць сённяшняй Беларусі, абудзіць у чытача любоў да роднай, савецкай зямлі.

Ці стае ў яго мастацкіх фарбаў, каб здзейсніць свой добры намер? Возьмем верш «Беларусь мая».

У густых садах ты
красуешся,
Сілай поўная маладой,
У агнях уся ярка свецішся,
Разліваешся збажынай.
Славай слаўная ты былiннаю
І заводаў сваіх красой,
Майскай песняю салаўінаю
І вясёлкамі над ракой.

Чытаючы гэтыя радкі, мы адчуваем, што нешта падобнае ўжо недзе чулі. Ды, урэшце, слабасць гэтага верша не толькі ў тым, што ў ім аддалена гучыць інтанацыя «Маёй рэспублікі» Кастуся Кірэенкі, але і ў беднасці мастацкай палітры, у адсутнасці той навізны, нечаканасці, якая ўдыхае паэзію ў, здавалася б, зусім звычайныя радкі. Аўтар не знайшоў свежага слова, каб па-свойму раскрыць той вялікі змест, які заключаецца ў слове — Радзіма. Рыторыка і агульшчына выцеснілі паэзію. Беларусь слаўная «заводаў сваіх красой (?), майскай песняю салаўінаю і вясёлкамі над ракой». На Беларусі «неба чыстае і высокае», яна ў густых садах красуецца, *у агнях ярка свеціцца*, разліваецца збажынай. З аднолькавым правам падобныя трафарэтныя азначэнні можна аднесці і да Украіны, і да Літвы, і да Польшчы. І знаёмы эпітэт «сінявокая», які аўтар паўтарае часта і настойліва, ніколькі не дапамагае яму раскрыць непаўторны воблік Беларусі. Відавочна адно: маладому паэту яшчэ нестае сваіх, арыгінальных мастацкіх фарбаў, сваёй думкі пра тое, што ён адчуў і ўбачыў у жыцці.

Гэты ж недахоп уласцівы і вершу «Браслаўскія азёры». Паэт хацеў перадаць чытачу ўражанне, якое выклікаў у яго прывабны куток беларускай прыроды. Толькі жаданага *выніку зноў жа не атрымалася*. У. Карызна не падаў нам ні аднаго непаўторнага малюнка, ні адной ім самім адкрытай ці заўважанай рысачкі, абмежаваўшыся пералікам вядомых эпітэтаў і параўнанняў: «Чыстыя вы, як з крышталю, глыбокія, быццам бездна», і г. д. Хваляванне паэта не перадалося чытачу, ды і хіба могуць выклікаць хваляванне вось такія трафарэтныя анемічныя радкі:

Дзень тут
і ноч стаяць рад.
Многа тут сэрцу блізкага,
Роднага, цёплага шмат.

Нейкая непераадольная сіла цягне У. Карызну да агульных слоў, да банальных думак і вобразаў. Вось ён апісвае вясну:

Патроху сонца прыпякае,
На поўнач гоніць халады.
Сняжок са стромкіх стрэх сцякае
Шнуркамі тонкімі вады.
. . . . . . . . . .
Палеткі свой халат зрываюць,
Глядзяць праталіны ў блакіт,
Доўгачаканую вітаюць
Вясну гарластыя шпакі.

Рыфмаваны пераказ самага агульнага, знешне ўбачанага, без усякай спробы ўзняцца над прыземленым апісальніцтвам — ці гэта дарога паэзіі!

У. Карызна малюе прыроду сузіральна, павярхоўна. Тое, што схавана ад першага беглага позірку, скрыта і для паэта. Ці не таму многія пейзажныя вершы зборніка «Край мой сінявокі» хутчэй нагадваюць эскізныя замалёўкі, выкліканыя мімалётным уражаннем, чым закончаныя творы, народжаныя глыбокім перажываннем, роздумам.

Уладзімір Карызна часам спрабуе ўзняцца да абагульнення сваіх назіранняў. Гэтыя спробы выглядаюць пакуль што вельмі наіўна, за імі не адчуваецца глыбіні думкі, багацця жыццёвага вопыту самога паэта. У вершы «Жаўранак», напрыклад, паэт, паслухаўшы песню жаваранка, заключае:

Я стаю ў роздуме ля дрэў:
Эх, і шмат жаўрук павандраваў,
Шмат пабачыў, многа праляцеў,
Пакуль песню гэтакую склаў!

Такі ж уяўна глыбакадумны вывад знаходзім мы і ў вершы «Восень»: лісце з дрэў ападае для таго, каб дрэвы з новаю вясною маглі ізноў зазелянець, ды і ў шмат якіх іншых вершах.

Знаёмячыся з першай кнігай пісьменніка, чытач шукае ў ёй адказу на пытанне: што хвалюе пісьменніка, якія праблемы свайго часу не даюць яму спакою і наколькі ён актыўна ўдзельнічае ў іх вырашэнні. Аўтару зборніка «Край мой сінявокі» адказаць на гэтае пытанне будзе нялёгка. Грамадскі дыяпазон яго твораў пакуль што не шырокі. Ён не можа яшчэ з поўным правам сказаць пра сябе словамі паэта Уладзіміра Караткевіча:

Зрося я з гэтай веснай зямлёй
Не птушыным сэрцам бяздумным,
А трывожнай людской душой.

Сваё дачыненне да жыцця, да людскіх спраў паэт спрабуе выказаць у вершы «Я не магу заснуць». Але вершу гэтаму нестае мастацкай перакананасці, сілы пачуцця, і ён гучыць толькі як паэтычная дэкларацыя:

Я не магу заснуць,
Калі за цэлы дзень
Я не памог нідзе
І ні ў якой рабоце.
Калі мае за дзень
І рукі не шчымяць
І ногі не баляць,—
Я не магу заснуць...

Мусіць, не так расслаблена, не так абыякава будзе гаварыць чалавек пра сваё самае запаветнае, што не дае яму спакою ні днём, ні ноччу. Паэтавым радкам яўна нестае шчырасці, праўды перажывання, сталасці і глыбіні думкі.

З усяго сказанага напрошваецца адзін вывад: паспяшаўся малады паэт выдаць сваю першую кніжку. Трэба было яшчэ добра папрацаваць над ёю, тады і сустрэча з чытачом была б больш плённай — і для чытача, і для яго самога.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ.**

# ПАКАЗЧЫК ГОДНАСЦІ

## ГУМАРЭСКА

Мал. С. Волкава.

— Вядома, што ў чалавеку ўсё павінна быць прыгожа. Нават думкі, — сказаў Уладзімір Раслякоў, апускаючы прас на вільготны ліст газеты. — Але самымі прыгожымі ў мужчыны павінны быць штаны...

Прас зашыпеў, нібы ў знак згоды. Воблачка пары паднялося і казытнула нос першакурсніка Булачкіна, які ўважліва слухаў свайго сябра.

— Штаны, Аркаша, — гаварыў далей старшакурснік, — гэта канкрэтны паказчык мужчынскай годнасці, гонару і гэтак далей... Асабліва, калі ты збіраешся на факультэцкі вечар з танцамі, — дадаў Уладзімір, старанна выпрасоўваючы рубчык на калашыне.

— Глупства ўсё гэта і мяшчанскія забабоны, — заўважыў першакурснік. — Леў Талстой насіў саматканыя порткі, а напісаў «Вайну і мір», «Анну Карэніну» і іншыя творы, якімі захапляецца ўвесь свет.

— Правільна. Можна яшчэ дадаць, што ў Афрыцы наогул штаноў не носяць,— усміхнуўся Уладзімір. — Іменна гэтым аргументам адбіваўся наш Толік, калі ўсе мы — я, Лёва, Генка, Мікола і ён — былі на другім курсе і рабілі першую спробу парадніць з прасам яго талстоўскі гардэроб. Больш таго, Толік не прызнаваў у той час нічога, апрача навукі, і, адпаведна, жыў цёмна-шэрым жыццём манаха-добраахвотніка. Неабходна было тэрмінова, пакуль ён канчаткова не закіс, ратаваць небараку, цягнуць яго на людзі — на вечары, танцы. Але для гэтага трэба было, каб ён перамог абыякавасць да свайго вонкавага выгляду.

У той час Толікаў «гардэроб» складаўся з двух пар штаноў, колер, якасць і фасон якіх вызначыць было амаль немагчыма. Сам Толік сцвярджаў, што адны з іх былі калісьці шэрыя, а другія — светла-карычневыя, і ў доказ вывярочваў калашыны. З падысподу гэтыя адценні яшчэ так-сяк можна было адрозніць. Адносна якасці ён не мог сказаць нічога пэўнага, таму што розніцай паміж кортам і сукном ніколі не цікавіўся. Але самым здзіўляючым і нават загадкавым у Толікавых штанах былі вялізныя пухіры ля кален.

Генка развіў гіпотэзу паходжання фасону Толікавых штаноў, адштурхоўваючыся ад геаграфіі.

— Такія кутасы ўнізе вельмі модныя сярод каўбояў штата Тэхас, — глыбакадумна выказаў ён сваё меркаванне.





Мікола пачаў быў філасофстваваць аб значэнні бляску ў пэўным месцы штаноў, якія сведчаць аб пэўных якасцях іх уладальніка, але Толік раздражнёна перапыніў яго:

— Не старайся, філосаф. Мае штаны не ўспрымаюць твайго красамоўства, а мне самому няма калі — спяшаюся ў бібку. Прывет прасам і каструлям!..

І ён пайшоў у бібліятэку. Прыгожым суботнім вечарам, калі скрозь цвіў бэз і нармальныя студэнты загадзя займалі лаўкі ў садах і на скверах.

— Не, кпіны — не лепшы сродак выхавання талстоўцаў тыпу нашага Толіка,— сумна адзначыў тады Лёва.—Хвароба зацягнулася, і цяпер, каб павярнуць небараку тварам да цывілізацыі, патрэбен моцны ўдар па ўсёй яго нервовай сістэме.

— Трапна сказана — трэба гакнуць яго прасам па галаве! — зарагатаў наш шалапут Генка.

— Смяяцца няма чаго, бо Лёва зрабіў слушную заўвагу,— сказаў Мікола.— Сапраўды, сябры, мы падышлі да праблемы вельмі павярхоўна і зусім не з таго боку...

— Карацей, філосаф! — нецярпліва перапыніў яго Лёва.— Выкладай сутнасць без лішніх слоў.

— Я маю на ўвазе ўласны вопыт вывучэння англійскай мовы, — працягваў разважліва Мікола.

— Выдатная ідэя! — усклікнуў Генка.

Тут мы ўсе ўспомнілі, як Мікола за адзін семестр вывучыў англійскую мову па пісьмах старшакурсніцы Галі, і ўдзячна паляпалі філосафа па яго акадэмічнай патыліцы. Генка адразу ж разгарнуў сшытак, каб пачаць пісьмо «ад чароўнай незнаёмкі», і запрасіў Міколу быць кансультантам. Але наш філосаф зноў пусціўся ў разважанні, і на гэты раз мы яго не спынялі.

— Правільна, — сказаў Лёва, выслухаўшы Міколавы сумненні. — Толік не клюне на пісьмо. Прыйдзецца дзейнічаць больш далікатна... І тут нам без Галі не абысціся.

У той жа дзень Галя, выслухаўшы сутнасць праблемы, спачатку рагатала, аж канчалася, але пасля рашуча падтрымала нашы клопаты пра сябра.

— Можна вылечыць і Толіка! — упэўнена сказала Галя ў адказ на заўвагі аб яго непрабівальнай абыякавасці да ўласнай персоны. — Хоць аб'ект даследу і не зусім звычайны, але думаю, што мы справімся, — гаварыла яна, — і не пазней, як праз два тыдні, ваш талстовец будзе біцца насмерць за права першым адпрасаваць сваё галіфэ, калі не паспее да гэтага часу абзавесціся больш моднымі штанамі.

Далей Галя нічога нам не сказала, а на Генкава пытанне аб падрабязнасцях яе плана заўважыла, што лепш будзе, калі план застанецца таямніцай, бо інакш мы самі сапсуем свае добрыя намеры. Гэта было мудра.

На другі ж дзень вечарам мы засталіся дома, каб паназіраць за Толікам. Нічога цікавага ў Толікавых паводзінах мы не заўважылі, а ён, наадварот, вельмі здзівіўся, чаму гэта мы дома, а не на танцульках.

— Ды так...— разгублена прамармытаў Лёва,— сесія ж усётакі хутка, рыхтавацца трэба...

— То-та, стрыкулісты! Дайшло нарэшце,— адзначыў Толік і пайшоў у бібліятэку.

Мы пасядзелі яшчэ трохі і таксама пайшлі... у парк. Тое ж самае адбылося і на наступны дзень, з той толькі розніцай, што Толік пачапаў у сваю «бібку» на гадзіну раней звычайнага. Мы пачалі сумнявацца ў Галіным таленце.

— Усё ідзе як мае быць, нават з апярэджваннем графіка,— загадкава адказала яна на наша пытанне.

А Толік па-ранейшаму не звяртаў ніякай увагі ні на нас, ні на прас, ні на свае праблематычныя штаны. Між тым, мы сачылі за ім вельмі пільна, нават у парк перасталі хадзіць.

— Ці не схадзіць у разведку?— спытаў Лёва на чацвёрты дзень нашага чакання.— Мо там, у бібліятэцы, якія-небудзь падзеі адбываюцца, а мы тут дарма муляемся...

— Даўно пара,— падтрымаў Генка.— А то, ліха яго ведае, што там можа здарыцца з нашым манахам. Ён жа яшчэ зусім дзіця...





І ў той жа вечар Лёва адправіўся на разведку, а мы зноў засталіся чакаць навін. Вярнуўся ён позна, разам з Толікам, мірна размаўляючы з ім на тэму аб паходжанні літары «яць» у старажытнай рускай мове.

— Ну што? — спыталіся мы, калі Толік выйшаў у кубавую па чай.

— Нічога, — пацiснуў у адказ плячыма Лёва. Але ў вачах яго нешта такое мільганула, што прымусіла нас крыху задумацца.

Нам прыйшлося задумацца яшчэ больш, калі на наступны дзень Лёва, нібы так сабе, заўважыў, што яму абрыдлі гэтыя бясконцыя танцулькі, што яму трэба сур'ёзна заняцца мовай... Адным словам, ён рашыў пайсці ў бібліятэку разам з Толікам. І тут Толік раптам так глянуў на Лёву і так усміхнуўся, што мы зусім разгубіліся.

— Тут нешта не тое, — сказаў Генка, калі яны нарэшце пайшлі. — Здаецца мне, што Лёва стаў здраднікам нашага ўгавору.

І мы, як гэта не сорамна, паслалі Генку наўздагон — прасачыць за новай сітуацыяй.

— Толькі не затрымлівайся! — папярэдзіў Мікола. — Каб праз гадзіну быў тут.

Генка не вярнуўся ні праз гадзіну, ні праз дзве. Праз дзве гадзіны прыйшла Галя забіраць Міколу ў кіно.

— А дзе ж астатнія мушкецёры? — спытала яна, хітравата ўсміхаючыся.

— Тут... Выскачылі на хвілінку прагуляцца, — зманіў Мікола, і яны пайшлі.

Я застаўся адзін. Генка не вяртаўся. Я патуляўся па пакоі яшчэ з гадзіну, раз-пораз пазіраючы ў акно. Залацісты заход ахінуў горад квяцістай парчой, вершаліны ліп зіхацелі ў апошніх промнях сонца. Больш чакаць я ўжо не меў сіл. «Пайду ў парк, ліха з імі ўсімі!» — вырашыў я і пайшоў... да бібліятэкі.

У чытальцы іх не было. Я пачаў ужо не на жарт злавацца, як убачыў Зою Іваніцкую — выдатніцу з нашага курса.

— Толік? Быў тут. І Лёва з Генкам. Яны пайшлі ў парк з Галінымі сяброўкамі з педінстытута, — адказала Зоя.

У парк я дамчаў умомант, а яшчэ праз паўгадзіны адшукаў іх у натоўпе ля танцпляцоўкі. Аркестр адпачываў, а яны стаялі і размаўлялі з двума дзяўчатамі аб складанасці змянення некаторых дзеясловаў у старaславянскай мове. Дзяўчаты былі — вох! Карацей кажучы, я адразу зразумеў, чаму нават загартаваны ў паходах і баявых вучэннях Лёва, не гаворачы пра шалапута Генку, не вярнуўся з разведкі. І ў тое ж самае імгненне я вырашыў таксама здацца ў палон. З выключна паэтычным воклічам: «Ах! Вось дзе вы згубіліся!» я ўлез у кампанію, а пасля ў размову аб гэтых самых дзеясловах.

Дзеясловы дзяўчаты ведалі значна лепш за мяне і Лёву і крыху слабей, чым Толік. Пра Генку, зноў-такі, і гаварыць не прыходзіцца. Затое, калі зайграў аркестр, Генка і Лёва падхапілі дзяўчат, а мы з Толікам толькі насамі шмыганулі ад зайздрасці. І на другі танец мы засталіся з носам, бо яны так і не выйшлі з круга. Тады Толік патупаў вакол мяне і раптам непрывычна сціплым голасам загаварыў:

— Ведаеш, я хацеў цябе прасіць... Адным словам, навучы мяне танцаваць... да суботы...

— А чаму такая спешка? — здзівіўся я. — Сёння ж пятніца ўжо.

— Справа ў тым, што заўтра ў педінстытуце вечар і... Адным словам, зрабі ласку! — прасіў Толік.

— Добра, навучу, — сказаў я. — Толькі — ласка за ласку: мне было б дарэчы разам з табой хадзіць у бібліятэку. Трэба падцягнуцца ў сэнсе знаёмства з дзеясловамі і рознымі іншымі назоўнікамі...

Уладзімір Раслякоў на хвіліну змоўк, прыдзірліва разглядаючы рубчык на адпрасаваных штанах.

— Ну, і што далей? — нецярпліва спытаў Аркаша Булачкін.

— Як — што?! — усклікнуў старшакурснік. — Сёння ж вечар у педінстытуце! І Толік, як заўсёды, умудрыўся адпрасаваць свае штаны першы.

**Эрнст КАЛЯДЭНКА.**






**пад рэдакцыяй міжнароднага майстра А. СУЭЦІНА**

# НОВЫЯ РЫСЫ ШАХМАТНАЙ ШКОЛЫ

## РАЗМОВА З МАЛАДЫМ ШАХМАТЫСТАМ

Усяму свету вядома высокае майстэрства савецкіх шахматыстаў. Трываласць спартыўных поспехаў нашых гросмайстраў і майстроў шахмат на міжнароднай арэне амаль што стала законам. Вось ужо каля дваццаці год мінула з моманту поўнага разгрому мацнейшай шахматнай каманды, зборнай ЗША, у матчы 1945 года па радыё. Нашы майстры горда нясуць сцяг савецкай шахматнай школы, перамагаючы ва ўсіх буйнейшых шахматных спаборніцтвах. Выпадковыя і дробныя нашы пройгрышы на асобных турнірах разглядаюцца за мяжою вельмі дакладна і прыдзірліва, як незвычайныя здарэнні. Калі нашы шахматысты не атрымліваюць некалькі першых месц на якім-небудзь турніры — гэта разглядаецца ўжо як няўдача. Мы таксама крытыкуем свае, хоць бы і маленькія няўдачы. Самакрытыка неабходная, як стымул няспыннага руху да новых вышынь майстэрства.

Савецкія шахматысты перамагаюць зусім не таму, што слаба развіваюцца шахматы за рубяжом. Другая палавіна XX стагоддзя стала «залатым векам» росквіту шахматнай тэорыі. Ніколі раней не выдавалася так шмат шахматнай літаратуры ва ўсім свеце, ніколі так напружана не працавала тэарэтычная шахматная думка. У Галандыі экс-чэмпіён свету М. Эйве трымае спецыяльны штат супрацоўнікаў, якія займаюцца сістэматызацыяй і выданнем навейшых шахматных аналізаў. І робіцца гэта перш за ўсё па матэрыялах сустрэч савецкіх шахматыстаў. А калі зазірнуць у тэарэтычныя шахматныя выданні, часопісы, якія выдаюцца ў Еўропе і амерыканскіх краінах, не цяжка ўбачыць, што ў цэнтры іх увагі заўсёды знаходзяцца грунтоўныя аналізы гульні нашых шахматыстаў.

Шахматы ўсё больш пранікаюць у самыя розныя, самыя далёкія куткі зямнога шара. У Мангольскай Народнай Рэспубліцы шахматы сталі сапраўды народнай гульнёй. Зусім нядаўна мангольскія сябры, стаўшы на шлях навуковага вывучэння шахмат, запрасілі на два гады спецыяльнага трэнера з нашай краіны, і да іх паехаў ленінградскі метадыст В. Зак.

Асабліва плённае развіццё шахматнага майстэрства ў краінах са-

цыялістычнага лагера адбываецца не без уплыву савецкіх шахматыстаў.

У чым жа прычына перамог і такога плённага ўплыву савецкіх шахмат? Адказ адзін — у савецкай шахматнай школе!

У чым жа заключаецца той жывы струмень савецкай шахматнай школы, які мае такі добры ўплыў на развіццё шахмат наогул?

Агульнапрызнаны важнейшыя рысы савецкай шахматнай школы — усебаковы падыход да вывучэння стратэгіі, метадычнае засваенне дэбютных праблем, што дазваляе глыбей зазірнуць у таямніцы самай складанай стадыі гульні — дэбют.

Сапраўды, савецкія шахматысты — наватары дэбютнай тэорыі. І асабліва ў мінулае дзесяціґоддзе наша перавага ў гэтым не выклікала сумнення, прыносіла самыя лепшыя вынікі. Але цяпер, у апошнія гады, у нас ужо няма былой перавагі ў дэбюце. Якраз на засваенне дэбютнай барацьбы, бачачы ў гэтым асноўнае зло, асабліва прыналеглі зарубежныя гросмайстры і майстры. І нягледзячы на гэта, мы ўсё ж захоўваем сваё першынство ў шахматах!

Ці не загадкава гэта? Вядома. Але паддаецца вытлумачэнню.

Галоўная перавага савецкай шахматнай школы — у няспынным руху наперад, у штодзённых пошуках новых творчых шляхоў, ва ўсебаковым удасканаленні практычнага майстэрства.

Якія ж канкрэтныя перавагі нашай шахматнай школы?

Па-першае, калектыўная творчасць, сталы жывы кантакт нашых гросмайстраў і майстроў адзін з другім. У нас няма непатрэбных у шахматах таямніц паміж шахматыстамі. Узаемны сяброўскі абмен вопытам толькі спрыяе і агульнаму і асабістаму шахматнаму прагрэсу. Уся сістэма нашых адборачных спаборніцтваў грунтуецца на натуральным адборы лепшых прадстаўнікоў моладзі. Пры гэтым нябачную, але вялікую ролю адыгрываюць і часова «пераможаныя», якія ў ходзе спартыўнай барацьбы робяць свой творчы ўклад у агульную справу. Сістэма камандных спаборніцтваў, якая шырока практыкуецца ў нас, ахоўвае шахматыстаў ад нездаровай канкурэнцыі, стварае цёплыя, сяброўскія адносіны.

Па-другое, у нашых шахматыстаў на дзіва багатая разнастайнасць стыляў гульні. Ні ў якой іншай краіне не сустрэнеш нічога такога. У Галандыі ўсе імкнуцца гуляць «па Эйве», у Югаславіі «пад Глігарыча» і г. д. Наогул, раўняюцца на сваіх лідэраў. У нас жа заўсёды жывыя пошукі. Адсюль і розны характар мыслення, напрыклад, у М. Таля і Ц. Петрасяна, у В. Смыслова і М. Бранштэйна, або ў П. Кераса і М. Бацвінніка... І разам з тым, іх зблізкае наватарства задум, сапраўды «святыя» адносіны да шахматнай творчасці!

У замежных шахматных колах гавораць, што «Расія мае патэнт на шахматныя таленты». Гэта не зусім так. У нас ёсць патэнт на **вырошчванне** талентаў! І перш за ўсё гэтаму памагае масавасць нашага шахматнага руху. Масавасць — гэта не толькі колькасць, але і няспынны клопат пра якасць.

Ці многа знойдзецца за рубяжом паміж радавых аматараў шахмат добрых аналітыкаў? Вядомы імёны літаральна некалькіх тэарэтыкаў, як правіла, вопытных майстроў. У нас жа ў таямніцы шахматнай тэорыі імкнуцца паглыбіцца нават зусім маладыя малавопытныя аматары.

У нас ёсць чаму вучыцца не толькі ў самых вядомых гросмайстраў, але і ў звычайных майстроў. «Цудам-камбінацыяй» назваў амерыканскі гросмайстар Р. Файн заканчэнне партыі савецкіх майстроў у партыі Г. Равінскі — В. Паноў (Масква, 1943 год):



Камбінацыя белых сапраўды незвычайна прыгожая: 1. Л:d7! К:d7, 2. К:е6 fe, 3. Ф:е6+Се7, 4. Ле1 Фс5, 5. b4 Кf8, 6. Фg4 Фс3, 7. Л:е7+!! Кр:е7, 8. Сg5+Крd6, 9. Фd1+! Крс7, 10. Сf4+Крb6, 11. Фd6+Кра7, 12. Фе7+, і чорныя здаліся, бо надышоў немінучы мат.

Так, такія камбінацыі, несумненна, спрыялі фармаванню нашага маладога пакалення гросмайстраў: В. Карчнога, М. Таля, Б. Спаскага.

Наступная важнейшая рыса савецкай шахматнай школы гэта тое, што шахматы ў нас зрабіліся вельмі цікавай галіною творчага мыслення. Іменна цяпер атрымала развіццё мысленне шахматыста, якое ахоплівае і аб'ектыўныя прынцыпы гульні, і псіхалагічныя фактары, і прыёмы тактыкі ў перыяд падрыхтоўкі і самога спаборніцтва.

Авалоданне шахматным майстэрствам патрабуе, бясспрэчна, вялікай, хоць і натхнёнай працы. Магчыма, таму ў ЗША так хутка «гаснуць» маладыя «зоркі», якім лёгка даюцца першыя крокі ў шахматах, але потым яны адносяцца да шахмат толькі, як да «гульні», аддаючы перавагу больш «бізнесным» заняткам. Такі лёс таленавітых ад прыроды гросмайстраў: Р. Файна, Л. Эванса, І. Кэждана, у многім і С. Рашэўскага. Зусім не выключана, што такі ж лёс чакае і самаўпэўненага Р. Фішара.

Цікава прасачыць, як праходзіць калектыўны аналіз у нашых майстроў. Для нас дошка з фігурамі — гэта своеасаблівая мішэнь для дыскусій, якія носяць не толькі канкрэтнашахматны характар, але часам узнімаюцца да цікавых лагічна шырокіх абагульненняў.

Цяпер нашы вядучыя шахматысты галоўны цяжар гульні імкнуцца перанесці на сярэдзіну гульні. Майстэрства барацьбы ў «мітэльшпілі» патрабуе асабліва шматграннага майстэрства. Тут шмат што залежыць ад баявых якасцей шахматыста. І якраз агульнае, што аб'ядноўвае (незалежна ад стылю) вядучых савецкіх шахматыстаў, — гэта надзвычай баявы дух гульні, уменне весці барацьбу да канца, спакойна пераносіць цяжкія пераломныя моманты партыі.

Пошукі новых форм творчасці, заснаваных на крытыцы агульнапрызнаных прыёмаў стратэгіі, прывялі да цікавых і перспектыўных метадаў гульні, якімі савецкія шахматысты захапіліся ўжо з усёй сур'ёзнасцю. Гэта дало ім яшчэ адну перавагу перад гросмайстрамі Захаду.

У чым жа гэтыя новыя формы творчасці? Раней было вельмі канкрэтнае вызначэнне шахматнай памылкі. Усякі план, звязаны з некаторым парушэннем лагічных уяўленняў, у адзін голас асуджаўся аўтарытэтнымі метадыстамі. У выніку стварылася сапраўдная градацыя «добрых», «лепшых», «недакладных» і «памылковых» ходаў. Яшчэ вялікі рускі шахматыст М. Чыгорын, які надзвычай тонка адчуваў пазіцыю, рашуча (хоць і адзін!) змагаўся з гэтым дагматызмам.

З першых жа крокаў савецкай шахматнай школы дала сябе адчуць крытыка дагматызму ў шахматах. «Але куды яна прывядзе!» — хваляваліся прыхільнікі спакою. «Толькі не да нічыйнай смерці!» — такі быў дэвіз савецкіх наватараў.

Цяпер відаць, што пошукі, пачатыя некалі М. Чыгорыным і А. Алёхіным, дружна падхопленыя М. Бацвіннікам, Н. Румінам, В. Смысловым, П. Керасам, І. Баляслаўскім, знайшлі дастойных паслядоўнікаў у асобе лепшых прадстаўнікоў наступнага пакалення: Ц. Петрасяна, Я. Гелера, В. Карчнога, Б. Спаскага, М. Таля і многіх другіх.

Цяпер змянілася азначэнне памылкі ў шахматах. Сапраўднае парушэнне прынцыпаў і цяпер, вядома, караецца жорстка і лагічна. Але зусім не абавязкова толькі для захавання спакою абмяжоўвацца выключна «лагічнымі» рашэннямі. Некаторае адхіленне ад выпрабаваных шляхоў, звязанае са здаровай рызыкай, толькі і вымагаецца сапраўднай барацьбой. Толькі тады ўзнікае патрэба ў выдумцы і моцным напружанні сіл, калі барацьба робіцца сапраўднай праблемай, як быццам «сатканаю з самых маленькіх памылак»!

І тады магчымасці выйгрышу моцна ўзрастаюць, змятаючы ўсе «засушаныя» тэорыі пра непаз-

бежнасць нічыёй пры «правільнай гульні».

Карысна пазнаёміцца з разгортваннем гульні ў партыі Бранштэйн — Керас (Гетэборг, 1955 год):



Было далей нечаканае: 1. С:h6!! gh, 2. Фd2 (У чорных вялікія матэрыяльныя перавагі, пакуль белыя непасрэдна не маюць вялікай пагрозы.) І ўсё-такі колькі не намагаліся аналітыкі чорных знайсці «спадручны» ход абароны — гэта яны не змаглі зрабіць. У партыі было: 2. ...Кh7, 3. Ф:h6 f5, 4. К:f5 Л:f5!, 5. С:f5 Кf8, 6. Лad 1 Сg5, 7. Фh5 Фf6, 8. Кd6 Сс6, 9. Фg4! Крh8, 10. Се4 Сh6, 11. С:с6 bс, 12. Ф:с4 выйгравальнай атакай белых.

«Няўжо ж белыя ўсё гэта разлічылі?» — узнікае пытанне. Не, тут усё значна складаней. Тут і разлік, і вопыт, і «адчуванне» атакуючых магчымасцей, і, нарэшце, здаровая рызыка савецкай шахматнай школы, якая ставіць сваёй задачай — смелыя творчыя ідэі, а не падлічванне выгад для збірання пераваг.

Такія некаторыя новыя рысы савецкай шахматнай школы.

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**Вершы Рыгора БАРАДУЛІНА, Анатоля СЕРБАНТОВІЧА, Рамана ТАРМОЛЫ.**

**Заканчэнне аповесці Алеся АСІПЕНКІ «АБЖЫТЫ КУТ».**

**Нарыс Аляксандра ШЧАРБАКОВА «АРЛЯНЯТЫ».**


Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк арк. 13,7. Вуч-выд. арк. 14,5. Тыраж 7300. Цана 40 кап.
АТ 11889. Здадзена ў набор. 1.IX.63 г. Падпісана да друку 2.XI.63 г. Зак. 525.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.


# Часопіс

## ГОДЗЕ



**ВАСІЛЬ БЫКАЎ выступае з аповесцю «Альпійская балада». Пісьменнік астаецца верны сваёй тэме — подзвігу чалавека на вайне.**

**«Бульба» — так называецца новая аповесць ІВАНА НАВУМЕНКІ. Аўтар расказвае: «Героі твора — сённяшнія студэнты. З хваляваннем чакаю новай сустрэчы з маладым чытачом».**





**АНТОН АЛЕШКА ў аповесці «Над намі мільён вышыні» піша пра асяроддзе, добра яму знаёмае, — пра жыццё і клопаты лётчыкаў, ваенных медыкаў.**

З новымі аповесцямі і апавяданнямі выступяць у часопісе В. Адамчік, Я. Брыль, М. Вышынскі, Л. Гаўрылкін, У. Дамашэвіч, М. Капыловіч, А. Кудравец, В. Мыслівец, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў, І. Шальманаў.

**Часопіс надрукуе вершы Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Вольскага, В. Вярбы, А. Вярцінскага, Н. Гілевіча, А. Грачанікава, Д. Загнетавай, К. Камейшы, Г. Кляўко, М. Кусянкова, А. Лойкі, Е. Лось, М. Маляўкі, П. Макаля, В. Макарэвіча, М. Рудкоўскага, Ю. Свіркі, А. Сербантовіча, Р. Тармолы, Н. Тулупавай, С. Хадаронка, К. Цвіркі-Гадзіцкага, М. Шаўчонак.**